УДК 821.161.3-322.6Каўка
ББК 84(4Беи=411.3)6-449
К30

Каардынатар праекта – **Віктар Чайчыц**

**Каўка, Аляксей Канстанцінавіч.**
К30 Мае беларусы : сустрэчы-ростані, допісы, прысвячэнні / Аляксей Каўка. – Москва : Альтекс, 2013. – 352 с.
ISBN 978-5-93121-342-2

У кнізе – успаміны пра сучаснікаў, ім прысвячэнні, допісы пра вячыстасць мовы роднае, беларускую прысутнасць у Маскве, Расіі.

УДК 821.161.3-322.6Каўка
ББК 84(4Беи=411.3)6-449

ISBN 978-5-93121-342-2

# ЗМЕСТ



## *Сустрэчы – ростані*



* * *

## *Прысвячэнні*

# Клопаты будамжыцця

Шаноўны чытач,

Перад Табою кніга пра Беларусь, беларусаў, як іх убачыў, зразумеў і адчуў сэрцам Аляксей Каўка – руплівы працаўнік на ніве беларушчыны, чалавек цікавага лёсу, якому ў канцы 80-х гадоў выпала гуртаваць беларускую дыяспару ў Маскве праз створанае разам з групай аднадумцаў маскоўскае Таварыства беларускай культуры імя Ф.Скарыны (снежань 1988 г.), юбілей якога і адзначаны гэтым выданнем.

Праца, на маё меркаванне, удала спалучае асабістае і агульнаграмадскае ў аўтарскіх клопатах, перажываннях і здзяйсненнях на палетку Беларушчыны. Прысвечаная маці - Ганне Маркаўне Атрашэўскай, кніга пачынаецца з вельмі кранальнай тэмы бацькоў і сірочага дзяцінства (“Мамін ручнік”) – па свойму вызначальнай у жыццёвым лёсе літаратара. Уражваюць з кніжных старонак постаці яго родных сясцёр, блізкіх сваякоў, сяброў маладосці – людзей, працятых штодзённа зямнымі і вышэйшымі, духатворчымі памкненнямі.

Асобна вылучаюцца ў кнізе партрэтныя замалёўкі дзеячоў-творцаў нацыянальнай культуры, з якімі нашаму аўтару лёсіла бліжэй-далей сыходзіцца на шляху Беларускім: Зоська Верас – Л.Сівіцкая, К.Буйло, М.Улашчык, Я.Брыль, Ю.Туронак, М.Гайдук, Ул.Калеснік, М.Ермаловіч, Г.Каханоўскі, Г.Кісялёў, В.Скалабан, М.Сяднёў і інш. - асабістыя ўражанні пра якіх безумоўна багацяць традыцыі айчыннай мемуарыстыкі.

Бел-чырвона-белаю стужкаю трапеча праз усе старонкі кнігі наша нацыянальная ідэя ў яе дзяржава- і культуратворчых парываннях, у гістарычным самасцвярджэнні краіны Беларусь у кантэксце адносін з найбліжэйшымі суседзямі – Расіяй, Украінай, Літвой, Польшчай.

Гэтай жа беларускай пранікнёнасцю вызначаюцца і вершаваныя строфы-прысвячэнні калегам, сябрам-аднамыснікам, што разам з інтэрв’ю журналістам жанрава насычае і ажыўляе змест усяе кнігі.

З Аляксеем Каўкам я знаёмы больш за чвэрць веку – ад першых сходаў, вечарын згаданага вышэй Скарынаўскага таварыства да сумеснай, ужо шматгадовай працы над “Скарынічам”. Неаднойчы сустракаемся і дыскутуем у яго кватэры на маскоўскіх Крылатских Холмах і нават на Тульшчыне, за Акой-ракой, у “Беларускай хатцы”, збудаванай яго роднымі землякамі – ім таксама прысвечана ўхвальная старонка кнігі. Сустрэча з Аляксеем Каўкам, знаёмства з яго бібліятэкай і архівам – гэта заўсёды дадатковае, натхняльнае перакананне ў бяздонным багацці беларускай культуры і мовы. Прываблівае яго аптымізм, хоць часам і прыцярушаны сумнымі абставінамі і весткамі з Бацькаўшчыны. Аднак жа і ў смутнейшую часіну ён трымаецца сваёй жыццёва-творчай высновы *будамжыцця* (пазнавальны выраз – наватвор каўкавае стылістыкі), даводзячы сваёй працай, што сапраўды і адзін у полі ваяр. Тым болей, калі бароніцца святое – мацярынскае слова, гістарычная памяць, нацыянальная годнасць беларуса. Большала б толькі ў гэтым змаганні супольнікаў і наступнікаў. Разам – зможам, пераможам!

З гэтага жыццесцвярджальнага гледзішча не магу, на заканчэнне, не ўзрушыцца радкамі знанага паэта:

***Віктар Чайчыц***

## Жывом!

*Масквічу Аляксею Каўку,*
*народжанаму на Чэрвеньшчыне*

Жыў-быў у Празе Кафка.
А ёсць і рэчка Каўка.
На Чэрвеньшчыне – лаўка,
з якой падскочыў Каўка
і асядлаў каня…
Пагаварыць – няўпраўка:
У Менску – на паўдня…
Знайшлася і папраўка:

трымае даланя
Скарынаву застаўку,
Ластоўскага прыстаўку…
Улашчыка прыбаўку…

- Жывом!—гукала каўка,
а з галкай арляня.

Так будам жыць, Прафесар,
І вымкнемся з гурмы.
Савецкія завесы
І крызісныя стрэсы
Карчуем сёння мы.

А Вам – шукаць надрэзы,
А Вам – ствараць псалмы
Для Беларускай месы…
– Sto lat!—Мой зык для тэзы:
Ігуменьшчыны крэсы –
Крылацкія Халмы!

***Сяргей Панізьнік. Нас – многа! Мн., 2012***




*Мамін ручнік трымаюць унукі Ганны Атрашэўскай – Галіна Галіеўская, Аляксандр Цыбін, Валянціна Ладуцька, праправўнук Арсенька Касцюкевіч. За кадрам (здымае) праўнук Змітра Касцюкевіч. Чэрвеньскі краязнаўчы музей, 2012 г.*

# Мамін ручнік

Маці сваёй не памятаю. Маладая, як і бацька (загінуў на фронце ў 1941-м), у 33 гадочкі адышла ў іншы свет, пакінуўшы асірацелымі дзвюх дачушак і сыночка. Той, успамінала старэйшая Лена, толькі-толькі стаў на ножкі – прыклыпае з парога да труны, дзе сцішылася матуля, гляне і, някемны, засмяецца… Цёткі, суседкі плачуць. Не засталося нават фотаздымка, каб уявіць яе жывою. Нейкім суцяшэннем – сястрын ўспамін.

Пра яе мацярынскую далікатнасць: “Было мне гадоў 6-7, і я ўсяму вучылася ад мамы, - успамінала Лена, старэйшая з дачок.

- Рада была, ўсё скора схоплівала, дзе якую траўку на поліве сарваць. Заўсёды пахваліць, як удала сярпом раблю замах, як слухаюцца мяне каласочкі – ета было мне вельмі прыемна. Нас, дзяцей, ніколі не карала, нават трапкачом не замахнецца, хоць мы з Валяй скрозь слухаліся, асцерагаліся якой шкоды". Пра творчае ўмельства: "Была яна здольнай ткачыхай. Не адказвала нікому наладзіць кросны, накідаць узоры. Помню, якія гожыя пасцілкі, абрусы, ручнікі – у дымкі, шашачкі ці васількі, якіх апрача яе ў сяле ткаць не ўмелі. Адчыніць куфар і паказвае нам, якое стройнае прыданае дочкам рыхтуе. А там – сувоі ручнікоў у шашкі васьмінітныя, каляровыя ёлачкі, пасцілак розных, абрусоў (…). Мамінай памяці не засталося – што пажар спапяліў (у 1938-м, разам з нашай хатай, пасля чаго хворая на сэрца, ад перажытага на пажары жанчынка ўхуткасці памірае – *А.К.*), што ў вайну прапала. Мама ніколі не жалілася на жыццё, ні з кім не сварылася. Любіла спяваць. З поля ідучы была жнейкам запявалам…"* Такія вось крэскі да вобраза Ганны Атрашэўскай. Памятка па ёй аднак жа засталася. Гэта – ручнік, які пазней у нашай сірочай хатцы атуляў уратаваную з агню іконку. Рана, падлеткам, падаўшыся ў свет, страціў я з ўласнага абсягу – праз камсамольска-партыйнае наварочанне – той святы абраз з маміным ткацкім тварэннем. Адзіны, ацалелы з яе спадчыны мастацкі твор – св.п. сястрыцай перададзены ў свой час на захаванне ў Чэрвеньскі краязнаўчы музей.

Нядаўна аглядаючы музейную экспазіцыю, знерухоміўся, усхвалёваны, ад нечаканае, працінальнае сустрэчы. У кутку народных рамёстваў свяцілася разгорнута з паўсуойчыка адбеленага кужалёага палатна, аздобленага вышываным рытмічным чаргаваннем бардовых ёлачак і арнаментальных, у крыжыкі, шлякаў, абкіданых на канцы карункамі ручнога вязання. – Мамін ручнік! Гострым шчымлівым успамінам варухнулася штосьці у істоце, даўно забытае, раптам - уваскрослае. Тое, сонечнай ранічкай, на Вялікдзень, святое маўчанне дзіцячае – перад іконкай, атуленай маміным ручніком…

І на тім рушничкові
Оживе, все знойоме до болю…

Дык вось чаму змоладу паланілі соладка-балюча слых і пачуцці твае чароўныя словы й мелодыя ўкраінцаў Малышкі і Майбарады. Гэта ж таксама – пра маю маці, яе ласку, рукі руплівыя, пра той таёмны абярог, што нябачна асцерагаў цябе на шляху жыццёвым. Ратуючы ад глухаты, нематы, цеплячы ў тваіх акаёмах хоць кропельку мацярынскае чуласці.

Чытач можа пазірнуць на выяву таго ручніка і… зразумець матывацыю гэтае кніжачкі.

– Сынавых падрахункаў перад памяццю Ганны Маркаўны Атрашэўскай.

---

* Людзі добрыя. З гісторыі аднае сям'і. М., – Чэрвень. 2011. С. 15-16.

# Часцінка лёсу

Гутарку вядзе Святлана Адамовіч

– *Аляксей Канстанцінавіч ці часта ў Маскве сняцца родныя мясціны?*

– Цяпер чамусьці радзей. Часам сніцца мая Равека (*вёска Равецкі Бор, злілася з Машчаліна – С.А.*), помная з дзяцінства. Бярозы на пясчыстым пагурку, даўно спілаваныя, мая “Парыжа”. Дасюль не прывыкну да назвы Машчаліна. Раней быў калгас імя Парыжскае Камуны. Але людзі спрасцілі на “Парыжу”. Помніцца, дыбаеш у Чэрвень, малога, такія ж шпанюкі, на ўскрайку горада пераймаюць:

– Ты откуда?

– З Парыжы [“Из Франции, что ли?..”].

Вось той шлях прымроіцца, па якім ідзеш… Або – людзі свае, з якіх многіх ужо няма..

– *Сэрца трымцела, калі зьехалі з Ігуменьшчыны ў Мінск, а пасля ў Маскву? Ці, мо, па маладосці не было такога ўсведамлення прыналежнасці да роднага краю?*

– Мабыць, не было, прынамсі, дастаткова адчувальнага, калі з’ехаў. Цяпер можа задумаўся б. Але тады… Камсамольскі дзеяч правінцыйны. Не сказаць, каб кар’ерыст зацяты. Аднак жа спакусіўся прапановай – з райкама ў абкам, затым у апарат ЦК ВЛКСМ. Ведаеце, мусіць трэба чалавеку апынуцца ў іншых абставінах, у чужым асяродку, каб усвядоміць сябе беларусам. Калі не чуеш мацярынскай гаворкі, роднае песні, міжволі сталець пачынаеш. І, хоць мройліва, – вяртацца на сваю, ад Бога, бацькоўскую сцежку. Цяпер памкнешся – як вярнуцца дадому? Толькі позна ўжо.

– У 1954-м *Вы пасля заканчэння бібліятэчнага тэхнікума прыехалі на сваё першае месца працы – у Вялікапольскую бібліятэку. І, як я разумею, тады пачаліся вашы стасункі з “ раёнкай”?*

– Так. З творчага вопыту найперш абавязаны “Калектывісту”. Вясной таго 1954 прыехаў у Чэрвень на практыку ў раённую бібліятэку. Нашкрэбаў, памятаю, нейкія

вершы, графаманістыя, зразумела – раней з тых пачаткаў "Піянер Беларусі" штосьць надрукаваў. Гэтым разам байку прыдумаў і – у рэдакцыю. Леанід Францавіч Камароўскі, рэдактар, прачытаў, падбадзёрыў нават: Дык ты, кажа, няблага напісаў [пра ўяўнага абібока – не вельмі кідкага шчыраваць на калгасным палетку – актуальна!]; прыходзь праз тыдзень, ганарар выпішам.

*– І што?*

– Надрукавалі, колькі рублёў адплікнулі. Грошы невялікія, але студэнту, з кішэняй ніклай, і то радасць. Ну, і адчуванне славутасці раённага маштабу шавяльнула гардыню, падагрэтую тым жа Рэдактарам. Паклікаў супрацоўнікаў да сябе ў кабінет і басавітым голасам пачаў чытаць тую байку. Пазней працуючы ў райкаме камсамола шчыльней ладзілася з газетай, рэдактарам Міхаілам Канстанцінавічам Крукам. Кранае ўспамін з тых пачатковых "пакутаў творчасці". Зірніце на выцінку з "Калектывіста" (1954. № 134, 19 лістапада). Тут мая замалёўка пра камсамольскі нядзельнік у калгасе "Перадавік". Нядаўна гартаў падшыўку ў былой "Ленінцы"…

*– У Маскве захоўваецца чэрвеньскі "Калектывіст"?*

– Як бачыце. На тых жа старонках, даўно раней сустрэў дарагое імя. Прагледжваю газету за 1932 год, маючы знайсці што пра маю "Парыжу". Чытаю – Зелянькі, Вайнілава… і раптам – вось яно! Вытрымка з насценнай газеты калгаса імя Парыжскай Камуны: "Адзначыліся вялікімі поспехамі на касьбе Кастусь Каўка, Адам Маруга, Аляксандра Рак… Выконваюць па 150 працэнтаў плану…"

*– Першы – Ваш бацька…*

– Ён самы. Не паверыце, сляза навярнулася. Сустрэча з бацькам. Загінуў на пачатку вайны, не памятаю яго. І заўважце, не Каўко, як пазней перарабілі прозвішча, але натуральнае, ад дзядоў—прадзедаў: Каўка.

*– А ці трапляла да Вас"раёнка" пазнейшых гадоў?*

– О, нагода ўспомніць яшчэ аднаго добрага чалавека. – Анатоля Сцяпанавіча Фурыка. За яго рэдактарствам ва "Уперадзе" (наступніку "Калектывіста") разам неаднойчы матэрыялы рыхтавалі. Ён калі-нікалі і газету мне ў Маскву дасылаў. Ды і цяпер з большага я ў курсе чэрвеньскіх падзей.

Лена Цыбіна, сястра, скрозь у пісьмах падкідвае якую нататку з "Раённага весніка", іншым разам газету цалкам, калі ўжо надта яе прывабіць: "Браточак, паглядзі…" Яна, падкалечаная, з кульбачкай, цяпер толькі "раёнкай" і жыве. Пагутарыце з ёй – поўны вам агляд перыёдыка зробіць.

– *Вашы тагачасныя публікацыі напісаны жывою моваю, прываблівають. Відаць, вы добра пісалі ў школе сачыненні* ?

– Пра сачыненні не памятаю, а вось на чытацкіх канферэнцыях, ладжаных у дзіцячым доме, выступаў. Адна запомнілася – па кнізе Н.Островского "Как закалялась сталь". За актыўны ўдзел у ёй мяне адарылі гэтай кнігай і… канькамі на вінтах (раней аборкамі падвязваў). А хлапчукі-равеснікі нават "цёмную" маніліся зрабіць – як жа, надта вылучыўся, "прымерны". Наша дырэктар Вольга Іванаўна Булах строгая была. Аднойчы за недакуркі так мяне за каршэнь прыхапіла… А тут – такія падарункі. З тою кнігаю падаўся на вучобу ў Мінск. Праз якіх паўмесяца не было ўжо за што хлеба купіць. І сваю "Как закалялась…" мусіў аднесці ў букіністычны, нядаўна адкрыты на праспекце Сталіна (цяпер – Незалежнасці). Атрыманых рублёў хапіла на два-тры сітных батоны. А кнігі шкада! Там жа быў дарчы надпіс – першы.

– *Аляксей Канстанцінавіч, а ці ёсць* у *Вас задума яшчэ што напісаць пра родны край, пра яго людзей?*

– Зараз спрабую нешта накшталт успамінаў, партрэтаў землякоў, пра сясцёр Лену і Валю. Пра дзеда Васіля Каўку, які амаль сто гадоў пражыў – вядомы ў наваколлі плытагон, плотнік, цясляр, казачнік. У Горках яго магілка. Малым, памятаю, топаеш з "Парыжы" ў Чэрвень – за 20 км. – з кошыкам ягад, прадаць на кніжкі. Раптам ззаду воз грукоча, дзядзька пыніць каня – паспачуваў мальцу:

– Чый жа будзеш?

– Каўкаў.

– Дзеда Каўкі ўнук? … Ну, то садзіся, за такога дзеда трэба падвезці.

Пра маці, дзядзькоў, цётак, сяброў спомнілася. Хацелася б усё гэта давесці да ладу.

– *Не шкадуеце, што менавіта так жыццё склалася?*

– Не, грэх шкадаваць. Кажуць, у гісторыі не быве умоўнага ладу. Можа б цяпер падаслаў дзе саломкі, штсь перайначыў. Але хто ведае, ці было б яно лепшым. Як склалася, так склалася. Увогуле, чалавек – натура грахоўная. А натурка – не пунька, не пераставіш. Значыць – гэта маё.

Ды ў іншым выпадку ці сустрэў бы сваю Соню Астроўскую, з якой гэтулькі вёрстаў прамерана разам. Яна з Рудзеншчыны, фінансісткай у Чэрвені працавала; прыкмеціла тады кудлатага, насатага сакратара райкомаўскага… Рэдкае душы жанчынка-ахвярніца. Пасля тэхнікума, з двайнёй дзетак на руках, інстытут фінансавы адолела. Доўгі час працавала эканамістам-планавіком у Міністэрстве ўнутраных спраў, у палкоўніцы выбілася. Пры мужу, які вышэй сяржанта не падняўся (*смяёмся—С.А. )*.

– *Звычайна да юбілею прынята падсумоўваць зробленае, акрэсьліць планы на будучае…*

– Увогуле “юбілеіцца” нібы досыць. Аднак, пакуль сэрца трымціць – нешта робіш. Ворыва не сказаць каб глыбокае, але ж баразну вясці трэба.. Як мая Лена кажа – пакуль жывецца, будам жыць.

Масква-Чэрвень 2007

# Сёстры

З дзяцінства, наколькі памятаю, на слыху спачувальнае – “круглая сірата”. Цяпер разумею ўмоўнасць таго сіроцтва. Так,– без маці, бацькі. Але ж сёстры мне мацеркай сталі. Лена, 12-ці год, Валя, меншая. Браток-малеча туліўся да іх, да каго ж ім было прытуліцца? З нас траіх, Лены доля была мабыць найгарчэйшай.

Дык вось прыют…Сумнаватае слова, хаця й крэўнае з цёплым “уютом”. У маёй маскоўскай ваколіцы, недалёчка Углового, ёсць завулак – Приютский. За кожным позіркам на тую блакітную шыльдачку варухнецца ў памяці сястрын журботлівы ўспамін:

– Мой ты Алёшачка, каб толькі ведаў, як гэта было горка, балюча слухаць – здавай і здавай цябе ў прыют. І што было рабіць, куды дзявацца нам, пагарэльцам, пахаваўшы маму?. Што ж, сабраліся з табой, трохгадовым, на Чэрвень, шукаць таго прыюту…

Аднак пракатнуўшы слязу на прыступках “Райздрава”, павярнула сястра з малым у Равеку, цёткам зхібіўшы потым – “Мястоў не было”. Паўторна ісці не прышлося – вайна. Тых жа прыютнікаў, расказвалі, не паспелі эвакуяваць. Немцы з іх кроў бралі для сваіх раненых. Потым дзеці тыя разбрыліся – гібелі, жабрачылі, мо каторага хто прытуліў, а бальшыня…

Лену чакалася як Бога, а яна цэлы дзень на полі. Цётка муштравала, здаралася, і бізуном. Неяк Жэнька, дачушка яе, годзікаў двух, апякла ножку ля печы – “нянька” не дагледзеў. Дасюль, здаецца, смыляць пісягі на спаласаванай ср.цы і лямант пакаранага. Сястра, вечарам з поля вярнуўшыся (у Двары шляхецкім гарбацілася), суцяшала выплаканага недарэку. Яе з`яўленне ў хаце ўспрымалася малым і суцяшэннем, і радасцю, асбліва, калі адорыць духмяна спелай антонаўкай з чужога сада. Чуласцю цепліла сэрца і Валя – таксама лагодная, спачувальная, знешне можа крыху стрыманейшая за Лену. З Валяй калі-нікалі і ў “рожкі” браліся – наровістага братку часам асаджваць трэба было. Лена тады выступала прымірыцелем і заступніцай малодшага неслуха, чым той, бывала, і надужываў. З Валі, аднак жа, пачалося, памятаю, прылучэнне маё да

беларускага слова літаратурнага. Сястра, школьніца-сямікласніца (восень 1944), чытала ўслух ценькую з каляровымі рысункамі кніжачку. Захоплівала, чаравала дзіўным ладам і складам тое чытанне: “ *А Максім ляжыць на траўцы, сонна пазірае, Камарок за камарочкам да яго шыбае..”* Неяк адразу кранальна паланіў дзіцячую істоту наш лебедзь-страцім Багдановіч.

Дасюль чуцён мне Лены прыцішана ўстрывожаны, па-мацярынску пяшчотны голас, ноччу стылай – з вайны, у блакаду: “Не бойся, Алёшачка. Пабудзь адзін, не плач. Прыдуць немцы, папытаюцца - дзеўкі дзе, скажы, ня знаю, я спаў. Цябе, маленькага, не зачэпяць. Мы скора вернемся..” Глухім цёмным досьвіткам сёстры выходзілі з хаты, уцякаючы ў лес ад аблавы. Вострым пачуццём дзіцячым разумеў, чаму мяне аднаго пакідаюць. Але толькі ў поцемку бразнецца клямка, адчуванне пустэчы і страху агорне істоту. Хліпаў з галавоў унурыўшыся пад шарпанку, пакуль пад суцешлівае “цвір-цвір” – цвіркуна ў запечку – не засынаў.

Другі з памяці эпізод. Немцы, адыходзячы, падпалілі калгасныя забудовы – кароўнікі, канюшню, гумно. Запалалі і стагі саломы побач, адтуль агонь перакінўся на былую кантору калгасную, каля школы– часовае жыллё нашае цёткі Манькі і бабулі Зосі. Тады мы (бавіўся малы ля бабулі на печы) мала не захліпнуліся ў дыме-полымі, ледзь паспеўшы выпаўзці на двор. А дапяўшы свае пад дзвюма соснамі хаткі, цудам ацалелай ад агню, спуджана застыў ля жахлівага відовішча: над абгарэлым трупам ля спапялёнага стажарышча ўсхліпвалі купкай жанчыны. Партызаны, уцякаючы, пакінулі параненага таварыша пад стогам, прыкрыўшы саломай, і той даканаў у агні.

Абедзве сёстры таго страшнага дня, не паспеўшы ўцячы, затаіліся ў пограбе. Лена пазней спамінала: адчыняюцца дзверы – на парозе паліцай-вярзіла. Ну, думаю, капцы – пачне страляць ці паліць. Усё ўнутры амярцвела, абмякла. А ён толькі буркнуў, зверавата лыпануўшы з-пад навіслых брывоў –“Жывы?!”. Жывы, дзядзечка, жывы – не сваім голасам прашаптала я. А той “дзядзечка” ступіў да сцяны, згроб з цвіка кажух ( ад дзеда Маркі і бацькі застаўся) і – за дзверы. Пранесла! Ні жывыя, ні мёртвыя вылазілі мы з Валяй з пограба.

У тым трывожным часе здараліся і весялейшыя эпізоды. У нашай хаце калі-нікалі ладзіліся вечарынкі – весяліліся партызаны, селавыя хлопцы, дзяўчаты. Хлапчанё, цікаваў я з печы, з-за коміна, на забаўнае ігрышча дарослых. Хтосьці з дзецюкоў, мабыць знаёмых партызан, мог падахвоціць малога, каб той праспяваў што. Недацёпа- саліст, раней падвучаны сёстрамі – "толькі за жменьку солі" – зацягваў: "*Сягоння субота, а заўтра - нядзеля, Чаму ў цябе хлопча кашуля ня бела..*". Звычайна ў хаце спявала Лена – ад яе і мой "сольны" досьвед, прыдатны пазней ротнаму запявалу падчас вайсковае службы. А тады, на "партызанскай" вечарынцы, падбадзёраны воплескамі слухачоў і шчапоткай солі з крупінкамі табакі, агучваў я і другую мелодыю: "*Сядь ка рядом, что-то мне не спится. Письмо я другу нынче написал, Письмо в Москву – далёкую столицу, Которой я давно уж не видал..*". Чапнуўшы песень, не магу не згадаць бабуліны – цёплым мяккім голасам спяваныя радкі: "*Христос с учениками из храма выходил Пред страшною смертью своей И скорбью преисполненный печальными словами Учил Он любимых друзей..*". Так што адтуль, з дзіцячае "мае вайны" – абок незабыўнага страху і першыя мае спевы і хрысьціянска-духоўнае прычашчэнне, і сціплыя "заробкі", і першае – завочнае – знаёмства з таёмнай Масквой, у якой лёсіла пражыць большасць адпушчаных мне летаў і зім.

З прыходам красных Валя, правучыўшыся колькі месяцаў у сёмым класе, падалася ў Мінск на курсы тэлеграфістак. Лена засталася трымаць гаспадарку і гадаваць братца, што год усё большага неслуха. Нацярпеліся пры калгаснай нішчымніцы, за старшынёй – п`яніцам, садыстам (ня раз апякаў і мяне, малога, плёткай за нішто)

Сястра вярталася з поля позна, змораная. Брат сустракаў сваё суцяшэнне сякой-такой вячэрай, летам – гарачай бульбачкай, зваранай у чыгунку на трыножніку перад хатай. Гойсаць па вуліцы не вельмі выпадала, хіба што –зрэдчас вечарам, або ў нядзельку згуляць у лапту, пікара. А так – скрозь каля хаты; цягаў з бору галлё (на добрыя дровы сілоў яшчэ не ставала), пільнаваў курачак, малое візглівае свінчо, цягаў ваду з фермы, палоў, палівау грады. Іншая цётка, праходзячы, магла

падбадзёрыць мальца: во, Лёнін памочнік стараецца, малайчынка!

Гадоў з 9-10 пачаў і “памочнік”, следам за сятрой, патроху прыпрагацца да калгасняга цягла – барануючы ярыну, разбіваючы, зграбаючы сена, абганяючы бульбу і г.д. “Палачкі” мае ў такім разе пісаліся “на Лену”. Тая восенню атрымаўшы на працадні паўмяха жыта, лагодна падхвальвала: тут, брацік, і твой праснaчок зароблены, змелецца-спячэцца. З маіх жа “ўніверсітэтаў” працоўных малонне было мабыць найцяжэйшым. Торбачку жыта (радзей – пшанічкі на пытляваную муку) перакруціць на жорнах слабымі рукамі… Жорны былі ў Анюты Блізнючыхі (яе чалавек Аляксандра не вярнуўся з вайны), Саўкі, Івана Епімашкаў, Мікалая Стрэльскага – да іх найчасцей па чарзе і хадзілася. Трэба ж было намагання й цярпення варочаць-круціць шастком, раменным вушкам прымацаваным да бэлькі, верхні камень, найшчыльней прыплюснуты да ніжняга, каб мука йшла мякчэйшай. Хутка робіцца табе цёпла, горача і пот цурком – абатрэш рукавом і далей, што конь малатарню кругам, падграбаючы жменкай мліва да латка. Перапыняцца на даўжэй не выпадае – не замінаць жа лішне добрым людзям, якія дазволілі скарыстаць з свае “мельніцы”. Затое з дзіўнай асалодай – зморaны й шчаслівы – з тою ж, пад пахаю, торбачкай – ужо цёплай і мяккай, вяртаешся дамоў. Будзе зацірка, будзе блінец, а можа й праснак. Лена, што б ні зварыла, ні спякла – усё да смаку.

Кароўкі ў нас не было, козачку прыдбана пазней, а пакуль за малачком – ранічкай або вечарам – бегалася да бліжэйшых, спагадлівых цётак – Гэлькі Вашкевічавай, Машы Ніканчык; з паўгладышыка і ёсць чым забяліць-засівіць страву. Ня раз ад суседа (Расолькі) – метраў 100 – пазычалася агню на распал у печы. Джыгаеш борздзенька, перакідваеш вугольчык з далані на далонь, дзмухаючы, каб не патух – вясёлая прыгода.

Увогуле жылося, падрасталася галаднавата, халаднавата, але суладна. Да працы меньшага не прынукалася – што трэба, рабілася само сабой – прыбраць у хаце, падмесці двор (перад Вялікаднем – з асаблівай прыўзнятасцю), нарыхтаваць сухіх дрэвак пад “самагонку”, зноў жа, збегаць на другі пасёлак да дзядзькі Івана, цёткі Аўдакеі (Епімашкі) за адпаведным

начыннем. Без яе, “радзіменькай”, у сяле, вядома, не абыходзілася. Пакаштаваў жа ўпершыню тае гары, ужо дзетдомаўцам, на вяселлі Лены-Валіка (нават бутэльку мальцам-равеснікам за кузню выносіў і тыя, схапіўшы “кайф”, нібы ахмялелыя, спрабавалі між сабой тузацца).

А святочныя дні… Ранічкай, з сястрой – перад мамінай іконкай, у куце, прашэптваем малітву і ў шчасьлівай таёмнасці сядаем за стол. Лена – з мацярынскай пяшчотай у голасе: “Падзякуем, брацік, Госпаду за тое, што нам паслаў на свята”. На абрусе кужэльным жаўцее крутабокі пірог, чырванеюць лустачкі кумпяка (акуратненька нарэзаныя яшчэ звечара – нядзелькай жа Вялікоднай няможна ні нажом карыстацца, ні ў печы паліць…), сподачак з “бурачковым” хрэнам, бялее кавалачак сыру і – нарэшце – грудочак фарбаваных яек – дзіцяці найвялікшая радасць.

Святам, памятаецца, ўспрымаліся кожныя адведзіны Валі ў Чэрвені. Пакутліва ёй даўся самастойны хлеб. Яшчэ ў Мінску наша курсістка-тэлеграфістка звалілася (сапхнулі ў цеснаце) з падножкі пад трамвай – калёсамі адціснута пальцы на правай назе. Адмучылася, бедная, пакуль у бальніцы гаілася “згладжаная” хірургамі ступня (загоеная, праз усё жыццё не перастане вярэдзіць).

І вось летнім дзянёчкам, з кошычкам суніц і чарніц дадыбаўшы да горада, прадаўшы на базары колькі стаканаў тых ягад, кіруюся з рэштаю (гасьцінчык) к будынку раённае пошты – двухпавярховае камяніцы (цяпер на тым месцы касцёл). Надворнай лесвіцай, асцярожна трымаючыся парэнчы (не скаціцца б!), ўзыходжу наверх, далей – карыдорчыкам направа ў невялічкі пакойчык, да квадратнага вакенца, за якім віруе тэлефонна-тэлеграфнае жыццё. Чуцён строкат марзянкі, дзявочы голас перад дзівосным пультам з павіслымі шнурамі: “Міленькая, мне “Пабеду” (калгас)… Харашо, жду!”. Следам – “Ляды?, МТС! Будзем гаварыць з Мінскам!”.

А там, у глыбіні пакоя, ля вуглавога вакна, ледзь пакручваецца на падстаўцы нейкае калёсіка – з абадка цягнецца, спадаючы змейкаю долу, белая папяровая стужачка. І строкат нязвыклы, і бясконцая стужка прываржваюць хлапчука. Над таямнічым сталом, плячыма да ваконца, напружана схіленая

знаёмая постаць роднае сястры. Цікую ў захапленні за яе нетаропкімі рухамі, як тыя разводзяць даўжэзную ленту, раз-пораз нешта пазначаючы на паперы – прымаецца тэлеграма. Раптам на гук суседкі Валя паварочвецца ўсім станам, і з прытомленай усмешкай кіруецца да вакенца. У сястры валасы светларусыя, буйныя, акуратна выкладзеныя пад хвалісты ўзвіў над адкрытым чалом. І дробненькія рабацінкі на пухлаватых шчоках, і лагодны мяккі голас – як жа ўсё роднае, блізкае, амаль мацярынскае. Да таго ж, Валя, калі верыць цёткам, вельмі падобная да нашае мамы ( Лена – больш да бацькі), якой сын не памятае.

- Алёша?!, – радуючыся здзіўлена. – Вот і добра, што прыйшоў. Скора змену здам, пойдзем разам. Пакуль пачакай-пагуляй у скверы…

Надвячоркам крочым Мінскай вуліцай, мастком праз Ігуменку, далей у самы канец, да прыземістае, цьмянымі акенцамі ледзь не да зямлі, хацінкі – там у адзінокае старэнькае бабулькі сястра здымае невялічкі куток – вузенькі ложак за шырмай. Частуемся кавалачкам яе “картачнага” хлеба – такім сабе абедам і вячэрай. Валін хлеб куплёны! – саланаваты й салодкі – які смачны і як яго мала (дома – амаль ніякага). Але адчуванне цяпла і ласкі пераважвае маю дарожную стому і прагаладзь. Да таго ж з чорнае “талеркі” на замшэлай сцяне ліюцца па змрочнай хаціне дзіўныя чароўныя гукі:

Ветер наши знамена колышет,
Наша песня летит по земле –
Пусть же Сталин великий услышит
Эту песню в московском Кремле.

Передай ты ему, дорогая,
Что от нашей счастливой земли,
От колхозного вольного края
Свой привет мы ему принесли...

Ах, якія цудоўныя спевы, якая боская музыка! Недзе ж ёсць той вольны калхозны край, дзе гэтак хораша жывецца-спяваецца, ня тое, што ў нашай гаротнай “Парыжы” , са злюкай-

старшынёй. Не жыццё, казка! Каб жа ў нашу хату такую "талерку" з музыкай і замест газоўкі-капцілкі – лямпачку, што весела паблісківае на шнурку з-пад пацямнелае столі… Словам, ад Валі – маё першае захапленне дабротамі цывілізацыі і… няўцямная туга па нечым светлым, нявымоўным, што ўскрыляе душу тваю над панылай будзёншчынай…

Восенню 1948 Валя, па дамаўленні з Ленай, забірае брата да сябе ў Чэрвень, доўжыць вучобу ў 6-м класе. Той падрастаючы, што раз блажэў у сумнеўным хаўрусе (такі не ставала бацькавае папругі..). Сястра, праўда, калі-нікалі і мусіла ставіць таго на жарству за чарговую правіннасць (пераважна – гойсанне па садах і ўшчуванні чужых цётак: "Глядзі, Лёня, свайго Алёшу, бо другім разам скалечым гэтага бэнся..!").

Яшчэ нязносней пайшло ў таго байструка пасля вяртання з Мінску – ад дзядзькі Андрэя (прывёз было пляменніка да сябе пабачыць горад…). Там другі дзядзька – Пётра Баранчыкаў, муж мамінае сястры Таццяны, афіцэр-франтавік, з-пад Арла, паманіў было хлапчука сувораўскім вучылішчам. – Что племяник, нравится?, – перапыніў ён, памятаю, гарэзлівым пытаннем мой захоплены пагляд на стройныя шарэнгі равеснікаў – у чорнай, з блішчастымі гузікамі, палымянымі лампасамі уніформе. Пад гукі горна, пошчак барабана тыя чотка пячаталі крок Савецкай вуліцай, усцяж цагляных каробак-руінаў (цяпер – Цэнтральная плошча). Дзіва! – аслупянела знерухомлены цікаваў, нішчымная "дзярэўня" ў шэрых картовых штанох, паношанай палатнянай кашулі са шляёй праз плячо, тое незвычайнае шэсце. – Будешь и ты суворовцем! Как же, сын погибшего красноармейца!, – не сказаў, камандным тонам выгукнуў дзядзька, падводзячы нечаканую рысу пад маім падагрэтым уражаннем ад убачанага. Цяпер забыліся дэталі таго выпадкова "сувораўскага" праекта, пра які хутчэй за ўсё адразу забыўся й сам дзядзька па выпетранні з галавы прынятай па дарозе стограмоўкі з "прычэпам" (півам). А толькі вярнуўся пляменнік у сваю вёску куды як наструненым, што вось-вось яго зноў паклічуць у сталіцу, каб прыбраць у чорны з алымі пагонамі файнецкі кіцель сувораўца. Аднак дзядзькава пісьмо ўхткасьці (на ўстрывожанае сястры запытанне) астудзіла гарачыя мроі – маўляў, пакуль хай

вучыцца, а там відць будзе… Узбунтаваўся з горычы блазнюк: ні ў якую школу, нікуды не хачу, не пайду!.. І Лена, не даўшы рады смаркатаму бунтаўніку, заручылася падмогай малодшае сястры.

У Валі пайшло спакайней і вучоба пакрысе наладзілася. Але ж і ёй, дваццацігадовай дзяўчыне-кватаранцы (ужо – на процілеглым канцы горада, на вуліцы Будзённага, ў суворай Галі Жарыкавай, каляжанкі па рабоце, гадамі ад яе крыху старэйшай, бяздзетнай ўдаве па мужу-франтавіку) пры вельмі сціплым заробку нялёгка давалася ўтрыманне другога едака. Тут мушу адхіліцца-пакаяцца, – як браток аднойчы "аддзячыў" за сястрыніны клопаты. А было так. Неяк на печы (там з-за халадэчы ў хаце пераважна бавіўся час, рабіліся ўрокі, спалася) згледзеў пучок з грашыма і…ціхенька прысабечыў. Назаўтра Валя ўстрывожана разгубленым голасам:– Грошы недзе прапалі, можа ты, Алёшка, бачыў? – Не, не бачыў, – прамармытаў, нясмела адводзячы вочы ўбок. –Няўжо, разява, сама я згубіла ідучы з работы. Але ж у сумцы ляжалі, добра помню…Дзе цяпер перахапііць да палучкі..? – з горыччу ў голасе разважала-бедавала сястра. Злодзей-пачаткоец (сцярог Гасподзь, да "профі" не дайшло) зацята вытрымаў яе выжаленні, ні гукам, ні рухам не выдаўшы сваю здраду. Ды і Валя болей не даходзіла – дзе, хто вінен у той прапажы, што нямала патузала ёй нервы. Брацік жа тым часам пакрыёму разменьваў скрадзеныя 3-х, 5-ці, адну нават 10-ці рублёўкі (з выявамі на купюрах Леніна, лётчыкаў, танкістаў) на пранікі, цукеркі-падушачкі, спажываныя дарогай са школы дадому. Паласваўся, нягоднік. Гадоў праз дваццаць, ужо сямейным чалавекам гасцюючы з Масквы ў Чэрвені, паклікаў на развітанне сястру на парог: Так і так, Валянцінка, грэх перад табой даўно нашу, грызе душу, не сціхае, пакуль не прабачыш. І прыгадаў, збіваючыся, тую прыкрую прыгоду з грашыма, працягнуўшы ёй пару чырвонцаў – маўляў, прасці і прымі "кампенсацыю". – Што ты выдумляеш, якія грошы?!, – запярэчыла дрыжачым голасам і рашуча адвяла маю руку. – Калі тое было, нічога я не помню, гаворыць абы што. Калі ў цябе лішнія – дзецям, жонцы гасцінцаў купі. І не вазьму, перастань! Абняліся абое праслязіўшыся, так і не "разлічыліся".

Вяртаючыся на вуліцу Будзённага. Па нядоўгім часе сышоўшыся ў школе з дзетдомаўцамі, дамогся накіравання на казённы харч (дзіцячы дом № 3 на Загор`і), хоць сёстры і надалей праймаліся маім сталеннем. Валіны сціплыя пераводы ў Мінск ня раз падмогалі брату-студэнту, чые ніклае стыпендыі не заўсёды ставала нават на танейшы батон з чаем (рэдка калі – з маргарынам). Пазней цалкам сваім пачуваўся я ў Валі-Жэневай Яскевічаў, Лены-Валікавай Цыбінаў хатах – цягам "бібліятэкарства" у Вялікаполлі, камсамольскага інструктарства, сакратарства ў Чэрвеньскім райкаме ЛКСМБ. Скрозь, як дамоў, вяртаўся з працяглых падарожжаў па раёну на цёплы й прыветны парог родных сясцёр і такіх жа, па-братняму, блізкіх мне швграў. На Пушкіна, 9 зладзілася наша з Соняй Астроўскай "камсамольскае" вяселле. Дарэчы, Валя першай адобрыла-блаславіла мой выбар ("харошая, скромная дзевачка.."). З той "харошай, скромнай" адзначылі нядаўна паўстагоддзе супольна выпрабавальнага шляху жыццёвага…

Цяпло крэўнае ласкі, дабрыні, урокі працалюбства зведалі на сабе і нашы дзеці – Света, Андрэй, не аднаго лета наязджаючы з Масквы ў Машчаліна, Чэрвень да цётак-дзядзькоў. Жонка мая – як і кожная жонка – мае рацыю: Добрае – помніцца.

Па-рознаму склаліся сямейныя лёсы ў сясцёр. Лена прыняла да сябе круглага, як і сама, сірату Валянціна Цыбіна. У калгасна-саўгаснай напрузе пражылі век свой, падняўшы, выправіўшы ў свет дзвюх дачок і сына – Валю, Галю, Саню - такіх жа, у бацькоў, спагадлівых характарам, рупных, шчырых. Спачыла сястра ад нялёгкіх турбот зямных маючы за плячыма 83 гадочкі. "Макулінка мая" – ледзь прашаптала яна пры апошняй з братам сустрэчай-ростанню. Па сабе пакінула спавядальныя ўспаміны, выдадзеныя дзецьмі і блізкімі*. Троху канфліктней склалася жыццё ў Валі з Жэнем Яскевічам. Але ім таксама і на тым свеце ўцешна за сваіх бездакорна старанных дзетак – Зою, Ірыну, Анатоля.

Кожнае вясны на Радаўніцу дзеці, унукі, праўнукі збіраюцца ў Чэрвені, Горках ля мацярынскіх, бацькавых магілак. Спрабуе, пакуль сілы, дападаць крэўнага гурту і аўтар

гэтых радкоў. Мроячы  пра жоўты радзімы пясочак – лягчэйшы, прывабнейшы  ад вязкае стылае гліны чужое…

* Людзі добрыя. З гісторыі аднае сям'і. М.-Чэрвень 2011

1998. 2011-2012.

# Апёкі вайны

Дзеці вайны, гулялі звычайна ў вайну. Так было і тым веснавым днём. Дзесьці па снеданні малеча гуртавалася, тусавалася, па цяперашняму, на невялічкай пляцоўцы – напроць школы. Спора набіралася тых мальцоў, шасці-дзесяцігадовых. Трапілася і мне, меншаму ад усіх, падшывацца ля ўвішнае чарады, балазе хатка наша тулілася недалёчка, пад соснамі – усцяж пячыстае дарогі з Парыжы на Сасноўшчыну, Ляды.

Шпана пачала фармавацца ў атрад – партызанскі. Рэй вялі большыя, Блізнюковы хлопцы. Распараджаліся, каму ў які строй – Ціхамірава, ці Каралёва. Кожнаму, аднак, рупіла стаць "ціхаміраўцам" – (камандзіра партызанскага атрада, засланага з Вялікай Зямлі, пазней Героя Савецкага Саюза). У другі, "каралёўскі", ахвотнікаў не знаходзілася. Па нядоўгай спрэчцы "фармаўшчыкі" пагадзіліся на адзіную шарэнгу, пачаўшы пастраенне па ранжыры. Наперадзе сталі раслейшыя, некаторыя з самаробнай драўлянай "зброяй". Мяне, карапуза, ад строю адпрэчылі. І ўсё ж, толькі калона рушыла з месца ў напрамку Блізнюковай хаты, шасцігадовы "ваяка" такі прыляпіўся да хваста, нават"узброены" падабранаю палкай. Дадавалі імпэту дзіцячаму шэсцю і паблажлівыя ўсмешкі цётак збоку: "Глядзіце, бабы, зашчытнікі..!"

Ледзьве ланцужок смаркатых ваяроў мінуў Фурсаву хату, як з бліжэйшага бору грымнулі 2-3 стрэлы, і тут жа ўзахлёб засакаталі аўтаматныя чэргі. Перапужаныя "ваякі" барджэй за вераб'ёў сыпанулі ў суседнія двары. Падхлёстаны страхам, кінуўся я назад, да цёткі Манькі – з маці жыла ля саменькай школы, у былой калгаснай канторы (складзенай, дарэчы, з абагуленага нашым бацькам зрубам пад новую хату). Сюды, на печ, да Марчыхі найчасцей гарнулася сірочая душа мая, тулёная мацярынскай пяшчотай бабулі. Цяпер жа не прага ласкі гнала перапалоханага мальца пад бабіна крыло. Жуда і роспач ад аўтаматна-кулямётнага трэскату, посвіту куль, што, здавалася, прашываюць цябе наскрозь, а ты шчэ бяжыш-бяжыш…

Ледзь я праскочыў, уваліўся на парог, цётка Манька мігам за сабой – у пограб. Так мы затаіліся ў земляной цемені. Малы

цяміў цётчыну засцярогу ад нямецкага хапуна. Мае Лена і Валя, ад Манькі не намнога маладзейшыя, таксама пры першым жа набліжэнні немцаў сігалі разам з іншымі дзяўчатамі і дзецюкамі ў лес, ратуючыся ад выгнання ў Германію.

Часам мусілі ўцякаць сярод ночы, суцяшаючы меньшага, каб не баяўся адзін у хаце. Малому, маўляў, нічога не будзе. Лёгка сказаць – "каб не баяўся"; собіла за сёстрамі бразнуць клямцы, як у таго пад сэрцам нібы штосьці абрывалася – ад жуды і страху. Цяпер – з цёткай у пограбе. Боязна але не жудасна – удваіх, утрох нават: бабуля ў хаце над намі, на печы. Аднак напружанае падполле наша трывала нядоўга. Зверху раптам пачулася патрэскванне, а следам і ў пограбе пацянула нечым гарклявым. Цётка ўстрывожана пачала клікаць бабулю, каб тая адсунула цэбар з лаза, але ніхто не адгукаўся, а трэск мацнеў…

Манька выпрамілася, натужылася ў века плячыма, і тое разам з насунутым цэбрам бразнулася ўбок. Твар абдало клубам гарачага дыму. Неяк выкарабкаліся наверх. А ў хаце з-пад столі, з вакон ужо плёскалі палосамі па сценах языкі полымя. Цела апякло нясцерпным жарам. Неяк перакуліўся цераз парог на падворак, адпаўзаючы ад вогнішча пад плот. Задымленае паветра дасюль, здаецца, гарчыць, пячэ ў горле, а прарэзлівая страляніна не сціхае ў вушшу.

Палала цётчына хата. Манька, пазней апавядала, ледзь паспела сцягнуць з печы маці, якая, знепрытомленая, ужо задыхалася ў дыме. Бабуля пасля жудаснага перажывання доўга не працягнула – таго ж лета і спачыла. Я тым часам з перапуду распластаўся пад плотам, унурыўшыся галавой у траву, баючыся шавяльнуцца. Страляніна не сціхала. Полымя бушавала навокал. Ля маньчынай хаты дагарала з трэскам яшчэ нейкая будыніна. Над калгасным дваром у метрах стах гудзела-калыхалася вогненае мора: гарэлі канюшня, свіран, стагі саломы… Дасюль дзіўлюся, як у тым пекле ацалела, не занялася агнём наша хатка – аслоненая, відавочна, хвоямі і Божай літасцю.

Лежачы, раптам згледзеў скрозь счарнелы дым мітуслівыя ў зялёным фігуркі – немцы! Ланцужком, чацвёра-пяцёра трусілі ўсцяж вуліцы. Фрэнчы колеру балотнае твані, з закасанымі па локці рукавамі, такія ж пляскаватыя фуражкі з тупаносымі

брылямі, аўтаматы-шмайсары наперавес. Але ўжо не стралялі, спешна падаючыся да бліжэйшага, за Блізнюкамі, лесу.

Стрэляніна сціхла. Толькі густы слаісты дым навісаў над наваколлем. І вось праз задымленую палойку, нібы з туману, праступаюць тры постаці. Павольна, неяк урачыста і трывожна ступаюць сярэдзінай вуліцы. Пазнаю старую Расольчыху, дзеда Ціхановіча, кагосьці трэцяга не ведаю. Кожны трымае ікону на ўзнятых руках. Засмучоны лік святой Багародзіцы з Дзіцяткам на грудзёх – на расольчынай іконцы…

Вяртаючыся ад цётчынае дагарэлае хаты дамоў, убачыў ля нашае сядзібы, пад тымі ж хвоямі, купку людзей, застылых ля пажарышча. Чуліся ўсхліпы, прыцішаны жаночы плач. На папялішчы ляжаў абгарэлы чалавек, хутчэй яго падабенства – з апаленым жоўтым чэрапам… Партызанская варта, сігаючы ад немцаў, прыхавала пад стогам саломы параненага таварыша…

2011

# Нашыя прыйшлі!

Лета ў самым росквіце. Бліз нашае хаты, за кузняй і далей, на пагурак, калыхаліся наліўныя жыты. Гледзячы на тое ціха-лагоднае хістанне ў цёплых сонечных промнях, неяк весялела на сэрцы. Ды і апошнія дні пасля зацяжнога грукату і гулу (нямецкі фронт адступаў бочным шляхам з-пад Беразіны-Якшыцаў, Лядоў на Мінск ) незвычайна пацішэлі.

Памятаю, ад старэйшых чулася: “Немцы ўцякаюць. Скора красных чакаць”. Яны ж, красныя, ужо сведчылі сваю блізкасць – глухаватымі гарматнымі выбухамі. Старэйшыя хлопцы нават адрознівалі: “Во! Нашыя пушкі гахаюць!”

Не ведаю, чаму ў той дзень, дзесь каля поўдня, мы апынуліся ў жыце. Мабыць, хаваліся. Мы – гэта мае Лена і Валя са мною, ды яшчэ некалькі суседак. Нечакана, рашуча расхінуўшы калоссе, паўстае прывідам перад намі мужчынская постаць. Пазнаю дзядзьку Вашкевіча. Звычайна ціхі, маўклівы, гэтым разам вельмі ўзрушаны: “Нашыя, красныя! Во, зараз падыходзяць!”

Ай ды вестка! Не ўлеглася ўзрушэнне, як з жыта вырастаюць постаці трох дзецюкоў. Плашч-накідкі на плячах, зіхоткія зорачкі на пілотках, аўтаматы за плячыма… Твараў не памятаю, але голас аднаго з іх – басавіты, лагодны, дасюль мне чуцён: “Так, говорите, немцы драпа дали?” І ўсе трое ўлад засмяяліся – прыязна, даверліва. Сустрэча трывала хвілін пяць, не болей. Разведчыкі – гэта былі яны – развіталіся і рушылі далей, следам за Вашкевічам. Той, відаць, меўся паказаць ім дарогу на Горкі.

Бліжэй надвячорка прыцішаныя ваколіцы нашае Парыжы (Машчаліна) ўскалыхнуліся, абудзіліся ад незвычайнага шуму, грукацення, гаманы. З-пад Лядоў, Чырвонай Слабады пясчыстай дарогай усцяж нашае хаты плылі калоны салдат, успацелых доўгім маршам, узбуджаных вітаннем сяльчан і такіх дарагіх, мілых. Зрэдчас дзесьці ў галаве, сярэдзіне шарэнгаў узвівалася песня, чуліся зычныя каманды.

І песня, і тыя галасы, і зіхоткія зорачкі на пілотках, што калыхаліся над бясконцым шэсцем, само паветра цёплага разамлелага надвячорка, напоенае салодкім водарам лета і

дзіўнымі гукамі – усё гэта заварожвала, хваляала маю дзіцячую псіхіку. То была радасць – гарачая, салодкая. Як і першая любоў – вострая, незабыўная. Назаўсёды.

На калгасным жа двары – напроці нашае хаткі – таго помнага ліпнёвага вечара асталявалася паходная кухня. Панавала гаманлівае ажыўленне. Наводдалі ад катла сілкаваліся байцы са сваіх кацялкоў. Хтосьці з жанчын-суседак дастаў ад кухара пачастунак – коўш салдацкае кашы. Туды ж, хапіўшы дзеравянае вядзерца (чаго прынаднейшага пад руку не знайшлося?), хуценька папраставала Лена. Вярнулася з поўным – уварыстае, яшчэ гарачае пшонкі. Прызвычаеныя да прогаладзі, да посных і рэдзенькіх, найчасцей несалёных булёнчыкаў, абселі мы дружна тую пасудзіну, налягаючы на цудадзейную "манну нябесную". Яшчэ пару дзён ласаваліся найсмачнейшай франтавой стравай. Дасюль, здаецца, адчуваю на губах яе салёную слодыч.

І быў вечар… З хаты Васіля Епімашкі (там, відаць, запынілася штабное начальства) праз расчыненыя вокны ў разамлелую цемень летнюю плывуць магутныя гукі таёмныя, бравурная музыка ўскалыхвае ваколіцу. Радзіва! Ці не ўпершыню і гэтае чароўнае слова пачуў (хаця, успамінала Лена, яшчэ ў Равецы бацька ўсталёўваў дэтэктарны, з навушнікамі, прыймач).

Вызваленне… Салодкі ўспамін.

2011

# “Дзядзька паліцэйскі!..”

Фронт пакаціўся далей. Чырвоныя дзесьці ўжо прамаршыравалі вызваленым Мінскам, імкнучы глыбей - на Захад. Сяло астывала ад перажытага ўзбуджэння. Малыя, падлеткі, шасталі мы ў бліжэйшым ляску – Равецкім бары, густа засмечаным бляшанкамі з-пад кансерваў, снараднымі і патроннымі гільзамі, прамасленай пакляй, пашкуматанымі кавалкамі газет, рознага колеру абгорткамі (па хуткім часе ў школе пачнём выводзіць на іх першыя літары…), іншай рознай непатрэбшчынай – слядамі толькі што прамаршынаванага войска.

Недарослыя рабінзоны, прагныя прыгод і знаходак, вярталіся дамоў згаладалыя, узрушаныя пазнаннем чагось новага, незвычайнага. Здаралася – і ўстрывожаныя: хтосьці дзесь чуў праз хмызняк чужую прыцішаную гаворку, іншы знаходзіў нямецкі ранец. Дома пагрозліва ўшчувалі: “Дашастаеце! Напорацеся на немцаў – уведаеце…”

Сапраўды, трывога адчувалася. Тыя ж немцы выходзілі з акружэння (бабруйскі кацёл) невялічкімі групамі, прабіваючыся да сваіх лясамі, балотамі. Некалькі такіх акружэнцаў вылавілі на равецкім узмежку партызаны, што нейкі час затрымаліся ў нашым сяле. І адразу ж расстралялі палонных – непадалёк, за кузняй, на схіле жытнёвага поля.

Памятаю выжаленне аднае цёткі: “Нашто ж было страляць іх, маладзенькіх, няхай бы ў плен здалі…”; чамусьці і мне было шкада пастраляных. Словам, мір наставаў, але трывога трымалася. Немцы-акружэнцы па начах залазілі ў хаты, варыўні, здаралася, не без стрэлаў…

Баючыся нанач заставацца ў сваёй, наводшыбе, хатцы, мы падаваліся ў другі пасёлак да Епімашкаў. Цётчын гаспадар, дзядзька Іван, адразу ж быў мабілізаваны на фронт разам з другімі мужчынамі. Праз які год вернецца, дзякуй Богу, жывы, нават не паранены (выпала яму кухарская служба), хаця з паўтузіна нашых вяскоўцаў склалі свае галовы ў баях. Раней, у першыя дні вайны, рушыў з Таганрога на фронт і таксама не вярнуўся яшчэ адзін машчалінец – Кастусь Каўка…

Аднак жа, пра начлег у Епімашкаў. Тут свая чарада дзяцей. Старэйшы – Ваня, за ім – Коля, мой аднагодак, следам Галя, Валя, толькі што народжаны Шура (пазней у сямейцы прыбудзе яшчэ дачушка Оля). Дадайма да гэтае гамэрні адзінокага старэнькага дзеда Трахіма – таго па радоўцы ўтрымлівалі сыны (Васіль, Саўка, Іван, Аляксандр).

І вось досвіткам аднаго з начаванняў Коля і я паджыгалі ў барок, недалёчка ад епімашкавых сотак – па грыбы. Стаялі цёплыя дні, зрэдчас церусілі дожджыкі, і заўзятары ўжо прыносілі з лясных лагчын і ўзмежкаў лісічкі, сыраежкі. Траплялiся шчаслiўцам каласавiкi. На адзін з такіх – разложыстая ў пахіленай траўцы светла-бураватая шляпка, бы праснак на патэльні – і натрапілі мы ці не адразу, цікуючы між маладзенькага сасонніку запаветнага грыба. Баравік!

Згледзелі нечаканы цуд адначасна, апынуўся ж той у руках прутчэйшага Колі. Пачалася тузаніна: чый грыб? Брацельнік упарта не саступаў: "Мой! Я першы ўбачыў!" Пабароць крыўдзіцеля я не мог, і змірыцца са стратай раскошнага ляснога гажуна ўпартая натура не дазваляла. У парыве немачы і злосці хапіў я абедзвюма пяцярнямі з Колевых рук той дарунак лесу, і раструшаны баравік кавалкамі пасыпаўся долу. І ўжо даючы поўную волю свайму вулканічнаму гневу, выгукнуў на ўсю сілу лёгкіх: "Дзядзька паліцэйскі! Ідзіце Колю забіце!"

"…біце!" – зычным рэхам скалыхнуўся санлівы бор. З перапуду кінуліся абодва наўцёкі. Коля першым прыімчаў дахаты. І пакуль я, астываючы і расшалопваючы ўчыненае "злачынства", даплёўся следам, той паспеў далажыць хатнім аб здарэнні. "Толькі Алёша крыкнуў, - завяршаў ужо пры мне свой аповед, - чую, у кустах загергеталі па-нямецку…"

Пэўна, былі то ўяўныя немцы. Але страх які! Алёшава здрада не мела апраўдання. Лена, памятаю, усхадзілася не столькі ад злосці, як ад сораму за брата-неслуха: "Я цябе распаласую, бурклівая кішка!" – кінулася было на мяне сястра. А толькі цётка Аўдакея неяк адразу спакойна, разважліва пагасіла канфлікт: "Ну што ты зробіш, мае вы дзеткі, абодва – дурні. Трэба было ім у той лес бегчы…"

З тае прыгоды прыпячаталіся за мной ці не першыя мянушкі – "дзядзька паліцэйскі", "бурклівая кішка", "цябе распаласую".

Так калі-нікалі паддражнівалі браты Епімашкі малога ды і дарослага Каўку, хаця ўвогуле нам ладзілася-сябравалася праз усё жыццё.

“Як добра, што ў лесе Равецкім тады
Бядою не грымнула рэха…” –

Віншаваў я з Масквы гарэзлівым напамінам брата Мікалая Епімашку (прафесійнага разведчыка, палкоўніка КДБ) з пяцідзесяцігоддзем. Ужо колькі год, як браток мой парыць зямельку. Нядаўна ў лепшы свет адышоў і старэйшы  Ваня. Алёша пакуль затрымаўся тут. Магчыма, дзеля гэтых і іншых старонак.

2011

# Жоўты аловак

Дзіцячы кайф ад першага свайго 1 верасня (1944) мне схапіць не выпала. “Клімянок” – спрошчанае селавымі прозвішча Мікалая Стасевіча Клімянкова, настаўніка-загадчыка мясцовае “пачаткоўкі” - у клас не запісаў. Праз малалецтва; да круглых сямі не дацягваў ды і выглядаў, казалі сёстры, мізэрнавата. Да таго ж у той, па вайне перапоўнены першы набіралася ніштавата і перарosткаў.

Аднак жа праз які тыдзень-другі Лена мая, падтрыманая дабрэйшай цёткай Клімянчыхай, настаўнікавай жонкай, такі дапрасілася згоды на братава навучанне. Той, узварушаны ранішнім школьным званком –блізенька ж, метраў сто ад нашае хаткі – пачынаў нудзець: у школу хачу!.. Паспрыялі малому і Максім Багдановіч, дакладней некалькі радкоў з яго “Мушкі-зелянушкі” – раней падслуханых ад сямікласніцы Валі, другое сястры, і цяпер пад леніна падбадзёрванне нясмела мною прамырматаных перад настаўнікам:

А Максім ляжыць на траўцы,
Сонна пазірае.
Камарок за камарочкам
Да яго шыбае…

- Ну, няхай пакуль ходзіць, там паглядзім – мусіў саступіць Клімянок, можа крыху й крануты стараннем саматужнага дэкламатара. Так мне дазволілі прымасціцца краёчку даўжэзнае, усцяж тарцовае сцяны лаўкі, шчыльна абсаджанай старэйшымі вучнямі. Адтуль зіркаў зайдросна на равеснікаў, што наперадзе тырчком, бы шпакі на шпакоўнях, паважна красаваліся за чорнымі blішчастымі партамі, раз- пораз паляскваючы вечкамі (школа ў вайну не працавала, можа таму й ацалела ад партызанскага гневу).

На “Камчатцы” маёй не вельмі утульна, нават мулкавата. Скрозь мусіш прыўставаць, напінацца, расчытваць на дошцы мелам пазначаныя склады: ма-ма, ра-ма, потым завостранай палачкай адціскаючы іх на кавалку сяк-так прыладжанай на каленях кардонкі. Троху ямчэй пачуваліся з вучнёўскім рыштункам іншыя мальцы, дзяўчынкі. Сёй-той схіляўся над самаробным сшытачкам з нейкае парудзелае абгорткі, макаючы

падвязаным на дубчыку пяром у бутэлечку з бурачковым сокам або з растворам сажы – такім сабе хатнім чарнілам. На гэтым фоне пісак-пачаткоўцаў надта ж зайдросна глядзеўся Валодзя Шыманскі. У таго – сапраўдны, куплёны сшытк у касую лінейку і чарнілка-невылівайка; цётка з Мінску расстаралася. Няблага, на свой лад, пачуваўся і Коля Епімашка – з некалькімі лісткамі ў блакітную клетачку гладкае нямецкае паперы, дасланымі ў канверце бацькам з фронту, разам з хімічным стрыжнем, з якога сынок прыгатаваў адмысловае чарніла. Зрэшты і "Кавачка", як часам падражнівалі мальца, пры сваёй нішчымнасці не чуўся цалкам безнадзейна; настраёва нават бадзёрыўся. Як-ніяк, а штораніцы апякаючы босыя пяткі сцюдзённай расой, джыгаў з торбачкай у руцэ (слова "ранец" пакуль не ведалася) на запаветнае месца – вучань!

Гэтулькі – пралогу. Дзеянне ж адбылося на зыходзе аднаго верасьнёвага, можа кастрычніцкага дня.

Дожджык-дробнасей паныла церусіў за вокнамі, кроплямі падзвінькваў аб падваконнікі. Праз слязлівыя шыбы ў класе дачасна сутонела нейкай змрачнаватай палойкаю. І вось пасля перапынку, перад апошнім урокам, расчыняюцца дзверы бочнага пакойчыка – настаўніцкае катэры. З праёма ступае, па звычцы прыпадаючы на правую нагу, наш Клімянок. Гэтым разам на яго скрозь хмуравата напятым, нібы пакрыўджаным твары блукае стрымана лагодная ўсмешка. У прасцёртай наперад руцэ трыме зграбны, як ашчапіць, пук нейкіх жоўтых пруткоў, падобна спелым ячменным ці пшанічным сцяблінам. Ад тае нечаканае зыркае жаўціні нібы адразу пасвятлела-пахарашэла ў прыжураных класных сценах. - Карандашы!, – узрушлівым шэптам варухнулася дзятва за партамі. Настаўнік пакіраваўшы к свайму сталу, не сядаючы, вышэй прыўзняў над сабой таямнічы пук і прамовіў амаль урачыста:

- Во, дзеці! Атрымалі з Чэрвеня алоўкі, каб вы лепей стараліся-вучыліся. Далей сказаў, што ён будзе выклікаць кожнага па аднаму і раздаваць атрыманае. Затым, па-ранейшаму стоячы, расхінуў класны журнал, пачаў называць прозвішчы.

- Бялевіч! Федзя, гарбаценькі, з першае парты, хуценька падбягае да стала і, наскрозь прасіяны, вяртаеццца на мейсца, высока трымаючы перад сабой – чыста спартовец-спаборнік з

пераможным прызам – зіхоткі жоўты аловак. Следам, па алфавіту, пайшлі прзвішчы Колі Блізнюка, Раі Вераскоўскай, Валодзі Вайцяховіча, Епімашкі, Жоры Жаўлака, Броні Каліноўскай, Валі Маругі, Івана Матусевіча, Лілы Мікульчык, Мішы Нагорнага, Антона Наркевіча, Валіка Расолькі, Вані Расолькі, Раі Самсончык, Валі Стрэльскай… І сягоння з нейкім няўцямным смуткам прашэптваю пра сябе тыя імёны – непаўторныя, як жа блізкія твайму, вычулёнаму на гучанне роднае, нацыянальнаму самапачуццю. Надпісы каторых з тых імён ужо блякнуць на магільных шыльдачках у Горках, Мінску, а чые і дзесьці далей… Тады ж кожны на выклік борздзенька шыбаваў да настаўніка і, свецячыся радасцю, вяртаўся за парту. Хтосьці ўзрушана пакручваў прад вачыма, далікатна пагладжваў нечаканы дарунак з пазалочанай азнакай на гранёным бачку: “Ф-ка им. Сакко и Ванцетти”. Даруначак ці не даражэйшы, прывабнейшы ад фарбаванага яйка на Вялікдзень.

Тым часам запаветны пучок у настаўніцкай руцэ што раз шчуплеў, танчэў. Вось ужо засталося тры, два і.. – апошні, уручаны майму суседу і сябру Шыманскаму. На давяршэнне кранальнага дзейства Мікалай Стасевіч дадаў яшчэ колькі ўшчувальных (напутственных) слоў і жэстам гасячы агульнае ажыўленне, прысеў на табурэт.

Тут жа, з-над тыльнга рада, над прыціхлым класам плесканула адчайным плачам. Ад нечаканасці Клімянок ледзь не падскочыў з-за стала , збянтэжаны. – Што там такое?!

- Гэта Алёша Каўкаў,– падаў нехта з-за парты спачувальны голас, – яму не далі… Настаўнік, накульгваючы, імкліва пакіраваў да “Камчаткі”.

– Ну, чаго плакаць? – Лёгкім дотыкам крануў дзіцячага пляча. – У школе не плачуць, вучацца. З райана, доўжыў нібы ў апраўданне, алоўкі выдалі строга па спісу, а цябе ў журнале напачатку не было. (Такія дзяла,– падагуліў бы амерыканец Курт Ваннегут). З той жа рашучасцю падаўся назад, к сталу, вярнуўся з алоўкам у руцэ і працягнуў абыйдзенаму плаксу:

- На, трымай мой. Не такі новы, карацейшы, затое хімічны, піша лепш ад простага. Хай твая Лена нашкрабе з дзюбкі, зробіць чарніла, пашукаем пяро і будзеш пісаць як трэба. Досыць з палачкай маркавацца.

Суцешанае хлапчанё заглытваючы й аціраючычы няпрошаныя слёзы, неяк адразу сцішылася, троху павесялела нават. Ён – таксама з карандашом, ня горшым, і сам – ад іншых ня горшы.

*   *
*

Колькі ж летаў-зім пражылося-перажылося ад тае вучнёўскае восені. Іншым разам штурхнуўшы шуфляду рабочага стала, міжволі слізганеш позіркам па лоўжыку рознага колеру шарыкавых асадак, алавікоў. На жоўтым – вока запыніцца даўжэй…

2012

# Абсягам Вялікага поля

Кранальны ён, успамін аб першым... Першая ў жыцці прачытаная кніга, першы настаўнік, першы пацалунак... Вядома, і першы заробак — той, што звязаны з адпаведным запісам у працоўнай кніжцы: загадчык Вялікапольскай сельскай бібліятэкі, жнівень-лістапад 1954г. Стаж невялічкі. Але пражытага праз тыя месяцы хапіла б на добрую аповесць — каб на тое талент і цярпенне. Прынамсі, такі лірычны настрой варухнулі ўва мне землякі-калегі з Чэрвеньскай цэнтральнай бібліятэкі Ірына Дзмітровіч і Галіна Ніціеўская, прапануючы падзяліцца ўражаннямі з мае даўняе бібліятэчнае адысеі. Лепей у такім выпадку прытлуміць эмацыянальныя усхліпы і трымацца больш-менш дакладных фактаў— адпаведна пастаўленым пытанням.

У *якім будынку месцілася бібліятэка*? Гэта была даволі ўнушальная драўляная будыніна, наўзбоч сярэдзіны сяла, блізу тагачаснага калгаснага сада. Першую палову памяшкання займала праўленне калгаса «Перадавік», другую — бібліятэка. Перад тым на гэтай, «бібліятэчнай» палове месцілася калгасная стальмашня. Памятаю, сярод першых наведнікаў аднаго сівабародага дзядулю; той, павёўшы прыжмураным вокам па аголеных сценах і спыніўшы пагляд на адной-адзінай шафе з кнігамі, пракаментаваў запытальна, не без іскрынкі добразычлівага гумару: «Значыць, кнігі? А дзе ж цяпер вупраж (хамуты, сядзёлкі, гужы, пастронкі) правіць?». Спамінаю гэтую дэталь, бо слова «стальмашня» нейкі час, па інерцыі, стасавалася каларытным прыдомкам да самае культустановы. «Пойдзем, хлопцы, у стальмашню», — часам чулася сярод падлеткаў. Або каторая з вясковых цётак лагодна магла пажаліцца суседцы: мой жа Генік цяпер вечарамі не вылазіць з тае стальмашні. На што субяседніца суцешліва заўважала: лепш хай не вылазіць, чым гойсаць ветрагонам.

Яшчэ пра памяшканне. Два, з паўднёвага боку вакны, з глыбокімі падваконнікамі, на якіх па нейкім часе дзяўчаты, з чытачоў, паставяць па вазону, навесяць паркалёвыя фіранкі. Процілеглая сцяна — глухая. Пасярэдзіне круглая печка-стаяк.

Да надворных дзвярэй прыладжаны дашчатыя сенечкі. Ад калгаснае канторы наша ўстанова ізалявана капітальным прасценкам, што, аднак, не засцерагала яе ад шуму й тлуму, асабліва калі там, за сцяной, гусцела ад наведнікаў, усчыналіся спрэчкі, ня раз на высокіх танах — рэч звычайная пры калгасным ладзе, быце. У хуткім часе й самому бібліятэкару, абранаму сакратаром камсамольскай арганізацыі калгаса, штораз часцей, з грамадскага абавязку, а то проста з цікавасці, даводзілася бавіць час у канторы.

З фінансава-гаспадарчага боку бібліятэкай апекаваўся сельскі савет у Калодзежах. Там малады спецыяліст-выпускнік Мінскага бібліятэчнага тэхнікума - атрымаў свае пад'ёмныя, следам - месячную зарплату (450 руб.) - Дарэчы, дапазычыўшы да першага заробку пэўную суму , набыў новенькі веласіпед «Харків» - камунікатыўны сродак па тым, пераважна «пяхотным» часе, незаменны, нават «прэстыжны». У калодзежскай бандарні быў заказаны адмысловы даўгі стол, дзве такое ж даўжыні лаўкі, некалькі тубарэтак. На тым даўжэзным, метры ў тры  стале леглі неўзабаве падшыўкі газет, часопісаў («Беларусь», «Вожык»,  «Огонёк»), скрыначкі з шахматамі, шашкамі. Да аднае раней набытае лямпы дакупілася другая (электрыкі яшчэ не было), - так што па змярканні святло з вокнаў чытальні прываблівала цікаўных, найперш моладзь, пераважна вучняў, настаўнікаў з мясцовае школы-дзесяцігодкі. Заглядавалі зрэдчас і людзі старэйшыя векам, сярод іх той-сёй з сялянскіх дацеклівых «філосафаў», настроены паразважаць, злёгку падцвельваючы, з юным бібліятэкарам наконт «высокай» палітыкі: «Дак скажы, хлопча, калі мы гэта сельскае «хадзяйства» падымем, а наш «Перадавік» з хваста ў перадавыя выб'ецца?» Або: «Чаго там натварыў гэты Берыя, што Мікіта яго так адразу ў рог - ні слуху, ні духу?»

Чытачоў, як напачатак, набіралася ніштавата; у скрыначцы адпаведнай — звыш сотні фармуляраў. Абок вялікапольцаў траплялі сюды і з ваколічных вёсак — Бярозаўкі, Язовак, Дубнікоў, Пляцівішча. Кніжны фонд паволі багацеў. Да першаснае шафы раз за разам дадаваліся пакункі з новымі набыткамі — пераважна з райаддзела культуры (туды дастаўляліся з абласнога бібкалектара). Раз-другі набываў

навінкі непасрэдна з чэрвеньскае кнігарні за наяўны разлік. Тыя рахункі, як выключэнне, з санкцыі загадчыка аддзела культуры аплочвала бухгалтэрыя. Не магу пры гэтым не згадаць таго загадчыка — Міхаіла Янчына, гадоў пад сорак мужчыну, статнага, з хвалістым чубам шатэна; сувараватага паглядам, але наколькі мудрага, спагадлівага да першых крокаў маладзёна-пачынальніка з Вялікаполля. Дзеля памнажэння нашых сціплых кніжных засекаў пачалі былі добраахвотны збор кніг. Вынікам тае ініцыятывы дадалося яшчэ дзесяткі тры-чатыры выданняў, сярод іх, помніцца, «Палескія рабінзоны» Я.Маўра, «Глыбокая плынь» І. Шамякіна, асобныя тамы Пушкіна, Чэхава.

Агулам пад завяршэнне майго «загадвання» фонд налічваў за добрую тысячу адзінак: дзве траціны, калі не болей, мастацкая літаратура, троху палітычнае (пераважна матэрыялы, папулярныя брашуры пра з'езд КПСС, бягучыя пленумы ЦК, серыйныя выданні Усесаюзнага таварыства «Знание»), крыху сельскагаспадарчай, уключна з даведнікамі для брыгадзіра-палявода, жывёлавода. Абсалютна пераважала рускамоўная літаратура. Але і родная беларуская, як на тагачасныя магчымасці, прадстаўлена была няблага — творамі Купалы, Коласа, Змітрака Бядулі, Крапівы, Лынькова, Броўкі, Глебкі, Куляшова, Панчанкі, Танка, Брыля. У чытацкай пашане абок беларускай знаходзілася руская класіка (Пушкін, Гогаль, Лермантаў, Салтыкоў-Шчадрын, Някрасаў, Чэхаў, Горкі, Шолахаў, Твардоўскі), радзей — замежная, тады яшчэ даволі сціпла прадстаўленая ў бібліятэцы (Скот, Драйзер, штосьці з Бальзака). Да суперменістых баевікоў было далёка, і кніга дапраўды спаталяла пазнавальныя і духатворчыя памкненні чытача.

Найбольшае захапленне чытаннем выказвалі, што натуральна, вучнёўская моладзь, настаўніцтва, калгасныя спецыялісты. Не памятаю павышанага нераўнадушша да кнігі кагосьці «ад плуга» ці «сярпа». Магчыма, бібліятэкар не патрапіў абудзіць адпаведны інтарэс, а магчыма, што верагодней, сялянскаму зацікаўленню не вельмі спрыяла само жыццё, далекаватае ад таго, «што пішуць і друкуюць». Да таго ж і на вёсцы пачынала ўладарыць радыё, больш мабільны канкурэнт кнігі. Па даўжэйшым часе да гэтага канкурэнта далучыцца, рашуча

пацясніўшы яго, другі, намнога спрытнейшы спаборнік — тэлевізар. Хцівая «скрынка Пандоры» з яе таннымі відовішчамі, сумнеўнымі інстынктамі запалоніць даверлівага гледача, учарашняга чытача. Спакуслівая карцінка запануе над рэфлексіяй, роздумам. Мабыць, чалавеку не ўхіліцца ад няпростага выпрабавання «дабротамі» прагрэсу і цывілізацыі — далёка не заўсёды спрыяльнымі поступу Культуры. І ўсё ж Слова — у традыцыйнай кніжнай, у камп'утарнай, нават лазернай ці якой там інакшай у прышласці мадыфікацыі — застанецца для чалавека незаменным «лякарствам душэўным» (Ф.Скарына), надзейным сродкам яго інтэлектуальнага самапаўглыблення, маральнага самаўдасканальвання..

Аднак жа пра мае вялікапольскія пачаткі і... канчаткі. Не скажу, што ўсё кацілася гладкім торам. Дыскамфортным, у псіхічным сэнсе, было адчуванне маладым бібліятэкарам пэўнае ўмоўнасці, калі не сказаць нейкае штучнасці, свайго службовага становішча — неяк алагічнага на фоне тагачасных вясковакалгасных рэалій з напаўпустымі працаднямі. «Дык гэта трэба колькі год спецыяльна вучыцца, каб кніжкі расстаўляць?» — востры сялянскі практыцызм не-не а даймаў, недзе і камплексаваў юначую натуру. Пэўна, дзяўчына ў падобным становішчы пачувалася б спакайней — такі ж спецыяльнасць жаночая.

Але нудзіцца асабліва не выпадала, не было калі. Тым болей, што ў «стальмашні» рабілася штораз ажыўленей, весялей — найчасцей вечарамі. Пашыраліся, паглыбляліся знаёмствы; яшчэ ўчора старонні чалавек, я адносна хутка пачуўся сваім сярод вялікапольцаў. Магчыма, паспрыяла той «акліматызацыі» у новым асяроддзі імгненнае, тым ярчэйшае лірычнае захапленне (эмацыйнага ўздыху, аднак, не стрымаць) — першае, чыстае, непаўторнае. Варта было хлопцу раз-другі запыніцца ля яе веснічак ці той жа дзеўчыне, яшчэ вучаніцы, крышачку забавіцца ў бібліятэцы, як селавыя цёткі і дзядзькі вызначылі сітуацыю — на свой лад трапна, неабвержна: Кацярынін зяць. Ды й сама цётка Кацярына — шырокае, шчырае душы жанчынагаротніца, удава па загіненым на фронце мужу, не пярэчыла таму адкрыццю. Нават магла, стрэнуўшы бібліятэкара на

вуліцы, нязмушана пажартаваць: нешта ж, зяцька, даўно не быў у нас. А Галі ўрокі цяжэй сталі давацца. Зайшоў бы, дапамог...

Увогуле, працавалася ў спрыяльным клімаце сяброўства, кахання, узрушлівай песні. Так, кніга і песня хараша спалучаліся у тых маіх пачынаннях. Утварыўся пры бібліятэцы гурток мастацкай самадзейнасці. Дуэт Тамары Ганчарык, Галі Сікірыцкай пранікліва праспяваў на раённым, затым на абласным аглядзе «Лясную песню» Адама Русака. Самому бібліятэкару таксама давялося «свяціцца» на сцэне ў якасці дэкламатара «Гармоні» А.Твардоўскага з паэмы «Васіль Цёркін». Не удалося тады, аб чым дасюль шкадую, «выцягнуць» на сцэну Хведара Мацвеевіча Ладуцьку — мясцовага каваля, адоранага несамавітым прыроджаным тэнарам. «Ой, рэчанька-рэчанька, чаму ж ты няпоўная...» — мог дзядзька Хведар, пры застольнай чарцы, пералівістай, жаўруковай, «пад Лемешава», трэллю заваражыць, зварушыць таёмную слязіну ў глыбінях слухача, палоненага дзіўным хараством голасу самадзейнага саліста. Яго яшчэ маладым хлапцом, перад вайной, распавядаў, дасведчаныя спецыялісты вазілі ў Мінск на праслухоўванне, там надта запрашалі ў дзяржаўны хор. Але, скрушліва ўздыхаў, спамінаючы, не мог пакінуць гаспадарку, а галоўнае, нямоглую маці. З сям'ёй Ладуцькаў (Хведарава жонка Соня прыбірала ў бібліятэцы за некалькі дадатковых працадзён) усталявалася найглыбейшая прыязнь. Сын Хведараў - Мікалай, тады школьнік, быў у ліку маіх надзейнейшых памочнікаў. Ён таксама няблага саліраваў, але, у адрозненне ад бацькі, густаватым, такім барытоністым, «пад Уцёсава», голасам. Сярод тых жа памочнікаў спамінаю Колю Гука, Колю Ільмоўскага, Галю, Шуру Тарасікаў, Галю Тапырык, школьнага камсорга Фаню Ладуцька. Мінаючы надвалмянскія Карзуны, перад Смілавічамі, міжволі спомніцца дабрэйшы і строгі Уладзімір Корзун – тагачасны дырэктар Велікапольскай СШ, парторг мясцовага калгаса.

Словам, светлай, шчымлівай старонкай, незавершанай, адклалася тое бібліятэкарства ў маім жыццяпісе. Старонкай, не ахмаранай ні канфліктамі, ні крыўдамі. Зрэшты, тады былі мы маладымі...

Дзесьці на зыходзе лістапада мяне выклікалі ў райкам камсамола. Тагачасны першы сакратар РК Аляксандр Мурашка прапанаваў пасаду камсамольскага інструктара па зоне Замастоцкай МТС. Прапанову падмацаваў прываблівым удакладненнем: зараз жа выязджаць у Мінск на двухмесячныя курсы ў Рэспубліканскай партыйнай школе. З кі-раўніцтвам аддзела культуры, у райкаме партыі пытанне, маўляў, узгоднена, мне — выбіраць. Не надта вагаючыся, я згадзіўся. Тады не вельмі цямячы, што гэта будзе за «інструктарства» і наогул «освобожденная комсомольская работа», на якую паквапіўся. Але гэта ўжо іншая тэма.

Пад новы 1955 год. адлучыўся з курсаў, здаў бібліятэку— дзеўчыне, выпускніцы Вялікапольскай школы, прозвішчам Ладуцька. Працавала яна нядоўга, неўзабаве паступіла у Беларускі палітэхнічны інстытут. Завяршальнай кропкай тае “бібліятэчнае” адысеі быў мой развітальны “усхліп” са старонак “Чырвонае змены” (1955, люты) – допіс “Гэта таксама важная справа”.

*Пра значэнне кнігі ў жьщці маіх сучаснікаў* і *маім асабістым*. Неабдымнае пытанне. За сучаснікаў разважаць не адважуся. За сябе сёе-тое скажу. Спамінаючы класіка: «Всем хорошим во мне я обязан...» Аднак жа. ня скрозь добрае, вечнае спасцігалася з кніг. Многа лухты, непатрэбшчьшы несла да мяне друкаванае слова, смецячы маладыя, пазней і пасталелыя глузды, а я ў сваю чаргу больш з абавязку, чым з прызвання смяціў той лухтой сярод людзей. Іншая справа, што іх мая “прапаганда” не надта праймала. Жылі мы ў перакуленым свеце, гуляючы — хто з выбару, хто з прымусу — абсурдныя ролі ў тэатры абсурду. Але над кожным спектаклем урэшце павісае заслона. З фіналам далёка ня скрозь трыўмфальным. У маім выпадку наўпрост — трагіфарсавым. Ні воплескаў, ні «бісаў». Знямелая сцэна. Сцішаная ў шоку заля. Хутчэй бы зніякавеламу «актору» сыйсці з падмосткаў. Запыніцца ў ціхім кутку, прыпадаючы, на астатак дзён, да аднае-адзінае Кнігі: «Пазнайце Праўду, і Праўда зробіць вас свабоднымі»..

2006

# Сцежкай утравелай…

У гады вучнёўства, студэнцтва не без пачуцьця нейкае рэўнасьці чытаў у падручніках пра мясьціны народзінаў славутых беларусаў. Вязынка Янкі Купалы, Мікалаўшчына Якуба Коласа... або — Нізок на Узьдзеншчыне: з аднае вёскі цэлае суквецьце знаных постацяў — Крапіва, Трус, Глебка, Арабей. Ня менш я зайздросьціў Случчыне, радзіме Альгерда Абуховіча і Язэпа Дылы, Капыльшчыне Цішкі Гартнага і Кузьмы Чорнага, Мядзельшчыне Максіма Танка, Бягомельшчыне Пімена Панчанкі [ці тая ж, літаратурнымі славутасцямі насычаная Пухавіччына, яўленая свету з-пад віртуознага сціла Алеся Карлюкевіча – *2012 г.*]. Што ўжо гаварыць пра старавечныя Тураў, Полацак, Наваградак, увечненыя на сусветнай мапе культуры імёнамі Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны, Адама Міцкевіча.

На фоне усебеларускай хвалы родная Чэрвеньшчына ў маім юначым успрыманні выглядала вельмі сціпла, у хрэстаматыйных выданнях наогул адсутнічала. Іншыя звесткі, здатныя спатоліць, узмацніць ува мне патрыятычную неабыякавасць, тады на вочы чамусьці не траплялiся. Ды й эпоха тадышняя ня надта спрыяла азіранню ў мінуўшчыну, скіроўваючы маладых людзей «в коммунистическое завтра». Кранальнае слова “спадчына” прамаўлялася рэдка і практычна мала што значыла ў бадзёрым нашым маршы «путями боевой и трудовой славы».

Не, я ня зводжу рахункі, не прыніжаю значэнне тых «путей» —яны часцінка майго лёсу, які — не выбіраюць... Але, па шчырасці, пакідаў я бацькоўскі край поўным невукам што да ягонай гістарьгчнай мінуласці. Недавучаны філолаг, тады ня ведаў нават, што з майго Ігуменю паходзіла Марыя Мякота — маці Максіма Багдановіча. А можна ж было — сорак гадоў таму — папытацца мясцовых Мякотаў, Малевічаў (сем'і карэнных ігуменцаў) — мо ведаюць, памятаюць штосьці з сямейных паданьняў пра найдзіўнейшы парастак свайго радаводу... Гэтае вострае адчуваньне чагось вельмі дарагога, назаўсёды страчанага прыйшло да мяне значна пазней, калі ўжо ў Маскве

нанова спасцігалася светла-трагічная постаць Паэта з біяграфічнага эсэ Алеся Бачылы, лірычных роздумаў Міхася Стральцова над загадкай Максіма-Страціма.., з карпатлівых «багдановічазнаўчых» нататак Ніны Ватацы.

Што ж, дарога вучыць. І лечыць. Прынамсі, асабістае выбаўленне ад глухаты, бяспамяцтва заўдзячваю сваей дарозе ў свет. Ня раз у Маскве, Вільні, Варшаве, а, здаралася, значна далей, адкрываліся мне таямніцы мае «малое» бацькаўшчыны. Шчымлівая мэлёдыя Манюшкавай «Галькі» з сцэны «Большого» узрушвала ў глыбінях маіх забытыя спевы над Волмай, што стагоддзедзем раней чаравалі слых славутага кампазытара-земляка Манюшкі, ураджэнца шляхецкага засценку Убель, каля Смілавіч. З пажоўклых старонак «Путешествия...» Паўлы Шпілеўскага, перагорнутых у маскоўскай «Ленінцы», адкрываўся мне даўны наш Ігумень, спасцігаўся легендарны сэнс у назвах знаёмых з юнацтва вёсак — Градно, Раванічы, Валадута, Дамавіцак, Рудня, Гарадзішча.., між якімі калісьці шыбаваў на матацыкле раённы камсамольскі важак, ня вельмі маркоцячы сваю кволую памяць дапытлівай думкай наконт гістарычных фігур, чый след на гэтых жа шляхох быў пакінуты. А ступалі тут і вялікі князь Вітаўт, і гетман Канстанцін Астрожскі, і швэдзкі кароль Карль XII; апошні, калі верыць паданню, ледзь было не патануў у возеры недалёка ад Ігуменю. Тая самая кніга Шпілеўскага была для мяне бы смакаваньнем слодычы нашага мёду, сымбалічна ўвечненага ў гербе гораду: «Меда игуменские так хороши, что их можно сравнить с известными старинными литовским и польским».

Тут, у Маскве, упершыню прачытаў я публікацыі нашага славутага краязнаўца Аляксандра Ельскага. Адкрыў для сябе яшчэ адну чэрвенскую і ўсебеларускую славутасьць — лексыкографа Мікалая Шатэрніка, ураджэнца вёскі Старына, напачатку дваццатых гадоў настаўніка Лядзенскай (цяпер Смалявіцкі раён) школы. Шатэрнікаў «Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны» (Менск, 1929) высока ацэньваў акадэмік Яўхім Карскі, знайшоўшы гэтае выданьне «вельмі цікавым» для моўнае характарыстыкі Беларусі. [Няпоўны камплект таго рарытэту з дарчым аўтографам Максіма Лужаніна цяпер захоўвацца у Чэрвеньскім краязнаўчым музеі]. Перачытваю,

перашэптваю, нібы на смак беручы, кожнае слова і адчуваю, як расплываецца цеплыня суцешлівая па ўсёй істоце — да чаго ж яна мілагучная, цудоўная Мова Беларуская! Паслухаць толькі: "А што, Васпан, парабляеш? Як маесься, васпанечку? Што ён там боўкае, гавары па-людзку! Даўней хлопцы хадзілі ў валачобнікі, а ціпер ужо не. Давайце, хлопцы, памогам на ету вагу падняць вугал. Што стары кажа на глум, то бяры на вум..."

Той жа шатэрнікаў слоўнік давялося мне прагортаваць у Беларускай бібліятэцы-музэі імя Ф.Скарыны у Лёндане. Усхваляваў аўтограф на тытуле, пісаны беларускай лацінкай: «Паважанаму кс[яндзу] Віктару Шутовічу ад Бр.Эпімаха-Шыпілы. Менск. 19 11/XII [19]29». Браніслаў Эпімах-Шыпіла ўзначальваў у дваццатыя гады ў Інстытуце беларускай культуры камісію па ўкладаньні слоўніку жывой беларускай мовы; разам з М.Байковым рэдагаваў працу Шатэрніка і, ужо надрукаваную, падпісаў В.Шутовічу, знанаму у свой час рэлігійнаму й культурнаму дзеячу Заходняй Беларусі. Прозьвішча ШЫПІЛЫ, духовага бацькі Янкі Купалы (яму паэт прысьвяціў некалькі лірычных вершаў), сцяганоснае постаці у гісторыі Беларускага Адраджэння, трывала, як бачым, упісанага ў кантэкст культурных традыцыяў Чэрвеншчыны, натуральна падсілкоўваюць і мой, чэрвеньца, патрыятычны гонар.

На «Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны» прыязна адгукаўся у друку і Мікола Каспяровіч — постаць на культурным небасхіле Беларусі таксама прыкметная: гэта была усебакова развітая асоба — філолаг, крытык, лексыкограф, мастацтвазнаўца. Адзін з арганізатараў і тэарэтыкаў краязнаўчага руху ў краіне, ён нямала зрабіў для вывучэньня й папулярызацыі творчых набыткаў нашага раёну, які някепска ведаў з асабістага жыццёвага досьведу — скончыўшы, між іншым, Ігуменскую вышэйшую пачатковую вучэльню у 1917 годзе. Адна з публікацыяў Каспяровіча «Пра быт на Чэрвеншчыне» (адбітак з часапісу «Наш край», 1930, № 5-6), багата ілюстраваная фотаздымкамі, прысьвечана апісанню арыгінальных жылых і гаспадарчых пабудоваў у вёсках Чарнава, Горкі, Лучное, Волма, Новыя Зеленькі. Чалавек надзвычайнага таленту, творчае мабільнасьці, у свае няпоўныя трыццаць аўтар фундамэнтальных і навукова-папулярных прац з беларускай

мовы, этнаграфіі, літаратуры, Мікола Каспяровіч на пачатку 30-х падзяліў трагічны лёс шмат якіх беларускіх адраджэнцаў – у 1937 і пазней вынішчаных фізічна. І гэтая наша усебеларуская рана незагойная, праз постаць таго ж Каспяровіча, аднойчы асабліва востра вытнула свядомасць маю і памяць. І вось пры якіх абставінах.

У красавіку 1986-га выпала мне наведаць Кастраму. Валодзя Шыманскі, зямляк і сябра змалку, а цяпер рэжысэр Кастрамскога драматычнага тэатра, намовіў прыехаць на прагляд яго чарговае прэм'еры. Назва пастаноўкі — «Палёт над гняздом зязюлі» Васэрмана (з гэтым жа сюжэтам я пазнаеміўся троху раней у Варшаве праз аднайменны фільм вядомага рэжысэра Формана) прываблівала, і адмаўляцца ад таварыскіх запросінаў, паўтараных каторы год, ніяк далей не выпадала. Назаўтра, пасля спектаклю і прачулае вечарыны на кватэры рэжысэра-пастаноўшчыка, у таварыстве ягоных калегаў па сцэне, гаспадар знаёміў маскоўскага госця з горадам — калыскай царскай дынастыі Раманавых. Нахадзіўшыся цёплым, па-вясноваму разамлелым красавіцкім днём, нагледзеўшыся на пышныя саборы і манастыры, мы зышлі надвячоркам, мінаючы помнік Івану Сусаніну, да ўзбярэжжа Волгі — дыхнуць свежага паветра, памаўчаць, пад развітаньне, ля магутнае рачное плыні. Настрой у кожнага быў лірычны й па-свойму філасафічны. Думкі «блудных сыноў» пачалі міжволі крыжавацца вакол аднае-адзінае тэмы: радзіма-Беларусь, Чэрвеньшчына. Валодзя, выпускнік Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, пасля працяглых творчых пошукаў, знаходак (пэвен час стажаваўся ў самога Таўстаногава, у Ленінградзкім драматычным тэатры) і роздумаў цалкам быў апанаваны ідзяй вяртання на Бацькаўшчыну. Выжальваўся мне пра няздзейсненую спробу перабрацца у Горадню — там мясцовае начальства ўжо запрашала яго на «агледзіны» у якасьці магчымага галоўнага рэжысэра Гарадзенскага драматычнага тэатру і, выслухаўшы намеры прэтэндэнта (сярод іншага –тэатралізацыя « Знаку бяды» Быкава), згадзілася было з ягонай кандыдатурай, але задуму перакрэсліла рашучае «нет» тагачаснага міністра культуры рэспублікі. Мне добра быў зразумелы настрой сябра, сугучны і маім уласным парываньням да нівы роднай. У

развагах над пакручастымі лёсамі нашых нацыянальных творцаў, я згадаў тады, памятаю, сярод іншых і прозвішча Мікалая Каспяровіча.

— Каспяровіч?! — ня перапытаў, выгукнуў, быццам ўжалены, сябра.

— Мікола Каспяровіч, дык гэта ж мой дзядзька, па маці... — І, далей, спакайнеючы, удакладніў: — Маці мая ў дзявоцтве таксама – Каспяровіч, Сіма Каспяровіч.



*З нашых Каспяровічаў. Валодзя Шыманскі. 1956 г.*

У сям'і знагі пра трагедыю яе нязвыкла адоранага старшага брата, але ж навонкі, за сямейнае кола, з прычын тады зразумелых, рану гэтую не краналі. Між іншым, працягваў

Валодзя, дзядзька Мікола неаднойчы гасцяваў у сваёй сястры ў Шасцівалоках, дзе Сіма была замужам за Фэліксам Шыманскім.

— Вось бачыш! — тут ужо я не стрымаў узрушэння. — Слынны «нацдэм» Каспяровіч хадзіў літаральна тымі самымі, што і мы з табой, сцежкамі (валодзевы Шасцівалокі, вёсачка з 3-4 хатаў, туліліся побач, у якім-небудзь кіламэтры ад майго Машчаліна), можа ў нечым і нашыя прадвызначыў пуцявіны... На момант нашае сустрэчы сябра пачуваўся відавочна адзінотным. Маці ўжо не было ў жывых, некалькімі гадамі раней памёр бацька. Сваей уласнае сям'і Валодзя не завёў, давяршаючы бабылём пяты дзясятак гадоў. Размяняць шосты доля яму не выпала…

Прыкладна праз год пасля тае «валжанскае» сустрэчы мяне паклікаў да сябе сьледчы Бабушкінскае раённае пракуратуры Масквы. Удакладніўшы характар нашага з Шыманскім знаёмства, слуга Феміды коратка й спачувальна паведаміў: «Так вот, друга Вашего нет в живых — этим летом его нашли мертвым на скамейке в парке Ялтинского дома отдыха театральных работников, где он отдыхал по путевке». Вядзецца, маўляў, следзтва, а паколькі ў нататніку нябожчыка значылася маё прозьвішча, адрас, таму і выклікалі - можа, чым падмагу ў следчай справе.

Ашаломлены трагічнаю весткаю, што я мог гаварыць? Пераказваць дэталі нашай з сябрам апошняй сустрэчы? Нішто ўжо не магло выправіць яшчэ адзін трагічны віраж чалавечага лёсу. Няздзейсненай засталася супольная з Валодзем дамоўленасьць — зысьціся наступным летам на радзіме, на здзірванелым памежжы Шасьцівалоцка-Машчалінскага абсягу. Пад тое спатканне сябра меўся сабраць ад сваякоў звесткі, памяткі аб сваім знакамітым дзядзьку. Да таго ж, недзе пад Ваўкавыскам жыў яшчэ адзін Каспяровіч, малодшы брат Міколы, і пляменнік-кастраміч меркаваў адумысля выбрацца да дзядзькі. Ня ведаю, ці ўдалося майму міламу таварышу здзейсьніць штосьці з задуманага. Смерць зазвычай заспявае чалавека нечакана, раптоўна, здараецца, за дробязнымі клопатамі, далёкімі ад спаконвечнага «memento».

І усё ж неспакой праведны Валодзю не пакідаў. Сведчаньне таму — яго апошні ліст з-над Волгі ў Маскву. Нават ня ліст, у

звыклым сэнсе, а хутчэй спавядальны ўсплёск збалелае душы, выкліканы прапановай адказаць на «скарынаўскую» анкету (распаўсюжанай падчас працы над кнігай пра Францішка Скарыну):

«Мне цяжка адказаць на тваю анкету… Скарыны я ня ведаю! Далёкія дзіцячыя ўрыўкі з падручніку, інфармацыя з энцыкляпедыі і ўсё. Я даволі рана паехаў з Беларусі і як чалавек і мастак сфармаваўся на іншай глебе. І толькі ў апошнія гады штосьці стала ўва мне мяняцца, як бы нанава нараджацца забытае. І сэрца стала біцца па-іншаму на кожны згук маёй Бацькаўшчыны. Штосьці ўспыхнула, пацягнуліся рукі і сэрца да Бацькаўшчыны — яе сумна-светлае аблічча прачытваю ў партрэце Скарыны, у гэтай выяве паўстала перада мной нейкая важная таямніца маёй радзімы і мяне самога як чалавека. У маёй, парадкам пакамечанай, прыморанай істоцє яно абудзіла далёкі покліч продка, вострую, цягу да роднае глебы. Пачаў чытаць Скарыну. Ды што я кажу — чытаць! Дыхаць пачынаю — глыбока і чыста: «Тако ж люди, где изродилися.., к тому месту великую ласку имають». Гэта ўражанні ад першай Скарынавай навукі. Да яго ў клас прыходжу безнадзейным пераросткам. Але я адолею вучэнне і вазьму усё, што змагу». Думаю, што Валодзя Шыманскі, прасякнуты нясціхным неспакоем за родны край, адбыўся як беларус і як чалавек (пазбягаю зацёганага — інтэлігент). Рушыў тым самым шляхам, што й дзядзька яго – Касьпяровіч.

Зыходзяць да вечнасці людзі. Знікаюць з ландшафту селішчы, вёскі. Шасцівалокі, а яшчэ раней Равецкі Бор, невялічкая вёсачка маіх дзядоў і бацькоў Атрашэўскіх, Каўкаў, следам — Казінаўка, Лавішча, Смалярня, Трохгранны Дуб даўно выкрасленыя з тапанімічнае мапы раёну як «непэрспэктыўныя». Але не сціраюцца з памяці незабыўныя назвы таёмныя, што калісці, з дзіцячых гадоў, леглі раз-назаўсёды цаглінкай нязрушнай у тваё адчуванне хараства роднага краявіду, у тваё непаўторна беларускае светабачанне.

Пакуль яшчэ трымаецца роднае Машчаліна, хоць на вачох старэе, сірацее. Не грыміць ужо мая “Парыжа” песнямі, вечарынамі. Пастарэлі або зышлі у іншы свет спевакі, танцоры.

Даўно ўжо вырушыў у незваротны шлях і музыка Алесь Свірыдовіч, трактарыст з суседняе Аляксандраўкі. Ах, які гэта быў дзіўны майстра-мастак. Чысты чараўнік — здольны хромкаю галасістай выбіваць і выплёскваць неспасціжныя рытмы, мелодыі. «Мы, маладзёж дзярэўні Пар-Камуна, прыглашаем вас, маладзёж (Краснай Слабады, Марыямпалю, Сасноўшчыны, Печышча, Клімаў-Логу...) да нас на вечарынку...» Такім прыблізна гжэчным трафарэтам тагачасныя грамацеі «парыскія» апавяшчалі прынагодна суседзяў. Ня раз «пад Свірыдовіча» на вечарынку ў Парыжу сягалі хлапцы й дзяўчаты з больш адлеглых Лядоў, Кобзевічаў, Горак... Ён і цяпер, калі мінулася сорак з гакам гадоў, пазірае з фотаздымка лагодна прыжмураным паглядам, з пахіленай, па звычцы, галавой над разгорнутымі мяхамі гармоніка. Па бакох ад гарманіста застылі перад аб'ектывам мае сёстры з мужамі — Лена і Валянцін Цыбіны, Валя і Яўген Яскевічы, тут жа — дзядзькі, цёткі, браты стрыечныя: Атрашэўскія, Епімашкі, Баранчыкавы, Каштанавы, Мельнікавы, словам, ледзь ня ўся радня з Машчаліна, Чэрвеня, Менску, сабраўшыся на провады брата і пляменьніка ў войска. З грамадкі гасцёў на фотцы вылучаецца мажная постаць тагачаснага школьнага дырэктара з Вялікаполля Мікалая Гука, у пары з жонкаю і сястрой маёй стрыечнай Яўгеніяй. Каля іх, скраёчку — яшчэ адна светлая пара з сяброў маіх – вялікапольцаў: Хведар Ладуцька з жонкаю Соняй. .

Углядаюся ў даўны фотаздымак, у блізкія сэрцу аблічча — маладыя, гожыя, прыветныя. Час ня сцёр з гэтых вобразаў чалавечага хараства, а з памяці маёй — востра-развітальныя усхліпы Свірыдовічавага гармоніку: «Бывайце здаровы, жывеце багата, а мы ўжо паедзем...»

І сапраўды, нахадзіліся-наездзілася светам далёкім і блізкім. Але родны куток — скрозь у сэрцы цяпельцам-сьвяцельцам нязгасным. З далёкіх ростаняў вяртаюся сюды, прытомлены падарожны. Памаўчаць у прьщішаным Храме вечнасці, адчуць гаючыя імпульсы бацькоўскае зямлі.

Масква-Машчаліна (“Парыжа”), 1997

# След на зямлі
## Памяці Валянціна Цыбіна

*Я убит подо Ржевом*
*В безымянном болоте…*
*А.Твардовский*

Гэта – і пра яго бацьку, ржэўскага салдата, загінёнага ў трагічным Сорак першым.

Асірацелыя дзеці (маці памерла раней) — дзевяці год сынок з малодшай сястрычкай — прабаўляліся ў сырым змрочным сутарэнні на ўскрайку акупаванага горада. Там аднойчы зведаў хлапчук балючага выспятка кованым ботам ад фашысцкага абозніка. Рызыкнуў было малец падцвеліць над «арыйцам» нашым пераможным Сталінградам — дакацілася ж да Ржэва світальная вестка… Балазе на той момант пад рукой ваякі — падвозіў дровы да палявой кухні — не аказалася зброі, а юны пратэстант, скаціўшыся ў адхон, паспеў зашыцца ў прыдарожным хмызняку. Затым — чарговае, драматычнейшае выпрабаванне.

Адступаючы, гітлераўцы заладавалі ржэўцамі састаў для адпраўкі ў Германію — пераважна моладдзю, падлеткамі. У «цялятніку», дашчэнту набітым гаротным людам, апынуліся і Валік з сястрычкай Рытай. Ноч, дзень марудліва паўзе паравоз. Цяснота, задуха ў вагоне, ні вады, ні ежы. Добра, жанчынка побач падзялілася з дзецьмі варанай, у «мундзіры», бульбінкай. Здаецца, нічога смачнейшага, успамінаў пазней Валянцін, датуль ніколі не спытваў.

Пад світанак на нейкай станцыі (аказалася — Стоўбцы) — працяглае стаянне. Дзверы аднак наглуха, на паветра зняможаных людзей не выпушчаюць. Адно знадворку — чужое, адрывістае гергетанне, сабачы брэх. Раптам — густы пранізлівы гул самалётаў, выбухі ўздрыганулі наваколле. Станцыю бамбіла савецкая авіяцыя. На пуцях агністымі слупамі ўспыхнулі цыстэрны з гаручым. Палымяная рака шуганула па рэйках. Агнём заняліся й вагоны з палоннікамі. Людзі ў роспачы — ужо праз адчыненыя дзверы — выскокваюць, ратуючыся, хто пад які схрон. Навокал бушуе агонь, зноў выбухі, страляніна,

лямант, енкі… З тае пякельнае калатнечы нейкім цудам ўратаваўся наш Валянцін. Адбегшы, апрытомнеўшы, стаіўся ў бліжэйшым хмызняку. Адтуль праз цэлы дзянёк намагаўся згледзець ці пачуць галасок сястрычкі. Пазней, праз гады, як ні імкнуўся дапасці жывога следу роднае крывінкі — безнадзейна. На запыты не здолелі суцешыць ні Чырвоны Крыж, ні тэлеперадача «Жди меня».

Тым часам поцемкам — лесам, пералескамі, полем — праз сакавіцкую наледзь прыбіўся, дашчэнту знясілены, да нейкага хутара. Гаспадар, дзякаваць Богу, чулая душа, пусціў ледзь прытомнае хлапчанё ў хату, абагрэў, накарміў, падаў на плечы цёплую мультановую кашулю, на ногі — пацёртыя буркі (мальцавы атопкі распаўзліся яшчэ на падыходзе да хутара, і ён дыбаў апошні кавалак дарогі амаль басанож). У спагадлівага – адзінокага хутаранца, рупна спамагаючы яму ў гаспадарцы, сустрэў хлопец вызвольны прыход Чырвонае Арміі.

З год прабыў у Уздзенскім дзіцячым доме. Потым — Мінск, школа фабрычна-заводскага навучання (ФЗН). Кемны ад нараджэння, старанны падлетак праз нядоўгі час патрапіў налаўчыцца адразу некалькім спецыяльнасцям: слесара, токара, цесляра, сталяра, пячніка. Пазней у яго сялянскім, калгасна-саўгасным, побыце гэтыя таленты раскрыюцца напоўніцу, здабываючы майстру-самародку захапленне, удзячнасць бліжніх і дальніх. А пакуль — праца на цагельні, на адбудове зруйнаванага горада, між іншым, і знакамітае фабрыкі «Камунарка».

Аднаго разу з сяброўкай па цэху ўжо сталым юнаком залучыў ён у вёску Машчаліна, што на Чэрвеньшчыне. Там пазнаёміўся з Ленай Каўка. Дзяўчына, таксама сіраціна, тулілася ў хаціне пад дзвюма хваінамі, на водшыбе сяла. І яе бацька не вярнуўся з фронту, маці памерла яшчэ перад вайной. Сястра Валя, скончыўшы курсы тэлеграфістак, працавала ў Чэрвені на тэлеграфе. Малодшы браток — аўтар гэтых радкоў — гадаваўся ў дзіцячым доме. А мінскі госць наш, бліжэй сышоўшыся з маладой адзінокай гаспадынькай падслепаватае, у два вуглавыя ваконцы хаткі, адчуў у сабе-адзінотніку крэўную суладную душу. І — вызначыўся: назад, у горад, не вяртацца, ніхто там

не чакае, тут — прыпын і жыццёвы выбар. Так дзве сірочыя сцежкі сышліся ў адну пуцявіну.

Пра той супольны шлях жыцця-быцця сямейкі Цыбінаў распавядалася сваім часам на старонках газеты «Уперад» («На плыні дзён» — 1978, 23 лютага). А найперш — пра неадольна працавітую, прываблівую мудрасцю й дабрынёй асобу Валянціна Пятровіча Цыбіна:

…Калі урадавым яго
Адзначылі медалем,
Ён на сяброўскі нечы жарт,
І ордэн бы не шкодзіў,
Давёў, як некалі салдат:
Яно й мядалі годзе.

Мядальку тую дзеці пакладуць на падушачцы ў бацькаву дамавіну 19 лістапада. Адышоў ён на вечны супачын, двух гадкоў не дасягнуўшы сваіх васьмідзесяці. Пахавалі Валянціна Пятровіча Цыбіна на магільным пагурку ў Горках — побач з жонкай Ленай Канстанцінаўнай, якая пакінула свайго гаспадарочка амаль трыма гадамі раней.

Вядома, пра нябожчыкаў — толькі добрае. Але за памінальным сталом кранальныя згадкі жалобнікаў не былі данінай смутнай аказіі. Ці не кожны спамінаў прачулым словам гэтага чалавека. Сярод іншых — колішні дырэктар саўгаса «Горкі» Уладзімір Галіеўскі. Ён прыгадаў жыцейны афарызм легендарнага калгаснага старшыні Сямёна Стальмашонка: «Граматных многа, разумных мала». Пакойны Валянцін Цыбін — працягваў — пры сціплай граматнасці падзіўляў, цешыў людзей нязвыклым, ад Бога, зямным розумам, мудрасцю, спрытам рабіць сялянскую справу рупна, хораша, надзейна. На яго нястомных плячах, здольных руках практычна трымалася ўся малочнатаварная ферма ў Машчаліне. Не памятаю, каб там які абвал ці скаргі даярак. А гэта ж — агромністы комплекс з людзьмі, тэхнікай, абсталяваннем. Няпроста — усім дагадзіць, усё дагледзець, пад вострую нечаканасць нешта наладзіць, направіць. Ды што там вытворчасць. Таго чалавека — сціплага, дасціпнага — і паслухаць было адна асалода. Ні табе скаргаў,

звыклае нудоты, толькі, з гумарком — спакойна-суцяшальнае: зробім, дырэктарка, як трэба — не праймайцеся вельмі, беражыце здароўе. Маладзейшыя – дзеці, пляменнікі – спаміналі яго бацькоўскую патрабавальнасць, лучаную з далікатнасцю. Каго ўпершыню навучыў касой, з належным прыціскам, вадзіць, каго — плуг у баразне роўна трымаць, іншага — гэблікам па дошцы стругаць, малатком, тапаром умела ўвіхацца. І ніякага з боку настаўніка надрыву, раздражнення. Скрозь цярпліва-лагоднае: вось так, мой харошы, паціху патроху і дзейнічай.

Не адзін з сяльчанаў-машчалінцаў, з бліжэйшых Аляксандраўкі, Марыямпаля, Чырвонае Слабады, Горак, а нават хтосьці ў Чэрвені, грэючы плечы на чарэні, успомніць удзячна Цыбіна-пячніка. Складзеная яго рукамі печ і цягай у комін, і цяплом трывалым не саступіць якой лепшай. Не памятаецца, каб з кім сварыўся, абразіў каго, хаця сам не раз і дазнаваў (людзі не ангелы) крыўды ад іншых. Аднак цяпер у яго агарод наўрад хто кіне камень…

Мне тады, на жалобе, не выпадала даўжэй запыняцца над постаццю пакойнага. Цяпер, спакайнеючы ад пахавальных перажыванняў, праглядаю фотаздымкі з жывым абліччам майго швагра, а па сутнасці — найбліжэйшага друга, найраднейшага брата. Спаглядаючы ў расійскае поле з вакна Беларускае хаткі, узведзенай тут чвэрць веку таму маімі суродзічамі — Валянцінам, Санем-сынам Цыбінымі, другім шваграм Жэнем Яскевічам, пляменнікам Мікалаем Пракопчыкам, суседам па маскоўскай кватэры Мікалаем Быкавым — прыдалі яны сілоў і натхнення на штосьці добрае. На той жа Валікавай ляжанцы цеплячы азяблую спіну, спамінаю свайго найбліжэйшага рускага чалавека, які на беларускай і тут, на расійскай зямельцы, пакінуў па сабе нятускны след.

Соня мая, падаючыся ў бліжэйшую краму, скрозь бярэ з сабой вабную зручную карзінку — Валікаў падарунак. Знямоглы, амаль паралізаваны, апошнія гадочкі сядзеў ён у сынавай гарадской кватэры. Ужо не ўстаючы на ногі, у каталцы, мужна барукаўся з хваробай — выплятаў, майстраваў кошычкі, карзінкі, адорваючы імі сяброў, знаёмых. Так за працай-творчасцю й заспела Майстра апошняя часіна.

Незадоўга перад тым выпала мне адскочыць да яго з Масквы — суцешыць, падтрымаць хоць словам. Абняліся, прывіталіся. Мой Валянцін, прыўзняўшыся з канапы, дастае з-пад падушкі, працягвае госцю канверт:

– Во, Аляксей, не стала сілоў набыць табе юбілейны падарунак, трымай, што магу.

У тым «магу» — стотысячная рублёвая купюра.

– Валік, родны, што ты надумаў, – збянтэжаны, пратэстую.

– Ат, — запярэчыў рашуча, — ты ў дарозе, а мне, дамаседу, многа не трэба, вазьмі, не абіжай.

Мусіў я прыняць той даруначак, дадаўшы ў скарбонку на сваё ў Маскве выданне. . Так і Цыбіна прозвішча абок іншых спрыяльнікаў увечнілася на старонках кнігі “Каб не забыцца”.

Адыходзяць у іншы свет генералы, старшыні, дырэктары, іншыя людзі – уладныя, знакамітыя. Пра іх — найчасцей — грамадскія словы памінання. Салдаты, простыя працаўнікі, пакідаюць нас зазвычай ціха, амаль непрыкметна. Хаця найперш на іх плячох, іхнімі рукамі, мужнасцю й душэўнасцю трымалася, трымаецца й цепліцца жыццё на зямлі. Помны след аднаго з іх — хай не застанецца непрыкметным.

2011

# Песня Івана “Моцарта”

Цяпер і не ўспомню, хто з нашае грамадкі першым ахрысціў яго гарэзліва музычным імем - "Моцарт". Валодзя Злотнікаў? Іван Жылко? Лёня Кухарэнка? Кожны з іх у райкамаўскай "зліце" па-свойму вылучаўся пачуцём гумару, дасціпцасцю. Хаця й іншыя калегі-"бюроўцы" (сябры бюро райкама ЛКСМБ) - валодзя Нікіценка, Каця Бачыла, Рыта Паўлава, як і штатныя райкомаўцы Галя Асколкава, Саша Яўменчык, Саша Наркевіч, пазней Галя Пяхота, Міша Раманенка, разам з "першым" (сакратар РК, аўтар гэтых радкоў) не лічыліся нудотнікамі. Агулам спрыялі мажорнай, часам забаўляльнай атмасферы важных пасяджэнняў з іх пратакольнымі, нуднаватымі пытаннямі. Кшталту: аб удзеле камсамольскае арганізацыі калгаса (саўгаса) у нарыхтоўцы ўгнаення; у вырошчванні кукурузы; ва ўмацаванні кадраў жывёлагадоўлі; у падрыхтоўцы да … з'езда КПСС і г.д. Не кажучы пра дзяжурны пункт дзённага парадку – "Приём в члены ВЛКСМ", калі цягам гадзіны-другой шэрагі камсамола множыліся дзесяткамі юных паступанцаў, найчасцей з ліку школьнікаў. Куды радзей - калгаснікаў, рабочых, хаця "зверху" наймацней націскалася на павелічэнне "производственной прослойки”. Мала весялілі і зацёганыя пытанні-штампы да "вступающих в ряды": "Что такое демократический централизм?", "Какими орденами награждён комсамол?", "Что сказал Ленин на III съезде комсомола?" (учиться, учиться и учиться), "Когда родился Никита Сергеевич Хрущёв"? Раптам гэты натужны антураж хтосці з калегаў разраджаў нечаканым блазнаватым пытаннем: А хто ў нас сакратар Чэрвеньскага райкома камсамола? І тады ў сакратарскім пакойчыку цеснаватае "керасінкі" (даўней у той цаглянай каробцы нехта з тутэйшых жыдкоў гандляваў газай) наставала вясёлае ажыўленне. "Свиноматки», "птичий помёт", "мёртвые души" (процьма "членов" выбылых без зняцця з уліку), "членские взносы" (аб тым ці не найчасцей) і падобная цяжкаватая лексіка саступала перад незнарочыстым, лягчэйшым словам. Жыццё маладое, незацуглянае мімаходзь бунтавала супраць казёншчыны, пустазвонства – неадчэпных атрыбутаў

тадышняе "прадкамуністычнае" зпохі і прапагавдовае "службы радасці".

На гэтым фоне наш "Моцарт" - Іван Няборскі, таксама райкомаўскі заўсёднік, глядзеўся неяк іначай, сказаў бы, нават экзатычна, іншым разам і выклікальна да фармалістычнае мітуспі за сценамі тае ж "керасінкі". Мог ён, асаністы, з кучаравай чупрынай, нечакана тузануць "сакратарскія" дзверы і з парога кінуўшы адрывістае "Здароў!", пачаць пацьвельванне над гаспадаром кабінета: Ну як? Гною нарыхтавалі? Кролікаў (трусоў) падлічылі? Узносы пазбіралі? Насцярожвала, але чьмсьці й прываблівала яго бесцэрымоннасць, фактычна - напускная маска, што асланяла непрыняцце ўсялякае хадульшчыны, напышлівае гаварыльні. Кожны з нас - і трубадур, і нібы вольны вязень свайго часу ("Быў час, быў век, была эпоха...") пакутваў і суцяшаўся па-рознаму. Але ж абодвух лучыла маладосць, вострая туга па нечым лепшым, гарманічным. У Няборскага, натуры спрэе музычнай не толькі прафесійна, наогул з нутранага настрою, ладу жыцця, тое мройлівае парыванне праяўлялася вельмі выразна, чым сваіх калег-настаўнікаў, вучняў, як і равеснікаў-паплечнікаў і захапляў і, здарапася, бянтэжыў.

Што ж, ігуменскаму "двайніку" знакамітага аўстрыйца многае дазвалялася й прабачалася. Мабыць з угляду на яго незалежніцкі, парывісты характар. А найбольш - на тую музычную аўру, якая атуляла гэтую рамантычна мяцежную асобу. Ня раз, прытомлены напружанным гойсаннем па раёну, знаходзіў райкомаўскі сакратар палёгку каля "Моцарта", лякуючыся светлай тугой, выплёскваемай з мяхоў іванавага баяна. Або - з дынаміка, выстаўленага ім на падваконнік другога паверха Беларускай школы (была такая)... Адтуль, з магнітафоннай бабіны наплывалі ў вясновы блакіт дзівосныя мелодыі. Дасюль не-не, штось затрапеча, зашчыміць пад сэрцам ад працінальнае чысціні таго гучання:

Тропинка школьная моя,
Веди от самого порога,
Пройди все земли и моря
И стань счастливою дорогой.
Тропинка, тропинка...

Слухалася на сцэне ў Няборскага, за кулісамі, і Шуберта, і Чайкоўскага, і трымлівыя накцюрны Шапэна, і... моцартаў "Турэцкі марш", паўтараны ці не найчасцей як штосці больш суладнае янкавай няўрымслівасці і неспатоленаму смутку. Гучэлі і родныя беларускія мелодыі - капэла Рыгора Шырмы, ансамбль Генадзя Цітовіча. Дарэчы, з абедзвюма славутасцямі творча пабратымнічаў і наш Іван Архіпавіч. Яму нестар беларускае песні Шырма прысвяціў некалькі ўхвальных радкоў у сваёй кнізе "Песня - душа народа" (Мн., 1976). Варта іх прыгадаць: "Мне вельмі спадабаўся хор Чэрвеньскай Сярэдняй школы пад кіраўніцтвам настаўніка Івана Няборскага. Гэта - чатырохгалосы хор, у ім падабраны добрыя партыі тэнараў і басоў". Там жа Рыгор Іванавіч далікатна папракнуўшы кіраўніцтва школы і райана з жалем нагадаў пра ліквідацыно вучнёускае харавое студыі, не гледзячы на апантанасць, "у самым лепшым значэнні гэтага слова", яе кіраўніка.

З Янкам часцяком заглядвалі да кнігарні на Мінскай вуліцы. Там прываблівая загадчыца Тамара Парфіяновіч адкладала для аматараў-бібліяфілаў дэфіцытныя па тым часе навінкі - Яўтушэнкі, Вазнясенскага, Вінакурава, Ахмадулінай, з нашых - Барадуліна, Бураўкіна, Гаўрусёва, Гілевіча... Тыя адведзіны іншым разам пашыраліся таварыствам дырэктара Дома культуры Вячаслава Мысліцкага, настаўніка-фізіка Уладзіміра Дарагуша - ад нас, пачаткоўцаў, троху вопытнейшых уладальнікаў асабістых кнігазбораў. Гуртовае шэсце за кнігай калі-нікалі давяршалася ў "Чайной", за бутэлькай-другой "Волжского", якое з мясцовае садавіны інтэнсіўна ціснуў раённы харчкамбінат. Узбуджаныя "кайфам", расхваленыя, чыталі вершы, спрачаліся наконт камуністычнага "прекрасного далёко", падгнілых гарадскіх тратуараў, зноў жа мроячы "про жизнь совсем хорошую".

Хаця.., калі ўжо чапнулася "багемы", не адно кіславатым віном прабаўляліся дзяцюкі. Не меньшае нераўнадушша малады арганізм выказваў да рэчаў мацнейшых, пад нагоду. Прыкладам, пасля ўзрушлівае вечарыны ў РДК. Калі разняволены, віхурысты "Моцарт" скочыўшы на табурэтку пасярод танцавальнай залы, расцягнуўшы мяхі баяна, зачынаў

галасістым абертонам:

Забота ў нас такая,
Забота наша простая...

А ўслед шчыльны гурт хлапцоў і дзявок падхопліваў дружным уздыхам:

И в снег и ветер,
И в звёзд ночной полёт
Меня моё сердце
В тревожную даль зовёт...

Далей, за "Пахмутавай" густою распеўнай плыняю віравала і свая, раднейшая:
...Ой шумлівы ты, бор малады,
Толькі сэрцам пачую
Тваю песню лясную...

Тэксты з таго помнага вечара, адмыслова надрукаваныя А.Кацам з раённага "Калектывіста" (пазней "Уперад", "Раённы веснік") цяпер туляцца ў лёхах Беларускага –дзяржаўнага архіва- музею літаратуры і мастацтва сярод іншых памятак калекцыі "Песня Івана "Моцарта». - канцэртных праграмак, афіш, фотаздымкаў, лістоў, паштовак.  Траплялася з ім, дакладней з іванавым школьным хорам рушыць з горада на раённыя абсягі, ажывіць, ушляхетніць адзін-другі камсамольскі сход. Пад канцэрт юных артыстаў з Чэрвеня валамваліла вясковая моладзь, звычайна не вельмі ахвочая да афіцыйных, такіх ж нуднаватых зборышчаў. Магчыма памятаюць тыя спевы колішнія маладзёны ў Валевачах, Новых Зеленьках, а нават у бярззінскіх Капланцах. Нажаль, тады ніхто з нас не ведаў, што ў тых жа капланецкіх ваколіцах ступаў першыя крокі Мікола Равенскі, будучы творца гімна беларускага "Магутны божа", як і чуць не чуў пра Наталлю Арсеневу, аўтара гэтага цудоўнага верша. А той жа Равенскі і ў нашым Ігумені таксама помны след па сабе пакінуў у якасці рэгента царкоўнага хора, падчас ваеннага ліхалецця. І кватараваў кампазітар напроці тае самае

"іванавай" школы Беларускае, аб чым цяпер са сцяны будыніны нагадвае сціплая мемарыяльная дошка. Зрэшты, сталенне-прасвятленне наша нацыянальнае прыпала на пазнейшыя часы, у маім выпадку - ужо здаля ад радзімы.

А пакуль - Ігуменьшчыша. Тагачасныя камсамольцы, праймаліся мы не толькі "птичьим помётом", тымі ж "узносамі". Маладыя, кахалі, хваляваліся, ладзілі вяселлі. На адно з такіх, памятаецца, "падбіў" Янку Няборскага. У Раванічах жаніўся Анатоль Дзямідаў, камсамольскі сакратар буйнейшае ў раёне гаспадаркі. Не выпала не скарыстаць з ласкавых запросін жаніха. Прапанаваў Няборскаму хаўрусаванне і той, таксама добра ведаючы раваніцкага важака, адразу пагадзіўся паехаць разам. Дабіраліся не без прыгоды, - ладны кавалак дарогі, размытай працяглымі дажджамі. Недзе ля Дамавіцка мой райкомаўскі "ИЖ" пачаў што раз чмыхаць, глохнуць. Вымушаныя астаноўкі, прачышчэнне свячы... Іван, адчувалася, пачынаў нерvавацца ды і плячукі яму смылелі ад навіслага на спіне баяна, а мулкаватае коўзанне на вузкім сядле за плячыма матацыкліста не з прыемных. Прыехалася аднак на часе і весялілася як і належыць пры такіх абставінах. Праўда, вясельнікаў тых было не вельмі - пераважна службоўцы-спецыялісты, бліжэйшыя да маладога, маладой людзі. Але собіла Івану падацца з-за стала на пана дворак, для перадыху, і сыпануць там баянавай трэллю, як аднекуль назбягалася хлапцоў, дзяўчат, падлеткаў, падышло і сталейшых цётак, дзядзькоў. І пачалося: імправізаваныя скокі, песні, жарты... Як жа памасавела, павесялела тое стрыманае на пачатку вяселле.

Яшчэ мацнейшае ўражанне перажылося пры вяртанні. Назаўтра раніцой падаліся мы другім шляхам - на Вінаградаўку, Слатвін, Ведрыцу, бліжэй Магілеўскае шашы. Але зноў прыгода. Дзесьці за Слатвіным загразлі з "іжаком" па самыя восі ў груваcткай, разварочанай лесавозамі каляіне.

Абапал, сцяной, гушчэзны ляшчыннік - не аб'ехаць, не абыйсці. Ледзь не на руках валаклі, мацюгаючыся, з паўкіламетра сваю "тэхніку". Няймелася хутчэй выбіцца на цвёрды грунт, прыпыніцца, перадыхнуць.

Дапяўшы нарэшце запаветнае шасейкі, праімчаўшы з кіламетр-другі, збочылі пад касатую бярозу. Прыселі на

малодзенькай аксамітавай траўцы і прычасціліся па кроплі з падараванай на дарогу пасудзіны. Змору як не было. І сонейка весялей усміхнулася з-над млявае аблачынкі, і кволенькая лістота на бярозках зіхатнула ласкавейшымі блікамі. Крануў Іван планкамі, віртуозна церабнуў гузікамі баяна і... усцяж прыціхлай узбочыны разлеглася суладнае двугалоссе:

У суботу Янка ехаў ля ракі,
Пад вярбой Алёна мыла рушнікі...

Захопленыя лірычнымі куплетамі, не заўважыўшы як насупраць, збочыўшы з асфальта, запынілася падвода. З-за драбінак прытоена цікавалі яна і ён. З перадка рагамі-дзяржаннямі ўроскід вытыркаўся плужок. Спевакі аднак, ужо тaрануючы да нечаканых слухачоў, давяршылі сваё: 'Па рацэ далёка ручнікі плылі..''.

- Ай, хлопчыкі! Пайграйце яшчэ, паспявайце!, - раздаўся з воза зычны жаночы галасок.

- А што тут спяваць, - націскаючы на тут лагодным баском запярэчыў вознік. - Паедам лепей к нам, во, недалёка, - і махнуў пугаўём у бок Хутара. - Пасядзім, спаём. Каля нас і дзеўкі, што трэба - весялей будзе. Свята ж, Першамай. І - паясняючы: Гэга ж мы ездзілі нявестцы бульбу садзіць, яна за хлопцам нашым, - той у арміі. Зноў жа лагодна, з націскам завяршыў: Праўда, давайце з намі, - пасвяткуем!

Спевакам аднак рупіла дадому, кожнаму да свае абранніцы, пакіненай на самае свята ў самоце. Падзяквалі і муселі развітацца, перад тым пачаставаўшы ўдзячных слухачоў раваніцкім "вяселлем".

- Ну., тады другім разам заязджайце да нас, трэцяя хата з канца вуліцы, - прабасіў на развітанне, відавочна расчулены наш знаёмец, - назваўшы свае прозвішча. І малажавая, трошку заружавелая ад пякучае кроплі жанчынка, Ганнай назваўшыся, дадала ў тон гаспадару:

- Вой, абязацельна заедзьце! Вы ж хіба не першы раз у нашым баку.

Вярнуцца ў той бок не выпала. А толькі пявуча прыязнае "Ай, хлопчыкі..." дасюль мілым водгласам адгукаецца ў памяці.

Таго ж лета справілі і мы свае вяселлі. Іванава прайшло непрыкметна. Сціпла распісаўся ён з Валяй, выхавацелькай дзіцячага садка. Пасля з сваёй Соняй, райспалкомаўскай фінансісткай, наведалі Няборскіх на Барыкіна, блізу калгаснага пітомніка, дзе ў старэнькіх Чапурыных. яны здымалі куток. Там і адзначылі нашы сямейныя падзеі. Па нядоўгім часе маладыя перасяліліся ва ўласную двухпакаёўку ў новым доме на рагу Чапаева і Луначарскага.

Падумалася. Можа з часам, калі краіна сінявокая наважыцца стаць Беларуссю не толькі з назвы, адна з тых вуліц назавецца імем нашага музыкі. Тых жа "Луначарских", "Чапаевых", як і "Марксов", "Лениных", "Калининых" па ўсёй Беларусі процьма. Няборскі ж – адзіны, непаўторны, незацёганы. Што праўда, "мировой пожар" не раздзьмухаў, славы сусветнай не здабыў. Памятаючы ў ім штосці намнога істотнейшае: на разложыстым родным палетку ён упарта вёў сваю баразну. Рупна ўрабляў кавалачак культурнае нівы, даглядаў той самы сад, праз які толькі й здатны чалавек узнімаецца духам да высокага, вечнага. Наперакор прамінальным, ня раз памыйным клопатам і сумнеўным спакусам. Гэта маршалы і генералы найчасцей выйграюць (і прайграюць) бітвы. Салдаты ў вайсковых хроніках, хоць і вырашаюць зыход вайны, па большасці застаюцца безіменнымі. Культура, асабліва супраціўляльная, таксама трымаецца на ахвярнасці безліччы шараговых руплiўцаў, на салдацкай мужнасці й адданасці справе. Следам за знакамітымі адзінкамі — пісьменнікамі, кампазітарамі, мастакамі тысячы непрыкметных настаўнікаў, бібліятэкараў, музыкантаў штодня несупынна трансфармуюць людзям яе духатворныя імнульсы, поўнячы асвяжальным азонам прыбруджанае свінцовымі інстынктамі жыццёвае паветра. Так што і імя сціплага салдата-культурніка Івана Няборскага - як жа цяплейшае, раднейшае ад чужых, штучна накіненых — можа калісці закрасавацца на шыльдзе каторае з ігуменскіх вуліц. Або якім іншым "фарматам" адзначыцца ў горадзе, якому ён аддана слугаваў. Верагодна не раней, як і сам горад вернецца да свае першаснае старажытнае назвы - Ігумень.

* * *

На пачатку 1963 мне давялося развітацца з Чэрвенем. "Спевы" нашы прыпыніліся. Але і з адлегласці нераўнадушша маё да Няборскага не аслабла, не змяльчэла. Наадварот, набывала новае, глыбейшае якасці. Не ў апошнюю чаргу праз псіхічнае самотніцтва ў Белакаменнай "перыферыйніка"-беларуса, які там вастрэй пачаў усведамляць, перажываць і сваю нацыянальную інакшасць. Дайманы тугой па радзіме, імкнуўся думкаю да крэўнае суладнаее душы - кім для мяне быў і заставаўся Іван Архіпавіч. З ім амаль адзіным, абок бліжэйшае радні, доўжылася сталае ліставанне, сілкуючы нашу культура-духоўную ўзаемнасць.

Ранняй вясной 1968 сябра наведаў Маскву. Колькі дзён шасталі разам, да стомы, па музеях, выставах; дапалі і "Большого" — на "Пікавую даму". Пашчасціла трапіць у цяжкадаступны тады "Современник". Акурат прадстаўляліся нашумелыя "Большевики" Шатрова ў выкананні "звёздных" актораў Яфрэмава, Табакова, Казакова. У партэры згледзелі - супадзенне! - Мікіту Хрушчова, яшчэ нядаўна ўладарнага "Першага", цяпер адрынутага былымі паплечнікамі, прьщіхлага пенсіянера. Варушэнне ў антракце публікі, цікаўнае да нязвыклага гледача, цывіль-ахраннік пракаментаваў не найласкаўшым макарам: "Не слишком ли много ўдовольствия для одного спектакля..". Янка потым пакепліваў: "Трэба ж такое, галоўнага "Кукурузніка" зблізку ўбачыў (сядзелі мы цераз рад за Хрушчовым). Скажу дома - не паверацьʺ.

Тое сумоўнае прыцягненне - у маіх лістах на чэрвеньскі адрас Няборскага і яго – на мой маскоўскі.

* * *

Пазней Іван Архіпавіч не пакідаючы школы захапіўся новым творчым праектам, пачаўшы гуртаваць, падымаць харавы калектыў у саўгасе "Натальеўск", пры спрыянні, тагачаснага дырэктара Мацвеева і парторга Ўладзіміра Панеўчыка. Да саўгасных самадзейнікаў - даярак, трактарыстаў, далучыліся з горада Іванава Валянціна, Сяргей Мурашка, загадчык райаддзела. культуры Міхаіл Раманенка. Мастацкі ўзлёт натальеўцаў прызналі й ацанілі ў раёне, на абласных, рэспубліканскіх аглядах. Аб тым узнанні - кранальны аўтограф славутага кіраўніка Дзяржаўнага хору Беларусі: "Дарагому Вані

Няборскаму ў знак шчырай павагі да яго плённай творчай працы на ўспамін аб спатканні ў Натальеўску з прывітаннем для ўсіх удзельнікаў хору і з найлепшымі пажаданнямі паспяховых выступаў у Маскве. Г.Цітовіч. Натальеўск, 5 мая 1972 г.".

У чэрвені 1972 натальеўскі хор, ужо ў якасці народнага, выступіў у Маскве на Выставе дасягненняў народнае гаспадаркі СССР. Колькі летаў і зім прамінула, а яркае ўражанне ад таго выступу не прыгасла ў маёй памяці.

На сцэне ля прыкметнага фантана "Дружба народаў", аздобленага пазалочанымі скульптурамі "Рэспублік-сясцёр», пад вясёлы плёскат серабрыстага вадаспада выстраіліся стройнмі шнурочкамі нашы артысты. Мажныя дзяцюкі ў белых з чырвоным арнаментам кашулях, перахопленых такімі ж палымянымі паясамі. Гэтак жа вабна расквечаны і сукенкі паглядных дзяўчат, маладзіц. Ачараванаму тою харашынёй, мне тады няўцям было, што захапляюся колерамі нашага даўніннага сцяга нацыянальнага, які праз дваццаць гадоў пазней затрапеча над Дзяржаўным Домам незалежнае Беларусі. Урачыстыя, ледзь-ледзь напятыя твары спевакоў скіраваны да свайго кіраўніка. Той стрункаю знерухомлены перад імі, раптам скідвае дырыжорскай палачкай. І - паплыла, палілася распеўная плыня:

Калоссямі нівы шумяць залатыя
І вецер гамоніць між лоз.
Прымі прывітанне, Масква дарагая,
Што я з Беларусі прынёс...

Песня крыляла ў бязмежнае неба, рознагалосаю хваляю ўскалыхаючы пацяплелае вясновае паветра. З-над цэнтральнае брамы шырознай алеяй у напрамку выставачных павільёнаў наплываў гаманліва вясёлы - нядзелька ж! - народ. Людзі купкамі, паасобку запыняліся на нечаканы спеў, неўпрыкмет густа аблажыўшы падмосткі. Трое нас - са мной Мікалай Казачонак (пасля сакратарства ў Чэрвеньскім райкоме партыі вучыўся ў Вышэйшай партыйнай школе ў Маскве), Валодзя Малібожка, Міхай Храбоўскі, з Венгрыі, аднакурснікі мае па Акадзміі грамадскіх навук - сталі троху наводдалі; мне ж

рупіла лепей адчуць рэакцыю слухачоў, гледачоў.

- Никак хохлы? - пачулася на падыходзе.
- Да нет, это белорусы, - запярэчыў голас збоку.
- Здорово однако тянут, черти! Давай послушаем.
Мілыя "чэрці" тым часам, пад настрой зычлівае публікі, адгукнуліся чарговым кранальным матывам:

Степь да степь кругом,
Путь далёк лежит...

"Степушка!". Трапяткая, здавён прыпалая сэрцу. Неадымная спадарожніца іванавых харавых праграм. Пад яе трагічнае гучанне не раз нерухомілася за спомненымі кулісамі. Цяпер, у Маскве, успрымаецца з асаблівай узрушанасцю, кранаючы ў глыбінях істоты шч ымлівыя гукі і згадкі. Як жа гарачымі воплескамі, зычнымі "біс!" віталі песню масквічы. А стройны наш дырыжор злёку хітнуўшы ў паклоне да публікі русяваю шавялюрай, зноў павярнуўся да выканаўцаў, пераводзячы іх галасы на іншую, нібы мажорнейшую ноту. Хаця не саўсім мажор гучэў у трагікамічным выжальванні няшчаснае кабеты на мужа, абібока-п'янтоса: "Нічога не робіць, толькі п'е. А прыйдзе дадому, жонку б'е..." Гэт а ўжо з мясцовага народнага меласа, у запісе й апрацоўцы Няборскага.
Пасля выступления мой венгерскі калега Міхай не таіў уражання:
- Да, Алексей. Наконец твою Беларусь вживую увидел, услышал. Славная! Ты вот польским патриотизмом озабочен (тэма маёй кандыдацкай дысертацыі). То ли дело - изучение белорусской песни...
Наступнай ранічкай вярталіся мы - купка натальеўцаў, Казачонак, Соня і я - з падмаскоўных Раздораў, у кіламетрах дваццаці ад сталіцы. Там, на лясной паляне, блізу ціхацечнай крынічкі, пад пералівістае салаўінае цёхканне бавілі ля вогнішча цёплую летнюю ночку, досвіткам падаўшыся на першую электрычку. Вагон, не вельмі залюднёны, крыху "прыдраманы" недаспанымі пасажырамі, нетаропка палязгваў па рэйках стальнымі абцасікамі, калыхаючыся ўсцяж прарэжанага маладога, ацярушанага ранішнімі промнямі сасонніка. Няборскі

пахіліўшы вуха над баянам, запаволена варухаў мяхамі, пераскокваючы з акорда на акорд, нібы намацваючы нейкую чуллейшую мелодыю. Нечакана з краёчку суседняе лавы прыўзняўся да баяніста мужчына нашага веку, з праяснёным тварам, штосці шапнуўшы яму. Іван неяк па-змоўніцку павёўшы да мяне правым вокам, прытоена ўсміхнуўся (незабыўная яго хмурынка журлівая...) і жвавей развёў планкамі гармоні. І дзіўнае працінальнае гучанне ўскалыхнула прыціхшы вагон:

Пайшла, ніколі ўжо не вернешся, Алеся,
Бывай, смуглявая, каханая, бывай,
Стаю на ростанях, а дзесці ў паднябессі
Самотным жаўранкам пяе і плача май...

Гэта цяпер моўчкі прашэптваю словы куляшоўскага шэдэўра, перакладзенага на музыку Ігарам Лучанком. Тады ж толькі мелодыя бруіла-пералівалася празрыстаю чысцінёй, светлай неспасціжнай журбою. Песня к таму часу ў аранжыроўцы славутага ансамбля Мулявіна раздольна гуляла па свеце. Толькі звёў мяхі баяніст, як той самы, усхвалёны сусед узрушліва крануў рукой яго пляча:

- Спасибо, брат, уважил! С такой бы песней, вместо гимна, рабочий день начинать...

Пасля колькі гадоў не сігаў я тым самым напрамкам - з Беларускага вакзала на Раздоры - скрозь абуджаўся ў памяці боскі матыў, поўнячы прытомленую істоту цяплом і ласкаю мілае радзімы. На развітанне з Масквой падарыў мне тады Янка нязвыклы сувенір - кужалёвага хлапчыну на пянёчку, з дудачкай у руках. Такі сабе летуценнік Сымон-музыка. Ён і цяпер моўкна "спаглядае" з-пад саламянага капялюшыка на мой рабочы стол - шчымліва напамінаючы аб нечым дарагім, незваротным.

* * *

Аднаго летняга ранку ў маім варшаўскім пакоі на Явожыньскай (пад той час высільваўся на дыпламатычнай пляцоўцы) нечакана, неяк трывожна засакатаў-заенчыў тэлефон. Падхапіў трубку і з далёкага Чэрвеня пачуў Валі маёй журботны голас: "Алёшачка, Іван жа Няборскі, "Моцарт", памёр. Сёння

хароняць". Агаламошаны жудаснай весткай, не знайшоўся што сказаць, аб чым прасіць.

Акрыяўшы ад здрантвення переразваніў да сястры на тэлеграф, дзе яна працавала, і папрасіў далучыць ад мяне вяночак. Прадыктаваўшы словы на жалобную стужку: "Песня твая, Іванка, не памрэ". Таго ж вечара, 5 чэрвеня 1980 у дзённіку маім засталася скрушлівая нататка: "Трэба жыць, Іване. Дзеля песні тваёй. Неўміручасці нашае дзеля. Прыйду на магілку да цябе - спавядацца, як пачынаецца-доўжыцца Тваё другое жыццё".

У маіх акаёмах таёмных яго, "Моцарта", песня дасюль не сціхае. Ці толькі ў маіх?

2008

# Непрытворны

З Вячаславам Мысліцкім

У РДК адбываецца сход партыйна-прапагандовага актыву. Сядзімо з ім побач. З трыбуны, па дакладзе сакратара райкама, – адзін за другім прамоўцы: ад калгаса, саўгаса, леспрамгаса; даярка, трактарыст, свінарка, дырэктар школы, камсамольскі важак… Кожны – пра натхненні й задачы “в свете решений XXII съезда КПСС”. З тае натужна пафаснае гаварыльні вынікала, што цягам бліжэйшых 20 гадоў суглінкі, як і пясчыстыя выжары Чэрвеньшчыны закаласуюць буйнымі хлябамі, пальюцца з фермаў рэкі малака, шматкроць пацяжэюць цэнтнеры свініны, гавяды (“крупного рогатого скота”) – “на сто гектаров пашни и сельхозугодий”. А з “Кодексом моральным коммунизма” жыць стануць “навачалавекі” намнога харашэй і шчасней. Лухта і нудота. Ад чаго мулкавата пачуваўся, мабыць, не адзін з тых прамоўцаў, гледачоў-слухачоў. Аднак належала прыстойна адбыць завядзёнае дзейства – ні акторам, ні рэжысёрам нецікавае, калі не абрыдлае ад штучна-рытуальнага шчоканадзімання. Словам, – “Быў час, быў век, была эпоха…” Глыбінны сэнс і смак тае эпохі выяўляўся цалкам не ў казённа-зычным энтузіязме (“Будет людям счастье, счастье на века…”). Хутчэй – у безлічы салёных і прэсных досціпаў наконт таго ж “коммунистического завтра” – дзе яго хутчэй “збудаваць”: у Арменіі, Грузіі, ці, можа, у Амерыцы (але там “ неграў вешають”)? Пэўна найлепш – у Беларусі. Нехлямяжным “тутэйшым” – за адрачэнне ад свайго мацярынскага слова – “наш дорогой Никита Сергеевич” прарочыў першынство ў запаветным “камуна-раі” . Напрарочыў!

Ласьне ў тым часе, на спомненым мадзенні, сусед, чапнуўшы моўчкі майго пляча, працягнуў чырвоную, кішэннага фармата кніжачку. Зіркаю на жоўтае цісненне: “Статут Камуністычнай Партыі Савецкага Саюза”. Адхінаю вокладку; на шмуцтытуле, касячком, – знаёмы цвёрды почырк:

«Алексею Кавко.
И потому-то строки исковеркав
Всякой дряни гаркну: отвяжись!

Лучше быть пол-жизни человеком,
Чем притворяться им всю жизнь.
г. Червень. 10.01.62 г. В.Мыслицкий".

Пранізлівым позіркам з-пад кашлаватых брывоў той нібы свідруе міжвольнага "прытворніка", побач. Ён, толькі што "от имени юношей и девушек" запэўніўшы прысутных у рашучай гатоўнасці моладзі раёна выканаць заданне партыі, сышоў са сцэны. Ці адчуваў сусед мой за сабою грэх прытворства, не ведаю. Хоць і яму, тагачаснаму дырэктару РДК, пазней ідэалагічнаму інструктару райкама, школьнаму настаўніку гісторыі наўрад ці было камфортна ў тым духоўна-маральным раздваенні, пры якім сталела і старэла наша "предкоммунистическое" пакаленне. Прынамсі, ні агітпропаўскай арапістасці, ні дэмагагічнага бадзёрства за ім не памятаю. А вось яго грамадзянская мужнасць, непадкупнасць былі заўважаны і ўважаны. Нават - пакараныя. Падчас раённай партыйнай канферэнцыі –1958 г.– нядаўна з войска дэмабілізаваны старлей, прызначаны кіравацъ мясцовым ДОСААФ, дазволіў сабе "возмутительную" вольнасць: у прэзідыум таго сходу падаў некалькі лісткоў з экспромтамі-прысвячэннямі некаторым гарадзкім начальнікам (такі сабе правінцыйны "pussy riot" – задоўга да панк-выдовішча ў маскоўскім храме ). Прыкладам, старшыні гарсавета: «Что брехать, хрен старый. Шел бы лучше чинить тротуары». Той жа стылістыкай – забаўныя пажаданні кіраўнікам камунгаса, пошты, міліцыі, нават пракурору. Сам я на тую пору адбываў вайсковы тэрмін у Нямеччыне і аб "разборы палёта" даведаўся ўжо дома, ад самога Вячаслава Бярнардавіча, ды і са слыху, з вуснаў мясцовае грамадскасці здарэнне тое сышло не адразу. Разбор жа, нават па тым "адліжным" часе, атрымаўся куды як жорсткі. – Мысліцкага рашуча асудзілі, выключылі "из рядов", звольнілі з работы. З паўгода пакутваў наш пакаранец, дамагаючыся заступніцтва ў "вярхох". Пакуль у раён не вылучылі новага партыйнага лідэра – Леаніда Пракапенку, інструктара ЦК КПБ. Пры ім вершатворцу-экспромтніка, міжвольнага "злопыхателя" аднавілі ў партыі і нават паверылі адказную пляцоўку – Раённы Дом культуры – можа больш

адпаведную яго нутранаму настрою, творчым парыванням. На гэтай дзялянцы собіла і мне бліжэй з ім сыйсціся, ладзячы супольна розныя камсамольска культурніцкія праекты.

Злёгку іранічная, здаралася, саркастычная шчырасць яго па-свойму прываблівалівала, спрыяла нашаму таварышанню. Хоць быў ён гадамі дзесяццю старэйшы і сціслей трымаўся бліжэйшых яму ўзростам – Аляксея Белагорцава, дырэктара 2-й (“рускай”) школы, дзе потым і сам настаўнічаў, Франца Бесмана, ідэалагічнага сакратара райкома партыі.

Збліжала нас і суседства – у 2-х павярховай “цаглянцы”, па Луначарскага, 29. Там жа кватаравалі Пётра Ігнатовіч, загадчык райаддзела культуры, Анатоль Фурык, рэдактар раённай газеты, у доме наўстыч – Іван Няборскі (“Моцарт”). З усіх траіх Мысліцкія, з двайнёй дачушак, нам з Соняй “сямейна” былі неяк бліжэй, чаму спрыяла і вячаслававa Насця, дзелячыся з маёй маладой жонкай вопытам улагаднення наравістага мужа. Да таго ж, у Славы – багатая, як на той час, хатняя бібліятэка, прывабна разгорнутая на самаробных сцелажах знізу да саменькае столі, усцяж сцяны. Іншым разам запынімся ля якой паліцы, гаспадар здымае неялічкі томік і – “ты только послушай” – пачынае басавіта-грудным голасам не так чытаць як спавядацца. З таго чытання запомнілася: «О, как мне трудно будет умирать. Мне никогда земля не будет пухом… И на страданья откликался глухо… Так незаметно наступила осень. Летит листва. Куда уж там летит. Её по свету шалый ветер носит». Рэзка захлопвае кніжачку і суважна-дапытліва ўглядаецца ў слухача, нібы чакаючы ўзаемнага, толькі што самім перажытага ўзрушэння. – Но каков Яшин, а? Поэт!, – каментуе ўзбуджана. І неяк адразу – мінорным тонам: Ну, тебе, Алексей, до “осени” далековато, а вот мне её зябкое дыхание … Яму набягала пад сорак (усяго толькі…) і раптам такое вострае адчуванне прамінальнасці жыцця. Зрэшты, паэтычная эмацыянальнасць і філасофская медытатыўнасць спалучаліся ў яго асобе. Начытаны, мог ён у гутарцы заваражыць субяседніка нечаканым вершасказам, афарызмам, або зноў жа ўласным экспромтам. Зазірнуушы аднойчы да мяне ў “керасінку” (райкомаўскі пакойчык) з вясёлым прышчурам прабасіў злёту – падначкай мулкаму “камсамольскаму” клопату: “Целый день

проставят тут ребром вопросы. И гурьбою разошлись собирать… узносы”. Каларытнае “узносы” падвясельвала абодвух, іншым разам правакавала на супольнае шэсце (пад славіна “Он сказал нельзя, и мы пошли”) ў суседнюю сталоўку на куфаль піва (даруе хай цвярэзяннік-“Заіл”).

Мог калі-нікалі запрасіць да сябе паслухаць новую, толькі што набытую ці раздабытую кружэлку. Меў арыгінальную фанатэку. З яго ж службовага магнітафона (вёў пэвен час раённае радыёвяшчанне) ўпершыню ўскалыхнулі струны мае душэўныя лірычна-мадэрновыя мелодыі Акуджавы: “Всё нас из дому гонят дела-дела-дела… На Смоленской дороге как твои глаза – Две большие звезды гледят-гледят-гледят…».

Увогуле, падзіўляла зайдросная цэльнасць, нават упартасць яго творчае натуры, вычулёнай на літаратурнае слова, музычнае гучанне, жывапіснае, медальённае мастацтва. Што ўжо казаць пра трапяткое адчуванне ім таямнічага хараства прыроды, хоць асабіста майго захаплення ні рыбакі, ні паляўнічыя не выклікаюць Абок паэтычных вылучаўся і акторскімі здольнасцямі. Пазней у маскоўскім тэатры на спектаклі “Барабаншчыца” Салынскага міжволі звяраў я вобраз у акторска-прафесійным выкананні і адпаведнае пераўвасабленне ў ролю самадзейніка Мысліцкага. Памятаючы поспех гэтае пастаноўкі – рэжысура настаўніка Гарбузава – у нашым РДК, яшчэ да набыцця мясцовым тэатрам тытулу народнага, да чаго нямала прычыніўся і Вячаслаў Бярнардавіч. Дасканала, нароўні з Валодзем Дарагушом, завіхаўся ён і з фотаапаратам, аб чым кранальна нагадваюць яго здымкі ў маім сямейным фоталетапісе.

Нітка повязі нашай станчэла па маім развітанні з Радзімай. Хаця ніхто з нас не цураўся сваяцтва духовага, сведчачы тое наўзаем, прынамсі, святочнымі паштоўкамі ў Маскву, Чэрвень. Вячаслаў у гэтых адносінах паводзіў сябе мудрэй, паслядоўней, дбаючы пра сціслейшы кантакт. Ня раз дакараў, што сігаючы ў Ігумень (скрозь похапкам), мінаю ягонае котлішча – ужо на новай кватэры,ў канцы даўжэзнай Барыкіна, далекавата і нібы “не попути”. Не выпала сустрэцца ў яго сакральнай “краіне Прыцерпіі”, над Беразіной, дзе што лета з сям`ёй бавіў ён водпуск і ня раз намаўляў “маскаля” да

супольнага гурту. Недзе ў 1985-м было ўзгоднены праект "Прыцерпы" ледзь не адбыўся, але штосці нечаканае, непрыемнае мне перашкодзіла. Цяпер востра шкадую, што не памкнуўся паўтарыць, здзейсніць задуму. Аднаго разу гасцяваў ён з Насцяй і дачушкай Аняй ў маім маскоўскім Угловом – па дарозе да сваякоў на Урал. Пазней, камандыраваны на ВДНХ, завітаў з "вайнілаўскім" гасцінцам. Пра тое – нататка ў маім дыярыушы:

"29.Y.1984. (Па тэлефоне). –Алексей! (…) Так, может, сустрэнемся і разопьем бутылку (зноў, ці прабачыць суворы "Заіл")?

– "Вайнілаўскай"?!

– Её самую, проклятую! – чуцён знаёмы лагодны басок на другім канцы провада…

– Тады гэта будзе сялянская гарэлка. На тым і пагадзіліся. Сустрэнемся на Беларускім вакзале і разам прынясём "радзіменькую" ("Моцарт") у Вуглавы. Дык з кім жа сустрэча? З сябрам, братам, чалавекам добра знаёмым, суседам-земляком маім чэрвеньскім? Адным словам і не адкажаш. Ды і навошта словы, дзе запанавала найсвятлейшая радасць. (…) Над кручастай Беразіной, ля Прыцерпаў, спаткаемся яшчэ. Не пазней наступнага лета. На тым і развіталіся. Цёплай ноччу, ля 5-га трамвайчыка".

А "вайнілаўка" – колішні "лагатып" наш. З Вайнілава насціны сваякі падмагалі Мысліцкім самаробным лякарствам – "радзіменькай" ( з ласкаага акрэслення Янкі Няборскага), церпкія кроплі якой не-не й апякалі суседзкае горла таксама. Зрэдчас тае гаркаватае слодычы ("іваніцкай") перападала і ад Пеці-Галі Ігнатовічаў (дзверы насупраць), каго бацькі з Іванічаў сілкавалі часцей і шчадрэй.

Далейшае сыходжанне наша прыпала на раённую кнігу "Памяць", стараннем Мысліцкага выпала да яе і мне прыгарнуцца. З тае нагоды – два лісты. Нечым паказальныя для яго асобы і нашага сумоўя.

З Чэрвеня:

"Здравствуйте, дорогие мои и незабываемые Алексей и Соня!

Шлю Вам привет из Червенщины в чужую теперь для нас Московию.

В 1995 году пять дней был в Москве на 50-летии Победы по приглашению ветеранов 348-й стрелковой дивизии, которая освобождала наш район в 1944 году и каждый день звонил по телефону 2589610 но, увы… автоответчик отрешенно сообщал, что хозяева квартиры № 86 отсутствуют, а хотелось бы повспоминать про улицу Луначарскую, про комсомольскую юность, про «носорогов»…

Хотя параллельно знаю, что Алексей бывает и в Минске, и в Червене, но из-за суперзанятости к общению не расположен.

[…] Алексей! Тут в раённом краеведческом музее мы завершаем работу над районной книгой "Память". В Республике Беларусь планируется выпустить 130 таких книг, уже издано более 30-ти. В заключительном разделе этой историко-документальной хроники дается информация о наших земляках, внесших и вносящих свой вклад в развитие науки, культуры, производства. Ты видимо лучше знаешь об этом давнем замысле П.М.Машерова.

К тебе конкретная просьба: пришли свою автобиографию с перечислением основных этапов своего становления, литературного творчества и фотографию. Надеюсь, что к моей просьбе ты не отнесешься пренебрежительно. Тебе - филологу эта книга наверняка понравится да и понадобится; расчитываем, что она выйдет в 1998 году в издательстве БЕЛТА.

Два слова о себе. Одинадцатый год на пенсии, пятый год в Музее, двадцатый год добиваем своего "Жигуленка". Люда, Аня, Павел со своими семьями тут, в Червене. Притерпия попрежнему моя любимая страна:

К ней я буду до конца стремиться,
Чтобы городской не видеть тарарам,
Чтобы низко, низко поклоииться
Небу, солнцу, речке и друзьям.

Расскажи о себе, о Соне – непременно! Прабач, што пішу на рускай мове, баюся, што пішучы па-беларуску нараблю шмат памылак. Прывітанне ад Настулі, Толі Фурыка.

Моцна абдымаю, спадзяюся на хуткі адказ. (Подпіс). г.Черень. 25 сентября 1997 года”.

З Масквы:

“14 студзеня 1998 г.

Мілы дружа-браце Вячаславе!

Можаш цяпер зразумець, чаму я так замарудзіў з водгукам на Тваю ласкавую прапанову. Магчыма перастараўся, і жанр мой, задужа сантыментальны, не стасуецца з вымогамі вашае “Памяці” (хацелася б бачыць, адчуваць яе нашай…), толькі падарожжа маё Дадому пачалося і ўжо нікому яго не спыніць. Незалежна ад зыходу – да кнігі ці да кошыка пойдуць гэтыя старонкі – удзячны Табе за імпульс. Дарэчы, да чагось падобнага падбіваў мяне і Алесь Петрашкевіч гады два таму, калі я шукаў магчымасцей апынуцца на радзіме, у ліку непасрэдных творцаў “Памяці”. У разе чаго можаш пракансультаваць з ім пытанне “пущать-не пущать”. Я ж не генерал, не міністар, не герой і біяграфія мая для чытача мала чым прывабная. А прпісацца ў Кнізе, не лукавя, хоцца. З “Сцяжынкі [ростані]” мабыць убачыш, што хаценне гэтае не надуманае, не графаманскае, прынамсі. Урэшце, вам на месцы відней… Адносна фотаматэрыяла. Свядома пасылаю [“лоўжык”] А Ты, правам мастака і рэдактара, выберы адзіны, найбольш стасавальны здымак. На маё суб`ектыўнае меркаванне найлепш пасаваў бы “віленскі” (каля пліты “Каліноўскага”) або “коласаўскі” (каля Альбуці) як найбольш … сімвалічна-беларускі. Урэшце, як у нашай “Парыжы” казалі – глядзі Шапіра сам. (…)

Застаецца нацадзіць у келіх адпаведных кропель і ўзняць чарчыну за Новы год, нашае з Табой пабратымства, за Чэрвеньшчыну мілую, якой жыць-квітнець – насуперак [як пішаш] “преступлению века” (хоць асабіста я гэтак не лічу. Будам аднак узаемна зычлівымі, талерантнымі, тым болей што часу на сварь ў нас, лічы, не засталося, а рэшту спажыткуйма на штось светлае, вячыстае). Прывітанне сардэчнае Насці, дзеткам Тваім. Здаровенькім заставайся і па-Мысліцку – вострым, неспакойным.

Анатолю Фурыку, Валодзю Дарагушу – нізкі паклон, пры нагодзе – Мікалаю Яўсеевічу Лучонку, маім Гукам – Мікалаю Пятровічу і Яўгеніі Пятроўне.

Будзь! – АК.”

Прыязна адгукаючыся на дасланыя мною старонкі, Вячаслаў знову, 18.06.98 г., клікаў “Са шчырым прывітаннем, да сустрэчы ў Прыцэрпіі ў ліпені, альбо ў жніўні ”.

Былі гэта апошнія, фактычна развітальныя радкі.

2013

## **Доля такая…**
## Маці ўспамінае, разважае

На разлеглых Міцінскіх харомах у Маскве – кадрат 122 – на крыжовай шыльдачцы значыцца прозвішча беларускае сялянкі: *Марыя Ігнатаўна Астроўская (1997-1984).*

*   *   *

У агромністым чужым горадзе пачувалася яна найчасцей самотна, няўтульна. Дочка, зяць на рабоце, унукі ў школе; усе пры справе, занятыя, у мацеры-бабулі свая думка, свой клопат, не раз — прага выказацца, выжаліцца, быць пачутай. Адарваная ад роднага кутка, ад спаконвечнае духовае стыхіі, тут, у Маскве, было ёй не вельмі камфортна. Іншая мова, іншы свет і лад.

«Я ж ня ўсё панімаю, што яны балбочуць, кожная наперабой, — не ўстрымаецца часам, каб не выжаліць блізкаму чалавеку сваю нудоту, псіхічную адасобленасць у кампаніі такіх самых бабуль на лаўцы перад маскоўскім домам. — Ды й яны, — працягвае, — мяне не панімаюць. «Ты, Маша, как-то странно, не по-нашему говоришь». Ну і што зробіш'? Яны сабе гавораць, а ты сядзі, слухай ды маўчы, што пень».

Так што ў жыцці-дажыванні Марыі Ігнатаўны дыялога з маскоўскімі цёткамі бабулькамі не атрымалася. Адно — у сваіх чатырох сценах, пры сямейным гурце, найчасцей вечарамі, у святы ўсмак гаварылася, успаміналася, жартавалася. Іншьм разам зяць, “пісака”, мог справакаваць, разгаманіць маці (слова «цешча» у хаце не прыжылося). Было жанчыне што ўспомніць, расказаць, а мне, зажуранаму па слову жывому, наскаму — з асалодай, калі з горыччу, паслухаць. Гэтак і паўставалі нататкі з нашых гутарак. І пакуль тыя лісткі лягуць у архіўную скрынку, няхай іх прачытае мой сучаснік. Тым болей, што наша апавядальніца, непісьменная жанчына, як цяпер разумею, несла ў сабе першасны– чысты і непадроблены свет культуры, арганічна адметную духоўнасць, штосьці істотна непаўторнае — чым твой народ розніцца ад іншых.

Яе радзіма — вёска Бахаравічы Пухавіцкага раёна. Адтуль жа паходзяць балетмайстар Канстанцін Алексютовіч, філосаф Мікола Алексютовіч, урэшце і дачка нашае гераіні — Софія Іванаўна Астроўская, інжынер-эканаміст, палкоўнік (у сям`і –

палкоўніца) адміністрацыйнай службы МУС СССР, затым Расіі. Словам, знакамітая вёска.

## Сваты прыехалі

— Во, маці, кнігу мне з Беларусі прыслалі. Тут пра вяселле ўсё: пра сватоў, запоіны, маладых, пра каравай — усё апісана. Ды цікава так. Прачытае чалавек — нібы сам на вяселлі пабыў.

— У кніжцы гэтак напісана?

— Вось паслухайце, што прыгаворваюць пад каравай, калі маладых дораць:

Дарую дзве анучы,
Каб усё жыццё былі ў кучы.

Вочы ў жанчыны засвяціліся, твар павесялеў, усёй істотаю памкнулася ўперад, даводзячы, што і чутно ёй, і цікава, і працягу хочацца слухаць:

Дарую пару галубоў,
Каб была моцная любоў.

— Глядзі ты, як складна, так жа яно й ёсць! — не стрымлівае ўзрушэння слухачка:

Дарую ніткі,
Каб малады не заглядваў на чужыя лыткі!

— Вой, ях хораша! Праўдзіва напісана! —усё больш захапляецца жанчына.

— А ў вас, — пытаюся, — прыгаворвалі на вяселлях? Мо што ўспомніце?

— Чаму ж не казалі — казалі. — На маё «прыгаворвалі» субяседніца зачарпнула з уласнага лексічнага засеку «казалі», ей, мабыць, бліжэйшага ды і на слых ласкавейшага. — Але ж пазабывалася ўсё! На тваім жа вяселлі тожа ўсяк пад каравай гаварылі. Я, праўда, ня слухала— млосна мне зрабілася, дык мусела ў кладоўцы прылегчы. Андрэй [Атрашэўскі], дзядзька твой, падышоў і паказвае да мяне: «Во, свацейка, нясу нашым дзецям качан капусты, каб ім у хаце было густа». Вясёлы быў чалавек. І зрабіць па-людску, і сказаць па-людску патрапляў. Хай яму на тым свеце легка будзе.

— А сваё вяселле помніце?

— Чаму ж не помню? Помню!

— І як жа тады было?

— Ну, слухай жа. У нашым сяле кірмаш быў. Папрыгходзілі гэта мы з царквы — у нядзельку ж было. Маладзёжы назбіралася, старыкоў. Музыка. Гулялі ў таку. Хлопцаў, дзевак — адусюль: з Дубінак, Еськавіч, Паздзерак. Харашо гулялі. Не біліся і п'яных — ня вельмі, дарма, што кірмаш.

— Летам было?

— У іюлі, здаецца. Ці ў іюні? Пасля Сёмухі, другая нядзеля — калі гэта?

— У ліпені хутчэй.

— Сама касіць пачалі. Слухай жа далей. Патанцавалі мы, дзеўкі, а пад вечар дадому падаліся. Сядзім на лавачцы каля хаты; шчэ каровы не папрыходзілі. Ведама, цёпла і кампанія вясёлая — маладыя. Глядзь— цераз масточак вазок коціць! Якраз пачці проці нас масток тэты. Як ляцелі яны і к нам прама на двор — вароты ж адчынены. «Ну, кажуць, некаму сваты: ці к табе, Манька, ці к Анюце!»

— Анюта — другая сястра?

— Перада мной — старэйшая самая. Я другая была, за мной яшчэ чацвёра. Во — дзевак! Яшчэ брат быў адзін, Ванька, тожа меншы, — ты ж яго ведаеш. Я таго хлопца, што прыехаў, ня знала і ня бачыла ніколі.  А ён мяне неяк раней бачыў, на вечарынцы. Сыходзяць гэтак з каня — двое іх было — і пад вакно. Сват стукае ў шыбу: «Ігнат, Ігнат! Адчыні нам! Гэта Іван з Бахаравіч». Ён Іванам зваўся. І маладога Іванам звалі. Зараз цяпло запалілі —лямпу павесілі. У нас — занавескі на вокнах, падлога пясочкам вымыта, чысценька. А як жа — дзевак чарада і каб у хату не ўвайсці? Ну, сваты ў хату, значыць, а мы сабе сядзім на лавачцы, рагочам. Чуем, тата вакно адчыніў: «Дзеўкі — дамоў!».  Бацька заве — трэба ісці. Дзе ж ты не паслухаеш? Мы з падружкамі — у хату, а хлопцы пад вокнамі асталіся. Ідзем, хіхікаем. Маці выйшла: «Ня смейцеся, сваты вунь чакаюць!» Сват дзверы нам адчыніў: «Заходзьце, дзяўчаткі, заходзьце!» Мы ў чым былі, так  і ўвайшлі: адзеты чыста, але ня надта каб па-святочнаму. Уваходзім: «Здрастуйце!», «Здрастуйце!» — прывіталіся. Сядзяць яны на лаўках ля стала, адзін з аднаго боку, другі - з другога, а тата - на печы.

— Летам і на печы?

— Спіна яму часта балела. З вайны, з той, першай, як прыйшоў — не мог ачуняць доўга; усё круціла яму то спіну, то ногі — рамацізм, мусіць. Ну, але слухай жа! «Знаеш што, сват, — гэта Іван да яго, дзядзька маладога, — прыехалі мы за дачкой тваёй! Можна?». «Чаму ж ня можна! Дочкамі, дзякаваць Богу, не пакрыўджаны!» — І тата з печы злазіць. «Толькі каторую?». Малады падсеў каля мяне, а сват і паказвае: «Гэтую галубку, каля якой голуб кружышь!». «Ну, гэтай я не аддам! Яна маладзейшая. Трэба па парадку!». А сват— сваё: «Каторую бяруць, тую трэба й аддаваць». Спорылі-спорылі, ніхто не саступае. «Мы, — кажуць, — у аўторак яшчэ прыедзем». Так і паехалі назад у свае Бахаравічы — кіламетраў з пяць ад нашае Закружкі. Назаўтра — толькі й чуваць: «Былі сваты?» «Былі сваты!» —«У каторай?» Ведама, сяло! Дзе ж ты ўтоіш? «Ня ведаем, — кажам, — у каторай». Што ж тут будзеш казаць? У нас жа свае ўхажоры былі. У Анюты — хлопец, у мяне — хлопец.

— Любіліся?

— Не сказаць каб надта, але з вечарынкі праводзіў. Ды й сама шчэ маладая была, што тое жарабё — пужлівая. Колькі ж мне было? — шаснаццаць, сямнаццаты ішоў.

— А старэйшай?

— Анюце ўжо ці не на дваццаты пайшло.

Што ж, былі сваты — значыць, былі. Прыбягае суседка: «Глядзіце ж, дзеўкі, у аўторак на вуліцу не выходзьце! Во, яны запіску пакінулі: «Прыедзем паслязаўтра Маньку сватаць». «Няхай едуць, — тата смяецца, — людзям дарогу не загародзіш».

Надыходзіць аўторак. Я падлогу вымыла, ложкі пазасцілала, падушкі папастаўляла. Камінок [ад лямпы] выцерла. Тата пайшоў гарзлкі з літар узяў, сваёй мы ня гналі. Брат бацькаў заходзіць: «Ну што ж, Ігнат, аддавай, раз бяруць. Яны, гэтыя Астроўскія, — людзі не благія, ты ж ведаеш».

Я — ні блізка: «Не хачу! Ня бачыла! Не люблю!»

Прыязджаюць вечарам гэтыя маладыя. Ізноў удвох.. Ён, сват, мала й старэйшы быў за маладога. Гады якія са тры, як ажаніўшыся. Але баявы такі, гаваркі.

— На адным кані прыехалі?

— На адным. У яго конь харошы быў — упітаны, ёмкі, малінавай масці, з лысінкай, прама што жарабец!

Як у хату — так гарэлку на стол. А тут з вуліцы людзей сыпанула — чалавек мо з дваццаць: паглядзець маладога. «Ну што ж, — кажуць, — за такі тавар нада аддаваць! Хлопец, што трэба!» — «А ты, Манька, як?» — «Я не ведаю», — кажу. Нешта, як дзікая. І на яго пазірнуць баялася. Той ужо малады — да мяне: « я ў сераду прыду, удваіх пагаворым». Што ж я скажу — «не прыходзь»?

Селі гэта за стол. Пагаварылі, папілі гарэлку. «Ну што, — тата смяецца, — сагласна, Маруся?» «Ну, сагласна», — кажу. А сама сабе думаю: «Паеду пагляджу, будзе кепска — вярнуся». Такі, бачыш, шчэ розум быў. Праз нядзелю сваякі яго папрыязджалі, абгаманілі ўсё гуртам, дагаварыліся, а праз дзве нядзелькі — вяселле. На Пятра, у самы сенакос. Зайшла і нажылася.

— А старэйшая сястра?

— Цераз год і яна выйшла. З Дубінак, што каля нашай дзярэўні, хлопец засватаў. Так і аддаваў тата адну па адной.

— Усе шасцёра замуж павыходзілі?

— І павьгходзілі ўсе, і дзяцей нагадавалі, і шчэ ўсе жывом. — Анюта, Волька, Каця, Алена, Наста, Шура. Ха-арошыя імёны. Ну, і Ванька, брат.

Зайшла я на Пятра, а ўвосень паехалі па пасаг. Карову, авечку, кабанчыка бацька даў. І Анюце даў. Меншым ужо не даваў. Тыя з карзінамі павыходзілі.

— Чаму?

— Бо яны ў горад падаліся. У нас было дзве каровы, цялушка, свінні. Зямлі небагата мелі, але жывёлу трымалі. Некалі ж аднаасобна жылі. Нас тата жалеў, у наймы не аддаваў. «Я, — кажа, — гадаваў дачок і буду аддаваць служыць?» Нястачы вельмі не было, але ўжо якую капейку — прыходзілася дарабляць.

— А дзе дараблялі?

— Дзе калі выпадала. Калі — у двор хадзілі; там, як паны паўцякалі, саўхоз стаў, парнікі парабілі ды шмат, а людзей не хапала. А калі — на дарогу; тады ж праз Самахвалавічы дарогу

брукаваную вялі, на Слуцак. Так і паадзяваліся і не служылі — ніводная. Пакуль калхоз ня стаў. У калхозе тожа харашо жылі. Вайна ўсё пагубіла. Каб не вайна, жылі б дасюль мо з маім Іванкам...

— Харошы быў?

— Харошы? Ён ніколі на мяне па-мацярску не сказаў. Пальцам не крануў! Усе ж бачылі, што за чалавек быў. У полі, калі бабы сыйдуцца: «Твой, Манька, не мужык, а золата!» Ён і да людзей, і да работы — каб калі хто Астроўскага кепскім словам абазваў, у вочы ці за вочы.*

## Хлеб надзённы

— Не кажы, у нас хлеб не марнуецца. Паглядзеў бы ты, колькі вунь у вёдрах выносяць. У мусарніцы ля гэтых жаражоў («гараж», як і «тэлэвізар», «маянэз» маці вымаўляе на свой лад: лявізер, ламанез) гэтулькі хлеба штодзень выкідаюць. І белага, і чорнага, і якога хочаш. Галубы, вераб'і панаядаліся — ня хочуць.

Вы, маладыя, калі што не так — маці вінавата: маці наслядзіла, маці разліла. А маці вунь за вамі скарынкі даядае. Адно кусок пачне — не даесць, другое — укусіла, кінула. Ведама — дзеці! Я ж сабяру скарыначкі, размачу ў місцы. А як жа! Гэта ж — хлеб! Каб некалі хлеб на падлозе ці, ня дай Божа, на сметніку ўбачыць! Крышынка спадзе са стала — падымеш, пацалуеш.

## Цяперашнім светам

— Што там! — на пяць гадоў жонка старэйшая. У нас вунь, я табе перайму гаворку, адна зайшла была за хлопца на васемнаццаць год маладзейшага. Я шчэ ў дзеўках хадзіла, як яны пажаніліся. Але нераспісанымі жылі, бо яму шаснаццаці не было, дык не пісалі.

— Такому маладому і жаніцца закарцела?

— Закарцела, бачыш! Бацькі паўміралі, а ён адзін астаўся. Зямлю трэба было рабіць. Тады ж аднаасобна жылі. І жаніліся

па зямлі. Дзеўка тая і красівая была, і жылі яны багата, на хутары.

— Як жа так? І красівая, і багатая, а ў дзеўках засядзелася!

— Як засядзелася? Сваталі яе і шмат хлапцоў сватала. Ды ўсё бяднейшыя, а бацька не хацеў. За аднаго дык і вельмі ей млелася. Хлопец быў, Марцінам звався. Такі, з цябе ростам, можа вышэйшы дажа, у плячах шырэйшы, валасы цёмныя, кучаравыя. Вя-ясёлы хлопец! І да работы, і да вечарынкі — што ўжо красівы, спраўны: не адна дзеўка па ім сохла. Але ж, ведама, бедны. Удвох яны з маткай жылі. Раней жа так і жаніліся, як бацькі наважаць. Я ж тожа за свайго Іванку пайшла, ні знай-ні ведаючы. Тату наралілі, згаварыліся з яго бацькам... Мне толькі й сказалі: «Выходзь, Манька!» Не хацелася, ды дзе ж ты супраць бацькі пойдзеш! Праўда, не скажу — харошы чалавек трапіўся. І жылося, і любілася. Ну, ды слухай жа пра тую дзеўку.

Яе і адгаворвалі некаторыя: «Куды ты, Юлька, ідзеш! Гэта ж сям'я сухотная: бацька памёр, маці памерла, трое дзяцей меньшых паўмірала і ўсе ад сухотаў. І Пятрок, — Пятром звався той хлапец, —доўга не пражыве». «Ну і што, — кажа, — памрэ — пахаваю». Два гады пажылі разам, і ён памёр. А яна тады прымака ўзяла аднекуль. Здаровы такі мужчына. Трое дзяцей ад яго было — дзяўчынка і двое хлапцоў, здаровыя, што дубы! Павырасталі ўсе, вывучыліся. Яна сама залетась памерла. Я прошлы раз як ездзіла на радзіму, бачыла яе: з палачкай хадзіла, але слабенькая ўжо была.

— А ад першага мужыка былі дзеці?

— Адно. Хлопчык. Чатыры гады пажыў. Ведама, хвароба: сох ён, бедненькі, сох, пакуль саўсім не сышоў. Што яна ўжо папавазіла тое дзіцянё — і па дахтарох, і па бабках, і ў Мінск колькі разоў вазіла. Ды дзе ж ты вылечыш. Але я пераняла табе гаворку. Што той хлапец, пра якога ты казаў?

— Ну, што хлапец? Сам малады, у жанчыну з дзіцем улюбіўся і да мацеры: «Давай дзяліцца!» Іх чацвёра ў адной кватэры —дзве комнаты. Маці кажа: «Пачакай, падумай, не пары гарачкі!», а ён і слухаць не хоча.

— Цяперашнім светам ні табе мацеры, ні табе бацькі, ня надта паслухаюць.

## Балючая вайнӨбыла

— Некалі ж у тую вайну... Я ўжо ладная была, а ў нашым сяле па хатах казакі стаялі. Дык адзін салдат кажа тату: «Ацец, ацец, багатым будзеце!» — «Чаму?», — тата пытаецца. «Гэта ж пяць дачок, пяць сундукоў дабра». А тата кажа: «Няхай растуць. Усім будзе доля».

Я тую вайну помню як цяпер. Тожа пабіла людзей. Але ж не палілі! Ды некалі так была вайна. Пяройдзе войска і ваююць. Тады немцаў і ня бачыў ніхто, і ня ведаў. А цяпер — і папалілі, і панішчылі і сёлы, і людзей. Цяпер балючая вайна была: людзей білі, палілі, лавілі, абіралі. Галодныя, пагарэлыя, раздзетыя, разутыя — нагараваліся. Ой, Божа мой, Божа. Тады ж — толькі што на вайну хадзілі. Татавы два браты пайшлі і вярнуліся. Праўда, раненыя былі, але жылі — жылі да смерці. Сваёй смерцю паміралі. А цяпер — што ўжо пакутваў народ!

У Самалёве, дзе саўхоз, была іхняя [немцаў] гаспадарка. Пазганялі туды хлапцоў, дзевак, ды маладзенькіх-маладзенькіх. Хлапцам — нічога: паспяць і робяць работу, што яны загадаюць, іх трымалі, каб не паўцякалі ў партызаны. А з дзевачкамі — спалі. Набрал і ў двор к сабе — пятнаццаць, шаснаццаць год — і спалі з імі. Загадаюць гэтак нам, селавым, на работу, — мы прыдам удзень. І тыя дзевачкі полюць з намі, а немцы стаяць калавурацъ. Са стрэльбамі, сабакамі — рыжымі такімі, страшнымі. Адна была — дзіцянё шчэ, гадоў мо пятнаццаць. Дык яна падыйдзе да мацеры, плача: «Мамка, — кажа, — страшна тут, спаць з імі застаўляюць, мучаюць». Маці вечарам, ідучы назад, да каменданта прасіць, бо той з яе дачкой спаў. «Паночку! Пусціце яе дамоў, яна ж хворанькая ды і ня можна ёй». «Авэк!», — рыкнуў і гаварыць не стаў. І як людзі ні прасілі, ні малілі —дзе ты бачыў? Каторыя бацькі ў двор пайшлі і там жылі, каб ля дзяцей быць. А тады ўцяклі ў партызаны. Дык тыя немцы дзевачак, дачок тых бацькоў, правялі праз усё сяло і расстралялі ля слупа. А хаты папалілі — і бацькоў, і сваякоў, усіх чыста...

Ну, а тады, як нашы пачалі наступаць, паўцякалі яны і дзевачак з сабой прынудзілі ехаць. Ужо што тыя, бедненькія,

плакалі, што галасілі — дамоў прасіліся. Не пусцілі, павезлі. Пастралялі гаротных недзе. Куды ж ім везці.

## Вой, многа пабілі, папалілі...

— Наша ж сяло тожа, счытай, што ўсё спалілі.

— Хто спаліў?

— Хто! Немцы! Бо ад нас мужчыны, хлопцы ў партызанах былі, І партызаны наязджалі часта — абагрэцца, паесці. Сёння гэтак яны залучылі на ноч, а назаўтра раненька— немцы! Як паказаліся на гары — відаць жа! — кінуліся, хто куды. Падказаў, бачыш, нехта. Самі яны не пайшлі б, няпраўда, тэта ж — не ў блакаду. Мы на другім канцы жылі, ад лесу, дык паспелі ў Баламутавічы ўцячы, праз рэку. А яны, як наляцелі з таго канца, аж да сярэдзіны сяла выпалілі ўсё. Вой, што ўжо гарэла, ды стралялі! Торп (торф) у штабелях ля рэчкі быў, дык яны з аўтаматамі між гэтых штабялёў хадзілі і людзей білі, хто дзе схаваўся. Адзін дык у зямлянку ўляцеў, ня ўспеў нікуды дзецца, за кадушкі лёг — знайшлі, забілі. Трох забілі ў зямлянках...

* * *

— Зайшлі гэтыя хлопчыкі з лесу пераначаваць — хаваліся, каб у Германію не ехаць. Ноччу акружылі немцы тую хату, як далі з аўтаматаў, усіх да аднаго палажылі — чацвёра хлапцоў, малодзенькіх, мо як наш Андрушка, гадоў па пятнаццаць ці меней. Ні трун не рабілі, нічога. Дзесятнік прынёс бумажку: ноччу пахаваць. «Бацькі, — наказаў, — не йдзеце, бо на могілках калавурыць [каравуліць] будуць, хай старыя хаваюць». Завезлі гэтых хлопчыкаў на пасцілках, а пасля ўжо параскопвалі з магіл. Не мылі, нічога, — так пазакопвалі ціхенька. Пасля ўжо, як стаў мір, парабілі магілкі. А так — баяліся хадзіць. Ой, страшна ў нас было, страшна, ня дай Гасподзь успамінаць!

У нашым сяле шэсцьдзесят чалавек пабіла — у партызанах, на фронце, адных мужчын. Пяць хат радам — пяць удоў. І мужыкі — такія маладыя, гадоў па сорак — сорак пяць, усе пагіблі. а ў аднае — мужык і тры сыны — у партызанах, усе чыста пагіблі. Вот табе і раз. Мой бы тожа пайшоў (у партызаны), але аружыя не было, а без аружжа не прымалі.

А колькі раненых — бязногія, бязрукія папрыходзілі з вайны. А то ў пляну штук шэсць было, тожа папрыходзілі — не раненыя, нічога, так. Многія паўміралі ўжо, мала тых мужчын засталося з вайны. Ой, Божа мой, Божа...

— Дома, лічы, і не начавалі. Як толькі немцы — за дзяцей і бегчы. Аднаго разу наляцелі, людзі ў кусты, хто куды. Тры сям'і — у рацэ. Я Соню трымаю, а сама ў вадзе — во гэтак во, па шыю. Каторыя былі ў кустох, тых пабілі. А мы — у плюшаі, як во ад гэтага дому... Чуць не патапіліся — сядзелі дзень і ноч у вадзе. Ой, што пастрадалі!

А ўжо каго ў хаце знаходзілі — на месцы клалі. У адных — маці кульгавая, дочка пры ей меньшая і хлапец гадоў дванаццаці, не паспелі ўцячы. Уварваліся немцы ў хату, усіх палажылі, з кулямёта ў плечы. Тады сам камендант зайшоў, паглядзеў: «Яны шчэ жывыя», — кажа. Дык іх яшчэ спераду прастрачылі.

## Нашыя ідуць...

— Ішлі яны дзень і ноч. І шашою, і дарогамі, з-пад Самацэвіч, Казінаўкі, Самахвалавіч, адусюль. Нашы, рускія. Мы ўжо павыходзім, бабы, стаім каля плота. А яны і едуць, і пяхотай, І на машынах, і на конях. Пяюць, смяюцца, а мы плачам — дачакаліся, а не верыцца! Ды горача-горача. Падбягуць яны — «піць!» — просяць. Мы вёдры павыносілі, кружкі, хлеб — у каго што было. Скрозь маладыя, вясёлыя такія. «А вашы мужы [на фронт] пайшлі?» — пытаюцца. «Пайшлі!..»

## Як каму паздаровіцца

— Гэта ж як каму паздаровіцца — столькі чалавек і пражыве. Мой вунь тата ў шэсцьдзесят сем год памёр. А здаровы быў і жыў бы, каб не забілі.

— А хто забіў?

— Хто! Тады ж, у вайну! І за што? — за гарэлку! Жанчыне зноў надарылася пагаварыць, і цяпер без усялякіх пытанняў

дараскажа пра незагойную рану сваю. Вось той крышталік людской пячалі, застыглы з кіпення чалавечай крыві і слёз.

— Самі мы гарэлкі ня гналі. Стары калі возьме паўмяшка жыта ды Русаку завязе. Той у Самахвалавічах на дарозе рабіў, у іх там кацёл стаяў. Яны ў тым катле другім разам і самагонку гналі.

Да таты партызаны часта наязджалі і находзілі. Ён і накорміць іх, з сабой дасць. ... А то — свае, селавыя падкусілі. Забралі карову, кабана, авечку — усё падчыстую.

— Хто забраў? — рашаюся перапытаць, усё яшчэ спадзеючыся якой карзкцыі ў ня раз пачутай гісторыі пра «партизанства»-рабаўніцтва і злачынства, прыкрытае легендарным “народнамсціўскім” плашчом.

— Ну хто ж яшчэ! Парцізаны! З нашай дзярэўні. Я іх помню — аднаму 38, а другому 18. Зайшлі яны да бацькі ўдвох: «Давай гарэлку!». Той і прасіўся, і плакаў: «Няма, хлопчыкі вы мае, дзе ж яе ўзяць, той гарэлкі!» А яны — сваё: «Давай і давай!»

— П'яныя хіба былі?

— Якія п'яныя? Цвярозыя! Вывелі тады тату ў другую хату і над яго галавой тры разы ў столь выстралілі. То мы ўжо за сцяной думалі, што й забілі. А патом ракам яго паставілі і давай прыкладамі біць. Адбілі.., ўсё распухла, што й мача не йшла. Праз тры дні тата й памёр.

— І не судзілі бандытаў гэтых?!

— Хто гэта судзіць будзе?

— Як хто? Пасля вайны чаму ў суд на іх не падалі?

— Што ты гаворыш! Хто гэта будзе падаваць!

## Хай растуць вялікія

— Калі гэта сёння яго дзень раджэння? Але, скажы ты, пераходзяць дні — Андрэйка ж радзіўся ў суботу, а Света ў нядзелю. Хай растуць вялікія — ёй пойдзе сямнаццаты, а яму — шаснаццаты. І ня згледзелі, бачыш, як узняліся дзеці, учора, здаецца, баба на руках насіла. Хай растуць вялікія. Некалі куры садзілі — ці ў суботу ці ў нядзелю, каб гэта было больш

курачак. А выседзяцца другім разам адны пеўні — вось табе і ўгадай.

...Снегу дало на паўпядзі. Але ён скора растане — канец жа марца. І будзе цяплець у апрэлі, няпраўда.

...Яна лепшая, як ён. Той — праціўны.

— Неслухмяны?

— Не скажу. Што ж ты хочаш — хлопец! Мужчына!

**Ведама – горад**

— У горадзе ня надта наспраўляешся гасцей. Тут жа прыдуць, нап'юцца, паядуць і пайшлі. Калі бутылачку віна прынясе каторы, дык і добра. А то і так прыдуць. І што ж ты скажаш? Нічога не скажаш! Госці! У сяле ж падаркі нясуць, ідучы. Вунь Галя спраўляла дзень раджэння Шураў, дык яму чатыры сарочкі прынеслі.

* * *

— Сёння ж празнік бальшой, гадавой — Благавешчанне. Гэта ж я хадзіла за хлебам, дык казалі. Пайду на базар схаджу. Вазьму палачку і падамся памаленьку. Мяне ж ніхто ў каршэнь не гоніць. Айстры куплю, настурак ды пасею — пара ўжо. Вунь на суседнім балконе ўжо пасеялі. Укропу вазьму. Гэта ж прыдзецца — агуркі з тры-чатыры пасаліў і ўкроп — свой. А то плаці дваццаць капеек за якіх два-тры калівы.

* * *

– Вой, чуць дастаялася ў вочарадзі гэтай! Хай яе немач, хай яе! Што ўжо народу гэтага! З раніцы пайдзі – вочарадзь, удзень – вочарадзь, вечарам – зноў выстаі. Усе бяруць, усе купляюць. Ведама, на грашах жывучы. Го-орад! Усё купі. А тут мяцеліца ўсхадзілася, чуць даплялася баба.

– Нахадзіліся, цяпер адпачнеце ўсмак, здаравей будзе.

– Толькі ж. Паем ды буду ляжаць. Што ж яшчэ рабіць? Ні карову даіць, ні свінням даваць. Такі бабін век. Нешта ж малых доўга са школы няма. Папрыходзяць, пакармлю іх, тады ўжо пайду прылягу.

## Перадавайце прывет Беларусі!

— Сёння шмат людзей падалося ў лес — з мяхамі, сабакамі. Чаму — тамака хораша пасядзець на траве. Гэтак то пацяплела. Баба сваё ад'ездзіла, сядзі, што корч — дзе ж ты паедзеш?

Той, з трэцяга этажа, у Мінск раніцой падаўся. Адтуль будзе нешта везці. «Перадавайце, кажа, бабушка, прывет Беларусі» Ён жа ведае мяне. У яго легкавая машына, з будачкай. Я пыталася, колькі часу трэба ехаць у наш бок. Трынаццаць часоў — казаў. Меньш, чым поездам. Але ж усё роўна дадзене — дарога.

## Награшылі…

— І што за надвор'е такое — як на сканчэнне свету!

— Награшылі людзі — Бог і карае!

— Правідна (правільна)— Бог карае. Бо грашаць. Гэта ж цэлую ночачку так ліло!

І ўдзень лье, не перастае.

## Бабіна работа, бабін дзень

– Дзе, маці, хадзілі?

— Дзе хадзіла! У магазіне стаяла. Хацела капусты свежай узяць, ды дзе там! Адны порхаўкі. А што народу таго! Абрыкосы прывезлі. Стаяць, сварацца — пашалелі людзі. Ня вытрымаць! Во, палатаю Андрэю наскі — цёплыя. Можа, возьме ў лагер, там зпанадабяцца, — пачці ж месяц. Надвор'е плахое, а будзе мо шчэ плашэйшае. Пакуль я за той капустай выстаяла. Што ўжо народу таго! Перада мной чалавек дваццаць, за мной мо чалавек сорак, і ўсё падыходзяць, падыходзяць. Ведама, па сёлетнім леце — дзе ж таму агароду быць?! Кілаграм узяла, болей жа не данясе баба. Тады зноў пайшла, квасу купіла, на балконе вунь стаіць! Вот і бабіна работа, бабін дзень! Колькі тае бабы.

Ты, можа, не дасі веры. Во, на пакеце напісана: рубель трыццаць.

Прадавалі памідоры ў пакетах, дык я ўзяла. Тут, мусіць, больш, як кіло. Яец дзесятак купіла. Пакуль выстаяла, выхадзіла, дык і абед.

...Ну, ідзі ж, пакуль гарачае, — паядзім! Дай веры, чуць дайшла. Самлелі ногі чыста. Во, ад кадлубоў пацяжэлі, не пайсці. Дапаўзла да кухні, седзячы ўжо варыла.

## Такі яе век

— Вунь у тым доме, дзе «Кансервы», адна баба сто тры гады пражыла. Сухенькая ўся, з палачкай хадзіла. Мы гэтак, бабы, сядзім, гамонім, і яна іншым разам падыйдзе. Возьме цукерак, пячэння, нас угашчае. Гаваркая такая, харошая. «Я, кажа, шчэ на другі атаж сама ўзыходжу!» Яна і ў магазін сама хадзіла. Есці варыла. Шчэ б і жыла можа, але ўвосень паваліліся неяк. Унук са школы прышоў, бачыць, яна на кухні паваліўшыся. Нагу тады зламала. З месяц паляжала дома і памерла. Трэба, бачыш, было ёй ужо паваліцца.

Яно ж каму дзе пара надыйдзе.

## Што гэта гарэлка з людзьмі робіць...

— Але ж, скажы, з табой гаворачы, як гэтая гарэлка людзей са свету зводзіць. Гэта ж і Валодзя. Сорак год мужчыну, ды такі-то здаровы! Сама жыць! Ён жа, каб співацца, дык не, але ж піў. Ведама, на трахтары (трактары). Каму што прывезці – чарка, другая, грошай ён ніколі не браў. Другім разам прыйдзе выпіўшы, паесць, на бок паложыцца і спіць сабе, пакуль працверазее. А то выпілі добра хэўрай, ён ужо неяк і плёўся дамоў. Ды слізка, галалёд быў. Як бразнуўся, ужо каля самай хаты, то і не падняўся. Ліцом грохнуўся, што камень. Разбіў увесь нос, лоб. Каб хто тады падняў адразу! Ды хто ж бачыў? Сем часоў недзе было — цёмна ўжо. А жонка з фермы ў дзевяць прыходзіць. Да яго — той ужо, што лёд, халодны.

Бабы плакалі, як хаванілі – надта ж добры быў, нікому не адказаў, нікога не абідзеў. Усім сялом грошы сабралі –хто рубля, хто болей, сто пяцьдзесят, мо болей троху, рублёў тых жонцы прынеслі.

## Багаты ці будзе, жанаты будзе

— Нахадзілася баба, чыста ногі адабрала. Гэта ж мы за квасам хадзілі.

Яна тожа — пры зяцю.

— Хто яна?

— Ну, тая баба. Але ты яе не знаеш — з першага пад'езда, тае Ленкі, што некалі да нашых малых гуляць прыходзіла. Дзве ўнучкі ў яе. Адна ўжо замужам, рабёнак ёсць. Ездзіла гэтая баба ў Разань нядаўна. Што ўжо грыбоў, казала, ды харошых! Цяпер яны ўпяцярох жывуць, на пятым этажы, тры комнаты — гэтак, як і ў нас. Некалі я была там, шчэ ўзыходзіла. І яна была ў нашай хаце. Цяпер жа я не ўзыйду. Зяць яе, меньшы за цябе, шмат меньшы.

— А кім ён робіць?

— Што я ведаю? Цёнгле раніцай ідзе некуды. «Здрастуйце» скажа заўсёды. Вечарам назад ідзе, пасядзіць з намі, пагаворыць. Харошы чалавек, а дзе робіць — не ведаю.

— А дачка?

— Там, дзе шыюць шынялі. Але яна ня шые, кроіць толькі. А Ленка гэтая — ёмкая дзевачка. Спраўная. Нізашто не скажаш, што Свеціна таварышка. Гадоў на дваццаць выглядае. Перайшла ўжо ў дзевяты, як Андрэй наш. «Мы, — кажуць, — замуж аддаваць ня будзем, хай к сабе бярэ. Тры комнаты — куды іх дзяваць?» Але яна тут ня вучыцца, недзе ля парку, у другой школе.

— І добра вучыцца?

— Ну, пераходзіць жа штогод.

— Вашаму ўнуку і нявестка ў самы раз!

— Я казала неяк яму. Смяецца. «У мяне, — кажа, — дзевушка ёсць». Вой! У нашым доме гэтулькі дзевак расце! Па тры, па дзве комнаты. Нойдзе! Багаты ці будзе, жанаты — будзе.

## Так табе трэба

— Можа і не залюбіш, зяцька, але што я табе скажу, дурная баба. Як жа гэта штодня - за сталом, сагнуўшыся, карчом. Ні

табе разагнуцца, ні пагуляць — усё нешта пішаш, пішаш, чытаеш. Кніжак пад самую столь, дзяваць недзе, а ўсё купляеш, купляеш тыя кнігі. Калі ж іх перачытаеш столькі — жыткі ня хопіць! І нашто так галаву сушыць — вунь валасы палезлі, а ён увесь у кнігах, усё піша. І што гэта ў цябе за работа такая?

— Такая, маці, работа — застаўляюцъ!

— Маніш! Хто гэта застаўляць будзе? Так табе, бачыш, трэба, доля такая.

## Усе харошыя

— Бабы на лавачцы будуць другім разам казаць: у цябе, Маша, зяць правідны (правильный) – ні п'е, ні буяніць (пітакоў ціхіх бабулькі з лавачкі ў разлік не бралі – *А.К.*). І я ж кажу, чаму ж не харошы, і жонка ў яго харошая — усе харошыя!

1977—1979

---

* Іван Васільевіч Астроўскі загінуў на фронце ў 1944-м, пад Беластокам, на вочох старэйшага сына, таксама салдата, Колі Астроўскага.

# А все-таки помнится

Каюсь, польстился предложением насчет воспоминаний о времени своём в ИЭМСС (как же: не совсем тебя забыли...). Но, смирив лукавую гордыню, поразмыслив, - немало засомневался. О чём, собственно, вспоминать? О научных открытиях? О друзьях, теплоте взаимных отношений по службе? Увы, ни то, ни другое в памяти не отложилось.

Так о чем же писать? О своих квазитеоретических тщаниях по «включению» Народной Польши в парад стран «развитого социализма» - к вящему смущению Анатолия Павловича Бутенко, тогдашнего стража-толкователя этого самого «развитого»? Или - о плановых и внеплановых (срочных) записках по части политико-идеологической сомнительности «польского” социализма? Но и в подобном жанре - наиболее поощрявшемся - преуспеть мне не пришлось. Едва ли не все подобные изыски дальше письменного стола заведующего Отделом Яна Богумировича Шмераля не продвинулись. Не уверен, что и он, не менее других институтских светил проницательный аналитик тенденций «мировой соцсистемы» [sos!системы] извлекал из тех писаний что-либо стоящее. Словом, сокровенное «я помню...» на сей раз не вдохновляло и опрометчивое обещание сомнительного «мемуариста», казалось, простится-забудется.

***

Но снова позвонил Коля Бухарин: так надеемся, ждём обещанного. И опять - сомнение: так уж не о чем вспомнить?

Ну - хотя бы о том же Николае Ивановиче, некогда молодом, не по летам вдумчивом, подающем большие надежды аспиранте, о переводе которого в сектор ПНР ходатайствовал перед дирекцией Института тогдашний его радетель. Недавно передал ему, солидному мужу науки, случайно обнаруженную в моих бумагах сорокалетней давности машинокопию упомянутого ходатайства... Кстати, в те же 1970-е оба мы — восходящий тезка трагического «любимца партии» и автор этих строк отметились в издательстве «Наука» своими книгами. Н.Бухарин - о польской интеллигенции, моя - о польском

патриотизме, разумеется - социалистическом («Польша: отечество и социализм», 1977). Прохождение обоих сюжетов от проекта до «эффекта», при тогдашней цензурной бдительности, особо ревнивой к не вполне каноничному социализму в соседней стране, не было беспроблемным. Не знаю о деталях - перипетиях на пути в свет рукописи Николая. О своих же собственных не забыл и поныне. Примечательны те не только в личном житейском опыте, но, полагаю, не лишние для пущего уяснения самой «развитой» и «зрелой» эпохи, в атмосфере которой творить довелось.

Итак, помнится, получаю из издательства верстку, с неожиданным «конвоем» - закрытой рецензией (автор, как выяснилось, — известный в ту пору, непререкаемый в официальных кругах ученый-полонист, крупный исследователь о поляках в Октябрьской революции). Тот напрямую не перечеркивал работы, даже поощрил ее пафос в части польско-советской дружбы. Но его 74 (!) критических пункта-тезиса о недосмотре автором «классового солидаризма», «ревизионистских поползновений» в общественной мысли современной Польши и т.п.повергли меня в шок. Ядовитой каплей в сей горькой чаше было заключительное суждение, а точнее, альтернативное заглавие: «Польша: социализм и интернационализм». Большего упрощения, если не опошления моей темы, а главное - национального мировосприятия, достоинства братьев-поляков, включая коммунистов, нельзя было и представить. Слишком прозрачным виделся дальнобойный прицел канонадного залпа рецензента-«анонима»: завалить работу. Надо было боронить свое детище. Но, по неопытности, наивности автор не нашелся на продуманную оборонительную тактику, ринувшись в острую, «опровергательную» полемику с авторитетным оппонентом. Дело усложнялось полной солидарностью с тем последним главного редактора издательства, вчерашнего сотрудника цековского агитпропа, взявшего под строгий личный контроль дальнейшее прохождение рукописи. Тот, раздраженный запальчивой неуступчивостью автора, попытался заручиться поддержкой своих сомнений по обсуждаемому предмету в «польском» секторе ЦК КПСС. Правда, на Старой площади, к

чести тогдашнего «зава» П. К. Костикова, к вопросу отнеслись нейтрально - мол, разбирайтесь сами. Тем не менее, вспыхнувший перед книгой красный свет застыл, казалось, намертво и вряд ли переключился бы на зеленый, если бы...

Здесь в самый раз вспомнить признательным словом Игоря Ивановича Орлика ответственного редактора “конфликтной” рукописи, тогдашнего заместителя директора Института. Перед тем доверяя автору, не очень он свирепствовал над ее содержанием, ограничившись несколькими уместными замечаниями, парой дельных советов. Тактичное его вмешательство в конфликт, малость, по неизбежности, компромисная уступчивость в споре сторон позволило продолжить работу над книгой. Нынче с теплотой, не без грустного юмора, вспоминаю в той каверзной ситуации сокрушенное, почти отеческое увещевание старшего коллеги и благожелательного начальника: и лет тебе набегает и лысина пристойная, пора бы и поумнеть, научившись возражать, и убеждать. (Чего могли бы пожелать не менее расположенные к своему сотруднику-полонисту директор Института Олег Тимофеевич Богомолов, куратор наших международных связей Константин Никитич Дубас, зав.сектором Юрий Степанович Новопашин).

Но приключения на том не закончились. С появлением корректуры милейшая Светлана Давыдовна Какузина, издательский редактор, - с ней работалось при полном взаимном понимании - показывает предлагаемую художником обложку с изображением на лицевой стороне высотного Дворца науки и культуры, советского подарка Варшаве (так сказать “интернационализм в действии...»). Насколько далёк был сей образ-намёк потаенно патриотическому настрою поляков! Было снова от чего растеряться, заволноваться. К счастью, до очередного препирательства не дошло. При обоюдном согласии автора и редактора был предложен встречный, этически и эстетически ближе соотносимый с книгой художественный символ: бронзовый лик мятежного Фредерика Шопена в Лазенках, а ниже, полукольцом у постамента - отрешенные лица плененных чудной музыкой варшавян. С таким вот образом

польского Отечества вскоре и засветилась наша работа на книжных прилавках.

Иногда, по истечении лет, не без смущения (иные времена - иные песни...) взираю, на это единственно памятное своё творение в Институте. Не обогатившее ни советскую, ни российскую полонистику. Но автору всё же близкое – воскрешающее в душе трепетные звуки шопеновских ноктюрнов, полонезов…

***

Позднее, распрощавшись с «польским Отечеством», вернулся я к своему исконному - Беларуси. Возвратный путь «блудного сына» также пролег по Черемушкинской (в том же институтском корпусе вечерами печаталось на казенной машинке «Письмо русскому другу»). По той же стороне улицы, домами тремя-четырьмя выше, как узнал позднее, доживал свои непростые годы белорусский поэт-классик, в прошлом репрессированный и реабилитированный «нацдем» Владимир Дубовка. Жаль, не случилось тогда навестить автора пленительной «Шыпшыны» («О, Беларусь, мая щыпшына..»), а также – трогательного очерка «Белорусские мотивы в музыке Шопена»…

2009, 2013

# Бліжэй беларушчыны

На пытані бюлетэня “Кантакты і дыялогі”

***1.** Што Вас прывяло да Беларушчыны**?***
***2.** Над чым цяпер працуеце**?***
***3.** Як бачыце далейшае развіццё беларуска-расейскіх сувязей**?***

Дакладней – хто прывёў. Найперш, маці Ганна Маркаўна Атрашэўская, дзед Васіль Каўка, бабуля Соня – з дому Фінскіх (вёскаТурэц ля Пухавіч) – казачніца і спявачка, любіла духоўныя песні, што і ўнуку пераказала. Затым – настаўнікі Аляксандар Піліпавіч Галуза, Вікторыя Казіміраўна Гінц, Сцяпан Хусейнавіч Александровіч, іншыя выкладчыкі Мінскага бібліятэчнага тэхнікума. З “уласных” універсітэтаў – паэія Багушэвіча, Купалы, Гілевіча, лірычная проза Максіма Гарэцкага, Брыля і, вядома, працы класікаў беларусаведы, ідэолагаў беларускага руху – акад.Карскага, братоў Івана, Антона Луцкевічаў, Ластоўскага, Лёсіка, Цвікевіча, кс.Ад.Станкевіча, а таксама сучаснікаў – М.Улашчыка, Кісялёва (“кротуса-Генуса”), Мальдзіса, Каханоўскага, Ткачоа Міхася, даўняя лучнасць з Лёўкам Мірачыцкім, Васілём Талстым, Юркам Туронкам. Яшчэ –калегі з Расіі, Польшчы, часткова з Украіны, Літвы. Працяглае кантактаванне з імі стымулявала глыбейшае засяроджанне над беларускай адметнасцю, нашай, калі хочаце, культура-духовай унікальнасцю на адвечна драматычным “паміж…”

2. Не пішацца. Бо роспачна… А тэма даўняя не адпушчае. І матэрыялаў нагрувашчана, хоць утапіся: Беларуская літаратура ў нацыянальна-адраджэнчым кантэксце. Канец XVIII- пачатак XX ст. – ад касцюшкаўцаў да “нашаніўцаў”, ад “тутэйшасці” да беларускасці*. З бягучага: падрыхтоўка да друку зборніка навуковых прац М.Улашчыка “Русь—Літва—Беларусь”. Шукаюцца (каторы год) фундатары на чарговыя выпускі “Скарыніча”, кніжачку гісторыка-літаратурнай публіцыстыкі “Беларусамі становяцца”** Так што груганнё крумчыць, а “мы с тобой предполагаем жить”. Што ж нам застаецца?

3. Для пачатку, пры супольным “круглым” (стале) паэтам, перакладчыкам, гісторыкам, філосафам, літаратуразнаўцам (палітыкаў не бянтэжым) з абодвух бакоў запыніцца, падыскутаваць над Купалавымі радкамі “Колькі год непрыяцелем-братам прыбітая, Зарастаючы зеллем чужым…” [Заадно – і над Пушкінскімі: “От нас отторгнется ль Литва..?]» – *2012 г.*].

1996

---

***** Тэма часткова здзейснена ў кнізе: Кавко А.К. От Скорины до Купалы. Белорусская литература в контексте национально-культурного возрождения. М., ИМЛИ РАН, 2006 (заўвага – *2012 г.*).

****** Выйшлі пад назвамі: “Жывом! Старонкамі беларускага самапазнання” (1997); “Будам жыць! Пра тое самае” (1998).— *2012 г.*

# Пойдзем шляхам Скарыны*

Ідэя ўстаноўчага сходу зычліва сустрэта ўсімі. Адзін з землякоў так рэагаваў на прапанову ўтварыць у Маскве Таварыства беларускай культуры: “Ай, як добра! То ж чутна пра таварыствы ўкраінцаў, армянаў, грузінаў. Няўжо, думаю, беларусы не патрапяць згуртавацца? Шчырае дзякуй за запросіны, прыйду абавязкова, разам з жонкаю!” А мой рускі сябра ўспрыняў вестку пра сход пранікнёна і лаканічна: “Святое дело. Поддерживаю. Буду!” Ускрыліў і сардэчны водгук пабратыма з Украіны: “Мы надзвичайно зрадзілы, що і нашы браты-беларусы гуртуюцця!” То вітанне, землякі, вітанне, пабрацімы: рускія, украінцы, літоўцы, яўрэі, палякі. Вітанне студэнтам, рабочым, пісьменнікам, вучоным, журналістам, усім удзельнікам нашага сходу!

Пэўна, не аднаго з прысутных паклікала на сход шляхетнае, святое пачуццё да маці-радзімы, пераказанае нам амаль паўтысячы гадоў таму славутым суродзічам Францішакам Скарынай: “Тако ж и люди, где изродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають”. Але ж ласка да роднай зямлі, як вядома, родзіць не толькі радасць і гонар за яе росквіт. Родзіць таксама - а некалькі перадусім - пачуццё душэўнай трывогі за яе страты, за праявы нядбальства і абыякавасці да роднай культуры, спадчыны продкаў, да тых высокіх вартасцей, на якіх спрадвеку трымаецца народ, яго духоўная дасканаласць, гістарычная жыццяздольнасць.

Нагадаў нам пра тое, засцярогшы ад асыцелага мяшчанскага раўнадушша, другі наш вучыцель Янка Купала: “Якімі б раскошамі нас ні надзялялі, ніколі яшчэ не будзем шчаслівы, покуль чужая воля будзе гаспадаром над нашай воляй. Каб гэтага не было, мы павінны растаптаць, зніштожыць даўгавечную ману, якая вучыць, што мы не ёсць мы, што мы нейкае нешта, якое абы накарміў, як быдлё, дык і сыта будзе. Мы павінны душу народную выявіць у сваім “я”, у сваёй самабытнасці і смела сягнуць па свае неадымнае права самім распараджацца гэтым сваім “я” (п’еса “Тутэйшыя” — “Полымя”, 1988. № 9. С.35).

Як ні прыкра, ні горка, а трэба прызнаць: з выявай самабытнасці, нашага беларускага “я” вытварыўся немалы клопат. І яго нельга змоўчаць. Праўда, што родная Беларусь за сем дзесяткаў гадоў сацыялістычнай дзяржаўнасці стала краінай дынамічнай прамысловасці, інтэнсіўнай сельскай гаспадаркі, усеагульнай адукаванасці. Праўда, што на душу насельніцтва тут вытварана шмат машын і тавараў, мноства кніг, газет. Але праўда і тое, што мільённыя тоны, штукі, экземпляры, усё колькаснае матэрыяльнае багацце не засцярогла многіх з нас ад духоўнай мізэрнасці.

На катастрафічнай мяжы жыцця і скону апынулася наша беларуская мова - адна з найглыбейшых крыніц старадаўніх славянскай культуры. Сёння толькі чацвертая частка беларускай дзятвы і толькі на вёсцы спасцігае школьную навуку ў родным слове. Ні ў адным з гарадоў Беларусі дасюль няма аніводнай беларускай школы. Праз тое ж свавольства чыноўніцкай бюракратыі даўно ўжо мова Скарыны і Купалы выцеснена з інстытуцкіх і універсітэцкіх аудыторый (калі не лічыць беларуска-філалагічных кафедраў), з кабінетаў палітыкаў і суддзяў, з большасці тэатраў, кінатэатраў, кніжных і перыядычных выданняў, з назваў вуліц і плошчаў, з дарожных паказальнікаў і г. д. Яшчэ нядаўна глум над беларускім словам — павальнае закрыццё беларускіх школ, перайначванне на іншую мову беларускіх газет выдавалася кабінетнымі тэарэтыкамі і практыкамі ледзь не ўзорам інтэрнацыяналізму, а ў нацыяналісты залічваўся ледзь не кожны, хто прынамсі не пляскаў у ладкі цынічнаму глуму над душою народнай. Фактычна рэгіянальнымі паняццямі сталі сёння беларускі тэатр, беларускі фільм, беларуская опера, беларускі балет, дзе адчужанасць ад нацыянальнай мовы і глебы — першаасновы кожнае сапраўднае культуры — дасягнула крытычнай мяжы. Непапраўныя страты прынесла шматгадовае занядбанне і нішчэнне — як вядзецца, беспакаральнае - помнікаў архітэктуры, народнага дойлідства, адвольнае перайначанне геаграфічна-прыроднага і тапанімічнага ландшафта. Да неймавернасці ўсечана, сфальсіфікавана нацыянальная гісторыя народа, са старонак якой гвалтоўна выкрамсаны шматлікія важныя падзеі, імёны і постаці, у тым ліку дзеячаў

нацыянальна-вызваленчага руху, людзей навукі, культуры, большай часткай вынішчаных у гады сталінскай дэспатыі. Паўсюднае паніжэнне моўнай культуры, гістарычнай, усяе нацыянальнай свядомасці прыкметна ахмарыла духоўна-экалагічную атмасферу на Беларусі, як ахмарыла і забрудзіла яе трагічнае воблака Чарнобыля. А між тым сярод значнай часткі кіроўнага, амаль дашчэнту дэнацыяналізаванага апарату рэспублікі пануе самаўпэненае перакананне пра Беларусь як стабільны, эканамічна квітнеючы рэгіён, абыдзены, маўляў, сваімі рашыдавымі, медуновымі. І зноў жа - шантаж і пострах да тых, хто сягодня рашуча ўстае бараніць патаптаную годнасць нацыі.

Хіба ж нам, дзецям свайго народа, хоць і здаля ад бацькаўшчыны, не смыляць яе раны, не грукаюць крыўдаю сэрцы за панеслыя страты? Баляць, і гэтак жа востра, як баліць і цяжкая бяда ад землятрусу ў братняй Арменіі.

Сягоння наша шматнацыянальная краіна будзіцца да новага, справядлівага жыцця, ачышчанага ад каманднa-адміністрацыйнага дыктату, маны і паказухі. Адраджэнчая свежая рунь прарастае і на беларускім палетку, прабіваецца да жыцця праз замшэлыя пласты застойных часоў, насуперак антыперабудовачным высілкам таго самага саноўнага чыноўніцтва, што гадамі глумілася над душою народа ці, прынамсі, гэтаму глумленню маўкліва патурала.

Кожны народ пакліканы гісторыяй здзейсніць сваё прызначэнне ў свеце, выявіць свае творчыя здольнасці. Такое прызначэнне здзяйсняе таксама народ Беларусі — праз сваю шматвяковую культуру, памкненне быць не толькі накормленым, але і вечным, неміручым, дзякуючы духоуным здабыткам.

Задуманае беларускае таварыства ў Маскве і паўстае, каб спрыяць культуратворчай працы народа. Брацца да пачэснай, адказнай работы наказвае нам нясплочаны доўг перад маці-радзімай, патрэба ў прасвятленні і ачалавечанні сэрца і розуму кожнага з нас.

І прыклад гуманіста-асветніка Францішка Скарыны няхай стане ўзорам і сімвалам нашага гуртавання.

Бо Скарына - выява вышэйшых форм культуры ў яе

навукова-пазнавальным, эстэтычным, маральна-этычным адзінстве.

Скарына - узор мілавання роднага слова, “языка природженого”, падзвіжніцкага служэння народу.

Скарына - скрозь надзённы ўрок мацавання духоўнай лучнасці ўсходніх славян, “братии руси” дзеля супольнага дабра паспалітага.

Скарына — гэта адкрытасць нацыянальнай культуры, яе творчы дыялог з усімі іншымі культурамі ў інтарэсах міру і прыязні між народам.

Пойдзем жа шляхам нашага волата духу!

снежань, 1988 г.

________________-

* Слова на ўстаноўчым сходзе Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Францішка Скарыны, 30 снежня 1988г.

# Слово и песнь Беларуси

В столице создано Московское общество белорусской культуры

Был ли Франциешек Скорина в Москве? Прямые доказательства на сей счет отсутствуют, хотя ряд косвенных данных говорят о том, что в середине 20-х годов XVI века белорусский первопечатник посещал русскую столицу с намернием распространить здесь свои книги «Бивлии руской».

Отныне имя выдающегося восточнославянского гуманиста-просветителя, чей 500-й юбилей широко будет отмечаться советской и международной общественностью, получило своеобразную прописку в нашем городе.

На учредительном собрании белорусов – жителей столицы – создано Московское общество белорусской культуры, принявшее имя Франциешка Скорины. Цель организации – воспитание у белорусов уважения к национальному языку, культуре, истории Беларуси, ее многовековым связям с народами России, Украины, Прибалтики, Польши, с другими странами славянского и общеевропейского ареала. Общество намерено всячески содействовать культуро-духовному сближению своих участников и сторонников с Белорусской ССР, всем белорусским этносом, сотрудничать с творческими, научными, общественными организациями Республики.

В программных направлениях работы Общества – курсы, классы белорусского языка, народный университет истории Беларуси, распространение белорусской книги, периодики, научные и культурно-художественные начинания, а также выпуск собственного периодического издания. Особого внимания, подчеркивали участники-учредители, заслуживают мемориальные и памятные места в Москве и окресностях, сязанные с историческими событиями, именами касательно Беларуси и российско-белорусского братства. В разное время здесь жили и творили классик белорусской литературы Янка Купала, основатели и руководители советской Беларуси

Дмитрий Жилунович и Александр Червяков, видный историк Николай Улащик.

Создание белорусского культурного общества в Москве – еще одна примета духовного обновления нашей многонациональной Родины.

Адрес Общества: Трубниковский переулок, 30а, редакция журнала “Советское славяноведение».

*Вечерняя Москва. 1989, 4 января.*

# Припоминание о культе

Культуру кто-то назвал культом памяти. Не вдаваясь в академический спор о дефинициях, можно, видимо, принять такую трактовку, уточнив: целостность культуры предполагает, кроме прочего, припоминание опыта ушедших поколений, осознание непрерывной сязи времен в историко-духовном развитии.

Сегодняшняя встреча в редакции и задумана как припоминание бесценного наследия того высокого духоного строительста, которое начали наши пращури-русичи 1000 лет назад принятием христианства. Удивительным сочетанием этики и эстетики, патриотической самоотдачи и всемирной отзывчивости отмечено это деяние по возведению нерукотворного храма Добра, Милосердия, Красоты, Справедливости, явленного как в древнерусском обличье, так и в последующих разнородных и единосущных ипостасях: в культурах великорусской, украинской, белорусской.

Христианизация означала прописку восточного славянства во всемирную историю, его активное вступление в общеславянский и общеевропейский культурный диалог, при котором служение «народу в человечестве и человечеству в народе» (Вл.Соловьев) становится предпосылкой и результатом духовного творчества. Двуединый мотив национального и общечеловеческого, вселенского, если хотите, роднит лучшие творения отечественной культуры. Вспомним “Слово о законе и благодати” философа митрополита Илариона, “Троицу” Андрея Рублёва, “Бивлию руску” Франциска Скорины, сочинения Георгия Сковороды, Михаила Ломоносова, храмы и соборы Киева, Новгорода, Полоцка, Владимера и Москвы, не говоря о богатстве литературы, общественной мысли, музыкального, изобразительного искусства Нового времени.

Правомерной представляется нам и тема сегодняшней встречи “Культура Древней Руси и межславянские культурные сязи в процессе христианизации” – с теми конкретными вопросами розданными предварительно для обсуждения. Интерес к заявленной теме имеет двоякий характер. С одной стороны – это интерес сугубо исследовательский, сязанный с

выяснением и уточнением конкретно-исторического контекста христианизации Руси, внутренних особенностей и внешних взаимосвязей древнерусской культуры и языка в данном процессе. С другой – это более широкий, аксиологический взгляд на проблему, обуслоленный освоением и осмыслением тех ценностей, которые выработала и выробатывает национальная культура в сопряжении с христианской традицией. Иначе говоря, хотелось бы обсудить заявленную тему и как событие прошлого, и в то же время как примету нашего социалистического общества, всестороннее обновление которого и тем более обновление духовное требует повышенного внимания к тем первозданным источникам и истокам, кои способны обновленческому движению споспешествовать.

Сказано: не хлебом единым жив человек. «Более всего живет он правдой и советью, справедливостью и свободой, нравственностью и гуманизмом» (Правда, 1988, 19.02). Ссылаюсь на речь М.С.Горбачева, произнесенную им на недавнем Пленуме ЦК КПСС. Вещие слова звучат сегодня с высокой трибуны.

Отрадно, что на приглашение редакции откликнулись многие представители нашей гуманитарной науки, творческих союзов, а также Русской православной церкви. Позвольте выразить надежду, что творческое разнообразие, явленнное в этом зале, будет способствовать плодотворности нашей встречи, приближению всех нас к истине. Таким образом, извечный вопрос –что есть истина, также заявлен в повестке дня.

*Реплика в дискуссии.* Выступление В.А.Чемерицкого вызвало сомнение, если я правильно понял, в сущестовании древнебелорусского литературного языка. Вячеслав Антонович указал на источники, литературу. Можно сюда добавить и многотомный «Гістарычны слоўнік беларускай мовы», издаваемый ныне Институтом языкознания им.Якуба Коласа АН БССР. В этом году исполняется 400 лет со времени выхода в свет Статута Великого княжества Литовского 1588г., вершинного творения старобелорусской письменности. Вспоминается вводное слово к Статуту одного из главных его

составителей и редакторов, подканцлера [вскоре и канцлера] Льва Сапеги: “А если которому народу встыдъ правъ своих не умети, поготовю намъ, которые не обчымъ якымъ языкомъ, але своимъ власнымъ права списаные маемъ”. Правомерно, как видим, говорить не только о языке, но также о языковом самосознании его носителей, достаточно развитом для своего времени.

---

Вступительное слово на круглом столе “1000-летие христианизации Руси», проведенном в редакции журн. «Советское славяноведение» 28 февраля 1988 г.

# Нет — духовному иждевенчеству

В сентябре этого года по московскому радио, в печати сообщалось о начале занятий в белорусской детской воскресной школе “Калі ласка”. Для нашего Товарищества белорусской культуры имени Францишека Скорины это событие глубоко символическое: ведь возрождается живое белорусское слово (забвение родного языка даже в самой Беларуси до недавнего выдавалось едва ли не за образец интернационализма), национально-патриотическим ценностям возвращается их неискаженный смысл.

Развитию интереса к белорусскому языку – родным назван каждым третим москвичем-белорусом –, популяризации лучших традиций национальной культуры, упрочению творческих связей с русскими, другими народами и стремится содействовать наше Товарищество. Добрыми напутствиями поддержали эти намерения и начинания писатели Василь Быков, Нил Гилевич, Геннадь Буравкин, представители руководства Республики Г.С.Таразевич, Н.М.Мазай во время недавней встречи с «скориничами» в Представительстве БССР при Совете Министров СССР.

Волнуют нас непроясненные проблемы истории Беларуси, в особенности те её страницы, котрые долгое время фальсифицировались или попросту замалчивались. Здесь и традиции давней белорусской государственности времен древнего Полоцкого княжества, затем Великого княжества Литовского, и характер взаимоотношений наших предков с соседней Московией, позже с российским государством, и мозаичность нашей религиозной истории. В данном контексте рассматриваем своеобразие белорусской культуры, синтезировавшей в себе культурно-исторические начала Востока и Запада. Нам хотелось бы глубже уяснить субъектно творческую роль своего народа – созидателя своей собственной истории, а не безропотного объекта “воссоединительных”, по сути же колониалистсктих притязаний самодержавной России или аристократической Польши. Многие спорные вопросы отечественного прошлого рассматриваются на занятиях в нашем университете истории и культуры. Здесь выступили

белорусские историки, литераторы А.П.Грицкевич, М.И.Ермалович, М.А.Ткачев, В.П.Рагойша; московские – А.Ф.Смирнов, Е.Л.Немировский, С.В.Думин, Ю.А.Лабынцев, В.В.Седов; польские – Б.Белокозович, Я.Чиквин.

Несколько слов о духовном путеводителе нашем – Скорине. Пять столетий тому назад в семье полоцкого купца Луки Скорины родился сын, названный Францишком. Ему суждено было пройдя обучение в крупнейших университетских центрах Западной Европы, став дважды доктором наук – искусств и медицины, положить начало книгопечатному просветительству в своём Отечестве. В предисловиях и комментариях им переведенных и изданных книг “Бивлии руской” (Прага 1517-1519), “Псалтирь”, “Апостол”, “Малая подорожная книга” (Вильна 1522-1525) явлены гуманистические идеи служения народу, общественному благу – “добру посполитому”, идеи уважения разных национальностей и вероисповеданий, многие другие “лекарства душевные”, способные просвещать и просветлять человека, очеловечивать взаимные отношения людей и народов. Изучение, популяризация скорининского наследия – также в программных целях Товарищества. Тем более, что в 1990 году по решению ЮНЕСКО отмечается юбилей этого славянского подвижника просвещения. Вместе с Институтом мировой литературы им. А.М. Горького, Советом по белорусской литературе при Правлении Союза писателей СССР мы провели обсуждение персональной энциклопедии “Франциск Скорина и его время”, только что изданной в Минске на белорусском языке. Планируются и другие юбилейные мероприятия в Москве, где скорининские книги читали еще при жизни первопечатника, чье начинание продолжили белорусы Иван Федоров (Федорович) и Петр Мстиславец.

В целом же наша работа нацелена на гармоническое сочетание патриотических и интернациональных ценностей, о чем в программном обращении Товарищества заявлено вполне определенно: “Белорус не может оставаться иждевенцем других языков и культур, не может отрекаться от языка, культуры своих отцов, прадедов. В общий интернациональный дом белорусы – где бы не находились – могут и должны привносить

свои исконые сокровища, чтобы по праву пользоваться духовными богатствами других наций”.

*Моя Москва.*
*Рекламный проспект Московского фонда культуры.*
*1989, октябрь.*

# О равенстве равных

1. Первоначалом всему язык, родной язык. Он, культура на нём созданная питают, духотворят память нации, её самосознание, чувство собственного достоинства. Небрежение материнским словом оборачивается национально- нравственной апатией, душевным опустошением. Наша белорусская драма в этом отношении – “А мову ледзь не затапталі…” (П.Панченка)— более чем поучительна.

2. Не уверен в достаточной корректности вопроса. С чего вдруг общественный статус национального языка обусловливать функцией языка русского? Тем более, что в Белоруссии, где он испокон всем понятен, близок никто и ничто ему не угрожает. А вот родной язык – родная мова – оказался на катострофической меже жизни и смерти. И во многом этому способствовали недальновидные политики.

. Язык как и нация, национальная культура – явления суверенные, самоценные и их развитие в цивилизованном мире не может, не должно обставляться привнесенными предусловиями. Все люди, утверждается в первой статье Декларации прав человека, рождаются свободными и равными относительно своего достоинства и своих прав. Под этим универсальным документом ООН, принятом в 1948 году, значится и подпись Белорусской ССР . <…>

Право на родной язык – одно из неотъемлемых для человека. И дискуссия о двуязычии в Белоруссии представляется мне преждевременной и не вполне гуманной, пока не будут раз и навсегда устранены искусственные ограничения родного языка белорусов, пока не будут созданы юридические и фактические гарантии для его расцвета. Основой для таких гарантий, по опыту других республик СССР, да и самой Беларуси в 20-е годы служило бы законодательное закрепление за белорусским языком статуса государственного. Думаю, благоприятствовал бы делу и специальный закон об охране национального языка белорусов. Такой закон, кроме прочего, предохранял бы впредь этот язык от всякого рода своеволий и прежде всего со стороны иных, облеченных властью, «обруселых инородцев», чью ретивость по части

«истинно русского» настроения наказывал коммунистам решительно укрощать великий Ленин.

О влиянии государственно-административного (не забудем и партийного) аппарата на белорусский язык. Влияние огромное, но, к счастью, для языка не беспредельное. Все-таки язык жив и возрождается, выстояв даже перед всесилием чиновничества – до недавнего времени к слову белорусскому в лучшем случае безучастного. Но времена меняются. И кто знает, не возродится ли в иных высоких и «пониже» кабинетах вполне ленинский призыв «Каб уся КП(б)Б загаварыла на беларускай мове» (XI з езд Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі. Менск 1928 с.424).

Кажется это у Андрея Платонова: “Без меня народ не полный». Нечто похожее, заменив «народ» на «человечество», могла бы и стремится сказать каждая нация, национальность. Мир разнолик, противоречив и… един в своем порыве к человечности. Недавняя трагедия братской Армении, всколыхнувшая состраданием страны и народы, по-особому обнажила глубинные тайники и живительные импульсы этого всечеловеческого единения. О нем еще в начале века проникновенно пророчествовал белорус Максим Богданович:

Нашто ж на зямлі
Сварьі і звадкі боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?

В единительном “разам» ни одно «мы» – народ, язык, культура – нельзя ни утерять, ни ущемить.

4. Теоретически вопрос, пожалуй, ясен. Намного хуже с практикой, где нередки подмена и даже явная фальсификация понятий национального и интернационального. И собственными «событиями» в этом смысле не обделена, к сожалению, и Беларусь. Имею в виду действия ославившейся на весь наш Союз антиперестроечной бюрократии с ее пропагандистской риторикой, норовящей под прикрытием «интернационализма» опорочить, подавить национально-возрожденческое движение в

республике, воспрепятствовать полному восстановлению ленинских принципов национальной политики.

5. Восстановление подлинного народовластия немыслимо вне радикальной демократизации национальной жизни и межнациональных отношений в СССР, вне законодательного и фактического равноправия и суверенитета республик. Национальный вопрос предъявляет перестройке видимо самый трудный экзамен – на честность, гуманизм, революционную последовательность. Да будет успешно сдан.

---

Ответы на анкету в журн . «Нёман» (1989, № 5): “О равенстве равных. Перестройка межнациональных отношений»

# Як звярнуцца да беларуса?

Пакуль гэта я марудзіў [на запытнне Дануты Бічэль] з доследам аб словах *гаспадар* (*спадар*), *спадарыня*, Пётра Садоўскі ў час. “Беларусь” (нр. 2) абыйшоўся з сюжэтам дакладна і бліскуча. Згаданую публікацыю можна было б дапоўніць адным удакладненнем, звязаным з палітычнымі традыцыямі нашага “гаспадаравання”. Так, Францішак Скарына друкаваў свайго “Апостала” у Вільні “при держаніи наласкавшего *господаря* Жыкгымонта Казімировича, короля полского и великогоо князя литвъского и руского и жомойтьскаго…» . Аршанскі стараста Кміта Чарнабыльскі, рупны палітык і таленавіты стыліст звяртаўся да караля Баторыя (1580 г.): “Найяснейшій мілостівый *господарю*, пане а пане мой мілостівы.., годно ведать вашей *господарской* мілості…”. Першы раздзел Статута Вялікага Княства Літоўскага (1588 г.) пачынаецца словамі прысягі вярхоўнага ўладара вяршыць кіраванне і суд над усімі станамі і іх падуладнымі выключна на падставе пісанага закону: “Напород мы, *господар*, обецуем і шлюбуем…”. Намнога пазней, ужо ў Новым часе тым жа “гаспадарскім” звычаем звяртаўся да чытачоў “Мужыцкай праўды” наш паўстанец Каліноўскі – “Яська *гаспадар* з-пад Вільні”.

Зварот “*спадарыня*” вядомы з помнікаў пісьменства пераважна ў сямейна-побытавым значэнні: “Матухно, зязюлюхно.., панюшко, *сподаріня*, солнце, месяц, звездухно, дай крошку хлеба…” (Баркулабаўскі летапіс, канец XVI-пачатак XVII ст.)

Сёння ў варунках дэмакратызацыі, духоўнага абнаўлення не бачу непаканальнае перашкоды, каб побач з “гордым словом” таварыш, сябра не ўжываць даўнінных нашых – важкіх і мілагучных зваротаў “спадар” ,“спадарыня”. Паколькі мова родная сапраўды – апратка душы беларускай, акраса яе.

1990

# Бел-чырвона-бела ў Полацку…

## Спамін над фотаздымкам




У спісе маіх  дэкляраваных кадравікам “трудов” гэтая праца не значыцца . А яна ж каштавала і  натхненнявхвалявання, і  нервовых клетак ды мала чаго, калі цябе запалоніць  ідэя і будзе тузаць, не адпушчаць, пакуль з ёю не зладзіш. Такі ж зладзіў. І каторы ўжо год, каторы раз спаглядаю на гэты фотаздымак – тую неўлічоную працу – і светлы, сумнаваты ўспамін цёплай хваляю калыхне прытомленую душу.

Полацак 1990. Вераснёвы сонечны дзянёчак. Прыжураная цяплынь бабінага лета. У горад раскошным аўтобусам “Интуриста» прыбыла грамада ўдзельнікаў юбілейнага Скарынавага свята. Напярэданні ў стольным

Оперным адбылася ўрачыстасць у гонар 500-х угодкаў славутага Беларуса. Выпала тады і мне, следам за прамовамі Ніла Гілевіча, акадэміка Уладзіміра Платонава вітаць прысутных ад імя маскоўскіх “скарынічаў” (Таварыства беларускай культуры імя Ф.Скарыны). Падышоўшы к трыбуне згледзеў, памятаю, у нейкім там пятым-шостым радзе ад сцэны сціпла стуленага – абок звычайных паспалітых удзельнікаў – Першага сакратара ЦК КПБ. Начальства сыходзячы са сцэны, “зліваецца” з народам,– падумаў. Прыкмета новага перабудовачнага часу. Агучыў тады перад урачыстым сходам скрушлівыя радкі гарадзенкі Дануты Бічэль – “Колькі можна губляць, каб людзьмі называцца. Вунь Скарына…” З тым прыўзнятым, “зараджаным” настроем і падаўся назаўтра, з іншымі разам, на радзіму Палачаніна.

Ля гатэлю “Дзвіна” тлумнае ажыўленне. Гасцей ладкуюць па нумарох, затым чакаліся абед, знаёмства з горадам старажытным. Азіраюся навокал. У вачох пасвятлела з нечаканае радасці – “дарожнае” стомы як не было: ля правізарычнае сцэны, наўзбоч ад помніка Скарыне паклыхваюцца бел-чырвона-белыя сцягі – яшчэ не афіцыйныя, але ў пастарункі за іх ужо не валаклі. Аб чым сведчыла і пара міліцыянтаў-вершнікаў, непадалёку гарцаваных на коніках – цалкам не ваяўніча, хутчэй па-тэтральнаму прывабліва. Падыходжу да пляцоўкі. – Купка падлеткаў, юнакоў аблажыла падмосткі; прывітаўшы мінскіх гасцей збіраліся ўжо адыходзіць.

– Хлопчыкі даражэнькія, прапаную, – падыйдзіце сюды праз якую гадзінку, са сцягамі. Людзі падсілкуюцца з дарогі, потым гуртом фатаграфацца будзем каля помніка. Народу ж з`ехалася не абы якога, знакамітага: з Беларусі, Расіі, Украіны, Англіі, Балгарыі, Чэхіі, Польшчы, Нямеччыны…Вось з палачанамі разам і ўвечнімся. Маладзёны, задаволеныя, згодна хітнулі ў адказ. Уцешаны, вяртаюся да гатэлю.

Цяпер трэба прадугледзець зборку ля помніка, пакуль людзі па абедзе не разбрыдуцца. Дамовіўся з Рэгінай Мінайлавай, супрацоўніцай Беларускага

прадстаўніцтва, неўзабаве й Пасольства, ў Маскве (на здымку да яе пышных локанаў далікатна туліцца галоўкай прафесар Андрэй Майсяёнак з Горадні) – будзе яна гуртаваць, кіраваць “абеднікаў” у належным напрамку. Аб тым жа папрасіў Мальдзіса ( на фотцы пранікліваая ўсмешка руплівага Адама выпраменьвае з самага сяродку ), віленчука Хфедара Нюньку, Вячку Целеша з Рыгі – надта ж беларускіх дзяцюкоў. А фатограф? Дзе яго, майстравітага, знайсці? Нехта бачыў тут газетчыкаў з фотаапаратамі. Выходжу на бульвар залюднёны, мо каго патрэбнага стрэну. Так і ёсць! Алеяй насустрач прастуе маладзён з віхрыста русявай чупринай, з аб`ектывам на грудзёх. Вось гэтага сымпатычнага дзяцюка мне і трэба! – запыняю весела хлапца. Знаёмімся: Сяргей Грыц, карэспандэнт “Чырвонай змены”. Пасвячаю яго ў “фотапраект” і прашу падмогі ў належным часе і месцы. Цалкавітая згода. Ну, цяпер можна перадыхнуць і Дзвіне пакланіцца.

Сыходжу к берагу, прыпыняюся на пясчыстым краёчку імклівае плыні… Гляджу, убаку нечая постаць знерухомленая на ваду гледзячы (з падобных псіхаў-адзіночак?). Ступаю бліжэй – Яўген Кулік. Вітаемся, і яго “кантрактую”, просячы канечне праз якіх паўгадзінкі падыйсці да агулу (ён і падыйдзе, трошку прыпознена, з сцяжком нацыянальным, але ў першы “кадр” не паспее, у другім-трэцім адзначыца; на тым здымку Кулік відзён. – Скарыніч, вып.2).

Прыгадаліся на тым беражочку першыя мае, гадоў за дзесяць раней, адведзіны славутага нашага места. Прыязджаў лектарам з Масквы “прасвячаць” савецка-польскімі рэвалюцыйнымі традыцыямі польскіх будаўнікоў з “Энергаполю”, што цягнулі нітку нафтапроваду да свае мяжы… Цяпер мяне клапаціў іншы, адвечны шлях, сімвалічна пачаты тады ж – з гэтага берагу, ад помніка Скарыне (недзе ў нататніку дарожным адпаведная памета). Супакоены, хаця троху й наструнены зноў падаюся да гатэлю.

Ля выйсця ўжо кучкуецца народ. І хлопцы мае, бачу, да помніка прастуюць са сцягамі… Следам і наша гаманкая вясёлая грамада рушыла да Асветніка, ажыўлена парадкаючыся ўсцяж пастамента. На месцы ўжо і майстра-“Чыроназменавец”, побач – другі, здаецца з былое “Калгаснае праўды”. Адзін-два-тры шчаўчкі апарата. І мецьме прыкметны – гістарычны – фотаздымак. Назаўтра мілы Сярожа даставіць бясцэнны твор у Дом літаратара масквічу-“скарынічу”. Пазірнём жа разам, шаноўны чытач, на нязвыклы той твор калектыўны. Запынімся над помнаю старонкай “Скарыніяны” – сімвалічнае выявы міжнароднага ўзнання Беларуса-Асветніка, творцы лякарства духоўнага для суродзічаў і чалавецтва.

Вунь, справа, высіцца над усімі з пабялелай чупрынай Джэймс Дынглі, дацэнт Лонданскага універсітэта; вечарам на ўрачыстым сходзе горды брытыец не скажа, выгукне ўсхвалёвана са сцэны да мала не знямелых палачанаў: народ—занядбаўца роднага слова ня варт называцца народам. Далей – злева спаглядае з-пад акуляраў акадэмік Мікалай Бірыла, тут жа, ля яго, прафесар-гамяльчук Уладзімір Анічэнка, аўтар моўна-скарынінскага Слоўніка, між ім і Мальдзісам відно аблічча нямецкага славіста-беларусазнаўцы, прафесара Берлінскага універсітэту Карла Гутшміта. Трошкі збоку– пазнаюцца прыветныя ўсмешкі таксама знаных вучоных-беларусістаў прафесара Базыля Бялаказовіча з Варшавы, Юрыя Лабынцава з Масквы. Ніжэй, у першым радзе, справа, – профіль навукоўца і паэта Вячаслава Рагойшы, побач яго сябра – украінскі паэт і перакладчык Раман Лубкіўскі, далей – Алесь Петрашкевіч, знаны драматург-“скарыніч”. З самага пасяродку веселавата паглядаюць на пагусцелую грамаду, што не перастае множыцца наплывовым людам, ангелец Гай Пікарда – знакаміты даследчык старажытнае беларускае музыкі і скарынавай сімволікі, беларускі пісьменнік з Якуцку Іван Ласкоў, польскі беларус, гісторык-падзвіжнік Юрка Туронак з жонкай Зінай. Недзе тлумам засланёна Францішку Сокалаву з Прагі, праніклівага аналітыка скарынавых

тэкстаў – праз пэвен час ганаровага сябра Полацкага універсітэту. Усіх аднак не распазнаць – многіх шчырых прыхільнікаў-прапагатараў беларускай культуры ў свеце. Ну і бліжэй краёчку – аўтар “праекта” і гэтых радкоў; на суцэльным фоне прасіяных абліччаў, суквецця радасных усмешак – здаецца адзінкава хмураваты, зласнаваты нават пагляд – на кабету побач, супрацоўніка мясцовага гаркама КПБ. Тая не стрымала было раздражнення, згледзеўшы ўзвітыя ўгору сцягі, узнятыя транспаранты – “Партыя ўзрадзі што зруйнавала” і г.д. – “Это вы устроили провокацию?!” – абурыліся пекныя вусны жаночыя. Нешта буркнуў рашуча няласкавае ў адказ. Лепей было б усміхнуцца – такі ж кабета: так, даражэнькая, наша работа, наша вяртанне да святыняў спрадвечных, да беларускае Беларусі.

Пра тое – суворы напамін-засцярога да нашчадкаў Скарыны – з плакату папяровага над людзкімі галовамі. Такі сабе слупок сучасна беларускага “верлібра”:

“1938 у Полацку
8 - беларускія
2 - расейскія
2 - габрэйскія
1 - польская
1990 – у Полацку
0 – беларускіх школ
І ўсе – рускія”.

(Колькі ж іх цяпер, беларускіх, у Полацку, Горадні, Берасці, Мінску, Віцебску, Магілёве, Барысаве..?). Сумнымі рэаліямі хмарыў настрой той святочны юбілей.

Аднак жа мілыя дзеткі-малалеткі – на пярэднім плане фотаздымка! Вунь тое, злева, лабасценькае, з упартым паглядам каля маладое мамы хлапчанё, што ашчапіла дзяржанне бел-чырвонага сцяжка… Пэўна хлопчык падняўся ўжо ў мажнага дзяцюка. І сцяг беражэ і некалі ўздыме высока. І дзеці, унукі яго на другі юбілей – праз паўвеку – мо з інакшымі, лепшымі лічбамі да прарока-Францішка падыйдуць…

Будам верыць.

2012

# Да лясное хаткі Зоські Верас

Пашчасціла і мне пазнаць яе, сціплую легенду Беларушчыны. Сустракацца, слухаць прытомлена лагодны галасок, лістававацца і… сусперажыць, нібы свой уласны, ладнаваты абсяг гістарычны нацыянальнага лёсу і шляху, прыстойна адолены гэтай нязвыклай жанчынкай. Калі коратка – Беларускай з найлепшых. Зірнуўшы на фотааблічча гарадзенскае гімназісткі, аўтаркі вучнёўскага часопіса “Каласы беларускай нівы” пачатку 1900-х, не адразу адводзіш вочы ад прываблівае адметнасці юнага дзявочага твару, скіраванага ўдалеч засяроджана глыбокага позірку. Тыя ж прыкметныя рысы, прыцярушаныя немалым, выпрабавальным часам і на самым схіле веку будуць вызначаць яе пранікліва-празарлівы пагляд-угляд на жыццё, на людзей.

Пачалося ж знаёмства, як часта здараецца, неяк нечакана, нават не без інтрыгі. Шыкуючыся з Варшавы ў чарговы водпуск, жніўнем 1980, падзяліўся з Юркам Туронкам выснёным праектам: прадыбаць з Вільні да Карпілаўкі пешым маршрутам Антона Лявіцкага-Ядвігіна Ш. (яго “нашаніўскія” Лісты з дарогі). Сябра-калега ажыўлена падтрымаў намер, удакладніўшы: абавязкова наведай Зоську Верас!

?...

– Не ведаеш, хто такая? Сучасніца-паплечніца Максіма Багдановіча, братоў Луцкевічаў, Тарашкевіча, іншых “нашаніўцаў”. Яна ж і Ядвігіна ведала. Старэнькая ўжо, але памяць зайдросная, энцыклапедычная. Унікальная ў нашай справе асоба, лістуемся з ёю . Пазнаеш – пераканаешся.

Заручыўшыся адпаведным адрасам, паслаў – ужо з пагранічнага Берасця – на віленскую вуліцу Архітэкту караценькую просьбу-запытанне наконт магчымае сустрэчы. Праз колькі дзён у сваім маскоўскім Угловом атрымаў лаканічную тэлеграму ад Л.Луцкевіча ў сэнсе запрашаем, чакаем. Спакаваўшы дарожную кайстру, зазірнуўшы ў “бурачковы” том БелСЭ, прачытаў некалькі скупых радкоў пра Людвіку Антонаўну Сівіцкую-Войцік (пазней больш раскошна, уражліва прадставяць яе ў адпаведных тамах “Пісьменнікі Беларусі”, Энцыклапедыі гісторыі Беларусі). З білетам на цягнік

Масква-Вільнюс падаўся на Беларускі вакзал. Перад тым Соня мая, супрацоўніца МУС, падстрахавала мужа-“наезніка” месцам у ведамасным гатэліку літоўскае сталіцы, так што ехалася адносна спакойна, без асаблівае напругі.

За гасцінным сталом у кватэры на спомненай Архітэкту адбылося знаёмства з Лявонам, Юркам Луцкевічамі, Галінай Войцік, іхняй плямянніцай – ленінградкай Маргарытай Пяровай (прыехала з сынам Паўлікам пахадзіць тымі ж сцежкамі). Потым сонечна нядзельным дзянёчкам рушылі гуртом пазнаваць прыкметныя мясціны колішняга Крывога (Крывіцкага) горада. Праз лявонаў фотааб`ектыў “увечніліся” на вежы Гедыміна, згадаўшы прытым ухвальным словам майстравітага фоталетапісца віленскага Яна Булгака, далей запыніліся на Лукішскім пляцы, ля помнае пліты па Кастусю Каліноўскім, затым – ля камяніцы колішняе рэдакцыі “Нашай Нівы”. Даўжэй затрымаліся на могілках Росы, сшішана памаўчаўшы каля надмагільнага помнічка Ядвігіну Ш.

Натоленыя ўражаннямі ад убачанага, каларытным каментаром гіда нашага пана Лявона, троху ўжо прытомленыя, пакіравалі да “Лясное хаткі”. Мабыць тады ўпершыню і пачуў назву таёмнае мясціны, як цяпер разумею – крынічкі нацыянальна-духоўнага прычашчэння многіх не аслеплых, не аглохлых хадакоў забранага краю. Паводле ж лявонавае горкае рэплікі – да аднае з апошніх “беларускіх віленчукоў-недабіткаў”. Адолеўшы кавалак нейкае ўтравелае чыгуначнае каляі, збочыўшы пясчыстаю сцежкай праз прарэжаны лясок сасновы выходзім на сонечную паляну. Вось той запаветны дамок – атулены буйнай зелянінай, раскошнымі, рознага колеру кветкамі… Чыста – Эдэм, мільганула няўзнак першая думка. Ці не з тае калышастае яблынькі пра-пра-айцец наш Адам зрываў спакуслівы плод? Ступаем бліжэй – на парозе зграбненькая, крышачку стуленая жаночая постаць. Вітаемся, знаёмімся. Заўважаю засяроджана лагодны угляд яе зыркіх вачэй, здольных не толькі бачыць, а магчыма й слухаць чалавека (быў папярэджаны, што кантакт толькі праз папяровыя цыдулкі).

Не забудзецца наша першае камунікаванне – адпачатку ўзаемна прыхільнае, даверлівае. Госць, зразумела, пасвяціў пані Людвіку ў свой намер “ядвігінаўскі”, спадзеючыся якое парады,

удакладнення. У нататніку маім падарожным – таропкія крэскі-запісы з тае гутаркі, з прыцішана мягкага голасу прывабнае субяседніцы.

– У яго Карпілаўку – спамінала – я часта з Менску наязджала. Там жа ў школе месціўся дзіцячы прытулак нашага бежанскага Таварыства. Дзядзька Антон, як яго называлі, таксама ім апекаваўся. А мне штотыдзень даводзілася там бываць. Вам многае можа расказаць Каханоўскі – з яго ініцыятывы ля вёскі Мясота ўсцяж даўнейшага шляху на Вільню помнік-валун пастаўлены з імёнамі славутасцяў, што тудой хадзілі, праязджалі – Сыракомля, Гогаль, ну і Ядвігін… Цяпер Ядвігіным зацікавілася менскае тэлебачанне – Содаль. Ён ездзіў у Карпілаўку колькі разоў, спатыкаўся са старымі людзьмі. Хіба бачылі яго артыкул "Карпілаўка" у "Голасе Радзімы"? Маю той нумар [26, 1978].

– Ванда Лявіцкая была за Лёсікам, а з Лёсікам, ведаеце як… Па высылцы мужа аставалася ў Менску з дзвюма дочкамі. Нястача матэрыяльная, а найцяжэй – духоўная траўля. Мусіла яна выехаць, спачатку ў Ліпецк, пазней у Стаўрапольскі край, 50 кілометраў ад Стаўрапаля. Пакуль матка жыла, дзеці па-беларуску, але выраслі ў расейскай мове. У пісьме просяць пісаць да іх па-беларуску – "хачу ведаць мову бацькоў". Алеся, дачка Ванды, Ядвігіна ўнучка, настаўніца на пенсіі, прыехала з дачкой, унукамі ў Менск. Наведалі музей Якуба Коласа. Сын яго, сваяк жа Лёсікаў, дырэктар музею, не вышаў, не прывітаў. Толькі выходзячы даў кніжку пра свайго бацьку, не запытаўся ані словам ці дзе астанавіліся, ці што… Я ж ёй пісала, папярэдзь лістом.. Адно добра – у Вільні магілу дзеда паглядзелі.

Тады ж у размове закранулася яшчэ колькі імёнаў, датуль мала ці амаль мне нязнаных.

– Смоліч Аркадзь. Пазнаёміліся з ім у Варшаве, вучыўся ён у Пулавах. Напісаў "Геаграфію Беларусі". Больш за 20 лістоў ад яго маю, спіс навуковых прац 1919-1930; быў узнагароджаны залатым медалём Расійскага геаграфічнага общества. Пазней яго выслалі, дзе ён памёр – нават не ведаю. Жонка – Алеся Смоліч 1897 г. Ад яе – пасведчанне І Беларускай гімназіі ў Гродне, яна [там?] вучыцелькай была ад 15.XI. да 1 траўня 1921. Маю альбом Беларускай гімназіі. Мелася перадаць

у бібліятэку, або ў архіў. Мяне папярэдзілі: не аддавай у Мінск, яны так яго захаваюць, што ніводнае людзкое вока не ўбачыць.

У Вільні я – самая старая. Няма ўжо мае сяброўкі Надзеі Маркаўны Шнаркевіч, з дому Калядзянка [1897 г], з Брэста. Муж яе Язэп Канстанцінавіч Шнаркевіч выкладаў у малодшых класах Віленскай Беларускай гімназіі, засноўваў такія ж гімназіі ў Нясвіжы, Клецку*, дзейнічаў у Таварыстве беларускай школы разам з Рыгорам Шырмай. Абое – яна і ён – пахаваны ў Ліпаўцах.

На Віленскай, 12, – доўжыла, – дзе месціліся беларускія ўстановы, прымацавалі дошку ў памяць Тарашкевіча – на літоўскай, рускай мовах. Адзін стары доктар з Гародні піша мне –гэта ж наша, беларусаў, ганьба. Бачыце, каб хто іншы ўзяўся за гэтую справу, можна было б трэцюю мову, але ж трапіўся чалавек такі… Клімовіч Адольф Юстынавіч [1900 г]. – пры хадэцыі не вельмі з ім ладзілі, калі я выдавала “Заранку”, “Беларускую борць”. Папракаў, што за мной партыйцы стаяць. А за мной ніхто не стаяў, самастойная была. Нашто й Браніслаў [Тарашкевіч], працяты Беларуссю, але ж ад свае “Грамады” на мае выданні ні златоўкі не адплікнуў. Трэба яму было лезці ў тую палітыку – зглумілі чалавека. А з Клімовічам пасля ссылкі яго – хто з нашых не сядзеў…– бліжэй сышліся.

Далей у нататніку – згадкі-паметы пра іншых яе супольнікаў: Янку Войціка, Янку Шутовіча (як таму ў “Маладосці” адмовілі друкаваць нарыс пра Міхася Забэйду-Суміцкага, успаміны пра Беларускі музей імя Івана Луцкевіча), Мар`яна Пяцюкевіча, Янку Багдановіча, Франца Грыцкевіча – апошняга дырэктара Беларускае гімназіі (“Трагічная постаць. Забралі ў Мінск яго, а ён на следстве выкінўся праз вакно, ня вытрымаў”). Згадваліся й сучаснікі яе з Беларусі – бліжэйшыя наведнікі, дарадцы, карэспандэнты: Сцяпан Алесандровіч, Ларыса Геніюш, Данута Бічэль, Алесь Белакоз, Аляксей Пяткевіч, Мікола Ермаловіч, Арсень Ліс, Адам Мальдзіс, зноў жа –Генадзь Каханоўскі, Уладзімір Содаль, Янка Саламевіч (З многімі неўзабаве і мне трапіцца сыйсціся ў клопатах беларускіх). Словам, адчулася тады, як у гэтым лясным кутку нясціханай ручаінкай бруіць-пульсуе дух беларускі, доўжыцца наша пакутнае Адраджэнне, трапеча думка нацыянальная. Ці не

ўся, падумалася, маной, паніжэннем пакуль дарэшты не скалечаная Беларусь імкне сюды прычасціцца да гаючага zrudła. Моладзь, старэйшыя, вучні-краязнаўцы, студэнты, аспіранты, “дацэнты з кандыдатамі”, а нават фактычныя, хоць не “фірмаваныя” акадэмікі – Улашчык, Фёдар Янкоўскі.

Ведаючы пра яе сакратарства на I Усебеларускім з`ездзе, чапнулася ў гутарцы і гэтай падзеі.

–Пішу аб тым у сваіх успамінах, – сціпла заўважыла, дастаючы з шуфляды некалькі машынапісных старонак. Дадала з сумнай ноткаю прыгаслага гадамі (га́дамі?) абурэння: “Уберите эту тряпку!”, – яму, бачыце, [бальшавіцкаму камісару] непанутру прыйшоўся сцяг беларускі. Прадэкляравалі самавызначэнне народаў. А дайшло да справы, тых самавызначэнцаў – к сценцы.” Спомніла пры тым Фабіяна Шантыра – яшчэ адно ўпершыню пачутаю мною прозвішча.

Не абыйшлося без скрушлівых меркаванняў адносна незайдроснага стану нашае роднае, што скрозь “не хоча паміраць”.

Што ж вы хочаце, – з горыччу разважала, паказваючы свой Батанічны слоўнічак, –школа робіць сваё. Масавае навучанне і такое ж масавае калечанне мовы. Вучні з Маладзечна пішуць – “кустарнік”. А ёсць жа наша беларускае – “хмызняк”, “гушчар”, “лазняк”, можна выбіраць. Нават у Караткевіча чытаю – “абдуванчык”. Няўжо, пытаюся, Вы “дзьмухаўца”, “малачаю” не ведаеце? Той смяецца.. А школьнікі з Жупранаў –ад іх ліст саўсім па-руску.

Задоўжаную гутарку нашу перапыніла пані Галіна, яе дачка, за Лявонам Луцкевічам, – з парога вузенька доўжанага, што пінал, пакойчыка ў адно акенца, запрашаючы ў гасціную да стала. І пры застоллі пагладжваючы ўладкаванага на каленях пышнага ката старэйшая гаспадынька раз-пораз адзывалася да агульнае гаманы якім трапным слоўкам. Перахапіўшы мой засяроджаны позірк на жывапісным, на сцяне, партрэце-вобразе маладой гожае жанчыны ўдакладніла: Гэта ж Сергіевіч [Пётра] маляваў мяне, маладзейшую. Слабенькі і ён ужо, даўнавата як бачыліся…

Развітаючыся папрасіў на вечар з яе ўнікальнага кнігазбору кніжачку “Памяці Івана Луцкевіча” – успаміны

сучаснікаў-наступнікаў слыннага “нашаніўца”, выдадзеныя яго малодшым братам.  Амаль праз ноч у гатэлі перапісваў тыя старонкі. Пазней з яе ж ласкі  і “Адбітае жыццё” – літаратурна-крытычныя артыкулы таго ж Навіны-Луцкевіча скапіруецца ў Маскве і адашлюцца назад у Вільню. Час ад часу перагортваю выпісы, адбіткі з “віленскага дасье” і шчымлівы ўспамін цёплай хваляй ледзь-ледзь варухнецца пад сэрцам.

Затрымаўся толькі на адным, першам нашым спатканні.. Былі ж і наступныя, не меньш цікавыя, змястоўныя – калі цягам 1980-х, падчас  “даследніцкіх” адскокаў у віленскія архівы, бібліятэкі, на канферэнцыі звычайна залучаў да запаветнае лясное хаткі. Вяртаючыся ўзбагачаны якой новаю весткай, мудрай парадай, новым знаёмствам, падсілкаваны трапяткой вераю “Жыве..!” Вось  зацемка з майго дыярыуша (кастрычнік 1988): “шосты десятак мой пачаўся з беларускіх падарожжаў – Вільня, Менск, Полацак. Наўкола мілыя адданыя ідэі суродзічы – іх сустрэў на ўзлескуу, па дарозе да Зоські Верас. Надвячорак той светлы, цёплы, сумны не забудзецца. Ідзе, не спыняецца Беларусь да Крыніцы свае (Марачкін, Шатэрнік, Прыма, Купава…). Прыбывае мне сяброў – добрых, глыбокіх рупліўцаў беларускіх”. Супольныя з Ёю клопаты-спадзяванні, іншым разам горкія расчараванні – у ніштаватым стосіку нашае перапіскі.

Раіўся з паняй Людікай сваімі скарыназнаўчымі росшукамі. Другім разам у парыве шчырасці й падзякі надпісаў ёй лонданскае, тады яшчэ “крамольнае” выданне “Письма русскому другу”, не кранаючы ўласнага дачынення да аўтара-ананіма. Хаця відаць было і без тлумачэння –  зразумела, адкуль, чыё тое спавядальнае пасланне (здаля гледзячы – марны бісер маскоўскага беларуса – рускаму сябру).

Узрушаны яе лірычна-сонечнымі “Каласкамі” адгукнуўся на той зборнічак у ЛіМ-е. Дзякуй Алесю Жуку – борздзенька падтрымаў чытацкае нераўнадушша, за выняткам аднаго абзаца, па тым часе мабыць і яму, галоўнаму рэдактару, “непадуладнага”. Узнаўляю той пасаж з меркаванняў мастацкае й грамадскае значнасці й актуальнасці спомненае кніжачкі:

“Не хочаш зажурышся – што з нашай мовай робіцца. Сапраўды яна аджывае, ці “аджыць” яе наважыліся іншыя

гандляры. Бо хто ж, паважны, паверыць у нястачу паперы, каб гэты цуд-зборнічак у тры няпоўныя аркушы растыражаваць хаця б у паўсотні тысяч адзінак. Гэтулькі дзятвы падрастае на Беларуі, не кажучы пра бацькоў, настаўнікаў. Толькі ў стольным Менску з паўмільёна патэнцыяльных чытачоў. Пэўне каторая з маладых мацярак, ужо адзвычаеных ад матчынага слова, згледзеўшы казачную кніжачку падахвоцілася б пачытаць свайму хлапчаняці, уцешыць родную крывінку дзівосным падаруначкам – першаю кніжачкай. Няхай малое пачынае адкрываць сваю чароўную краіну: "*Сыночак маленькі*, *ты ручку мне дай*. *Цябе павяду* я ў *нязведаны край*.."

Кнігі, ідэі, кветкі сілкавалі, ахарошвалі наша сяброўства. Пра тое яшчэ раней у спомненым дзённіку (май 1984): "Доўжыцца адкрыццё Вільні, маёй віленскай Беларусі. Адбыўся, здаецца, і выбар. Замест "дома бываць часцей", час – вяртацца дадому. […] Зоська Верас яшчэ трымаецца, хоць ногі, кажа, саўсім аслаблі. Але ж жыве, працуе няўтольная руплівіца нівы беларускай. Гаманілася нам і гэтым разам хораша, суладна, шчыра. Старэнькая, зусім не чуе. Можа таму гэтулькі праменнасці ў яе вачох – як жа вымоўна бачаць яны, чуюць, разумеюць. […] Набыткі віленскія. Няма ім цаны. Вяргіні, хрызантэмы з агарода пані Людвікі – ужо ў тульскім грунце, пад маім вакном". Ужо, нажаль, адцвілі…

Цяпер, таксама ступіўшы на мяжу быццця-небыцця, азіраюся, не без скрухі, на пройдзены шлях. Ды "строк умильных не смываю". Ня скрозь змарнованы час. Хаця б з угляду на светлых людзей, з якімі выпала сустракацца, сябраваць. З мітульгі панылай імкнуцца да мройлівых высяў. Адна з такіх – яе нятускная Постаць.

---

* Яшчэ раней, у 1919 годзе, ад таго ж Шнаркевіча, настаўніка першае беларускае школы ў Менску, вучань Мікалай Улашчык, будучы Гісторык, зведаў– перажыў незвычайны урок беларушчыны – вызначальны, як згадваў пазней, у яго нацыянальным сталенні.

чэрвень, Сёмуха 2012
За Акой

# Кветкі — Буйлянцы

—*Дзядзячка Чорны*, а *вы ведаеце, хто гэта*? *Гэта* ж *наша Буйло*!

—*Канстанцыя Буйлянка*? — *перапытаў Кузьма Чорны*. — *Твае творы чытаў*, *ведаю*, *люблю*.

*Чаркасава Дз. Люблю. Мн., «Голас Радзімы», 1978.*

«Люблю наш край, старонку гэту...» З тых сонечна-шчымлівых радкоў пачалося наша знаёмства. Верш запаў да памяці  са школьных чытанак. Адначасна з Купалавым «Што я мужык — усе тут знаюць», Коласавым «Мой родны кут, як ты мне мілы...» Словы, што адразу залягаюць пад сэрцам — не раз узварушваюць тваё пачуццё дзіўным усплёскам чагосьці гожага, роднага — беларускага.

Сапраўды, паэзія, паводле Пушкіна, можа быць «глуповатой», пэўна — не «дурнаватай», але лёгкай, незнарочыстай, нібы з боскіх вышыняў дасланай. І падказаў Гасподзь юнаму дзявочаму сэрцу просценькае, кранальнае — праз гады, сталецце не пабляклае: «Люблю народ наш беларускі...», «І песню родную люблю я, што дзеўкі у полі запяюць..» Пад тое чыстае спяванне дзявок, жанок у полі, на вяселлях, вясковых вечарынках прамінала і маё сталенне.

Не забудзецца: запаветныя радкі музыкай ускалыхвалі пачуцці, бадзёрылі настрой радзецкага дыпламата ў Варшаве на памежжы 1970-1980-х. У прыцішанай вулачцы Jworzyńska, блізу шумнае Маршалкоўскае, той штораніцы абуджаўся, шыкуючыся на «достойное явление» ў пасольскі кабінет, пад разлівіста-мілагучнае «Люблю...» З майго «Panosonic» беларуская Свабода (тады — Вызваленне), як і польская, праслухоўвалася выразна — палякі на «глушылку» не траціліся... Так што дзень пачынаўся з настроем прыўзнятым, амаль малітоўным і прапагаванне Представителем ССОД кляйнотаў «зрелого социализма», «советской культуры»,

«нерушимой советско-польской дружбы» (асабліва) не здавалася справай нуднай, безнадзейнай.

Па нейкім часе, ужо ў Маскве, патэлефанаваў да мяне Віктар Швед, беларускі паэт-варшавянін, камандзіраваны ў Белакаменную па выдавецкіх справах. Папытаўся: як дапасці Канстанцыі Буйло. Мяне раней, прызнацца, падобнае імкненне чамусьці не варухала, але з радасцю пагадзіўся супольна наведаць славутую Пяснярку.

Дапалі мы, крыху паблукаўшы, адпаведнага адраса — Тихвинский переулок, 11; аказалася — недалёка маяго Углового, блізу Бутырскае турмы. Націскаем «гузічак» над кватэрай 20. дзверы адчыняе светлага твару мужчына, высакаваты, трошку стулены, зычліва запрашае: «Пожалуйста..» Знаёмімся. Гаспадар назваўся Борисом Матвеевичем, мы — адпаведна — маскоўскім і польскім беларусамі, наведнікамі нашае Паэткі. Ступаем вузенькім карыдорчыкам направа, у бочны пакойчык. З канапы прыўзнімаецца, ветла ўсміхаючыся, жанчына. Знаёмае з хрэстаматыйных падручнікаў аблічча — можа, крыху прыцярушанае гадамі, але адразу пазнавальнае: круглаваты, прыязна адкрыты твар, глыбокі пагляд сініх вачэй... Абок гаспадыні знаёмыя — Ніл Гілевіч, Валянціна Шчадрына, сакратар Савета па беларускай літаратуры пры СП СССР. Госці завіталі да Буйлянкі з нагоды яе юбілею. Прыдаліся і нашы сціплыя гваздзікі — на прыстойны букет па тым часе нават у Маскве, зімой, не вельмі было расстарацца. Гаворка не задоўжылася. Папярэднія наведнікі ўжо збіраліся адыходзіць, і нам, прыпозненым, не выпадала затрымлівацца, натамляць юбілярку. Далей — дакладнасці дзеля — нататка з майго дыярыуша:

«10.01.1984. З Віктарам Шведам (рэдагуе ў Маскве «спольшчанага» Леніна) — да Канстанцыі Буйло. <..> Жывая легенда беларуская. Сапраўды — кветка: уся сонечная, віхрыстая, з расінкаю ўвaччу:

— Мае даражэнькія, ну не уходите! Як я рада, як я рада! Сам Ніл Гілевіч завітаў!

Першаму сакратару СП БССР карцела па неадкладных справах. Ніл аднак патрапіў запытацца, відаць, пра галоўнае, што яму рупіла перад спатканнем з паплечніцай Купалы:

— Дык Вы лічыце, Лойка нахлусіў [у кнізе] пра Купалу? Не так братоў Луцкевічаў апісаў?

— Не, пра Луцкевічаў праўду сказаў. Гэта былі паны, і мы іх не любілі.

Нешта я адважыўся было ўдакладніць наконт сімпатыі-антыпатыі да братоў «нелю-бімых». Не сказала, выбухнула:

— Бо Купала ад іх залежыў!

Пазней у нашых размовах яна праясніць сваё непрыняцце пэўных лойкавых старонак: «Как это можно, — звычайна, пры ўзбуджэнні, пераходзіла на руска-беларускі «ва-лапюк», — у самае інтымнае ступаць сапагамі. Ладзіна, жонка Ластоўскага. Я ж яе ведала, мы сябравалі. Чыстая жанчына, а здесь такія фантазіі! Устань Купала, он бы дастойна, по-мужски, ответил писателю..» Даруе св. п. Алег Антонавіч, глыбокі наш літаратуразнавец. Але што сказала Буйлянка — сказала. Хаця мяне асабіста праймалі не «альковыя» намёкі ў «рамане-эсэ». Найбольш — «изобличительные» пасажы адносна Луцкевічаў («Лапкевічаў»), асабліва Івана, да якіх у Купалы засталося, нават са скупых звестак, даволі прыязнае стаўленне.

Было яшчэ некалькі наведванняў. Калі-нікалі тэлефанавалася. Гаманілася пра літаратуру, удакладняліся сякія-такія дэталі з творчых крыніц, з жыццёвага шляху аўтаркі «Курганнае кветкі». Найчасцей запынялася яе ўвага на часох «на-шаніўскіх». Запомнілася і такая вясёлая драбніца:

— Мы з Уладкай (Станкевічанкай) часта заглядвалі ў рэдакцыю. Сяброўка тады ўжо вока на Янку мела. І той да яе нераўнадушны. Але будзе мяне іншым разам падзаводзіць: «Костачка, выйшла б за мяне замуж?» — «Не, Яначка, аджартоўвалася. — Паэт ты цудоўны, але хлопец — не па мне. Лепш з Уладзяй дамаўляйцеся». Купала з жыдком Бядулем найбольш сябравалі. Бывала, да нас — просячы: «Дзеўкі, пазычылі б з паўрубля, на «кручок». Ведама, хлопцы маладыя — любілі выпіць. А якія ў іх заробкі (смеючыся)?

Яшчэ «нашаніўскі» яе ўспамін — зноў жа з маіх дзённікавых нататак:

— ... А як на беларускае слова выйшлі, Канстанцыя Антонаўна?

— Як выйшла? Вельмі проста. Прынёс бацька аднекуль «Нашу ніву». А там — вершы Купалы, Багдановіча. Па-нашаму, па-беларуску! Брат Эдзік: «Давай, Костка, і мы напішам!» І пачалі мы ўтрох — Эдзік, Стася — сястра, і я. У Эдзіка нічога не выйшла, у Стасі амаль нічога, у мяне нешта атрымалася. Эдзік: «Давай у «Нашу ніву» пашлем!»

Я — ні ў какую. Раз ужо была апяклася і цяпер баялася.

— А што за «апёкі» такія?

— Ад настаўніцы ў школе. Напішыце, кажа, пад дыктоўку «Огонь горит». Ну, я і напісала, як пачула: «Агонь гарыт». З трыма памылкамі. Тая мяне прыстыдзіла перад класам: «Вот видишь, считаешь себя знайкой, а в двух словах — три ошибки». — «Дык я ж напісала, як Вы дыктавалі». Тады Эдзік узяў і паслаў пад сваім подпісам. Прыходзіць у вёску беларуская газета (так звалі «Нашу ніву»), а там пад вершам — Э. Буйло. Потым зноў верш і той жа подпіс. Стала мне, нарэшце, абідна. «Эдзік, — гавару, — хопіць табе падпісвацца за мяне. Сама буду пасылаць!»

— А што з Эдзікам, як лёс склаўся?

— Эдзіка ўбілі на вайне, пад Рыгай, у Першую міравую. Такі красівы хлопец, афіцэр малады.

Чытанне сваіх «польскіх» вершаў. І паэзія, і бунт, і роспач у тых вершах. За іх Bruckner не ўпікнуў бы, як у стасунку да Купалы: a la Lenartowicz[2].

Не любіць Костка журналістаў, інтэрв'ю. Не хоча на п'едэстал, не зносіць даследчы-каў, здатных грэбацца ў асабістым. <.. > Пра аднаго з іх — аж занадта жорстка:

— Надоел он своей дотошностью. Я его больше не принимаю.

З «нашаніўцаў» абок бліжэйшага ёй духам і лёсам Купалы станоўча, без воклічаў, згадвала Ластоўскага. На ім менавіта і запыніла прыпамін аб сваім першым знаёмстве з імем Скарыны (на адпаведнай анкеце): «Упершыню пра Францішака Скарыну даведалася ад Вацлава Ластоўскага. У рэдакцыі «Нашай нівы» мы чыталі беларускія старадрукі, Статут Вялікага Княства Літоўскага».

Ведаючы яе насцярожлівасць тым не меньш, закраналася ў размове штосьці пра імпульсы рамантычна-экзістэнцыйнага перажывання «Курганнай кветкай» навакольнае рэчаіснасці («Адна, саўсім адна..», «Дзень сканаў за ракой...» і г. д.).

— Адразу і не скажаш, адкуль той настрой, пачуцці, — рэфлектавала задуменна. — Можа, ад польскае паэзіі. Была ж троху начытанай: Міцкевіч, Славацкі, Норвід, Лесьмян. Лермантавым таксама захаплялася.

Аднойчы папрасіла прынесці чаго «з польскага» пачытаць. Аднёс ёй «Пана Тадэ-вуша» ў арыгінале, 2-томную анталогію «Poezja polska» (1973), нават «крамольны» у СССР на той час зборнічак Чэслава Мілаша. Прызналася, вяртаючы: «Вой, дзякуй. Душой адышла. А Мілаш не «даўся», цяжолый, нешта штучнае — не маё». Тады ж згадала пра свайго бацьку. Надта любіў кнігу. Чытаў пераважна польскую. Ад яго і дзеці пацягнуліся да чытання. Памаўчаўшы — з усмешкай: «Недзе пісалі пра мяне — нарадзілася ў сям'і беднага аб'ездчыка. А гэты «бедны» двух упітаных рысакоў запрагаў, падаючыся на агляд лесу».

З міжвольных рэплік, заўваг вынікалі яе някепскае распазнанне ў бягучым літаратурным жыцці Беларусі, эстэтычныя прыхільнасці. Зноў зазірну ў свой нататнік:

«— ...Ніна Мацяш. Як я люблю яе вершы — гэтулькі ў іх хараства, сэрца, пачуцця. А Ніл Гілевіч! У яго столькі душэўнасці, столькі думак, якая вобразнасць! Яго так Пальчэўскі любіў, сябра мой.

— Алесь Пальчэўскі?

— А вы ведалі Пальчэўскага? Столькі ён адпакутаваў. А піша як — цёпла, стрымана. Харошая проза».

Вельмі ўсцешана была нарысам В. Шведа ў беластоцкай «Ніве» («Беларуская легенда», 1984, 19 ліст.):

— Вы толькі паглядзіце, — расхінае, расчуленая, атрымануюгазету, — як прадставілі Буйлянку. Адзін раз чалавек зайшоў, паглядзеў, паслухаў тую «легенду» і так талкова, хораша выказаўся. Не быў бы паэт!

Жнівеньскім цёплым надвячоркам завітаў да яе з раскошным букетам гладыёлусаў. Таго лета на лапіку майго лецішча за Акой выраслі-расхінуліся яны як ніколі — буйна, квяціста. Белыя, ружовыя, аксамітавыя...

З тою харашынёй у шкляной вазе і заявіўся на знаёмым парозе. Жаночае ўзрушэнне-хваляванне:

— Боря! — паклікала мужа. — Посмотри, какая красота! Когда мне такие цветы дарили! — І пераводзячы позірк у мой бок: — Не скажу, он тоже иногда одаривает цветами. Но такие — где их в городе найдешь? Нет, вы цяпер мой друг! — Нахіляецца над пісьмовым сталом, надпісвае на томіку свайго «Выбранага», агучвае надпіс і падае мне кнігу: «Дарагому Аляксею Канстанцінавічу Каўко, які добра і тонка разумее мяне і маю творчасць, — на добры ўспамін. Кан. Буйло. 17. VIII.84». Было ад чаго і адоранаму ўзрушыцца-расхваляваца. — А ведаеце, — працягвала, — ля гэтага стала ня раз і Купала прыседжваўся. Бываючы ў Маскве, мяне не забываў. Калі ўдваіх, з Уладкай, калі адзін. Прапаноўваў: «Няхай бы ты, Костка, у Менск перабіралася». А я яму (усміхаецца): «Хто ж мяне, Яначка, там чакае? Дзе прытулюся? Я ж не Купала, дачы мне не пастрояць».

Наогул з імем творцы «Жалейкі», «Шляхам жыцця» рэдактара «Курганнай кветкі» абыходзілася яна пачціва, нават узнёсла — як з вялікім Паэтам. Хаця не без лёгкага, крышачку задзёрыстага гумару, калі йшлося пра блізкага сябра, зямнога, прываблівага ёй чалавека, — саўсім не штучнае люстры, у якую толькі й глядзецца.

— Інагда [некаторыя даследчыкі] успрымаюць паэтку Буйло, — іранізавала, — нейкай брошкай на Купалавым пінжаку. А мы — няхай блізкія, але ж розныя! Купала — па сабе. Я — па сабе.

Праслухоўваліся ў гаворцы ноткі яе гордасці, але не напышлівае гардыні; хутчэй — зразумелае ўсведамленне ўласнага «я», натуральнае для кожнае творчае Асобы.

— Вот, пасматрыце, хто пра мяне ўспомніў, — праяснёная, узрушаная бярэ са стала кнігу, паказвае: Кирилл Мазуров. Незабываемое (Мн., 1983). Расхінаю вокладку:

«Канстанцыі Антонаўне Буйло — з удзячнасцю за ўсё, што Вы зрабілі для роднай Беларусі. [Подпіс.] 23 студзеня 1985 г.».

Тады, помніцца, падахвочаны беларускім словам колішняга партыйна-савецкага дзеяча звярнуўся і да яго з «Скарынаўскай» анкетай, і той добрай літаратурнай мовай адгукнуўся на ўсе пытанні. (Цяперашнім уладарам — суверэннай-незалежнай — хаця б крышачку культура-беларускае якасці.)

Падзіўляла яе жыццялюбная мабільнасць. Жанчыне бралася пад дзевяноста, апошнім часам ногі ёй адмаўлялі, на вуліцу не выходзіла, але кожнага разу сустракала, ужо не ўстаючы з канапы, бадзёрым голасам, з прыветнаю смяшынкай:

— Прахадзіце, прахадзіце, мой дарагі! Какие новасці, как наша Беларусь? Как уражай на вашых сотках?

У сваю чаргу падзеліцца сваімі навінамі: хто ліста даслаў, хто пазваніў, хто наведаў. Праўда, наведнікі траляліся штораз радзей. Скрозь усцешліва, з мацярынскай радасцю і гордасцю згадвала сына Яўгенія, інжынера-будаўніка, унука Віталія, фізіка, — іхняя клапатлівая ласка да маці і бабулі падсілкоўвала, цяпліла яе старэчае самаадчуванне. Цешылася перапіскай з Зоськай Верас (Людвікай Сівіцкай), яшчэ раней — з Алесяй Смоліч, з жонкай Міхася Лынькова, а найчасцей-найсвятлей успамінала Уладзіславу Фран цаўну, «Купаліху» — наймілейшую, найвярнейшую сваю падругу жыцця.

Не забывалі яе школьнікі-краязнаўцы з Беларусі, асабліва гудзевіцкія. Дарэчы, настаўнік Алесь Мікалаевіч Белакоз, заснавальнік Гудзевіцкага гісторыка-краязнаўчага музея, спрабаваў праз мяне пераканаць Канстанцыю Антонаўну ў мэтазгоднасці гучання яе прозвішча на беларускі лад — з *а* на канцы: Буйла. Пра несуцяшальныя вынікі тае спробы згадвалася

ў «Скарынічы», вып. 2. Тут паўтару толькі яе канчатковы довад у «фамільным пытанні»:

— Памру, можаце тады пісаць Буйла, а пакуль пакінце маё — бацькава Буйло.

Не забылася Паэтка павіншаваць з 80-годдзем Мікалая Мікалаевіча Улашчыка. Аб чым славуты гісторык наш не прамінуў удзячна згадаць падчас аказійнае ўрачыстаці ў свой гонар у Інстытуце гісторыі АН СССР:

— Узрост, маўляў, справа адносная для творчага настрою. Мне даслалі віншаванні дзве кабеты — з Масквы і Вільні (Зоська Верас); кожнай з іх за добрых восемдзесят, але яснасці іхняга розуму можна толькі пазайздросціць.

Апошняя наша сустрэча атрымалася вельмі сумнай, драматычнай. Наведаў яе пасля смерці мужа. Сядзела яна на той жа канапе — прыкметна стуленая, бледная — заплаканая. На павітанне і спачувальныя словы сцепанула бездапаможна плячыма і, заглытваючы слёзы:

— Асіраціл мяне Боренька мой... Вы ведь не зналі яго. Он же — после моего Калечица[3] быў другім маім незамянімым. Кажется, молчун, а какой человек, какая душа глубокая, отзывчивая. Лётчик-штурман, нашол меня, адзінокую, у вайну. Пражылі с ним столька год. За ним — никакога гора не знала. Все принясет, все досмотрит. Никогда слова грубого. Только и слышала: «Косточка, не волнуйся...» Видели его скромность, застенчивость. О нём ведь — юном коммунаре — Макаренко в своей «Поэме» [«Педагогическая поэма»] вспоминал.. Асіраціл мяне мой лётчык... Пара і мне — за ним...

Спакайнеючы, хвіліну памаўчаўшы, працягвае аркушык у палову ліста, горка дадаючы:

— Вот і ўся паэзія Буйлянкі...

Верш той — трагічнае прадчуванне неадольнага зыходу ў небыццё — пазней аб'явіцца на старонках «Скарыніча», вып.6:

І ніхто з табою не раздзеліць

Жаху той, апошняе хвіліны...

А яе як восень яблык — спеліць

Старасць — што зацісне ў дамавіну.

Аднак жа засталася іншая, жыццядайная песня — «Люблю...» Сонечная, неўміручая — пакуль жыве народ і дорыць свету песняроў-паэтаў.

---

[1] ССОД — Союз советских обществ дружбы и культурных связей с заграницей.

[2] Тэафіль Ленартовіч (1822-1893) — польскі паэт, якога Аляксандр Брукнер назваў некалі «польскім Кальцовым».

[3] Калечыц Віталій, вучоны-аграрнік — першы муж Канстанцыі Буйлы, рэпрэсаваны ў 1937-м.

2010

# З варшаўскіх старонак

Узрушылі згадкі Чэслава Сэнюха ў “Беларускім дайджэсце” (студзень 2000) – аб шляху да беларушчыны нашага польскага калегі-пабратыма. Да таго ж, спадар Чэслаў не прамінуў і мае сціплае парсуны (хто з нас ад сціпласці не памрэ…). Помню супольнае з ім шчыраванне, ня раз у засені Лазенкаўскага парку, над польскай, беларускай паэзіяй, асабліва Купалавай. Цяпер з ладнаватае ўжо адлегласці ў 20 гадоў як жа выразна, непаўторна ажывае ў памяці маё тагачаснае таварышанне “беларускае” з польскімі культурнікамі. Абок сп. Сэнюха рупіліся на палетку польска-беларускага сваяцтва духоўнага Эўгеніюш Кабатц, Ежы Путрамент, Ігар Сікірыцкі, Тадэвуш Хрусцялеўскі, Фларыян Няўважны, дзеячы ТППР (Таварыства прыязні польска-радзецкай) Вацлаў Баршчэўскі, Халіна Мікрут, Ганна Ратусь, Ежы Анташэўскі. З імі выпала мне найбліжэй сыйсціся цягам свае дыпламатычнае місіі ў Варшаве на памежжы 1970-1980-х.

Не забудуцца Дні беларускай літаратуры, ладжанныя Галоўным Праўленнем ТППР восенню 1982 году, у вастрэйшым крызісным часе. На высокім узлёце лунала тады ў залях Варшавы, Лодзі, Торуня, Беластоку, Любліна слова, песня беларуская. Ды і прэзэнтанты хараства нашага былі на ўзроўні – Максім Танк, Анатоль Грачаннікаў, Іван Чыгрынаў, Вячаслаў Адамчык, Адам Мальдзіс, Уладзімір Някляеў. Авацыі ж варшавян ў перапоўненай Кангрэсовай на выступы Беларускага ансамблю песні і танца пад кіраўніцтвам Міхася Дрынеўскага трэба было ўбачыць, пачуць, перажыць… Трапяткі ўспамін! Тады ж, памятаецца, даведаўся я і пра вытокі літаратурнага псеўданіма нашага магутнага Паэта-класіка. Паколькі літаратура беларуская – з лёгкім гумарам разважаў Яўген Іванавіч падчас сустрэчы на філфаку Варшаўскага ўніверсітэта – тады ўжо разабрала ўсе псеўданімы з прыроды – Купала, Колас, Чарот, Бядуля – мне нічога не застаалася, як узяць нешта з жалезнага, баявога: Танк. Берут Баляслаў пытаўся, чаму выбраў такое прозвішча літаратурнае. Грэх маладосці, – аджартаваўся ў адказ. Маладым лічыў, не гэтулькі талент, праца, колькі псеўданім

нешта значыць. Пазней даведаўся пра танку – кароткую паэтычную форму ў японскай літаратуры..

З гэтае ўзрушлівае нагоды не магу не згадаць яшчэ аднае яркае постаці, прыязнага нашай справе паляка – Юзафа Озгу-Міхальскага, паэта, дзяржаўнага дзеяча. У многім яго грамадзянская пазіцыя, аўтарытэт, заангажаванне беларушчынай ( узнчальваў польскую дэлегацыю на святкаванні 100-х угодкаў Янкі Купалы ў Мінску, Вязынцы) паспрыялі паспяховаму правядзенню спомненых “Дзён”. У тым жа 1982 г. у “Tygodniku kulturalnym” (№ 16) ён выступіў з грунтоўным артыкулам пра аўтара “Жалейкі”, разам са сваім перакладам верша “Магутнае слова, ты, роднае слова…”. Вянчаў тую беларускую старонку ў польскім тыднёвіку бунтоўны Купалаў “Прарок”, спольшчаны Чэславам Сэнюхам:

Powstańcie dusze niewolnicze!
Odwieczną spiaczkę zrzuccie z siebie!
Niech w waszym głosie grom zaryczy
I zniewolieniem zakołebie
…………………………………………
Na przekór krwawym przeciwnościom
Zrzucajcie jarzmo! Slijcie wici
I ludziom wszego świata głoscie,
Ze być narodem potraficie!

Хвілінай тугі прыпадаю да грукотна-гаючага купалавага радка: “І дайце знаць усім народам – які вы моцны йшчэ народ!”. А водглас пранікнёны польскага сябра дадае веры ў нашае будамжыцце – што быць народам шчэ патрапім. Пэўна патрапім!

2000

# Сябра на Тамцы

Юрка Туронак

Не маю аніякіх манапольных прэтэнзій на сяброўства. Ведаю добра, што для многіх ён свой — гэты сымпатычны, з прытоенай, іранічнай усьмешкай на вуснах, з праніклівым, вастраватым паглядам, з маладою, "пад ёршыка" прычоскай і ўвогуле чалавек неадольнае прыщягальнасці, наш Беларусін у Варшаве. Адным словам — неотразимый. Такім ласьне памятаю яго з першага нашага знаёмства, гадоў за дваццаць таму — цёплым жнівеньскім вечарам на варшаўскай вуліцы Tamka. Гаманілася нам, як на першы раз, даволі свабодна, раскована, шчыра. Пэўна й тэма — забранага Краю трывушчасьць — адпачатку прадвызначыла тую непадробную, спавядальную атмасферу, што ўжо колькі часу спрыяе ўзаемнаму таварышанню двух суродзічаў на процілеглых кропках Усходу-Заходу, Масквы і Варшавы. Ды і жанкі нашыя, Соня і Зіна, прыязныя ўзаемна з тага ж першага спаткання, на свой, мілы жаночы лад цепляць, ахарошваюць гэтую повязь. Хаця кабеты — гэта ўжо лірыка і наогул лірычныя ўсхліпы не вельмі таранаваліся б да партрэта майго варшаўскага калегі, чалавека выразна рацыяналістычнага, лагічнага, на зайздрасць, складу, стала й напружана засяроджанага над Справай, якой упарта і плённа слугуе. Аб характары й плёнах гэтага слугавання — Туронкавы жыццяпіс і бібліяграфія, друкуемыя ў нашым альманаху [Скарыніч. Вып.4, 1999]. "Па плёнах пазнаеце іх..." — назва аднае з яго публікацый. — Як жа сімвалічная дзеля цэласнага ўспрыйманьня творчага аблічча аўтара кніг пра адраджэнца Вацлава Іваноўскага, пра беларускае трыванне і незалежніцкія парыванні пад нямецкай акупацыяй падчас Другой сусветнай вайны, урэшце кніжачкі пра Браніслава Туронка, медыка, вядомага студэнцкага дзеяча ў Заходняй Беларусі, чыё імя таксама ўвечнена ў творчых набытках яго сына.

Колькі ж нашага брата (без лірыкі нельга, аднак...) ступала на гасцінны парог светлае аднапакаеўкі на пагурыстай Тамцы. І як жа даляглядна, уражальна з вышыняў Туронкавага жытла глядзіцца неабсяжная панарама польскае сталіцы. І як смачна і

гостра гамоніцца там гасьцяванцам з гаспадаром — пра Беларусь, Беларушчыну… Адрас варшаўскага Беларуса... Адраджэньне нашае ведае нямала падобных адрасоў — у адной асобе, пад адным дахам: беларуская і гісторыя, і культура, і навука, і ўніверсітэт, і энцыклапедыя, урэшце, беларуская царква. Словам — "нашае ўсё", адкуль наталяемся, падмацоўваем аслабелыя сілы, чэрпаем веру й надзею ў глухія часы безнадзейнасьці. Кватэра Браніслава Эпімаха-Шыпілы на Васілевостраўскай у Пецярбурзе, Івана. Луцкевіча пакойчык на Віленскай Пагулянцы, Зоські Верас хатка лясная ў ваколіцах Вільні, дамок (пад наглядам) Ларысы Геніюш у Зэльве, маскоўскі адрас Мікалая Ўлашчыка... Цяпер вось і вуліца Тамка ў Варшаве...

"Голас душы" — сціпленькі. беларускі малітоўнічак, падараваны мне Юркам пад першую сустрачу-разьвітаньне. Летась кніжачка, сярод іншых беларускіх друкаў, павандравала далей, да суродзічаў у Сібір. Магчыма і Алег Рудакоў, малады, творча мабільны зямляча з Іркуцку, калісь таксама завітае на Туронкаў парог. Крэўныя душы ў бязьмежжы не губляюцца.

1999

* * *

Вясной 1979 прыехаў я ў Варшаву з дыпламатычным пашпартам – мацаваць культуровыя сувязі, савецка-польскую дружбу. Тады ж даверыў Юрку машынапісную копію ананімнага“Письма русскому другу”. Праз які час калега ашаломіў радзецкага дыпламата некалькімі, ужо выдавецкімі асобнічкамі –“Letter to a Russian Friend: A “samizdat” publication from Soviet Bielorussia.—London 1979 “. Адзін з тых асобнікаў, як пазней даведаўся, біскуп Чэслаў Сіповіч пераказаў , падчас аўдыенцыі у Ватыкане, папу Рымскаму Яну Паўлу Другому – так што бібліятэка Святога Прастолу абагацілася яшчэ адным выданнем беларускім. Такім макарам “паспяховы цэковец”(па вызначэнні аднаго з дасведчаных у чужых біяграфіях) апынуўся сярод міжвольных “дэсідэнтаў”. Трыма гадамі пазней стараннямі Юркі перавандраваў на Захад пераказаны з Менску (“крышаваны” тым жа дып.пашпартам) рукапіс Алега Бембеля

“Родная мова і маральна-эстэтычны прагрэс”, таксама выдадзены нашымі суродзічамі ў Лондане. Зрэшты, аб тым згадвае і Ю.Туронак у сваіх успамінах.

2012

# Нясціханы пошум Белавежы

Мікола Гайдук

*"Як надарыцца вам калі-небудзь пабываць у Белавежскай пушчы, вы абавязкова прыслухайцеся да яе гоману. Не маўчыць яна ніколі.."*

Вось і цяпер, прытулены ў дамку сваім на лапіку зямлі расійскае, за Акой, прагортваю крыху ўжо пабляклыя старонкі тае кнігі – "Аб чым шуміць Белавежская пушча. Казкі і легенды сабраў апрацаваў Мікола Гайдук. Беласток 1982". І здаецца, адчуваю таёмны подых чагось далёкага, роднага. Пачуццё крэўнасці падварушвае і кранальны аўтограф на тытульнай бачыне: "Шаноўнаму, дарагому Аляксею Канстанцінавічу Каўко на добры ўспамін і з надзеяй што Белавежа вечна будзе шумець па-роднаму, па-беларуску… 16.12.1982".

Важкае гэта прзішча Гайдук – наша даўніннае – прыгарнулася да мае памяці недзе ў 1970-х, са старонак беластоцкае "Нівы", якая з ласкі сяброў-менчукоў (Васіль Талстой, Лёўка Мірачыцкі) калі-нікалі трапляла на мой маскоўскі адрас. Пазней, па знаёмстве з Юркам Туронкам, буду зрэдчас і з Польшчы атрымоўваць тую газету – сваім беларускім ладам як жа прывабнейшую ад некаторых тагачасных БССР-скіх афіцыёзаў. У адным з нумароў нечакана натрапіў было на водгук за подпісам М.Гайдука на маю кнігу аб польскай айчыне і сацыялізме. Натуральна, да зацікаўлення прозвішчам беластоцкага суродзіча дадалося й пачуццё ўдзячнасці, што і выказаў яму пры непасрэдным знаёмстве.

Надарылася ж прыемная аказія на зыходзе чэрвеня 1982г. Прадстаўніку Савецкіх таварыстваў дружбы і культурных суязей з замежжам, радцу Амбасады СССР у ПНР нарэшце выпала дапасці Беластоку, па якому ўпотай млела яго беларуская істота, але розныя дыпламатычныя ўмоўнасці неяк перашкаджалі спатоліць тое імкненне. Пакуль мілая прыветная маладзічка Марыя Альшэўская-Трахімюк, сакратар ваяводскага праўлення ТППР (Таварыства прыязні польска-радзецкай) station ўка не запрасіла "пана радцу" наведаць яе гаспадарку. Вось тады з кіроўцам маім панам Баалеславам Валянчэем

(рэпатрыянтам з Слонімшчыны) і рушылі хуткабежнаю "Волгай" у жаданым напрамку.

Па адбыцці ў горадзе пратакольных візітаў у фармаце "непарушнай польска-радзецкай" (далікатна, праз коску, закраналася й польска-беларуская) наведалі рэдакцыю "Нівы". Там пры незнарочыстай гаворцы і пазнаёміўся з М.Гайдуком, Кастусём Майсенем, Віктарам Рудчыкам, Адай Чачуга. Была потым у тыднёвіку адпаведная нататка з калектыўным фотаздымкам – стараннем таго ж Міколы. Вечарам ён завітаў да мяне ў гатэль, запрашаючы да сябе ў адведзіны. У яго зграбным, на ўскрайку горада, катэджыку пры гасцінным стале ў нязмушонай бяседзе бавілі гадзінку-другую.

Помню, расчулілі "маскаля" сачыстая перасыпаная афарызмамі беларушчына гаспадара, такі ж сама лагодны галасок яго гаспадыні – пані Ліды. Аказалася, абое – выпускнікі Беларускага уніерсітэта, які і госцю крыху пазней ад іх давялося скончыць. Спомніліся выкладчыкі, студэнцкая атмасфера. Трымаўся я не сказаць каб абачліва, але троху стрымана, не вельмі расхінаючыся ў нераўнадушшы сваім беларускім (сцены, вядома, ці не ўсюды патрапяць "слухаць"; тым болей, што стараннямі пасольскіх ды іхніх польскіх інфарматараў ужо значыўся на "indexe". Пазней адна паважная функцыянерка з ТППР прылюдна, калі верыць Чэславу Сэнюху, каментавала маё вяртанне ў Маскву: Wreszcie wypierdolone tego nacjonalistę białoruskiego…). Разнявленей, шчырэй гаманілася нам ужо пакінуўшы гасцінны парог. Мікола падахвоціўся правесці назад да гатэлю. Настоеная цеплынёй поўнач – крочылі нейкай пясчыстай, не вельмі асветленай вуліцай – па-свойму спрыяла размове. Болей гаварыў, выжальваўся нават Мікола, не тоячы скрухі адносна тагачаснай, за Герэкам, палітыкі "jednonarodowego państwa" ("адзінанацыянальнай дзяржавы"), занядбаннем развіцця нацыянальнае меншасці на спрадвечным абшары беларускім. На асцярожную заўвагу субяседніка, маўляў, ёсць жа Беларускае культурнае таварыства, нешта ж робіць – кнігі патроху выдае, навагоднія балы ладзіць (на адным з такіх меў прыемнасць прысутнічаць) рэзка запярэчыў:

–Ат! Толькі што "балююць". Спытай каторага з сотні тых святкаванцаў – калі кнігу беларускую ў рукі браў; добра

адзін-другі знойдзецца. А слова роднае ад іх ці пачуеш. За бацькамі й дзеці беларускага цураюцца змалку, настаўленыя саромецца свайго. Згадаў аднаго грамадскага дзеяча, чыя дачушка-матурыстка запісалася полькай. Так вось паціху-паволі, канстатаваў з сумам, жывыя беларусы "паміраюць", – зачыняюцца крамкі, адыходзяць родныя мамкі. І не даць рады, пане мой, такі клімат запанааў. Аднак жа, працягваў, нельга кідацца ў роспач, грэх. Колькі нас засталося – трэба руціцца, пакуль сілы. Далей перайшоў на свае клопаты ў падрыхтоўцы школьных падручнікаў, у адчытанні багатай мінуўшчыны беларускай на беластоцка-падляскім арэале. Не абышлося ў той размое без супольнага папроку па адрасу метрапольнае Беларусі, дзе татальная русіфікацыя парадаксальна падхлістае паланізацыю супляменнікаў за мяжой. Так між гаворкай дапялі майго начлегу, абняўшыся на развітанне саўсім блізкімі, па-братэрску.

Назаўтра раніцой, перад візітам у ваяводскі камітэт ПОРП да сакратара М. Козака (сымпатычнага, з беларусаў, партыйца) заглянуў пад учарашнюю міколаву "наводку" у царкву, недалёчка гатэлю. Прамаўчаў малітоўна ля алтара колькі хвілін, выходзячы набыў два асобнічкі "кішэннае" Біблії, адзін з якіх дасюль на маім стале – свяшчэннай памяткай незабыўнае беластоцкае адысеі.

На сыходзе таго ж году сустрэліся з Міколам у Варшаве ў маёй "прадстаўнічай" кватэры на ціхай вулачцы Jaworzyńskiej, стуленай паміж гуллівымі Маршалкоўскай і Польнай. Познім снежаньскім вечарам "чайкавалі" у "халасцяцкім" пакоі (хваравітая жонка заставалася ў Маскве), перакідаючыся трывожнымі – пад тагачасны stan wojskowy – навінамі, меркаваннямі. Умовы для беларускае працы ў тэй пратэстна-"салідарнасцёвай" завірусе, як вынікала з міколавага роспавяду, не лепшалі, у нечым нават пагаршаліся. Бянтэжыла паглоска аб магчымым закрыцці "Нівы" (такая прапанова з боку міністэрства унутраных спраў сапраўды была, але ў партыйных вярхах яе не падтрымалі, магчыма палічыўшыся з адпаведнай засцярогай радзецкае Амбасады). Дзякваць Беларусі, ужо весялей зазначыў, гэтым разам вельмі дарэчы падмацавала дух наш. Меліся на ўвазе нядаўнія Дні беларускай літаратуры ў

Польшчы, наведванне Максімам Танкам, Іванам Чыгрынавым, Анатолем Грачаннікаым Беластоку, беларускага ліцэя ў Бельску, сустрэчы пісьменнікаў з актывам, вучнёўскай моладдзю. Каб жа, маўляў, часцей падобныя спатканні. У межах спомненых "Дзён" была разгорнута выстава беларускай кнігі, графікі ў Доме польска-савецкай дружбы. Мікола даволі прафесійна, з незаменным сваім нацыянальным вычуленнем адгукнуўся ў "Ніве" на дэманстраваныя ў экспазіцыі творы М. Купавы, за што падзякаў яму, паколькі рэпрадукцыі мастака пра Дуніна-Марцінкевіча, Кастуся Каліноўскага, купалаву Вязынку былі прапанаваны грамадскай увазе з мае асабістае калекцыі. Тады ж, памятаю, прачытаў госцю некалькі "недыпламатычных" нататак з свайго варшаўскага дзённіка (пазней часткова публікаванага ў "Дзеяслове").

– Што я скажу табе, дружа,– дасюль, здаецца чую яго басавіта лагодны голас, бачу глыбокі пагляд цемнаватых вачэй. – Папрасі сваяго Соніка, ці хто яна ў цябе, няхай ўсё перапіша, сам нічога не папраўляй, бо толькі папсуеш. Можа калі надрукуецца. Затым нечакана падагуліў з лёгкай смяшынкай на вуснах: Вось і пазнаёміліся.

– Толькі цяпер? – пытаюся, крыху здзіўлены.

– Па-праўдзе, напачатку ўспрыняў цябе такім сабе дзеячом-дыпламатам, што бавіцца ў беларускасць. І дастаўшы з авоські спомненую кнігу "белавежскую", надпісаў мне. Я падвёз сябра на Цэнтральны вакзал і дзесь блізу поўначы ля цягніка на Беласток мы развіталіся.

Ужо з Масквы перакінуліся было некалькімі аказійнымі паштоўкамі, але да глыбейшага ліставання чамусьці не дайшло. Ведаючы яго заангажаванне нашаю даўніной даслаў яму кнігу М.Улашчыка пра беларуска-літоўскае летапісанне з дарчым надпісам аўтара. (Спадзяванага водгуку ў "Ніве" здаецца не з`явілася).

Знову сустрэліся амаль праз дзесяць гадоў – у Менску на юбілеі Праваслаўнае царквы ў Беларусі. Зграмадзілася з нагоды спора запрошанага народу – святары, навукоўцы ці не з усіх славянскіх краін. Быў сярод гасцей і архіепіскап Мікалай (Мацукевіч) – першы іерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы ў эміграцыі. У нататніку маім пазначана

некалькі відушчых словаў Уладыкі з прамовы на паседжанні ў зале Нацыянальнае Акадэміі Навук: “Калі святар не шануе мовы свае паствы… Каб праваслаўная царква на Беларусі стала поўнасцю беларускай, на карысць беларускаму народу і Богу ка славе”. Між іншым, кіраўнік польскай царкоўнай дэлегацыі прамаўляючы на другі дзень падчас урачыстасці ў Оперным тэатры трымаўся выключна рускае мовы (нават не польскай). Стрэнуўшы Міколу ў гатэлі (госці кватаравалі ў “Планеце”) я не ўтрымаўся ад мяккага, мабыць нетактоўнага папроку – у тым сэнсе, што слугаваць сакральнай беларушчыне дзесьці над Гудзонам лягчэй, чым над Нарвай… Сябра неяк адразу паніклым голасам пагасіў тэму, далей варушыць нешта падобнае не выпадала ды і ён спяшаўся на нейкае спатканне. Прытым паспеў, на маё суцяшэнне, паведаміць, што мітрапаліт Філарэт даволі сардэчна прымаў у сваёй рэзідэнцыі нашага архіепіскапа-замежніка. Назаўтра, зноў похапкам, пабачыліся на карыдоры. Мікола кінуў на ляту камплімента за “талковую” гутарку маю з карэспандэнтам беластоцкага радыё. – Гэта ж я напусціў яго на цябе, прызнаўся ўсміхнуўшыся, – ведаў, не падвядзеш.

Болей сустракацца нам не выпала. Па нядоўгім часе пачуў пра адыход яго, светладумнага апантанца ідэяй Беларускай, у іншы свет. Хаця і тут, скрушліва падумалася, мог бы Ён яшчэ доўга слугаваць высокаму пакліканню. Як, прыкладам, сваёй, нажаль апошняй кнігай “Паратунак”, пасмяротна выдадзенай у Мінску:

“Нічым не паскупілася гісторыя нашаму народу: незлічонымі ахвярамі ўслала яна нашу зямлю і не меней іх пазбавіла шчасця скласці косці ў ёй на вечны спачын. Ці то наша слабасць?

“Не, гэта наша сіла; значыць наш народ – невычэрпная крыніца моцы і энергіі. Калі толькі і хто толькі не таптаў нашае зямелькі? Уздоўж і ўпоперак здратавана яна чужынцамі; усім жа вядома, дзе часта топчацца, там мала што расце. І ўсё ж, наперакор усяму злому, нашыя продкі ператрывалі найгоршыя нягоды і здзекі і стварылі і пранеслі праз стагоддзі кроўную нацыянальную еднасць і самастойны духоўны быт… І хоць ніколі не лічылі таго подзвігам, штодзень здзяйснялі яго

мільёнамі істотаў ужо тым толькі, што жылі сваім звычаем, размаўлялі на роднай мове, працавалі на бацькоўскай зямлі і не даліся затаптаць ні панскай лакавай пантофлі, ні салдафонскаму керзаваму боту”.

Вось жа і нам, жывым, пры запаветным настаўленні папярэднікаў і сучаснікаў нельга апушчаць рук. Покі сілы, мусім рупіцца на спрадвечным палетку, ладзіць Дом беларускі, даглядаць беларускі Сад. Ці не пра тое і пошум легендарнае Белавежы. І – трапяткое слова светлай памяці руплівага Белавежца.

красавік 2012

# Клопат Аляксандры Бергман

*На пачатку студзеня 1983 г. пакідаў я Варшаву, давяршыўшы службовую, амаль чатырохгадовую камандзіроўку ў якасці Прадстаўніка Саюза савецкіх таварыстваў дружбы і культурных сувязей з замежжам (ССОД), радцы Амбасады СССР у ПНР. Напярэдадні адбылася наша размова з пані Аляксандрай у яе кватэры на Алеях Ерусалімскіх. Былі мы збольшага знаёмыя,зрэдчас кантактавалі - пераважна "тэлефанічна", асабліва, калі "пану радцу" рупіла штосьці ўдакладніць з мінулага беларускага рэвалюцыйнага (націскалася ж, зразумела, на "рэвалюцыйнасць") руху. Аўтар грунтоўнай манаграфіі пра Браніслава Тарашкевіча (перад тым і мне прэзентаванай), публікацый пра іншых дзеячоў вызваленчага змагання ў Заходняй Беларусі, ёй добра знаёмага з асабістага досведу, была цікавым субяседнікам, прафесійна – пераканаўча адгукалася на кожнае запытанне. Падчас развітальнае сустрэчы яна падзялілася некаторымі меркаваннямі-парадамі . Адшуканая ў маіх паперах сціслая нататка з тае сустрэчы магчыма зацікавіць каго іншага, засяроджанага над адпаведнай тэмай.*

* * *

Тарашкевіч... Аб ім сёе-тое напісана. Але ж постаць — глыбокая, супярэчлівая, яе - даследваць, спасцігаць. Дамок у Радашковічах - каля шпіталя, на пагорку. Вера Андрэеўна [Ніжанкоўская - першая жонка Б.Тарашкевіча] . Там Браніслаў друкарку хаваў, - на ёй "Іліяду" па-беларуску перадрукаваў. Бясьпечна - вокны з усіх бакоў. Цяпер у тым будыначку — трупярня. Абяцалі, што зробяць там музей Тарашкевіча, але дасюль - ні з мейсца.

Самае галоўнае, што мяне хвалюе, чаго я не разумею - гэта Тарашкевічаў пераклад "Іліяды". Шукаць яе трэба ў Мінску. У 1935 годзе была ж здадзена ў Белдзяржвыдавецтва, пра тое сам Браніслаў у аўтабіяграфіі піша. Тады ж "Полымя рэвалюцыі" апошні раздзел надрукавала. Такім чынам, тры адрасы "хавання" рукапісу: 1) у самога перакладчыка; 2) у выдавецтве; 3) у КДБ.

Рыгор Шырма казаў, што "Іліяда" ёсць у Мінску. У 1956 г. рукапіс давалі чытаць у Саюзе пісьменнікаў, а потым забралі назад, рашыўшы, што друкаваць ня трэба.

А цяпер уявіце, ёсць выдавецтва "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя", ёсць "беларускі" Гамер. Але ў фрагментах. А ёсць жа цэлы твор! У "Полымі", 1982 г., №1, была нататка пра пераклад усяе "Іліяды". Варта выйсці на Максіма Танка. Была б я шчаслівая даведацца перад сваёй смерцю, што робіцца з "Іліядай".

У Вільні - Цэнтральная бібліятэка Акадэміі навук Літвы, аддзел рукапісаў, фонд 21. Рукапісы, другія матэрыялы Уладзіміра Самойлы - дасюль толкам не асвоены. Няхай бы Сцяпан Аляксандровіч скіраваў каго са сваіх студэнтаў папрацаваць там. Вельмі шкада, што 100-годдзе Купалы не скарысталі для рэабілітацыі Самойлы. Калі я атрымала том БелСЭ з персаналіяй аб ім - смяялася... А ён жа - фактычны ідыёлаг беларускага народа - нараўні з братамі Луцкевічамі, Купалам. Рускі Самойла цвёрда ставіў на Беларусь, верачы, што такі нешта будзе з гэтым народам. Але ж так усё [трагічна] абярнулася - рэпрэсіі, "пасадкі"... Зразумела, калі не зважаць на манаполію камуністаў у нацыянальным пытанні.

А ў Радашковічы Вам варта наведацца. Заглянуць на мясцовыя могілкі. Пахадзіць слядамі Ядвігіна [Ш.], Купалы, Тарашкевіча, Танка. У Мінску скрозь гаварылі па-руску, у Радашковічах - амаль усюды па-беларуску; такая калыска беларушчыны.

Дарэчы, яшчэ пра Тарашкевіча. Яго бліжэйшым сябрам па гімназіі быў Арцішэўскі, будучы прэм'ер Польшчы, які намагаўся выкарыстаць былога гімназійнага сябра супроць беларускага руху. У Архіве новых актаў [Варшава] захоўваюцца паперы Арцішэўскага, - можна і там нешта вартаснае знайсці па беларускаму пытанню...

1983

# Наш Мікола Каспяровіч

Яму змоладу пашчасціла вызначыць магістральны накірунак свае ўласнае дарогі: Беларусь, беларушчына, пазнаванне роднага краю. Нямала патрапіў за нядоўгае жыццё зрабіць гэты надзіва адораны прыродай і бацькамі, высокай культуры Беларус. Менавіта праз яго апантанасць абраным шляхам дачасна, на чацвёртым дзесятку, гулагаўская куля абарвала шлях Мікалая Іванавіча Каспяровіча.

Пазалетась, у маі 2000 года, ва ўтульнай зальцы Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва адзначаліся 100- я ўгодкі вядомага нацыянальнага культуролага, краязнаўца і народазнаўца. Назаўтра завяршыліся чытанні акалічнасцёвай урачыстасцю у Чырвонакастрычніцкай школе Пухавіцкага раёна (у ваколіцах былое вёсачкі Ізабялева), увечненай мемарыяльнай дошкай у памяць славутага земляка. Тады ж з Алесем Карлюкевічам, рупліўцам «Каспяровічавага шляху», паладзілі мы, чэрвенец і пухаўчанін, наконт супольнага права гонару двух суседніх раёнаў — Пухавіцкага і Чэрвеньскага — за гэтую адметную постаць, гадунца колішняе Ігуменьшчыны. «Няма спрэчкі, —лагодна рэплікаваў на мае развагі калега Алесь,— ёсць супольная пабратымчая крыніца». З тым самым велікадушным зразуменнем удзельнікі чытанняў — Алеся Гесь, Ганна Жукава, Ганна Запартыка, Таццяна Кекелева, Віталь Скалабан, а таксама сын Міколы Іванавіча — Аляксандр Мікалаевіч Каспяровіч, вучоны-матэматык з Новасібірска, — вяртаючыся назад і праехаўшы Мар'іну Горку, згодна папрасілі вадзіцеля мікрааўтобуса збочыць на Чэрвень. Мне карцела завітаць да радні, а ўсім нам — зведаць яшчэ адзін кавалачак Каспяровічавай дарогі.

Хвілін дваццаць язды хуткабежнай шасэйкай, і нашае аўто абагнуўшы цэнтральнуто плошчу гарадка, прытарможвае ля двухпавярховае цаглянае будыніны. Тыповая для пачатку мінулага веку камяніца, у якой за сотню год перабыло-перамянілася безліч уладаў... Цяпер тут месцяцца раённы краязнаўчы музей, бібліятэка. Адчыніўшы цяжкаватыя парадныя дзверы, прыпыняемся перад старадаўняй, выслізганай

гадамі-дзесяцігоддзямі цокальнай лесвіцай з мудрагелістай рашоткай пад парэнчамі. Па ёй, гзтымі ж прыступкамі, узыходзіў-сыходзіў калісьці малады Каспяровіч (1920 год), прадстаўнік Беларускага нацыянальнага камітэта ў Бабруйскім і Ігуменьскім паветах, «інструктар па беларускіх нацыянальных справах», арганізатар першых краязнаўчых гурткоў, беларускіх школ у раёне.

Непадалёку, ля тае самае плошчы, другая, з выгляду сціплейшая двухпавярховая камяніца. з «мемарыяльным» напамінам: тут, у Ігумені, нарадзілася Марыя Апанасаўна Мякота — маці Максіма Багдановіча. Жанчынкі асцярожна прыладжваюць ля помнае дошкі пучок вясновых палявых кветак, сабраных на ўзбоччы пухавіцка-чэрвеньскае шасейкі. Пацяплелы і трошкі зажураны прытамлёным сонейкам маёвы надвячорак прыспешваў дадому. Завурчэў рухавічок, і мае мілыя спадарожнікі, пажадаўшы маск оўскаму падарожнаму прыемнага гасцявання, падаліся ў напрамку мінскае шашы.

Рушыў я ў процілеглы канец горада, да сваіх крэўных, —цэнтральнай вуліцай Карла Маркса, збочваючы на Луначарскага, міиаючы Чапаева, Пралетарскую, Зоі Касмадзем'янскай, Рэвалюцыйную, Чкалава, Мяснікова, Гарбачова (ранейшага рэвалюцыянера-камісара)... Думалася ж, смылела пад сэрцам пра іншыя, раднейшыя памяці і пачуццям назвы-імёны (прыдзе новы а мудры палітьгк у забраны, вызволены Край...): Марылі Мякоты, Міколы Каспяровіча, тутака ж, на гэтай зямельцы яны нарадзіліся, вучыліся, сталелі, адсюль выпраўляліся ў далёкі, цярністы шлях, здабываючы хвалу роднай Беларусі.

Ішоў я, цеплячы ў акаёмах душы, мроячы пра нашага, майго Каспяровіча — часцінку свайго патаёмнага мікракосмасу, што таёмным лучывам яднае цябе з неабдымн ымі абсягамі-высямі Культуры — Народа — Чалавецтва і шчырае, нязмушонае чалавечнасці... Дасюль хваляванне маё падварушвае мілая назва Равецкі Бор, сядзібы маіх дзядоў і бацькоў — Маркі Атрашэўскага, Зосі Фінскай, Ганны Атрашэўскай, Косціка Каўкі. Хто ведае, можа, і іх не аміналі страсці (без чаго часам не аб ыходзілася) пры адкрыцці стараннямі Міколы Каспяровіча першае ў наваколлі школкі беларускае. Паселішча тое, праз

«неперспектыўнасць», даўно знікла з адміністрацыйнае мапы Чэрвеньскага раёна. Хаця яшчэ на апусцелай аселіцы пахіствае мгутнаю кронай адзін-другі разложысты дуб і доўжыць глыбокае маўчанне пацямнелы хваёвы бор, што некалі атуляў калыскі равецкіх дзяцей...

2002

* * *

З Мінскага абласнога архіва на маё запытанне ласкава адгукнуліся – Л.С.Рамашка, Л.С.Маркевіч – цікавымі, у нечым нечаканымі звесткамі пра майго знакамітага земляка-ігуменца, народжанага (увага, Алесь Карлюкевіч)… недалёка мае колішняе вёсачкі Равецкі Бор. Вось што сведчыць дакумент: "Касперович Николай Иванович 1900 (1897)—так у тэксце—*А.К.*) года рождения, уроженец д. *Новоселки Хуторской* волости, место прописки – п.о. Хутор, образование – учительская гимназия, по другим сведениям – высшее начальное училище, два курса Минского институтта народного образования. Приобретенная специальность – школьный работник (шкраб), на службе в должности шкраба с 01.10.1917 г.» Настастаўнічаў у вёсцы Міраслаўка Брадзецкай воласці – разам з жонкай Надзеяй Станіславаўнай (1897 г.). З тых жа крыніц даведваемся пра састаў яго сям`і ў 1929-1930 г.(абок жонкі – маці Тэкля Станіславаўна 70 год, сын Юрый (так у даведцы) 6 год ; іхні менскі адрас – Грыгор'еўская, д..14, кв 2 (вугал вул. Леніна і Універсітэцкай), а таксама – пра яго, навуковага супрацоўніка Беларускай Акадэміі, адзінага кармільца сям'і заробак, уключна з літаратурнымі ганарарамі (за кнігу "Краязнаўства", рэдагаванне часопіса "Полымя").

Яшчэ раней прозвішча Касяровіча, маладога настаўніка з Ігуменшчыны, сустракаем сярод удзельнікаў надзычайнага сходу Рады БНР. Не выключаў бы яго ўдзелу ў выдаванні літаратурна-публіцыстычнага тыднёвіка "Родны край (Ігумень, 1917. № 1), у пастаноўцы на мясцовых падмостках Купалавай "Паўлінкі", аб чым сам пад псеўданімам М.Барацьбіта паведамляў у газеце "Беларусь" ад 20 студзеня 1920 г. Так што

чарговыя Каспяровічавы чытанні на яго радзіме – у Чэрвені (Ігумені) былі б саўсім дарэчы.

У далёкай Сібіры стрэнуў свой апошні, пакутны прыпын наш светладумны змагар-патрыёт. А на ўзвышшы-пагосце каля вёскі Горкі, наўзбоч шасейкі Чэрвень-Ляды пакоіцца прах Сімы Каспяровіч, у замустве Шыманскай – роднае сястры Міколы Каспяровіча, маці с.п. Валодзі Шыманскага, майго сябра ў дзяцінстве-юнацтве, таленавітага актора-рэжысёра. Штовесну, на Радаўніцу, наязджаю да таго сакральнага пагурка – пахіліцца, памаўчаць над утравелымі курганкамі мае маці, маіх дзядоў і бабулі, над магілкамі родных сясцёр, дзядзькоў і цётак, блізкіх сяброў, знаёмых. Вяртаючыся тым жа, Каспяровічавым шляхам…

2012

# Мікалай Улашчык: выжыць-перамагчы

Увогуле ён пазьбягаў высокіх, квяцістых словаў. Мікалай Улашчык - хто яго ведаў бліжэй - само ўвасабленьне стрыманасьці, нутранае засяроджанасьці, стоенае іроніі да ўсяго хадульна-напышлівага. Носьбіт тых тыповых якасьцяў, што змалку пераймаюцца ад бацькоў, сям`і, фармуюцца самастойным ладам жыцьця-быцьця. З гэтага гледзішча Ўлашчыкаў жыццёвы шлях уражальна прасочваецца на старонках ягонае аўтабіяграфічнае «Хронікі», краязнаўчых нататак з часоў студэнцкае маладосьці. Пазьней расейскі гісторык, акадэмік М. Ціхаміраў, дырэктар Інстытуту гісторыі Акадэміі Навук СССР, паблажліва прыкмеціць мабыць істотнейшую рысу ў характары свайго супрацоўніка: «тихое белорусское упрямство». Што, зрэшты, заўважалі й шанавалі ў ім многія калегі па Інстытуту, разумеючы й падтрымоўваючы тыя беларускія сэнсы ў Кнізе Гісторыі, якія ўпарта й паслядоўна адкрываў і адстойваў аўтар кніг па аграрнай гісторыі, крыніцазнаўству і археаграфіі Беларусі, беларуска-літоўскаму летапісаньню - калі толькі з большага пазначаць яго дасьледніцкі, даволі разложысты набытак.

У многім дзякуючы працам Улашчыка Беларусь як самадастатковы факт, калі заўгодна, суб`ект сусьветнае гісторыі, наша айчынная гісторыяграфія набыла ўзнаньне міжнароднай навуковай грамадзкасьці. Прынамсі, добры тузін грунтоўных водгукаў на Ўлашчыкавы публікацыі ў расейскім, беларускім, а таксама ў ангельскім, амэрыканскім, летувіскім, латыскім, нямецкім, польскім, румынскім, украінскім, чэскім друку штосьці нам гаворыць. Хто другі вучоны-беларусіст зь ліку яго сучасьнікаў, а нават знакамітых папярэднікаў, раўня яму абсягам спомненага ўзнаньня? Гэта пры тым, што на Радзіме, у БССР, афіцыйныя ўнівэрсытэцкія, акадэмічныя структуры ў лепшым выпадку стрымана, а часцей непрыхільна ставіліся да былога «нацдэма»-выгнаньніка, усяляк блакуючы яму вяртаньне на Бацькаўшчыну. Не зважаючы на відавочны Ўлашчыкаў прарыў у гістарычнай навуцы. А йшлося ж пра тую самую нацыянальную канцэпцыю гісторыі Беларусі, якую ў расейскім асяродзьдзі фармаваў іхні суродзіч, і якая толькі ў

постперабудовачным часе пачне легітымавацца ў самой Беларусі – зноў-жа пры лютым супраціве ваяўнічых дабрахвотаў ад Міністэрстваў «Праўды» і «Братэрства» (шкада, не дачакаўся наш Гісторык беларускага выдання Оруэлаўскага памфлету-прагнозу).



*Мікалай Улашчык сярод “маладой Беларусі”: Яўген Кулік, Мікола Купава, Ірына Марачкіна, Сяргей Панізнік, Міхась Ткачоў, Міхась Чарняўскі, іншыя. Заслаўе, 1980 г.*

Адвечную дылему прарока й айчыны ён гостра пеpажыў на самым пачатку свайго творчага шляху. Нядаўні выпускнік Беларускага ўнівэрсытэта падзяліў горкі выгнаньніцкі лёс з многімі славутымі дзеячамі нацыянальнае культуры - Ластоўскім, Лёсікам, Бабарэкам, Дубоўкам, Гарэцкім, Касьяровічам, Смолічам, Азбукіным... (справа так званага Саюзу Вызваленьня Беларусі). З таго першага, як-жа трагічнага пасьледкамі, працярэбліваньня беларускае творчае нівы Улашчык - адзін зь нямногіх, ацалелых.

І бадай што адзіны, хто сваё ацаленьне напоўніцу падначаліў свайму першаснаму, асноўнаму пакліканню беларускага гісторыка. Яно змоладу віравала ў ягонай мяцежнай істоце - пагартайма трапяткія й калярытныя старонкі Ўлашчыкавага «Краязнаўства». Пазьней - бараніла ад роспачы й фізычнага вычарпаньня на «гулагаўскіх» тупіках. А ўрэшце дапамагло выжыць, каб зьдзейсьніць задуманае, - зноў-жа варта вярнуцца да ягонай «Хронікі».

Неадольную ў ім прагу да выжываньня, спомненую беларускую ўпартасьць сучасны наступнік Улашчыка назваў талентам «перайграньня гісторыі» (Алег Гардзіенка. Гісторык, які перайграў гісторыю // Arche. 2000, N 4). Герой наш – такі-ж герой – гэта добра разумеў. І – адчайна змагаўся з цяжкімі, часам трагічнымі абставінамі, выходзячы, урэшце рэшт, пераможцам. Хаця ў тым зацятым праціборстве шалі дэманічных акалічнасьцяў ня раз пераважвалі ягоную рашучую натуру і скон змагара, здавалася, немінучы.

Як у выпадку з правальным намерам уцёкаў з ссылкі за мяжу, аб чым цьмяна згадвалася ва ўспамінах ягонага старэйшага калегі па выгнаньню Яўхіма Кіпеля. Маем уласнаручныя паказаньні самога ўцекача, напісаныя 24 сакавіка 1933 года на допыце следчаму ОГПУ (справа М. Улашчыка ў Інфармацыйным цэнтры МУС Кіраўскай вобласьці). Суворыя дэталі рызыкоўнага праекту высьвечваюць, абок іншага, валявую натуру Ўлашчыка-змагара (цытуем арыгінал):

«Под влиянием того, что считал приговор слишком жестоким и не соответственным вине, я по приезде на место ссылки в Нолинск решил бежать за границу. Для этого я решил предварительно просить перевода в Вятку, так как из самого Нолинска ввиду дальности расстояния от жел[езных] дорог бежать было трудно. В Вятку приехал после двукратного заболевания воспалением лёгких, слишком слабый для побега, и имея предупреждение врача, что третье заболевание будет вероятно смертельным. В Вятке лечился у врачей и раз под влиянием минуты сказал Чернушевичу, что не имея никаких перспектив и сильно скучая, решил бежать из ссылки. Чернушевич отнесся к этому отрицательно, говоря, что это риск головой и что этого не следует делать ни в коем случае.

Уговаривал он все время, до самого момента моей посадки на пароход. Бежать думал через Вятку-Нижний [Новгород]-Москву-Бологое. Дальше смотря по обстоятельствам. При переходе [границы] расчитывал, что помогут буржуазные белорусские организации, так как при переходе должен быть арестован. При мне был бессрочный паспорт, как документ для дороги, и цианистый калий, чтобы окончить самоубийством при случае ареста на советской стороне. Ц[ианистый] калий высыпал в камере при аресте в Слободском. Достал ц. калий в лаборатории Нолинской Ш[колы] К[рестьянской] М[олодежи], взял сам при посещении лаборатории приходя к зав[едующему] лабораторией Киппелю. Ц[ионистый] калий взят без его ведома. Ц. калий был мною украден. При обыске в Медведке паспорт был у меня в носке, его не нашли.

(...) Вторично категорически заявляю, ручаюсь головой (падкрэслена ў тэксце - А.К.) и всем вообще, чем можно поручиться, что Чернушевич Н.Ф. очень резко и настойчиво уговаривал меня не делать побега, возвратиться в Нолинск и ждать конца ссылки. Писал собственноручно Улащик Н.Н.».

Пастановай Калегіі ОГПУ тагачаснага Горкаўскага краю 5-гадовая ссылка яму (тэрмін адлічваўся з дня першага арышту 11 чэрвеня 1930 году) замяняецца заключэньнем у папраўча-працоўны лягер на рэшту тэрміну.

Такі вось няпросты, варты адмысловай аповесці сюжэт кшталту «Выжыць, каб перамагчы» - з усімі, адпаведна жанру, аксэсуарамі: інтрыга, канфлікт, драматычная разьвязка... Але да катарсіснага аблягчэньня пакуль вунь як далёка!

Наперадзе - вызваленьне, вясной 1935. Аднак фармальная свабода не прынесла палёгкі. На Радзіму шлях зачынены і «сьвяціцца» там небясьпечна. Ён адчуў гэта адразу-ж цягам кароценькага адскоку ў Менск, да радні, убачыўшы павернутыя сьпіны ўчарашніх знаёмцаў. Пра аднаго з такіх насцярожліва-абачлівых пазьней занатуе ў сваёй «Хроніцы»: «Я ведаў Крапіву, ён мяне ведаў з часу арганізацыі Цэнтральнага бюро краязнаўства, дзе [Кандрат] быў інструктарам па краязнаўству, а я, стараючыся ў тыя часы ўсіх зрабіць краязнаўцамі, часта [туды] заходзіў. Я толькі што ня тыцнуў рукі Крапіве, як убачыў, што ён ня хоча ні бачыць мяне, ні тым больш вітацца.

Тое-ж было і пры спатканьнях, калі ўжо быў цалкам «нармальны», калі баяцца не было чаго».

Льга ўявіць сабе далейшы паварот Улашчыкавага шляху, затрымайся ён даўжэй на Бацькаўшчыне, дзе яго нечаканае зьяўленьне імгненна стаўляла «на вушы» тутэйшых віжоўцаў. Ніну Улашчык (у замустве Бялькевіч), старэйшую сястру Мікалая, вядомую ў той час настаўніцу, аўтара некалькіх мэтадычных выданьняў па пэдагогіцы, праз які час арыштуюць і сашлюць на Калыму адно толькі за нежаданне стаць таёмным канфідэнтам спэцслужбаў. Але-ж і ў злавесную пору татальнага застрашэньня й падазронасьці далёка ня ўсе былі запалоханыя і ня ўсе «стукалі». Людзі супраціўляліся, хто як мог, баронячы свой выбар і чалавечую годнасьць.

Хоць менавіта Мікалаю Ўлашчыку той абарончы супраціў – скупа й напружана выкладзены ў спомненай «Хроніцы» – каштаваў немалых фізычных й псыхічных выдаткаў. Знямоглы й вычарпаны, пасля чароднага, на самым пачатку вайны, затачэньня ў Златавускім лягеры, ён канаў амаль невыратавальна. Дарэшты, здавалася, пакінулі сілы і мроі на лепшае. Але вось нечакана над зьнясіленым, паўжывым лягернікам-дахадзягай з-пад даху цёмна настылага бараку мільганула дрыготкім бляскам далёкая зорка. Магчыма яе прамысляльнае сьвячэньне вяло й прывяло бяспамятнага зэка-туберкулёзьніка, дыстрофіка, выпушчанага за турэмную браму на «самастойнае» скананьне (пад зьмяншэньне адсотка лягернага «адсейваньня») да чыгуначнага раз`езду Азнакаева ў Татарстане. Дзе яго, мала непрытомнага, падабраў на калёсы выпадковы возьнік і прывёз у Бугульму, да старэйшага брата Івана, лесьніка (такі спрыяе Гасподзь ахвярным пакутнікам.). Там Мікалая адходжвала малодшая сястра Волька, якая фактычна і «вярнула жыцьцё» зняможанаму брату. У хуткасьці на падмогу пад`едзе жонка Натальля Шамарына (у згаданым «Arche» памылкова - Шамаршына). Потым – Казань, сямейныя, больш-менш нармальныя – наколькі былі такімі ў часе ваеннага ліхалецьця й прогаладзі – варункі для выжываньня й аздараўленьня. Далей – асьпірантура ў Маскве.

Але ў тым драматычным вяртаньні зь небыцьця нябачна прысутнічала й спамагала яшчэ адна Абраньніцца нашага

пакутнага Рыцара. Імя яе – Беларусь. Дзеля якой яе абраньнік выжыў і перамог.




*Ex libris Гісторыка*. *Мастак* М.*Купава*

Пераліствую «Біябібліяграфічны паказальнік» М. М. Улашчыка (1996). У ім занатавана 205 друкаваных адзінак аўтара і водгукаў аб ім. Выйшла новае, пашыранае выданьне, з пабольшанай колькасьцю адпаведных публікацый. Але што ўражвае, міжволі наводзячы на сумную рэфлексію. Першы выхад ў друк будучага гісторыка пазначан ў даведніку 1924 годам – нататкай пра краязнаўчы гурток БДУ. Сьледам - штогадовыя публікацыі, з абрывам на 1930-м. Далей – прагал на 18 гадоў, да 1948. Пасьля некалькіх бібліяграфічных пазіцый зноў (чацвёрты арышт...) сямігадовая пустка. Падумалася з горыччу: колькі-ж мог гэты ўпарты, няскораны шукальнік беларускае праўды зрабіць на палетку Беларушчыны за тыя наймабільнейшыя ў жыцьці дваццаць пяць гадоў! Скрадзёных, зглумленых усё тымі-ж, чорнай памяці Міністэрствамі «Праўды», «Братэрства» і... Злачынства.

У ”Чорных лядах” Васіля Быкава адзін з пэрсанажаў, малады паўстанец, носіць прозьвішча Ўлашчык. Ласне яму, адзінаму з купкі асуджаных на самазабойства змагароў, воляю іх камандзіра наказана адыйсьці ад братняе магілы самаахвярнікаў: “А ты, Улашчык, жыві!”. Застацца жыць пад разьвітальны роздум-запавет: “Зерне кінута, па вясьне ўгрэецца глеба, настане вясна...”.

Не надарылася ў свой час пацікавіцца ў Васіля Ўладзіміравіча пра творчую карэляцыю імяслова Ўлашчык – паміж слуцкім паўстанцам і нашым Гісторыкам. Вядома, аднак, пра заангажаванае стаўленьне аўтара “Мёртвым не баліць” да навуковых адкрыцьцяў маскоўскага беларуса, іх ліставаньне. У кожным разе і Мікалай Улашчык выжыў і зьдзейсьніўся згодна з разьвітальным запаветам слуцкіх паўстанцаў з “Чорных лядаў”: “Зерне кінута, па вясне ўгрэецца глеба...” І хоць воін загінуў, ня вернецца, ды “заўсёды вяртаецца сейбіт” (А. Разанаў).

Палетак Улашчыкаў рунее, каласуе, адорваючы наступнікаў шчодрым плёнам.

Пасьля публікацыі гэтых старонак у “Arche” (у рэдакцыйным скарачэнні) я атрымаў ліст ад Вітаўта Кіпеля. Наш руплівы амэрыканскі Беларус сярод іншага дадае кранальныя дэталі да Ўлашчыкавае змагарнае легенды: “Недзе ў 2-й палове 60-х гадоў мой бацька Яўхім Кіпель вычытаў, што Мікола Ўлашчык жыве! Тады мне й Зоры Яўхім Кіпель сказаў прыблізна так: “Мікола жыве. Значыць, не пайшло так, як плянавалася. Мы з Міколам у Налінску абмяркоўвалі ягоныя ўцёкі, і я яму даў цыяністы калій на выпадак, калі яму стане неўмагату. Відаць нешта пайшло іначай,” – так закончыў аб гэтым Я. Кіпель. Далей бацька загаварыў так: “Я цяпер пішу ўспаміны, але аб гэтым выпадку ня буду гаварыць “простым тэкстам”, скажу неяк інакш! (Так Вы, Аляксей, і зразумелі!!!). Так бацька і напісаў у “Эпізодах”. Тады, калі “Эпізоды” рэдагаваліся”, мы з Зораю нічога не мянялі. З гэтага ўсяго трэба рабіць высноў: моцны чалавек быў М. Улашчык. Ён сказаў, што цыяністы калій украў! Схіляюся перад сілай духу ў тагачасных дзеячоў... Добра, што мы ведалі такіх людзей.”

Калега Вітаўт інспіруе іншы, мабыць дакладнейшы ракурс спасьціжэньня Ўлашчыкавае асобы: Чалавек моцнага духу, наталяцца імем і чынам якога не аднаму пакаленьню беларусаў.

2006

# Предсказатель за решеткой

Вряд ли необходимо представлять Николая Улащика (1906—1986) украинским историкам. Тем более, после трогательной публикации о нем Ирины Матяш, вместе с фрагментами его краеведческих очерков в журнале "Украiньска старовина" (2000, № 2). Разве что можно добавить: белорусского историка и археографа в Москве связывали с коллегами в Украине личные творческие контакты, взаимная переписка - с Н.П.Ковальским, Ю.А.Мыцыком, Я.Д.Исаевичем и другими. Известно также познавательное неравнодушие к историческому прошлому сестры-Украины, сопутствовавшее его изысканиям, так или иначе отразившееся в "Очерках по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода" (1973), "Введении в белорусско-литовское летописание" (1975), других Улащиковых работах. В качестве консультанта он участвовал в подготовке многотомной "Истории городов и сел Украинской ССР", что отмечено Почетной грамотой Президиума Академии наук УССР, за подписью ее президента акад. Б.Е.Патона. Грамота вместе с прочими украинскими свидетельствами хранится в личном фонде историка в Отделе рукописей Центральной научной библиотеки им. Якуба Коласа НАН Беларуси.

Улащиковедение, надо надеяться, будет и впредь прирастать работами украинских авторов. Этому в какой-то степени будут содействовать и публикуемые ниже "проукраинские странички" из драматической биографии Н.Н.Улащика - выдержки из его показаний на следствии по делу мифического "Саюза вызвалення Беларусі", разыгранному сыскными службами СССР по сценарию, ранее апробированному в Украине ("Спілка визволення України").

Воздержимся от комментариев, явно заданных изворотливыми следователями моментов в показаниях (о знакомстве подследственного с действиями СНБ, СВБ и т.п.), от которых позднее Улашик отказался в ходе его реабилитации по данному делу. Куда интереснее, важнее для нас рассуждения недавнего выпускника Белгосуниверситета о будущем

государственно-независимом устройстве его родной Беларуси, в соотношении с опытом соседки - Украины. В чем-то весьма предсказательно звучали они - мысли молодого историка-арестанта. Впрочем, лучше о том судить читателям.

№1

Из показаний арестованного Н.Н.Улащика

7 июля 1930 г.

<...> Летом 1927 года во время своего очередного отпуска я был на Украине, в Киеве. Киев и вообще Украина произвели на меня очень большое впечатление. Я начал усиленно читать литературу по украиноведению, особенно по истории национального освобождения Украины. У меня в голове крепко сидела мысль, что в недалеком будущем должно произойти военное столкновение СССР с капиталистическим миром. Рассуждая далее, я приходил к выводу, что такие передовые республики, как Украина, Грузия, должны будут образовать самостоятельные государства. Прошлое 1917-21 годов было хорошей репетицией. Особенно благоприятными казались перспективы Украины. Богатство недр (железная руда, уголь) и почв, море и климат- все это, казалось, создает предпосылки для создания независимой Украинской республики.

Белоруссия маленькая, культурно отсталая, с неразвитым национальным самосознанием у населения, имела, сравнительно с Украиной, очень мало шансов и потому большая ответственность возлагалась на национально сознательную белорусскую интеллигенцию, тем больше усилий должны были мы приложить к тому, чтобы упрочить все предпосылки для будущей организации независимой Белорусской народной республики. Такое у меня было течение мыслей, когда я вернулся с Украины. <...>

*Архив КГБ Республики Беларусь, д. 2095I-С, т. 5,л, 495-496.*

№2

Из показаний арестованного Н.Н.Улащика

6 августа 1930 г.

<...> Белоруссия должна в будущем войти в федерацию, которая будет образована из национальных республик, входящих в теперешний СССР - Украина, Белоруссия, Грузия. Федерация эта - дело еще не завтрашнего дня, а более или менее отдаленного будущего, и наша работа сегодня - создавание возможно более предпосылок для того, чтобы осуществить эту федерацию возможно полнее и скорее.

Средства для достижения разные. Как, например, захват ответственных постов в госаппарате, выдвижение всюду, где только можно, на работу сторонников "САБ" ("Саюз Адраджэння Беларусі”. - А. К.).

В земельной политике - ставка на крепкие крестьянские индивидуальные хозяйства, поскольку в то время колхозы были очень немногочисленны, то о них вопрос остро не ставился. Белоруссия должна стать страной с интенсивным сельским хозяйством, причем упор должен был сделан на животноводство.

Крупные леса остаются в руках государства. Лес - из крупнейших видов экспорта - должен пользоваться особым покровительством государства.

Мелиорация болот должна проводиться интенсивно, часть осушенных земель остается в руках государства, из которых организуются крупные предприятия (совхозы), но большая часть раздается крестьянам.

Промышленность, имеющая второстепенное значение в стране, тоже должна быть поддерживаема, даже те отрасли, которые не имеют своей сырьевой базы, должны расти. Но промышленность –легкая; для развития тяжелой индустрии на территории БССР нет перспектив. <...>

В городах муниципализируеnся все, что служит для общего пользования -электричество, водопровод, трамвай, канализация.

Граждане всех национальностей и вероисповедываний - равны.

Представляется свобода слова, собраний, печати, совести.

Такова, приблизительно, по памяти, программа "САБ".

Во второй половине 1928 года "Саюз Адраджэньня Беларусі" был переименован в "Саюз Вызваленьня Беларусі". Как переименование организации, так и изменение программы произошло на верху, в руководящем центре. Идея федерации несколько сошла в сторону, уступая место идеям независимой Белоруссии, или же с ориентировкой на Запад - Польшу или Германию. Разделение личное руководящей группы на незалежников и ориентирующихся на Запад мне было неизвестно. Сам я придерживался прежних взглядов, что Белоруссия должна быть с кем-либо в Союзе, если не в такой широкой федерации, как ЭТО думалось раньше, то все же в союзе. Наиболее желательным казался мне союз с Украиной, имеющей на своей территории уголь, железо и открытый выход в море, а в случае неудачи, хотя бы с Литвой.

Кроме всего прочего, идея Белоруссии в Союзе с каким-либо другим государством была бы, по-моему, значительно более популярной в массах, чем идея Белоруссии обособленной и тем более Белоруссии в союзе с Польшей.

Насколько мне было известно, наше крестьянство (главная наша опора), за исключением разве кулаков и шляхты, как в Советской Белоруссии, в части, которая была оккупирована поляками, так, тем более, и Западной Белоруссии, настроены к полякам чрезвычайно враждебно и выставить идею союза Белоруссии с Польшей – это только означало компрометировать саму идею белорусского государства.

В связи с взятым партией курсом на коллективизацию деревни и общим наступлением на капиталистические элементы, отпала совершенно мысль о перерождении советской власти и потому ждать становилось все труднее. Большие надежды начали возлагаться на интервенцию, когда пользуясь подходящим моментом, всеобщим развалом при гибели СССР, будет возможно создать Белорусскую Народную Республику <...>

<...> Даны мне были только общие установки и идеи, а во всем же остальном я должен был работать сам.

Насколько мне известно, "САБ" и "СВБ" - организации довольно рыхлые. Мне никогда не было поставлено известных задач, не указывались лица. Я почти совершенно не отчитывался в работе, очень редко виделся со своим руководителем <...>, никто не подгонял, что работа идет слабо и что эффект более, чем малый, особенно хромала работа летом.

Свою пропагандистскую работу, как член "СВБ", я начал зимой 1928 г. Приходя в Университет на занятия и в библиотеку, куда приходили заниматься все студенты.

Работа в библиотеке давала мне очень много. Туда приходят материалы не только со всего СССР, но из заграницы - Польши, Чехословакии, Германии, Латвии и многих других государств. Работая в канцелярии гос. Библиотеки, я имел возможность даже и тогда, когда был в библиотеке организован секретный отдел, перечитывать или во всяком случае пересмотреть всю литературу по белорусоведению - книги, журналы, газеты, белорусские, польские, которые потом поступали в секр<етный> отдел...

*Архив КГБ Республики Беларусь, д. 20951, т. 9, л. 543-545.*

# Слухаючы Гісторыка

*Большасць адпаведных нататак – “Казаў Улашчык”– змешчана ў маёй кнізе “Будам жыць” (1998). Тут падаюцца запісы раней не публікаваныя.*

.

## Што чытаў Скарына

– Добрай раніцы, Мікалай Мікалаевіч! Як справы?

– Як звычайна.

На прапанову заглянуць да яго адазваўся таксама па-звычайнаму – непасрэдна і прыязна: “Заходзьце, заходзьце!”

Параіцца ж з Гісторыкам вунь як трэба. – Эпоха Скарыны, эпоха ўзлёту духоўнага беларусаў. Полацкая бібліятэка. Летапісы, якія чыталіся (і ствараліся) ў “слаўным градзе”.

–Што чытаў Скарына?,– пытанне важкае, на добрую манаграфію цягне, разважае ўслых М.М. Напэўна чытаў ён і рукапісы і, мажліва, летапісы, пісаныя ў Полацку, пра якія згадваў Тацішчаў. Калі б добра прааналізаваць Скарынавы прадмовы – можа і знайшліся б якія ўскосныя звесткі, што ён чытаў.

І глыбокімі, відочна прытомленымі вачыма пазірнуў на субяседніка – нібы раячы таму, як можна наблізіцца да ісціны: Калі прачытаць тыя прадмовы не пяць, не дзесяць, а хаця б дваццаць разоў. Бо за кожным разам штосьці новае заўважыш.

## Статут літоўскі

Потым адлучыўшыся ў суседні пакойчык вяртаецца з важкім, у цвёрдым пераплёце томам. Статут Вялікага Княства Літоўскага – 1588, перавыдадзены ў Коўне, пракаметаваны гісторыкам Лапо. Гаспадар расхінае старонку, прапануючы наведніку прачытаць пазначанае алоўкам. Той прабягае вачыма па радкох і адразу пераносіць абзац у свой нататнік: “А если

которому народу встыдъ правъ своих не умети, поготовю намъ, которые не обчым якым языкомъ, але своим власным права спісаные маемъ и каждого часу нам потреба ку отпору всякое кривды ведати можем”.

–Каб жа гэтыя словы прарочыя, не стрымаў узрушэння чытач, выбіць на стэле-помніку ў цэнтры Мінска.

–Што вы, чаго захацелі – сумна ўсміхнуўся М.М. – Хаця б, для пачатку, ў якой аўдыторыі універсітэцкай, дзе будчыя гісторыкі вучацца. А гэты ж Лапа – ён з беларусаў, але нацыянальна застаўся чужым для нас, хоць навуцы і літоўцам добра паслужыў. Яго “Полацкую рэвізію” хіба чыталі, там жа і прозвішчы Скарынаў сустракаюцца.

## Наваградак

Ведаеце, у Літве кніга мая [Уводзіны ў літоўска-беларускае летапісанне, М., 1985, на руск. мове] захаплення не выкліча. Бо ў ёй – Беларусь, Наваградак самае галоўнае. У XIII стагоддзі ў Наваградку – наймацнейшая крэпасць, і ўсе татары на яе скрозь ішлі. Дзяржава Літоўская не з Вільні расла, а сілай Наваградчыны.

## Аляксей Сапуноў

– Мікалай Мікалаевіч, пра Сапунова пішаце як пра “верноподданного октябриста” (Очерки по археографии… с.230). Але на маіх “скарынаўскіх” старонках гэты “акцябрыст” глядзіцца цалкам дэмакратычна. Ці не яму першаму абавязаны мы высокім азначэннем мінулага Беларусі – “было у белорусов золотое время». Там жа – пра Скарыну, Статуты літоўскія, пра наш падарунак палякам – Касцюшку, Міцкевіча…

**М.М.:** Ведаеце, цяпер жа драбяза гэтая даючы ацэнкі людзям толькі і кіруецца іхняй партыйнай прыналежнасцю. А з партыямі – вядома як. Калі не да цяперашняе [КПСС] належыў, значыць абскурант, а яшчэ горш, злодзей. Тое ж і з акцябрыстамі – і там розныя былі людзі. Ды мала што чалавек лічыўся ў партыі. Ён мог згаджацца, мог і не згаджацца з партыйнымі дактрынамі. Сёння мог уступіць, заўтра – пакінуць

тую партыю. І наогул, партыйнасць не шкодзіла яго навуцы, калі гэта быў вучоны. Тыя, хто пісалі ў свой час, яны не машэннічалі, яны трымаліся дакумента. Так і з нашым гісторыкам. Яго “Витебская старина” – дасюль узор навуковасці. Па Сапунову, на добры толк, можна было б спецкурс для студэнтаў ладзіць. Але дзе ж вы бачылі…

## Аляксандр Ельскі, Генадзь Кісялёў

Адзін – дзесяць тысяч артыкулаў пра вёскі, мястэчкі нашыя напісаў. Цуда-чалавек. Гэты Ельскі, як і Кісялёў вартыя грунтоўнай працы… Яны ж у Інстытуце сядзяць побач – Кісялёў і Коршунаў. Той, другі піша пра Філіповіча, але ж не напіша, што гэта шпіён маскоўскі, выхоўваў самазванца Лжэдзмітрыя.

## Паэзія і… проза

“Адна, ізноў адна, як колас той у полі…” Гэта ж з 1919 года памятаю, з менскае школы. Тады і “Курганную кетку” Буйлы і “Вянок” Багдановіча чыталі. Шнаркеіч, настаўнік, кніжачкі тыя прыносіў у клас. І скажэце, семдзесят, болей гадоў прамінула а ўсё помніцца

У Віцкаўшчыу беларуская кніга ці газета не траплялі. З дзевак каторая трапіўшы ў Менск тужылася гаварыць “правильно”, удаючы потым, што не разумее па-вясковаму. Так і з Анцяй было, жыла праз дзве хаты ад нашае. Уладкавалася на Нямізе ў нейкага жыдка за няньку. Па нейкім часе сустрэўшы на камароўскім базары брата – той прывёз парасят на продаж – не стрымала здзіўлення:

–Гавруша, что эта ў цібя за зверкі такіе**?** Рэагаваў “Гавруша” (Гаўрыла) не вельмі па-рыцарску, але адпаведна:

–Ах ты, падла, гэта ж свінні, якіх ты яшчэ ўчора карміла. Доўга з Анціных “звяркоў” пацяшалася вёска.

## Студэнты – прафесару

– А ведаеце, гэта ж нашы, з Беларусі, студэнты ў Пецярбургу… Ластоўскі – сядзелі з ім разам ў камеры – расказваў: на Вялікдзень сабраліся і гуртом прама на кватэру да Шахматава, прафесара свайго павіншаваць. Той спрыяў іхнім нацыянальна-культурніцкім справам, Тарашкевіч жа пад яго кіраўніцтвам сваю “Беларускую граматыку” рыхтаваў. Падышлі і прама з парога заспявалі: “Добры вечар, пане гаспадару, Вясна красна на ўвесь свет…”. Слухаў-слухаў гаспадар-акадэмік, ажно праслязіўся—гэтак быў узрушаны. Потым усіх спевакоў – да стала і давай частаваць шчодра, міла, як ніхто, ніколі раней.

## Палута Бібіла. Нацдэмаўскія кнігі

Што мне казала Бібіла [Ю.]. Яна ж па маці сваячка Каліноўскага. Ёй я ў Саратаве нараіў жанчыну, ахвочую памяняцца кватэрамі на Менск, пакуль той вэрхал яшчэ не пачаўся. Але ў 1938-м да яе дабраліся і там [у Саратаве]. Чатыры месяцы адседзела. Тады паклікалі: цяпер Вы вольная, падпішэце, што не маеце прэтэнзій. “У мяне ёсць прэтэнзіі (жахліва!). Мяне абражалі – “блядь, блядь”. Так і не падпісала. Яшчэ з два месяцы пратрымалі, а такі выпусцілі. Самі, відаць, падпісалі.

Маці яе гаварыла, як у 1938-м нацдэмаўскія кнігі кучамі звозілі, недзе за Свіслач, аблівалі газай і палілі. Помпай палівалі, не вёдрамі – механізацыя!

## Пётра Сергіевіч

[Паказваючы на жывапіснае палатно над рабочым сталом]. Гэта ж – Сергіевіч: Брама віленскіх могілак Росы.. Набыў на яго персанальнай выставе ў Менску – 250 рублёў. Яго ж Рушчыц паслаў у Кракаўскую акадэмію. Там – югаславы, немцы, аўстрыякі, чэхі, украінцы, усе ў зямляцтах сваіх гуртуюцца, па-свойму. “Я да іх не падыходзіў. Так пачалася, успамінаў, мая беларускасць”.

## Іван Мележ

Гэта ж неяк мяне Шушкевіч [Станіслаў Пятровіч] завёў у "Полымя" і такім урачыстам тонам прадстаўляе: доктар з Масквы! Падымаецца чалавек з канапы, светлы тварам, удумліыя вочы; працягвае мне руку – Мележ. Дык была ж пара, што ў рэдакцыі збіраліся пісьменнікі, навукоўцы – пагаманіць, паспрачацца. А цяпер прымаюць так, што ня надта й ахвота туды заходзіць.

А ён жа – моцны, глыбокі паляшук. Так да яго ў літаратуры ці пісаў хто. Глушак ягоны – гэта ж тып: наровісты, цягавіты, скнарысты, адно – мужык. Я свайго дзеда ўспамінаю – чысты Глушак. Але які з яго кулак? Паняцце гэтае ў нас занесенае..

Аднаго разу прачытаў яму пра "куравую хату". – От, дык трэба шанаваць такога чалавека – кажа.

[З віншавальнае паштоўкі] "Дарагі Іван Паўлавіч! Вітаю Вас з Новым годам. Вы такі пісьменнік, творы якога часта гартаю, перачытваю асобныя месцы, успамінаю кароткія нашы сустрэчы. Не хварэйце і наогул, дай Вам Божа ўсяго найлепшага. 21.XII.74. Улашчык".

## Гудзевічы, Алесь Белакоз

Бачыце, Беларуская хата на канверце. Тых канвертаў сто пяцьдзесят тысяч наштампавалі. Нехта, відаць, настукаў і ў Гудзевічы – аніводнага, а Белакоз быў у бальніцы. І вышла так, што нідзе не дапасці таго канверта – ні ў Гродне, ні ў Менску, нават у музеі Гудзевіцкім няма. Можа ўвесь тыраж у Маскву і перакінулі, каб нацыяналістаў не бянтэжыць. Трэба адсюль у Беларусь пасылаць. А глядзіцца вабна. Мастак – нехта Ліпскі, добры мастак.

## Раней і цяпер

Ведаеце, раней у метро едзеш, ідзеш дзе – думка штурхаецца, хвалюе. Дамоў прыходзіш і – за стол, пішаш, пішаш… А цяпер – не тое. Такі прытаміўся чалавек.

## Так мне хацелася ў Менск

Трэба падзякваць Ігнаценку, што не ўзяў мяне ў свой Інстытут [гісторыі], хоць Барысевіч [прэзідэнт АН БССР] і згаджаўся, кватэру нават абяцаў. Можа яно і лепей, што той пракурор [дырэктар Інстытута гісторыі] адмовіў. Сапхнуў бы ў куток і не было б ні “Летапісаў”, ні чаго яшчэ.

А так мне хацелася ў Менск.

## У тэлестудыі “Ліра”

Як з`ездзілася? – пытаецеся. Прымалі, што таго артыста, з гонарам. Народу ў студыю назапрашалі – настаўнікаў, вучняў. З гадзіну, болей гаварыў, але ж такі выстаяў, не прысеў. Пытанні розныя былі, талковыя. Адна дзяўчынка пацікавілася – як так, маўляў, ледзь не ўсё жыццё чалавек здаля ад радзімы і такая мова чыстая, не забылася. – А што ж яе забываць, кажу.– Вунь расліну рэдкую ў Чырвоную кнігу заносяць. А гэта ж – мова. Але гэта ў эфір не пайшло. Іпатава і дзяквала, і кветкамі адарыла.

Вольга Іпатава пазней спамінала: “Замомніўся надзвычай далікатным, па-інтэлегенцку мяккім. Непакоіўся, ці не будзе ў мяне непрыемнасці з-за тэлеперадачы. Я заўважыла, што раблю перадачу “Ліра”, дзе ён адказвае на пытанні гледачоў не столькі для яго ці для мяне, колькі для Беларусі, якой гэта патрэбна. А будуць непрыемнасці ці не – гэта ўжо неістотна. Прынамсі, не сашлюць жа ў Сібір і не расстраляюць – не тыя часы. Пасля тэлеперадачы прыйшлі лісты. Былі і пагрозлівыя, копіі з арыгіналаў, якія рассылаліся ў ЦК КПБ і КДБ. Там так і стаялі два першымі адрасы, а трэці – у Белдзяржтэлерадыё

Беларусі. Аднак жа, пасля абмеркавання з Г.Бураўкіным, мы вырашылі паўтарыць гэтую перадачу, а пасля, праз год, у трэці раз паставілі яе ў эфір. І словы дарагога нам чалавека, які пазваніў нам з Масквы, добрыя і ўдзячныя словы аб тым, што мы дадалі гэтым яму жыцця і здароўя, былі мне самай лепшай узнагародай".

## Апошняя сустрэча
(з дзённіка А.К.)

15 лістапада 1986. Улашчык памёр. Учора пад раніцу. "Змагару за гістарычную праўду Беларусі" – развітальныя словы на жалобнай стужцы пры букеце ад беларускіх мастакоў. "Тое месца на радзіме, дзе спачне прах Мікалая Улашчыка, будзе святым для беларусаў" – В.Чамярыцкі за жалобным сталом. Былі Г.Каханоўскі, А.Марачкін, М.Ткачоў, М.Чарняўскі, А.Харашкевіч, Вольга Мікалаеўна, сястра.

Перад вачыма апошняя сустрэча, за два дні да яго адыходу. Ляжаў ён на канапе у тым самым пакойчыку, дзе гэтак часта і хораша нам гаманілася. Васковая бледнасць на твары, неяк ненатуральна выпрастаная пад пакрывлам постаць выклікалі адразу балюча неадольную трывогу. Выглядаў ён прыкметна блажэй, чым тыднем раней ў шпіталі, дзе наведваў яго перад ад`ездам у Мінск. Гэтым разам твар хворага нібы прасвятлеў, але не ўсмешкай, хутчэй сумным гаснучым водбліскам. Адчулася ў аслабелым позірку і ледзь улоўная радасць з сустрэчы, і, мабыць, яшчэ вастрэй, крыўда ад нямогласці – нельга, маўляў, устаць і ўжо наўрад ці падняцца.

**"**Пара, хіба. Такі ж пажыў чалавек.." – гэта раней, пры занядужанні, мог ён паўжартам, з уласцівай яму філасафічнасцю пракаментаваць сваё становішча. Цяпер жа не азваўся ні словам. Адно прытомленыя звільготненыя вочы пазіралі з-пад крутога чала неяк асабліва засяроджана, нібы спавядальна. "Вось і ўсё" – ледзь пачулася, ці мне падалося штосьці такое.

Забыліся звыклыя на павітанне словы, плесканула з-пад сэрца горычу і мальбой: "Што ж гэта Вы заляжаліся, дзядзька Мікалаю! Навіны добрыя з Беларусі прывёз". І заглытваючы няпрошаную слязіну хуценька прагаварыў тое, чаго гэтак чакаў,

зачакаўся Чалавек рэдкае цярплівасці і надзеі: кнігу пра Віцкаўшчыну выдавецтва “Мастацкая літаратура” ухваляе, будзе друкаваць і сам “галоўны”, Андраюк, яму напіша. Далей, што хораша, па-нязвыкламу ўзнёсла прайшлі першыя Скарынаўскія чытанні, а ў Полацку рыхтуюць да адкрыцця музей беларускага кнігадрукавання, што энцыклапедысты беларускія захапіліся вунь якім праектам – перавыдаць Статут 1588 году і вельмі разлічваюць на дапамогу Улашчыка…

Ці доўга ўсё гаварылася, але ён слухаў, мабыць пачуў і відзён быў праяснёны твар. Не забыць таго тужлівага праяснення – надзея й роспач безнадзейная ў паглядзе. “Бачыце, – азваўся амаль шэптам, задыхаючыся, – чаму ж не папрацаваць цяпер, але ж вось…” І саўсім, ледзь чутна, з уздыхам: “Не, мусіць”. Сіл, відаць, не ставала, але памаўчаўшы, дадаў колькі словаў: “Быў жа ў мяне Арлоў з Полацку. Знайшоў яму том “Летапісаў”. Добры хлопец. А Ваша кніга як?”. Рупіла яму і гэтая, супольна намі перажытая справа. Дыхаў часта, прарывіста. Памкнуўся я асцярожна прыўстаць з табурэткі, каб не хваляваць далей хворага. Рука яго ледзь кранулася маёй: “Пасядзеце троха. Гэта мне так. Слабею”. І прыкрыў павекі…

1996

# Школа Сцяпана Александровіча

Гутарку вядзе Алесь Туровіч

— *Аляксей Канстанцінавіч, што прымушае нас зноў* і *зноў звяртацца да Сцяпана Александровіча*?

- Ён падняў важкую ношу ў літаратуразнаўстве, у літартурным краязнаўстве. Роўных яму цяжка назваць. Школа Александровіча — не толькі набор пэўных арыгінальных тэкстаў, творчыя набыткі яго выхаванцаў-паслядоўнікаў па Беларускаму ўніверсітэту. Таксама – школа беларускай працавітасці, цягавітасці, яўленая ў асобе нашага сымпатычнага, абаяльнага татарына. Чалавек што называецца гарэў і духоўна, і фізічна. Пра яго прагу да жыцця сведчыць наступны факт: падчас вайны, вяртаючыся з палону, пешшу прайшоў з Феадосіі, праз усю Украіну, да свае Капыльшчыны

— *Як можна ахарактарызаваць навуковы ўнёсак Александровіча*?

— Ён па-свойму адкрыў нам дзевятнаццатае стагоддзе, у самых нечаканых ракурсах пэўных гісторыка-літаратурных фактаў, персаналій. Здаецца, адзін з першых паразважаў над «беларускай» загадкай у феномене Адама Міцкевіча (пра адпаведна ўнікальную, практычна недаступную ў БССР працу Вітаўта Тумаша тады амаль не ведалася), над творчымі лёсамі Паўлюка Багрыма, Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча. У архівах выявіў новыя тэксты, тую ж "Тралялёначку" Багушэвіча, якая лічылася страчанай. Ён першым сабраў, сістэматызаваў і выдаў тэксты народавольскай арганізацыі "Гоман", з якіх адкрыўся нам пакручасты шлях поступу й выспявання ўласна беларускай нацыянальнай думкі, раней запачаткаваны было беларуска-польскімі, руска-беларускімі пісьменнікамі, але прытарможаны пасля паўстання 1863 г. Пецярбургскія студэнты тады, у 1880-я, ўпершыню праанілізавалі этнакультуровую тоеснасць, гістарычны лёс беларускага этнасу, адцемілі праблему нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння беларускае супольнасці ў

федэратыўным звязку з Расіяй. У многім стараннямі Александровіча XIX стагоддзе "загаманіла" як стагоддзе беларускага пошуку. Вядома, цяпер многае зроблена, робіцца і Кісялевым, і Мальдзісам, і маладзейшымі — Семашкевічам, Скалабанам, Хаўстовічам, Янушкевічам, але Александровіч у гэтым радзе ўсё ж застаецца першым, не толькі з першае літары свайго прозвішча. Зрэшты, не адно мінулае стагоддзе захапляла яго пошукавы імпэт. Нямала новага, інспіруючага знойдзена, апублікавана ім пра пачаткі XX – «нашаніўскую» эпоху літаратурнага паскарэння.. Невыпадковым было яго сяброўства з Мікалаем Улашчыкам, аб чым уражальна сведчыць іхняя перапіска. Дарэчы, Гісторык з Масквы выступаў у Мінску (1971 г.) афіцыйным апанентам на абароне Сцяпанам Хусейнавічам свае доктарскай дысертацыі па праблемах развіцця беларускай літаратуры і друку ў другой палове XIX – пачатку XX веку. Напрыканцы мінулага года таварыства «Аль-Кітаб», з ініцыятывы Якуба Якубоўскага, Ібрагіма Канапацкага, правяло канферэнцыю, прысвечаную Сцяпану Александровічу. Выдадзены зборнік матэрыялаў з тых чытанняў і даволі прадстаўнічы састаў аўтараў, і змест іхніх выступленняў – яшчэ адно яскравае сведчанне сэнсу і значэння *школы* пра якую наша гутарка.

—*Але яго цікавіла* і *больш глыбокая гісторыя*.

- Сапраўды. Александровіч падаўся слядамі першадрукара Скарыны. У Кракаве, Празе падняў старыя кнігі, інкулабы, іншыя матэрыялы. І колькі ён адкрыў новага! Даказаў, напрыклад, беспадстаўнасць ужывання імя Георгій у дачыненні да асобы Францішка-Палачаніна. Гэта цяпер, пасля публікацый Галенчанкі, Казберука іншых, маем дастаткова доказаў. Але ж Сцяпан Александровіч першым сярод папер каралеўскага архіва выявіў Грамату, дзе засведчана, што ў XV-XVI стагоддзях у польскі універсітзт паступалі і Георгіі з Ашмянаў, Слуцка, Вільні... і ніхто з іх не мяняў сайго, верагодна праваслаўнага імя, каб трапіць у каталіцкую вучэльню. Падзяліўся каштоўнымі меркаваннямі пра заканамерны характар асветніцкага ўзлёту перакладчыка і выдаўца «Бівліі

рускай», абумоўленага як айчыннымі культуратворчымі традыцыямі так і інтэнсіўнымі для сайго часу кантактнымі сувязямі нашых продкаў з універсітэцкімі асяродкамі Нямеччыны, Італіі, Чэхіі, не кажучы пра Кракаў. Ня лішне тут прыгадаць, што нарыс Александровічаў «Па слядах Францішка Скарыны» (ілюстраваны адпаведнымі фотаздымкамі Лявона Баразны) у рускім перакладзе быў надрукаваны стотысячным накладам.

—*Александровіч займаўся*, у *пэўнай ступені*, і *псіхалогіяй творчасці*?

— Слушнае пытанне. Варта назваць створаныя ім літаратурныя партрэты — Цёткі, Танка, Шамякіна... Зноў жа, мабыць ўпершыню патрапіў ён заглыбіцца, прасякнуцца душой у тайніцу творчага таленту Якуба Коласа. Прывабліаюць яго апавядальныя старонкі пра сям'ю, сямейны лад, выхаванне й самавыхаванне дзяцей, пра юнацтва, настаўніцкі досвед, урэшце – пра нацыянальнае ўсведамленне творцы «Новай зямлі», несамаітай выявы нашае нацыянальнае ідэі.

—*Ці можна сфармуляваць спецыфіку нацыянальнай ідэі Александровіча*?

— Фармальна – наўрад ці. У тую спрэс «класова-інтэрнацыянальную» пору яго творчасці не вельма талераваўся, а часцей блакаваўся сам панятак нацыянальнага, тым болей калі гэта тычылася менавіта беларускае ідэі. З уласнага сумна-камедыйнага досведу памятаю, як наперакор народнай мудрасці, з песні словы выкідвалі – хор беларускі, славуты, у Крамлёўскім Палацы з` ездаў спяваў «Каб любіць *краіну* нашу мілую…» (замест –*Беларусь* нашу мілую). Так што адпаведных *тэарэтычных вызначэнняў* адносна нацыянальнай ідэі ў Александровіча, як і ў Коласа, Купалы, іншых класікаў не знаходзім. Хаця ці не ўсё створанае, выспавяданае імі ў фактах і вобразах – пра наш, беларусаў, многавечны лёс і шлях, нашыя нацыянальныя кляйноты і хібы, урэшце, пра адвечныя парыванні да свабоды й назалежнасці – усё яно наталіла,

абагаціла тую самую *ідэю,* якую сёння фармулююць філосафы, гісторыкі, публіцысты. Чалавек спаталяе прагу з крынічнае вадзіцы, не вельмі цямячы пра яе хімічны састаў. Была б яна чыстай, сцюдзённай…

1996

— *Дзесьці Вы згадвалі пра Сцяпана Хусейнавіча – свайго настаўніка?*

— У Мінскім бібліятэчным тэхнікуме, дзе я вучыўся, гэты сымпатычны татарын выкладаў беларускую літаратуру. Прыйшоў да нас ў аўдыторыю недзе пад зыход трэйцяга, апошняга курсу, змяніўшы Дзіяну Багрову – пазней выкладчыцу па фальклору на філфаку БДУ. Глядзеўся ён – малажава смуглявы, стрыманы – хораша і гэтак жа даверліва слухалася яго груднога разважлівага голасу, што ўсё разам цепліла, багаціла ў юначай істоце адчуванне беларушчыны. Але настаўніцтва ў глыбейшым, адметнейшым сэнсе адчулася мною значна пазней – з яго наватарскіх публікацый – незаменных урокаў у маім самаадукацыйным «Беларускім універсітэце». Александровічавы «Пуцявіны роднага слова», як і «Пачынальнікі» Г.Кісялёва – самыя чытаныя-перачытаныя, крэсленыя-падкрэсленыя. Кнігі, лічу, – класічныя ўводзіны ў беларусазнаўства. Зрэшты, як і ўся творчая спадчына іх абодвух.

Спомнены нарыс «Па слядах Францішка Скарыны» падштурхнуў і мяне на адпаведную сцежку. З пераклада на рускую і выдання гэтага твору ў маскоўскай «Бригантине» (1980) практычна пачалася мая «Скарыніяна» Нешта ж значыў, значыць Сцяпана Хусейнавіча водгук на «Скарынаўскую» анкету ( раіўся з ім прыступаючы да кнігі пра Асветніка-першадрукара):

“Ф.Скарына – фігура вельмі цікавая і каларытная, у нейкай ступені загадкавая і супярэчлівая нават. У агульнаславянскім культурным кантэксце яшчэ ён не заняў свайго месца па праву зробленага. Тут віна беларускіх даследчыкаў, а таксама пісьменнікаў. (…) Трэба перш за ўсё

пошук новых матэрыялаў. Я глыбока перакананы, што яны ёсць, трэба толькі парупіцца, каб іх выявіць. Усе цяперашнія даследчыкі “аналізуюць” і перапяваюць вядомыя  факты. (…) Шукаць матэрыялы трэба не толькі ў Празе, Кракаве, але ў Германіі, Італіі, Даніі. (Ф.Скарына ў водгуках нашых сучаснікаў. Гаворыць з нам праз стагоддзі || Голас Радзімы. 1986,  4 снежня. № 49).

2011

# Каб не памерці…

Публікацыя Язэпа Янушкевіча (Наша Ніва, 21 красавіка 1997 г.) абок вострых эстэтычных перажыванняў выклікала пэўныя “праблемныя” роздумы. Творца за кратамі – вось яшчэ тэма беларускага літаратурнага працэса і шырэй, нашага нацыянальнага супраціву, нашае трывушчасці. Мяркую, і адпаведную анталогію тэкстаў сустрэў бы з удзячнасцю звычайны чытач і даследчык. Сапраўды, чаму б не аб`яднаць пад адной вокладкай адпаведныя творы Кастуся Каліноўскага, Якуба Коласа, Максіма Танка, Тодара Лебяды, Ларысы Геніюш і г.д. У гэтым высокім радзе пакутнікаў-змагароў беларускіх на месцы была б і постаць Уладзіміра Дубоўкі. Можа ня ўсе паклоннікі аўтара несамавітае “Шыпшыны” (“О, Беларусь, мая шыпшына…”) ведаюць, што збеларушчаны ім “Шыльёнскі вязень” Байрана пачынаў сваё шэсце па краіне з… камеры Пішчалаўскага замку ў Менску, скуль вясной 1931 году пралеглі драматычныя й трагічныя шляхі-ростані нашых славутых “нацдэмаў”. Да таго ж, Муза за кратамі праймалася не толькі перакладамі. Мікалай Улашчык – пабратым Паэта па вязьніцы й выгнанніцтву – на самым пачатку 1986 г. пераказаў мне разам з іншымі старонкамі свайго машынапісу (рыхтавалася для ЛіМ гутарка з Гісторыкам пад яго 80-я ўгодкі) невялічкі тэкст ( цяпер – у БДАМЛіМ, Ф.340). Вось той змест:

“Дубоўка Ўладзімер
31 траўня 1931 году

Шумеце, шумеце высокія сосны ,
Пілуйце вы дошкі адна у адну,
Збянтэжаны вораг шукае ратунку–

Далей, пад саменькай страфой – той жа рукой Улашчыка: “Усіх прыблізна пяць такіх раздзелаў”, якіх, нажаль, успомніць ён не змог. Але на тым жа аркушыку, на адвароце ім “прасыгналена” яшчэ адна паэтычная, з нязнаных, дэталь іншага Творцы:

“Далі шэсць паветаў,
Ну, дзякуй за гэта.
Янка Купала.”

Тады ж са словаў Мікалая Мікалаевіча ўдакладнілася датаванне Купалавых радкоў – 1922-1923 г., якія захоўваліся ў рукапісным аддзеле Рэспубліканскае, цяпер Нацыянальнае бібліятэкі Беларусі (абнародваны ў нашым зборніку “Жывом!” с. 144).

Аднак, пра паэта-вязня, аднаго з прыпушчальных аўтараў апублікаванага Янушкевічам верша, правільней пратографа гэтага твору. Цікавымі меркаваннямі на закранутую тэму падзяліўся са мною гады тры таму назад у сваім лісце Максім Лужанін. Звяртаўся я да шаноўнага Парнасніка-“узвышэнца” адносна звестак пра Аляксандра Мікульчыка (1882-1918?), аўтара слыннага, калісьці ўсенароднага верша-песні “Беларуская Марсельеза” (у Анталогіі беларускай паэзіі, Т.1. Мн., 1993. С. 484 памылкова залічанага на творчы рахунак Ул. Галубка), але аб ім спецыяльна – іншым разам*. Дак вось. Алесь Амросевіч тады у лісце сярод іншага закрануў і прозвішча свайго калегі па “Узвышшы”. Спадзяюся, дзядзька Максім не будзе мець жалю, што працытую некалькі яго радкоў:

“Варыянт “Марсельезы” пачуў ад рабочага “Звязды”. Сядзелі ў адной камеры “амерыканкі”; яго прозвішча не называю, сярод рэабілітаваных не сустракалася. Вось што запомнілася:

Ад веку мы спалі і нас разбудзілі,
Сказалі што трэба рабіць,
Ды ў сраку нам далі, ізноў палажылі,
Каб перад дарогай спачыць.
Пагоняць на шахты, у пушчы, на Мурман,
Каб з нашых касцей выкладалася гаць,
Пагоняць этапам праз царскія турмы,
Якія хацелі з зямлёю зраўняць.
Зраўняць не зраўнялі, а новых прыдбалі…

“І ўсё – працягваў аўтар ліста.—Ці сам забыў, ці не даказалі; намякнуў жа на аўтарства Дубоўкі. А ён на маё некарэктнае пытанне замахаў рукамі: “не ведаю, не чуў ніколі”. Гэта падсказала здагадку: можа сапраўды ён перарабіў, што гэтак асцерагаецца і адмаўляецца. Падстаў асцерагацца ўжо не было: атрымаў кватэру ў Маскве, шырока друкаваўся, меў павагу ад людзей…”

І так, збірайма раскіданыя камяні нашага роспачу і гневу. А ўрэшце збіранне ўжо распачата. “Гарт” – дзіўная вострая кніга беларускага змагання. Пойдам далей…

1998

—————-

* Каўка А. Каб не забыцца. Мн.,“Медысонт”, 2006. С.90-102 (заўвага *2012г.)*

# У краіне светлай
Генадзь Каханоўскі

*У краіне светлай дзе я ўміраю…*
*Максім Багдановіч*

Жалобная вестка ў Маскву запазьнілася. З Менску ніхто не паклікаў развітацца з Табою. Прачытваю некралогі ў газетах і сцінаецца сэрца ад смутку і болю. У вызвольным рушэнні беларускім воем мужным паменела. Ніва родная асірацела з незаменнага сейбіта-рупліўцы. Адышоў Змагар-Працаўнік, падцяты раптоўнай хваробай, што зазвычай налучае ледзь ня кожнага, чыё жыццё – самаспаленне дзеля Ідэі. Хто сутнасць свайго разумення лёсаў Бацькаўшчыны, ахвярнасць дабру паспалітаму шчодра дзеліць з другімі – каб большала сведамых беларусаў, ускрасала, квітнела беларушчына на зямлі Скарыны, Каліноўскага, Багушэвіча, Луцкевічаў, Ластоўскага, Купалы… Каб Дзяржава-Беларусь дужэла-харашэла Сабодай, Незалежнасцю. Высокая ідэя патрабуе кожнага дарэшты і.. дачасна адпраўляе ў Вечнасць. Як адышлі ад нас нечакана Уладзімір Караткевіч, Сцяпан Александровіч, Міхась Ткачоў – аднаго паклікання з Табою браты.

Журботным свяцельцам трымціць памінальная свечачка ў храме Вознесения ля Нікіцкіх варот… Тут некалі вянчаўся Пушкін з сваёй Наталі. Пэўна і ў гэтых ваколіцах, як і ў іншых мясцінах сталіцы расійскай ня раз чуліся крокі Тваe – маскоўскага студэнта з Беларусі. Засяроджваліся вочы Твае над фаліянтамі, пажоўклымі старажытнасцямі ў маскоўскіх бібліятэках, архівах, трымцела сэрца над слуцкімі паясамі ў музейных запасніках Белакаменнай. Сюды ж, да Летапісца-настаўніка нашага – Мікалая Улашчыка – неаднойчы сягала за парадай Твая неспатольная дапытлівая душа, нястомная ў шуканні Беларускае Праўды Адвечнае.

Да Твайго неспакою святога лёсіла й мне далучыцца. Слова прыязнае, шчырасць, падмогу спазнаць шчасціла. Твае кнігі-дарункі, лісты з Маладзечна, Менску, спатканні нашыя,

імя дзіўнае КАХАНОЎСКІ – цяпельцам гаючым са мной назаўсёды. Запаветам нязгасным да скону.

Над труною Тваёй мне не выпала выказаць жалю. Да Цябе я прыйду на магілку. Завітаю на вуліцу Генадзя Каханоўскага ў Тваім горадзе светлай надзеі. На пагорку ў садку Багдановіча – каля Ракуцёўшчыны –запынюся, здарожаны, каб пад клёнам Тваім прашаптаць малітоўна:

Жыве Беларусь і з кален устаюць беларусы…

*Літаратура і мастацтва. 1994, 22 красавіка.*

* * *

Спякотна разамлелым жніўнем 1980 дыбаў я колішнім напрамкам Ядігіна-Лявіцкага з Вільні на Карпілаўку. Збочыўшы з ашмянскага шляху, праз Жупраны, да Багушэвічавых Кушлянаў, кранальна прывечаны ў паэтаай альтанцы Міхалам Ляпёхам, найсвятлейшым, мабыць, з мужыкоў-беларусаў, праставаў пехатой далей – “Лістамі з дарогі” азначаным кірункам. Мінуліся Трабы – Бакшты – Чапунь – Любча – Шчорсы, блуканне Налібоцкай пушчай (не туды было павярнуў…). Недзе на чацвёрты дзень дапяў Валожына. Прытомлены, намазолены працяглай хадой, абкусаны камарамі, аброслы шчаціннем уваліўся з кайстрай за плячыма прама ў кабінет першага сакратара райкома партыі – колішняга калегі-паплечніка па “камсамольству” на Чэрвеньшчыне. Казачонак мой – шырокая шчодрая натура – нямала збянтэжаны нечаканым і незвычайным “явлением” сябра быў аднак уцешаны і тут жа наказаў жонцы Валі рыхтаваць абед – “буду з важным госцем!..” З сакратарскага тэлефона той жа “важны” выйшаў на Маскву (ССОД) – адтуль раздражнёна начальніцкі голас: “Где вы пропали?! Который день вас разыскиваем. Срочно возвращайтесь в Варшаву – Польша бастует…» Ведама, трубадуру ад “нерушимой дружбы” (“przyjaźni niewzruszonej”) – быць на месцы, нейтралізоўваць раскалыханы антысаветызм – выбуховы дэтанатар тае самае “непарушнай”, “социалистических устоев” наогул. Што ж, служба – не дружба, трэба пільна вяртацца – на чужыя ад сваіх пуцявіны. Прабач, пане Антоне (Лявіцкі). Да твае Карпілаўкі цяпер не дапасці,

можа іншым, дагаднейшым разам. З Мікалаем перахапіўшы гасцінны полудзень, на сакратарскім “козліку” яшчэ адскочылі да былое Марцінкевіча сядзібы ў Люцынцы. Памаўчалася-уздыхнулася пад разложыстай ліпай Вінцуковай і адтуль – на Маладзечна, к электрычцы на Менск.

Але ж мне карцела ўбачыць, паслухаць Каханоўскага, нераўнадушша да якога зацеплілася ў сэрцы ад сустрэчы з Зоськай Верас. Чамусьці з ім, пакуль незнаёмым, але, адчуваў, духоўна блізкім чалавекам, рупіла падзяліцца сваймі падарожнымі ўражаннямі, паверыць яму штось таёмна нашаптанае хадаку плыняй імкліваю Нёмана, моўкнай глыбіняю Кромані. Нажаль, дырэктара ў абласным краязнаўчым музеі не заспеў. Маладзіца з адміністрацыі мелася ўжо зачыняць установу, аднак жа дазволіла прыпозненаму наведніку хоць пахапкам аглянуць экспазіцыю. Расчулены вокладкай Статута літоўскага ў вітрыне, іншымі рарытэтамі, парай пафасных радкоў у кнізе водгукаў пасведчыў сваё ўражанне і падзякаваўшы, спешна падаўся на вакзал. Водгук той, распавёў мне пазней з гумаркам Генадзь Аляксандравіч, насцярожыў яго намесніцу і тая было памкнулася пераказаць “куды трэба” запіс падазронага “посетителя”—дыпламата ў пацёртых джынсах і кедах, няголенага. Праўда, патрапіў кіраўнік прытлуміць чуйнасць сваёй памочніцы, адгаварыўшы ад міжвольнага даноса. Такі вось, троху прыгодніцкі пачатак нашае сяброўскае лучнасці.

Сустрэліся ж з ім упершыню ў Маскве на пахаванні Улашчыка. Хаця і раней, спрыяннем таго ж Мікалая Мікалаевіча, між намі ўсталявалася трывалая паштовая сувязь. Меў ужо прачытаную на адным дыханні ўнікальную ў нацыянальнай навуцы яго кнігу – “Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI-XIX стст.” Цепліў, падварушваў настрой і дарчы надпіс аўтара – “стараннаму даследчыку роднай культуры”. Зразумела, адразу ж удзячна адгукнуўся да яго, не тоячы ўзрушэння ад разгорнутых свету Божаму несамавітых, прыцярушаных даўнім часам, амаль забытых старонак нашае духоўнае спадчыны.

Паказальны Генадзеў у адказе ліст, насычаны нялёгкімі абставінамі працы даследніка, нявробленай сціпласцю яго асобы,

абсяжным паглядам на скарбы нацыянальнай культуры – намі дасюль як след не асвоенай:

“Дарагі Аляксей Канстанцінавіч! Дзякуй Вам за добрае слова пра маю кнігу. Прызнацца, я сам ёй не вельмі задаволены, бо рэдактар апусціў шмат каштоўнага з гэтай гісторыі. Інакш кажучы, я яе ў завершаным выглядзе не такой ўяўляў. Круціцца нешта ў галаве, а ці не ўзяцца за другі варыянт гэтай працы, бо матэрыял, што застаўся за “кадрам”, дазваляе. Абы толькі быў час і здароўе, а гэтага бракуе. Не турбуйцеся, нічога не трэба мне аддзякваць. Прачытаў Вашы цікавыя публікацыі і зразумеў – кніга выспявае, вось тым і аддзякуеце. Збіраюся пазней пад` ехаць у Маскву. Трэба ў архівы, бібліятэку. Мне здаецца, што Вы і з польскай мовай ў ладах. А ў нас жа яшчэ Крашэўскі не загаварыў па-беларуску. Маю на ўвазе творы тэматычна беларускія. А што пра Сыракомлю, дык і гаварыць няма чаго, бо ён і духам беларус. А там – А.Плуг, Э.Ажэшка, Т.Лада-Заблоцкі, Я Баршчэўскі, Э.Жалкоўскі, Т.Зан і інш. Усіх гэтых “блудных сыноў” выкарміла сваімі грудзьмі наша Беларусь. Трэба неяк папраўляць памылкі часу і вяртаць страчанае, а можа проста адгароджанае моўнай сцяной. […] P.S. Вельмі цікавая паблікацыя ў “Голасе Радзімы” [“Пялун разбурае і паліць”]. Віншую з каштоўнай знаходкай! – Г.К. 16.V.85”.

Наогул, ці не кожнае пісямко ад яго уражвала, хвалявала інфармацыйнай нечаканасцю, неспатольнай заклапочанасцю лёсам беларускім, нашай нацыянальнай трывушчасцю на памежжы з блізкімі – далёкімі, сваімі-чужымі. Як вось у гэтым выпадку: “Дзякуй за “Скарынічаў”! Вельмі патрэбная штука ў цяперашняй пахаладалай Маскве. Прачытаў я “Литву литературную” № 7 за 1989 г. (Дагавор Расіі і Літвы ад 12.III.1920 г.). Слова “Беларусь” не існуе. Мяжа ідзе праз Маладзечна. І сучасны гісторык Ч.Лаўрынавічус піша што гэта “исконо литовские земли”. Вось дзе было б карысным выдаць у Маскве на рускай мове кнігу М.Ермаловіча, каб пайшла яна па свеце і растлумачыла ім, што такое гістарычная Літва*. Аляксей Пяткевіч прыслў мне ліст з Гародні. Быў у Варшаве. Сімпозіум “Вільня і Віленшчына”. Маладзечна, Валожын, Баранавічы – усё [на іх погляд] польскае… 26.XI.89 г.” Гэта ж ад Каханоўскага ўпершыню і я даведаўся пра беларускае

паходжанне рускага філосафа П.Чаадаева, архімандрыта Спаса-Яраслаўскага манастыра І.Быкоўскага – уладальніка рукапіснага “Слова аб палку Ігаравым”, набытага ў яго і выдадзенага А.Мусіным-Пушкіным, пра запісы беларускіх народных песень ў калекцыі Мікалая Янчука (ЦГАЛИ), пра спомненыя слуцкія паясы ў запасніках маскоўскіх. Дарэчы, адзін з такіх яму пашчасіла набыць у Гістарычным музеі, праз абмен экспанатамі, для музею ў Маладзечне. Ды мала якой нечаканай весткай-навіной мог узрадваць, заінтрыгаваць мой начытаны, натолены архіўнымі таямніцамі, добра абазнаны ў жыццёвых рэаліях сябра. Урэшце, і мне неаднойчы даводзілася пакідаць уласны подпіс на лістках выкарыстання *пад* росчыркамі Г.Каханоўскага (як і Г.Кісялёва, А.Мальдзіса, Я.Саламевіча) – у архівах Масквы, Вільнюса, Ленінграда, Львова, не кажучы пра Мінск. На прыступках жа гарадзенскага сховішча абода шукальнікі нечакана аднойчы сышліся – масквіч і маладзечанец. Тады ж – у траўні 1988 – разам удзельнічалі ў вечарыне клуба “Паходня”, вітаючы наднёманскіх пабратымаў, сясцёр – нястомных валанцёраў Беларушчыны – Міхася Ткачова, Дануту Бічэль, Аляксея Пяткевіча, Аляксея Госцева, Андрэя Майсяёнка, Аркадзя Жукоўскага, Міколу Таранду…

А іхняе з М.Улашчыкам ліставанне. Колькі ж там інтэлектуальнага багацця ва ўзаемна творчым сумоўі вучня й настаўніка цягам амаль дваццаці гадоў. Як жа хораша, натхняльна глядзіцца наш Генадзь з абуджальнымі навінамі, памкненнямі да старэйшага калегі ў тым ненайлепшым “застойным часе”: “…Хачу Вам паведаміць прыемную вестку пра адкрыццё першага на Беларусі помніка Ядвігіну Ш. у Радашковічах. Было гэта 19 лістапада. На адкрыцці былі М.Лужанін, Уладзімір Караткевіч, А.Мальдзіс, А.Ліс, Іван Чыгрын, Я.Каршукоў.[…] Да гэтага на Маладзечаншчыне адкрыты [мемарыяльныя] дошкі і помнікі Я.Купалу, М.Багдановічу, Б.Дыбоўскаму, Т.Зану, А.Салагубу, А.Ф.Посаху (сябру Я.Купалы), А.Чарнушэвічу, Беларускай гімназіі імя Ф.Скарыны (1922-1928). Зараз плануецца ўшанаваць памяць Ігната Буйніцкага. А таксама я распрацаваў калектыўны праект помніка ўсім тым, хто наведаў у розны час Маладзечаншчыну: С.Будны (XYI ст.) Я.Купала, Я.Колас, М.Багдановіч, В.Дунін-

Марцінкевіч, Цётка, А.Гурыновіч, Б.Тарашкевіч, Ц.Гартны [Зм.Жылуновіч], М.Гарэцкі, В.Таўлай, К.Паўстоўскі, Пятрас Цвірка… На асобным камяні будуць выбіты радкі Я.Купалы:

“Мінск Маладзечна Вільня –
Як жа знаёмы шлях гэткі,
Змерыў яго я калісьці,
Як шукаў шчасця па светах”.

Вось тыя справы ў прадапошнім месяцы 1978 года…”

Нямала сілоў, нервовай тузаніны каштавалі ініцыятару кожны з тых помнікаў, дошак, камянёў – знайсці, даставіць, аплаціць, нарэшце, урачыста прадставіць народу. А перад тым, ня раз, найцяжэйшае – узгадніць, дамагчыся партыйна-чынавенскага дазволу, паныла адольваючы падазронасць апошніх (ці, выпадкам, не служылі ў нямецкага кайзера, за прыкладам Пазьняка, тыя ж Ядвігін Ш., Тарашкевіч ..? Мабыць з падобнае падазронасці і цяперашнія адэпты “лініі Сталіна” ніяк не дазволяць устанавіць помнік Улашчыку на яго радзіме ў старажытным Койданаве (прабачце, пакуль – Дзержинске) – выкананы А.Шатэрнікам, А.Белым да 100-х угодкаў вучонага).

І над усім тым не прытуплялася яго, гісторыка-краязнаўца, фалькларыста, пісьменніка вострае сціло, на падтрыманне якога ў стала творчым фармаце выдаткавана нямала часу, натхнення, цярпення. Ладнаваты стос ягоных кніг, артыкулаў, нарысаў, гісторыка-літаратурных эсэ, замалёвак па разлегламу абсягу нацыянальнай культуры, яе вядомых, а часцей недаравальна забытых творцаў – прыстойны прыжыццёвы (віртуальны, па-цяперашняму) помнік яму самому. З часам можа й сімвалічна-бронзавае ўвасабленне яго падзвіжніцкай постаці (як ні парадаксальна маніцца на “забранзавеласць” сціплейшага Генадзя Аляксандравіча) ўзбагаціць мастацкую аўру горада светлай надзеі – на *лініі* двух маладзечанскіх сяброў-беларусаў: Міколы Ермаловіча – Генадзя Каханоўскага.

“Які мы моцны йшчэ народ” – адгукаўся ён прачула на маю кнігу пра Францішка Скарыну, трапна адцеміўшы

гістарычную фенаменальнасць, непрамінальную надзённасць Асобы і спадчыны нашага асетніка-першадрукара. Да гэтае ж моцы духовае прыкметна прычыніўся і ён – Скарыніч з найрупнейшых.

2012

---

* Марнымі былі нашы ў Маскве намаганні прабіцца з Ермаловіча “Гісторыяй аднаго міфа” у расійскі друк—*А.К.*

# Сумуючы над вечным

Памяці Янкі Брыля

*“Я беларус... і проста не магу глядзець на свет інакш”.*
*Янка Брыль. Трохі пра вечнае.*

Яго беларускасць... Ўзварушвае, хвалюе мяне найглыбей пры кожным дакрананні да мастацкага слова, жывога вобраза Пісьменніка.

“Дзе твой народ?” - вуснамі палоннага салдата-беларуса ў “Птушках і гнёздах” агучыў ён, мабыць, асноўнае пытанне свайго жыццёва-творчага шляху. Давёўшы лірычнымі перажываннямі, эпічнымі роздумамі адвечную праўду пра свой народ, яго нацыянальна-духоўную адметнасць, непаўторныя беларускія і агульначалавечыя прыкметы, уласнае пакліканне мастака ў сваёй супольнасці.

Сёння і не ўявіць жывы партрэт беларуса, Беларусі без пакутлівых споведзяў ацаленцаў з нашых “вогненных вёсак”. І, ад процілеглага, - каларытных “байдуноўскіх” жыццелюбаў. Тым болей – пранікнёных “мініяцюрных” замалёвак пісьменніка, гэтай нязвыклай мастацкай энцыклапедыі кшталту: Маё ў маім народзе.

Не падмануўся ў сваіх пачуццях чэшскі пабратым наш Вацлаў Жыдліцкі, калі йшчэ пад зеніт творчае славы Брыля (1966) дзякаваў аўтару “Марылі”, “Маці”, “Memento mori” за адкрыццё беларускае душы.

Ня раз і сам запынішся над старонкай-другою, узрушліва адчуўшы штосьці вельмі сваё – з далікатнай трапнасцю падслуханае ў табе іншым чалавекам-празарліўцам. Чыё кранальнае слова нібы й цябе вяртае ў сіроча “байструцкае” дзяцінства, наталяючы прытомленую істоту невымоўнаю ласкаю і спагадай, чаго табе на зябкім золаку жыцця часам так не ставала.

“Хлопчык быў сірата, бязбацькавіч. – такіх мы бязлітасна звалі байструкамі, - пасвіў чужыя каровы. Не памятаю, як яна пачыналася, наша дружба, што і пра што мы гаварылі. Нават імя

яго згубілася назаўсёды, аднак у памяці моцна і ярка заселі тры акалічнасці: хлопчык усё дрыжэў ад холаду, мяне чамусьці клікаў "Вана", а плотку называў "плёткай" і трэцяе, найбольш істотнае, - увечары, калі я дома расказаў пра яго, узяў ды і раптам разрумзаўся. За гэта мяне высмеялі, але маці назаўтра палажыла мне ў торбу больш, чым заўсёды, нават не намякнуўшы навошта".

Такі вось мастацкі алгарытм неразгорнутай навелы, калі не аповесці (загадка брылёвага жанра) - з неадольна запамінальнымі вобразамі, дзеяннем-канфліктам, з той душэўна мацярынскай дабралюбнаю аўрай, у якой фармавалася ўражлівая да ўсяго чалавечага натура нашага творцы.

Другім разам і ты – даўно пасталелы, ужо й пастарэлы - міжволі сцінаешся ад гострага, бы свайго ўласнага, смутку народнага пісьменніка над бядотай нашай нацыянальнай.

"Як гэта цяжка быць беларускім пісьменнікам, у нашай мелкай, бесхрыбетнай правінцыі, у блакадзе "моўнага бар'ера", без роднага дома, які ёсць у літоўцаў, армян, эстонцаў... У іх няма майго, нашага адчування: як пад нагамі абсоўваецца бераг, як звужаецца кола чытачоў, як мова наша адыходзіць!.."

Не хочаш, зажурышся над тупагаловымі абвальшчыкамі роднага берага – слепанямым, нацыянальна падкалечаным начальствам, якое сталеццямі цярпліва валачэ на сваім карку рахманы беларус.

"Хадзіў у Цэка. Патоўкся ў калідорах, па кабінетах. Няма з кім гаварыць, дурань на дурні едзе. Парторгі ёсць, прафоргі ёсць, камсоргі ёсць, а школьных хораў няма. І ніхто не хоча слухаць". Гэткая, у пераказе пісьменніка, накіпелая горыч Рыгора Шырмы, рупліўца песні беларускай. Але ж і Янка Брыль – хіба не дазнаваў прыкрасці ў "высокіх" кабінетах?

І сёння як ні горка, а не скажаш, каб начальнікі тыя, іх высокалобыя наступнікі хоць крыху паразумнелі, палагаднелі на беларускі лад. Напышаныя ўладарнікі з "Чэсным" самым начале, яны рашуча перасягнулі сваіх папярэднікаў у блюзнерчым - ужо цалкам "незалежна-суверэнным" – глумленні над Беларушчынай, яе носьбітамі, падзвіжнікамі. Не стала ў іх ні розуму, ні чалавечае тактоўнасці – хаця б на прыстойнае развітанне пры адыходзе волата духу беларускага Брыля ў

векавечны Пантэон нацыянальны – абок Багушэвіча, Купалы, Коласа, Гарэцкага...

Аднак жа, паўтараючы Брыля, і я не асуджаю (“Божа, дай ім даўжэй пажыць. Хай спаўна аттрубяць свой час...”), а толькі сумую. Не трацячы, як і наказваў Настаўнік, веры ў лепшае: Перажылі лета гарачае, перажывём і г... сабачае. Імкнучыся, на траву гледзячы, трымацца Брылёвае трапяткое высновы адносна жыцця наогул, твайго асабістага ў прыватнасці.

“Вось праблема – ведаць, што ты жывеш толькі сёння, што няма чаго адкладаць на заўтра, няма чаго кудысьці ўсё спяшацца... А чаго? Каб потым азірнуцца і заплакаць? Што бег ды не дабег, а многае пакінуў...”

Але палагодзім гарчыстыя жалі чуйным слыхам, сонечным позіркам Мастака, супынімся на светлым і вечным. Пачуўшы - згледзеўшы зачаравана як свіркоча, прашываючы блакіт нябесны, вястунок вясновы – жаваранак. Як на шпакованьцы твайго лецішча празрыстай ранічкай захоплена трапеча крыльцамі ў такт пералівістым руладам чарнамазы шпачына. Тут, за Акой, на пагурыстым абсягу рускага поля, як і ў брылёвым Наднямонні, таксама высокае, недасяжнае неба, шчымлівае зязюльчына ку-ку з прыцішана задумлівага бору. Хоць ні буслянкі, ні клёкату беларускае птушкі бацян на жаль, не згледзіш, не пачуеш...

Хілю да таго, што Ён мне куды як родны – наш народны. Здавён і вельмі. Калі ж адчулася гэтая душэўная крэўнасць? Можа ад першае сустрэчы з ім, аўтарам “У Забалоцці днее”, сталінскім лаўрэатам. Вясновым надвячоркам 1953-га завітаў ён да нас (здаецца з Іванам Грамовічам) у Мінскі бібліятэчны тэхнікум, на Акадэмічнай, на чытацкую канферэнцыю па сваёй кнізе. Дасюль не паблякла ў памяці тое першае ўражанне ад яго магутнае вабнае постаці, нетаропкага цёплага голасу – рокату, праменнае ўсмешкі на вуснах несамавітага госця – упершыню зблізку ўбачанага пісьменніка.

Пачуццёва юначае, напачатку хутчэй знешняе нераўнадушша, пазней будзе скрозь, што раз глыбей падахвочваць, сілкаваць

маю цягу да Брылёвага слова, палонячы сэрца дзіўнаю, неспасціжнаю прастатой і шчырасцю.

Прычашчэнне да запаветных старонак калі-нікалі пазначалася ў маім дыярыўшы (пераказаным у БДАМЛІМ) – маўклівай размове маскоўскага беларуса-самотніка з Бацькаўшчынай, з іншай крэўнай душой, суладнай настрою, мроям тваім, парыванням.

“25 чэрвеня 1977. Музыка з “Panasonic” і перачытванне Брыля Янкі лірычнае споведзі – Хто твой народ?”

“5 ліпеня 1977. А між тым усім – шэрым, прамінальным – новыя жыццёвыя максімы, выкладзеныя Талстым, Дастаеўскім, Раланам, Нэру, родным словам крынічным Брыля : “Вывучу столькі, колькі трэба, каб ведаць, куды я прыйшоў, што мне рабіць і як пайсці адгэтуль”.

“27 верасня 1978. [ ... ] І мабыць – галоўнае: “Трохі пра вечнае” Янкі Брыля. Толькі што набыў на менскім паштамце

- Рубель?, - перапытваю, не тоячы радасці.
- Ага, рубель, – чуецца лагоднае ў адказ і ветлівая жаночая рука з-за вакенца працягвае кнігу. Расчулены пакупнік не спяшаецца адыходзіць.
- Яшчэ мне во гэтых [паштовак] – “Са святам!”
- Сколькі вам?
- Тры.
- Тры *дык* тры…

Радзіма сустрэла ўцешлівым дыканнем. Словам, добрай раніцы, Беларусь!”

“12 лютага 1979. Прыкра гэта і страшна ведаць, што і сёння, і заўтра, і паслязаўтра ў цябе свабодныя для працы раніцы, што ты павінен працаваць, а ты не можаш!..”

Глухое, роспачнае “не можаш!” – зранку і амаль праз цэлы дзень, пакуль лісталася, пералісталася “Вечнае” Брыля. Трэба было садзіцца за сплачванне “навуковых” даўгоў, ад якіх наважыўся ўцякаць, не разлічыўшыся. Не ўтрымаўся, пачаў чытаць свежы “ЛіМ”. Пахвалілі беларускага спавядальніка за “самім сабою трэба быць”, ... адкрытасць лірычнага таленту

Брыля - і пісьменніка, і крытыка, і грамадзяніна. І – ані трохі, ані кроплі пра тое самае вечнае, што гадамі поўніць светлы розум, сонечную душу Пісьменніка і сумнаватай вясёлкаю зіхаціць над прэснаю літаратуршчынай, казённым патрыятызмам. Няма, не чутно [у крытычных рэляцыях] Радзімы, Беларусі, яе спакойнага й трывожнага дыхання, якім шчодра натолена праменнае слова Беларуса-патрыёта.

Калі ж ты, назіральнік збоку, выкажаш сваё... слова? Калі адолееш найцяжэйшае "Не магу!"?

Таго ж, 1979 году налучылася мне непасрэдна пазнаёміцца з ім. Пра акалічнасці тае сустрэчы пазней, на Чытаннях памяці Сцяпана Аляксандравіча (1996), згадае Янка Брыль.

"У польскай Зялёнай Гуры, на штогадовым фестывалі савецкай песні і літаратуры мне давялося пабыць вясною [дакладней, а палове чэрвеня – *А.К.*] 1979-га. Там у мяне сярод іншых новых знаёмстваў, пераважна з палякамі, адбылося знаёмства, якое спачатку дзіўным здалося, крыху насцярожыла. Старэйшыя з вас памятаюць, як гэта, нават і ў паслясталінскія гады, няпроста было паехаць за мяжу, колькі гэтаму папярэднічала цягучай марокі, як у Варшаву і з Мінска, і з Брэста ехалася толькі цераз Маскву, колькі было ўступных інструкцыяў наконт паводзін з пільнай асцярожнасцю... А там, у далёкім заходнім кутку польскіх "вернутых земляў" да мяне падышоў стрымана ўсмешлівы мужчына сярэдніх гадоў, назваўся супрацоўнікам савецкага пасольства. І гэта – заўважце - на добрай беларускай мове... Дні праз два, ужо ў Варшаве, пасля польска-савецкай літаратурнай сустрэчы, мой новы знаёмы запрасіў мяне дахаты. Зноў прышлося дзівіцца, - у прасторным кабінеце пустой кватэры, бо сям'я гаспадара ў Маскве, паліца беларускіх кніг!.. У гутарцы, што спакваля рабілася ўсё шчырэйшай, неўзабаве згадалася імя, якое прагучэла пэўным сімвалам узаемаразумення, далейшага яднання землякоў у замежжы. Таварыш дыпламат, аказваецца, пакуль у яго дайшло да адпаведных інстытутаў, навучаўся ў Мінскім бібліятэчным тэхнікуме, а ў яго быў любімы выкладчык роднай літаратуры Сцяпан Хусейнавіч Александровіч…"

Сёе-тое ў цытаваных радках хацелася б патлумачыць. Найперш – пра насцярожанасць. Пазней, па бліжэйшым нашым сыходжанні, Іван Антонавіч спамінаў з лёгкім гумарам: сумеўся было напачатку – чаго гэты пасольскі саветнік ціснецца да мяне?

Вядома чаго, - падхопліваў я жартаўлівы тон, - расчуліць беларушчынай, увайсці ў давер слыннаму субяседніку, а потым шмаргануць цыдулу ”по инстанции” аб непраграмаваных сустрэчах беларускага пісьменніка з польскімі, ідэалагічна сумнеўнымі інтэлектуаламі. Мусіў жа сумленна адрабляць свой “дыпламатычны” хлеб. Пацешна было абодвум з тае падазронасці.

На спомненай паліцы з беларускімі кнігамі туліліся і дзве Брылёвы. “Трохі пра вечнае” - тады ж аўтарам падпісанае ўладальніку. Другая - “Акраец хлеба”, з нязвыклай чытацкай легендай, пра якую і распавёў госцю. Пляменнік мой Саня Цыбін, з Чэрвеня, салдатам-шафёрам, разам з іншымі службоўцамі камандыраваўся ў Лівію на будаўніцтва стратэгічнага аб’екта. Перад ад’ездам завітаў да дзядзькі на маскоўскую кватэру. Каб хлопцу не вельмі маркоцілася ў далёкай дарозе, адарыў яго вясёлай кніжачкай-талісманам з агаворкай: вярнуць па заканчэнні “братняе місіі”. Па нейкім часе кніга “вярнулася” з таямнічае афрыканскае краіны, а на яе нутранай вокладцы – удзячныя аўтографы чытачоў - савецкіх, у цывільным, салдатаў і ... лівійца, іхняга перакладчыка, які таксама некалькімі радкамі арабскае вязі пасведчыў сваё ўзнанне беларускаму гумару ў забаўным вобразе вынаходлівага “маёра” Асмалоўскага – “Сідара-гоп”.

- Не чакаў, - усміхаўся пісьменнік, разглядаючы надпісы незнаёмых чытачоў , – што мае весялуны - “байдуноўцы” ажно так далёка трапяць. Дзякуй вашаму хлопцу.

З тае помнае сустрэчы засталося ўва мне цёплае адчуванне нязмушонасці да гэтага мудрага, прываблівага стрыманай далікатнасцю чалавека. З кім без напінання лёгка і смачна гаворыцца, хоць пра сябе і пільнуешся зразумелае дыстанцыі, асцерагаючыся якога марнага слова.

Незадоўга на мой варшаўскі адрас надыйдзе важкі, спелага каштанавага колеру, першы том яго збору твораў. Потым падобныя бандэролі з Менску будуць уцешваць ужо маскоўскага адрасата – палонячы слодыччай, не без горычы, прагнага чытання - перачытвання, сцішанага хвалявання над Брылёвым радком.

Аднаго разу сустрэліся ў Маскве на Савеце па беларускай літаратуры пры Праўленні СП СССР. На перапынку, за кубачкам кавы ў знаным пісьменнікамі падвальчыку на Вароўскага, троху ніякавата вінаваціўся я перад Майстрам:

- Іван Антонавіч, здаў у выдавецтва свой рукапіс аб Францішку Скарыне. Загаловак – “Тут мой народ” – пазычыў, не пытаючыся, у вядомага Вам аўтара. Ніяк плагіятам патыхвае, - што скажаце?

- А што казаць?, - знаёмая стоеная ўсмешка на твары, - паглядзім, што там пад загалоўкам...

Неўзабаве прачытае ён тую кнігу-падарунак, адзначыўшы яе ў “анкетным” водгуку сярод іншых выданняў году.

Перагортваю старонкі нашага ліставання. Віншуючы Пісьменніка з 80-годдзем, прыгадаў яму і свой “варшаўскі” запіс – уражанне ад спомненага знаёмства:

“Мілы Іван Антонавіч!

У нашых рускіх братоў ёсць “весёлое имя Пушкин”. Дак жа, падумаў, і беларусаў не абдзяліў Гасподзь ні весялосцю, ні іншамі кляйнотамі. Словам, я – пра цёплае беларускае імя Янка Брыль: увасабленне нашае харашыні, мудрасці, чалавечнасці і ... трывушчасці.

[...] З свайго ж нататніка, правам даўняга нераўнадушнага чытача Вашага, рызыкну даслаць невялічкі фрагмент:

“14 чэрвеня 1979 [Варшава].

Праз 5 мінут адыйдзе і гэты дзень. Быў ён харошы, працавіты. Давяршыўся сустрэчай з Іванам Антонавічам Брылём. Мудры, ненапышлівы майстар слова, ён і ў размове – сонечны і просты.Закранулася і польскае месіянства і “земе загарнентэ”

[захопленыя землі], а найперш – Беларусь яснавокая наша, якая, што б там не было, нямець зусім не збіраецца. Калі меркаваць хаця б па Брылёвых кнігах, што чытаюцца сёння і палякамі, і немцамі, і чэхамі, і балгарамі... Днём раней, на вечарыне ў ДСНК [Доме савецкай навукі і культуры] уражанні ад фестывалю савецкай песні ў Зялёнай Гуры пісьменнік падагуліў цёплаю смяшынкай-іскрынкай: "Песні-песнямі, пагода-пагодай, але работа-работай". Вось і табе – парада і засцярога".

Дзякуй Вам і нізкі паклон".

З той жа цеплынёй адгукнуўся і юбіляр: "Што ж, добра пачуць такое, - асабліва ад чалавека, у шчырасць якога верыш. Таму дзякую – з прыемнасцю і шчыра."

Рыхтуючы да выдання "Выбранае" Мікалая Улашчыка, прасіў я Івана Антонавіча дадаць сваё слова пра нашага Гісторыка; абодвух жа іх лучыла ўзаемная прыхільнасць, творчая перапіска. Перад тым пераказаў яму адпаведныя публікацыі. Брыль  і гэтым разам выказаў сустрэчную ўзаемнась і зразуменне.

"Дарагі Аляксей Канстанцінавіч!

"Скарыніча", а ў ім у першую чаргу "Навальніцу" я прачытаў да нашай з Вамі гутаркі па тэлефоне. А ўчора праз дзень чытаў "Русь – Літву -Беларусь", у нейкай меры ўсё падрад, а то і выбарачна. Цяпер 6 гадзін раніцы, і хоць для нас існуюць абавязковыя рэцэпты (не чытаць пры электрасвеце, тым больш адным вокам...), буду чытаць далей.

[...] А як жа здорава гучыць і свеціцца Сам – Мікалай Мікалаевіч – і ў "Навальніцы",  і ў " Освобождении", і ў іншых рэчах, у тым ліку пісьмах!...

Тут я падыходжу да свайго даўняга адчування віны перад памяццю Улашчыка.... Некалі Панчанка скардзіўся, чаму ніяк не можа напісаць пра Твардоўскага: "Што не ўспомню, дык усё выпіўка!..". А ў мяне толькі тры сустрэчы: у доме літаратара ў 1980-м, у Маскве, разам з У.Калеснікам, улетку 1981-га і ўвосені 1983-га ў Каралішчавічах Што мала гэтага – апраўдання нама, што трэба – ведаю. Ну, можа Бог дазволіць.

А пакуль што шчыра дзякую за выдатныя падарункі ”.

Не прымусілі сябе даўжэй чакаць і лаканічныя Брылёвы старонкі пра “вялікага сына Беларусі”, надрукаваныя дадаткам, у згаданым “Выбранае”, разам з лістом Васіля Быкава да М.Улашчыка, успамінамі аб ім акадэміка Радзіма Гарэцкага.

Прынагодзілася сустракацца, гаманіць у яго кватэры на вуліцы Дразда. Выказаў, будучы у Менску, спачуванне ягонаму асірачэнню з адыходам у іншы свет жонкі Ніны Міхайлаўны.

- Заглянулі б можа.., - пачуў тады прыцішана журботны голас. Падаючыся на сустрэчу, зноў патэлефанаваў: ці не прыхапіць, з цэнтра едучы чаго з прадуктаў, лякарстваў (ведаў пра кардыёстымулятар над Брылёвым сэрцам...).
- Не, нічога не трэба. У мяне абслуга харошая. Сябе хутчэй вязіце, – азваўся ўжо крышку бадрэй, з лёгкім пацьвельваннем.
Сябе вязіце.... Спомніш такое, затлумлены ў чужым агромністым мегаполісе, і неяк павесялееш, кіруючы думкай да нечага-некага роднага, блізкага.

З прыўзнятым настроем узыходжу прыступкамі да пэўнае кватэры. На званок адчыняюцца дзверы і ў праёме – знаёмая высачэзная постаць з прыветным усмехам.

- Проша пана...
- Іван Антонавіч, - пачынаю, прывітаўшыся, троху блазнавата, - дапяў, нарэшце, Брылёвай вуліцы. І пераказваю пачутую калісьці ад Уладзіміра Дамашэвіча гумарыстычную показку – як кіраўніцтва Парнаса беларускага наракала ўладам Рэспублікі на занядбанне нацыянальных назваў ў тапаніміцы стольнага Менску. Как же, - нібыта рэагаваў нехта з санавітых, – улица Купалы у вас есть, площадь Якуба Коласа – пожалуйста. Даже здравствующие классики увековечены: улицы Танковая, Брилевская, Скриганова…
- Той жа начальнік, казалі, - прымае гумарыстычны тон, - дадаў яшчэ колькі прозвішчаў: Фрунзе, Кнорын, Мяснікоў – белорусские писатели, писавшие по-русски. Такі ж і яны нешта пісалі, падпісвалі, рупячыся о судьбах Белоруссии.
Запыняемся ў бочным, рабочым пакойчыку гаспадара. Устыч вакна – пісьмовы стол, на ім, пасярэдзіне, стосік паперы, па

краёх акуратныя грудкі кніг, часопісаў. Наўзбоч сцяны – кніжная шафа. Каля тыльнае, ад стала, сцяны – канапа, над ёй жывапісны партрэт Льва Талстога... Перакінуліся некалькімі словамі наконт цішы й адзіноты ў творчым настроі…

- Прысядзем мо` на кухні, - прапануе, – там утульней будзе, а “таварыш маёр”, - змоўніцкі ускідвае паглядам под столь, – калі й пачуе што, не ўбачыць нашага чаркавання.

Пры квадратным століку, загадзя сціпла і шчыра абстаўленным, пад першы, наўпалову другі кілішак (“болей не будзем..”) цякла нетаропкая гаворка. Тады толькі, зблізку, заўважыў я на зрэнку ягонага вока нейкую бляклую палойку.

- Гэта ж каторы ўжо год, - нібы апярэджваючы спачувальны роспыт, патлумачыў. – Так вось адным вокам і абыходзімся, хоць адным не надта начытаешся. І пераводзячы гутарку на іншае, дадаў спакойна, філасафічна: – Што зробіш, плоць слабее. Але памяць эстэтычная, дзякаваць Богу, пры мне.

Эстэтычная памяць Брыля... Прытомлены немалымі гадамі, пазней і хісткаватым здароўем, ён да апошняга не натоміцца расчульваць чытача светлынёй і жыццелюбствам свайго паэтычнага радка. Нават, калі радок той штурхаўся з надраненага, збалелага стратай найдаражэйшага яму чалавека, сэрца.

Не ўсцяраглося пры той размове ад сумных заўваг адносна раздраю ў пісьменніцкай сябрыне, справакаванага нахрапістасцю каялітаратурных гайдукоў – з тае ж ваяўнічае каманды “чэсных” і “правільных” - , наступам на Саюз беларускіх пісьменнікаў, іхнюю выдавецкую гаспадарку. Брыля, адчувалася, асабліва праймала грамадзянская кволасць некаторых калегаў, спакушаных саладжавым пернікам на жорсткім бізуне, навіслым над нацыянальна-адраджэнчай традыцыяй, Беларушчынай наогул.

- Ну, прыліпалаў графаманістых з членскімі білетамі неяк можна зразумець. – скрушліва разважаў Першамайстра. – Але ж ты – паэт, з талентам. Табе чаго пхацца да тае хэўры?. У цябе ж і спецыяльнасць …– на хлеб зарабіў бы…

Па невялічкай паўзе прашу яго паслухаць свой пераклад верша рускага паэта В.Качаткова пра суцешліва-мудрую старасць (пазней змешчаны ў “Скарынічы” -6); там праз пэўную вольнасць перакладчыка “засвяцілася” і асоба майго нязвыклага слухача: “… І не спакушаць ні Кафка, ні Прыстлі, // А сэрцу лякарствам – Купала і Брыль”. Аднак жа не гэтая, ім нібы не заўважаная дэталь, але заключны радок, а менавіта адно толькі слова “старык” (“І век цікавей дажываць старыком”) выклікала рашучае пярэчанне:

- “Старык” – ні ў якія вароты, чысты русізм!

Няўпэўнена, але спрабую апраўдацца: маўляў, і класікі, здаралася, грашылі русізмамі; вунь у Стральцова – “старык”, “старычок” – алметная рыса яго маўленчай практыкі…

- Мала што, - не саступае Іван Антонавіч, - у самога Якуба Коласа натрапіце на выпадковую кальку. Але ж не на агрэхі нам трэба раўняцца, калі ёсць узоры. І, лагодна ўсміхнуўшыся, завяршае: поработайте, батенька, потрудитесь…

Гутарку нашу парушыў званок у пярэдняй. Гаспадар падаўся адчыняць і праз хвіліну-другую вярнуўся, прыкметна ўзрушаны, павесялелы.

- Бачыце, і пошта мяне не забывае, і маладзечанец рупны Міхась Казлоўскі, – не тоячы суцяшэння распячатаў атрыманую бандэроль з “Куфэркам Віленчшчыны”. Затрымаўшы погляд на змесце, патлумачыў: – Тут- пра Рыгора Семашкевіча, Адама Станкевіча… І – не збаўляючы ўзрушэння: Каб жа парупіўся хто з нашых, багацейшых, над спадчынай Адама-пакутніка: сабраць ўсе, выдаць. Выдалі ж Лёсіка, Станкевіча Янку, цяпер вось і Адамовіча [Антона]. А гэты ж Станкевіч, бадай самы беларускі з святароў – такая глыбіня духоўная, нацыянальная...

Зноў званок. За гаспадаром следам падымаюся і я , адчуваю мяжу дапушчальнага часу, аб чым лізнуўшы праменным касячком падваконніка напомніла і надвячэрняе сонейка. А на парозе – фігура статнага чарнявага маладзёна.

- Мой унук Антон, студэнт-матэматык, - не без прытоенага гонару прадстаўляе дзядуля свайго сімпатычнага гадунца. – Неўзабаве і Наташа [дачка] надыйдзе, з выдавецтва вяртаючыся. Казаў жа пра сваю абслугу – клапатлівая.

Наступнага году, помным 25 сакавіка (тутэйшы ОМОН разагнаў мітынгоўцаў Клімава на Цэнтральнай плошчы…) паўтарылася наша сустрэча на той жа, прыветнай цяпельцам душэўным, кватэры, гаспадар якой крыху раней і падахвочваў на адведзіны прываблівым, брылёва-перасмешлівым лісцяняткам у Маскву (9 лютага 2005):

“Гэтым разам Вы каўзануліся па Мінску асабліва неяк маланкава. Я і чакаў, што акажацеся, вярнуўшыся з родных мясцін [Чэрвеньшчына], а потым не вытрымаў, пазваніў Скалабану з адчайным пытаннем: “Дзе ж Каўка?”, а ў адказ пачуў усмешлівае спакойнае: “Як дзе?” У Маскве, абяцаецца быць у красавіку”. Зноў цытата: “Верю, Господи, помоги моему неверию”. Але ж будзем спадзявацца, бо сустрэцца добра было б..”

Як жа цеплілі тыя вясёлыя радкі азяблыя акаёмы істоты псіхасамотніка, чыя беларускасць “в иноязычном” атачэнні амаль зняможылася бараніцца ад неадчэпнага ернічання таго ці іншага “маскоўскага аўтара”–інтэгрыста: “Так когда же, наконец, воссоединимся? Нечто твой (!) Батька заупрямился под общую длань Подскочил бы в Минск, поторопил... С Позняком ведь уже не тусуешься (ведае..)”.

Не даць бы сабе рады ў глухой безнадзейнасці, калі прытаптаны народ твой тужацца перайначыць на “истинный”, нават са “знаком качества”, – калі б не суцяшальная вестка, прыветнае слоўка, прамяністая кніжачка адтуль, з Радзімы з Брылёвым спачувальна ўпартым: “А жыць жа трэба!..” Іншым разам смехам – нават праз слёзы – адольваючы гаркату панылае будзёншчыны. За прыкладам тых жа гледачоў Купалавага “Раскіданага гнязда” у Рускім драматычным: “Калі са сцэны пачулася: “Чаго сядзіце? Бацька павесіўся!”, моладзь грымнула смехам і воплескамі”. Хаця не метафарычны, рэальны “Бацька”, яго ўвішныя халопы смеху відавочна не зносяць: “А пазней пачуў, тое “чаго сядзіце?” і далейшае ў Купалавым тэксце [з пастаноўкі] знята”.

Спомненым сакавіцкім вечарам завіталі да яго ўдваіх з В.Скалабанам, з гадзінку прабавіўшы пры знаёмым гасцінным

століку. Тым разам увагай гаспадара валодаў пераважна мой калега-гісторык, дапытлівы архівіст, звяраючы з Брылёвай нятускнаю памяццю некаторыя “архіўныя” факты, імёны з літаратурнага жыцця ў паваеннай Беларусі, за “Панамарэнкавым ” часам. Слухаючы іх ажыўлёнае гамонкі спрабаваў я, нібы крадком, слова-другое занесці ў свой нататнік.

- Асцярожней, пане Віталь, нас запісваюць. – усмешліва прабасіў размоўца, паводзячы брывом у мой бок.

- А як жа?. – мусіў аджартоўвацца няўцямны “пратакаліст”, - не палягацца ж на дакладнасць “таварыша маёра”. Здавён, не тут кажучы, многія непаразуменні на свеце - ад хібных занатовак, тэхнічна недасканалых праслушак.

Закранулася ў размове прозвішча Броўкі.

- Дарэмна насміхаюцца: “Пятрусь Броўка піша лоўка”. Яго ж позняя лірыка – якая паэзія! Пры ўсім сваім самалюбстве і чалавек ён быў чулы, спагадлівы. Мог выслухаць, мог пагадзіцца з процілеглай думкаю. Далей апавядаў як на Сакратарыяце ён, Брыль, запярэчыў рашучасці Старшыні, схіліўшы яго, замест “караць”, падмагчы “багемнаму” Сымону Блатуну ў яго няпростай сітуацыі, як пасля асабістага ўмяшальніцтва Броўкі зборнічак паэта ўбачыў свет.

Таго ж вечара я падараваў яму томік раней не друкаванага Міхаіла Прышвіна “Дзённіка”, набытага ў звенігародзкім Дуніна, сядзібе-музеі пісьменніка. Удзячна згадаўшы, што менавіта Брылёва душэўна-эстэтычная пранікнёнасць да Прышвінаўскага слова (“Сказка о правде”) ўзварушвала, узмацняла і маю чытацкую цікавасць да гэтага чуллівага рускага думанніка, непаўторнага збіральніка мастацкае харашыні ў прыродзе і чалавеку.

Цяпер дадаў бы, што тыя ж роздумы-хваляванні Янкі Брыля над Талстым, Чэхавым, Буніным, Шаўчэнкам, Міцкевічам, Раланам не аднойчы і ў маёй істоце ўскалыхваліся працінальнымі штуршкамі да прачытання, перачытвання адпаведных старонак. Не кажучы пра наш беларускі палетак. Ня раз уражаны Брылёвым знакам твораче якасці адносна Караткевіча, Стральцова, Кудраўца, Жука, вяртаўся , вяртаюся да гэтых найбліжэйшых майму мастацка-філасафічнаму

ўспрыманню майстроў-словатворцаў. Зноў жа, удзячна запыняюся над не менш мне роднаснымі імёнамі многіх іншых руплі́ўцаў Беларушчыны – Ермаловіча, Каханоўскага, Конана, Дамашэвіча, Ткачова, Кісялёва, Мальдзіса, Ліса, Саламевіча… - пранікнёна адзначаных у яго лірычных запісах.

А ўвогуле не ведаю, хто другі сярод нашых творцаў нагэтулькі аглядна і ўглядна пазірнуў на сваю, на сусветную літаратуру, культуру, на блізкія і дальнія народы, на спалучанасць беларускага лёсу і шляху з іншымі краінамі і культурамі і хто гэтак шчодра падзяліўся з чытачом бясцэнным дарам убачанага, перажытага, выснёнага “здалёк і зблізку”. Ні ў чым не паменшваючы зробленага на тым жа нацыянальна-універсальным абшары сучаснікамі і бліжэйшымі сябрамі Янкі Брыля – Алесем Адамовічам, Уладзімірам Калеснікам.

Зведалася ж ад яго, трэба празнацца, і пэўнае ніякаватасці праз сваё лёгкавеснае абыходжанне з рэчамі важкімі, высокімі. Вялікая Айчыная вайна – ці была для беларусаў айчыннаю? – рытарычнае, калі не кашчуннае, як цяпер бачу, пытанне іржавым цвікам вытыркалася з маіх, раздрукаваных уражанняў ад паездкі ў Лондан, знаёмствам з нашымі эміграцыйным пісьменствам. За тое сумнеўнае “Ці была..?”, падхопленае пад тадышнюю галоснасць запальчывым пісакам з іншага голасу, давялося мне вытрымаць не адзін востры дакор ад сяброў, ветэранаў тае самае Айчыннае...

І вось сядзімо разам у залі Дома літаратара на канферэнцыі, прысвечанай культуры беларускага замежжа, ладжанай “Бацькаўшчынай”. Закранулася ў выступленнях і тэма мінулае вайны. Раптам Брыль, крануўшы майго пляча і скіраваўшы на суседа засяроджаны, нібы пачужэлы позірк, цытуе з памяці Бранеўскага: “Skrześl Ojczyżnie rachunki krzywd. Obca dłoń ich też nie przekreśli…”* І далей дакорліва прыцішаным голасам: Нехта тут, між нас, засумняваўся: ці варта было беларусу бараніць ад гітлераўцаў свае, маўляў, зглумленае бальшавікамі

---

* *Перакрэслі Айчыне рахункі крыўд. Іх чужая далонь не скрэсліць (польск.)*

Радзімы. Але ж іншае, лепшае не мелі, не маем. Адна яна – адзіная. Як і маці ў кожнага – адна. І вытрымаўшы невялічкую паўзу, падагуліў, троху лагадней: “Такія справы, маэстра. Калеснік Валодзя меўся напісаць вам штосьці  пратэстнае, але вельмі занядужаў...”

З пякуча-гаючым адчуваннем перажыў “маэстра”-недацёпа шчыры ўрок Брылёвай ненавязлівае патрыятычнасці й грамадзянскасці.

Спомнілася мне тое перажыванне значна пазней. Пацяплелым апоўднем 9 мая 2006 спяшаўся я ў шпіталь на Чырвонаармейскай – адведаць, павіншаваць са Святам пісьменніка, франтавіка, беларускага партызана Янку Брыля. Дарогаю незнарок варухнуліся ў памяці шчымлівыя радкі іншага салдата і Паэта[А.Пысіна]: “Мой таварыш ляжыць у бальніцы. Амініце яго, навальніцы…”. Тыя словы і пазначыліся ў падараванай яму кнізе “От Скорины до Купалы”.

Бавіцца тады даўжэй між шпітальных сценаў не выпадала. Быў “мёртвы час”  і дзяжурную сястру ледзь упрасілася выклікаць пацыента з палаты. З яе дазволу і папярэджання “на пять минут, не больше” прыселі абодва цішком у тарцы калідора. На хворага, зняможанага Ён не выглядаў ды й у бальнічнай палаце, казаў, апынуўся хутчэй з прафілактычных меркаванняў. Спешна было і мне; меўся перад ад’ездам яшчэ зазірнуць да Алены Васілевіч, з ёй, дарэчы, пры садзеянні Брыля, ладзілася наша прыязная  перапіска, і ад яе даведаўся, што “Янка наш” у бальніцы, аб чым яму і сказаў, між іншым.

- Пачакайце, - запыніў мяне пры адыходзе, ля сваёй палаты. Прыадчыніў асцярожна дзверы ў пакой і адразу ж вярнуўся з пруткастым пукам белых, чырвоных гваздзік і трыма буйнымі апельсінамі ў руках. – Мне тут нанеслі  і кветак, і  садавіны. Як жа не падзяліцца з бліжнім – тым болей, ветэранам. Зробіць пан ласку, перакажа віншаванне цвяточнае сонечнай Лене-пісару “строевой части” ад партызанскага разведчыка. Злёгку пахінуўся ўперад – крышку стулены, але ўсё той жа паглядна высокі, магутны, і я трымтліва дакрануўся яго ледзь дасягальнага пляча...

- Ой, Янка, Яначка. – расчулена прыгаворвала “сонечная Лена”, ладзячы у крышталёвую вазу прывітальныя кветкі...

Недзе ў сярэдзіне ліпеня атрымаў бандэрольку з мілым знаёмым почыркам. Усхвалёваны, распячатаў: “Парастак” Янкі Брыля. Таго ж дня спяшаючы назад з грукотнага млоснага горада ў сваё лясное зацішша, прыхапіў на пошце канверт з маркамі, маючыся адтуль, з-над Акі, напісаць яму нешта шчырае, спавядальнае. Праз якіх два-тры дні, “прарваўшыся” апоўначы на Радыё Свабода, скамянеў ад раптоўна пякучае весткі – “... з адыходам Янкі Брыля...” Назаўтра вяртаюся ў Маскву, спрабую дазваніцца па знаёмым тэлефоне... Глухое маўчанне. З паштамта падаў тэлеграму-спачуванне Наталлі Семашкевіч-Брыль.

У дзённіку маім – журлівая нататка: “26 ліпеня 2006. Зялёны парастак дубовы - з вячыстага камля... Апошняя кніжачка светлага думанніка Беларусі, Нестара класічнага слова беларускага. Мабыць, прадчуваючы свой адыход надпісаў маскоўскаму суродзічу – ужо дрыготкімі, хоць такімі ж брылёва ўстаўнымі літарамі: “Рады паслаць Вам сваю кніжыцу і спадзяюся пачуць ад Вас, что вы яе атрымалі. Дай нам Бог зноў хутка сустрэцца! 9.VII. 06. Я.Брыль.”

“На вялікі жаль, не сустрэнемся, мілы Янка Брыль. Толькі – ля пясчыстага пагурачка і можа там – за таёмнай мяжой. Дзе й скажацца недасказанае, перапросіцца, што не паспеў пазваніць, напісаць, падзякаваць..”

“Пра мае жальбіны – у лісце Анатолю Кудраўцу. З ім яшчэ мо спаткаемся – над Вячай, у Купалавых Беларучах… Спяшаймася ж сустрэцца”.

А пакуль – жыццё доўжыцца – сцішана запынімся ў Брылёва сонечнай прасторы над журбой-светлынёй беларускай:

“Хай будзе добра ў вашым баку. Бывайце, людзі добрыя…”

Няхай жа будзе.

жнівень-верасень 2007. Успенскае.

# Промні чалавечнасці

Уладзімір Калеснік

Спамін аб ім варухнуў у памяці адно сонечнае слова: светлы. Гэтае ўражанне ад інтэлекту Уладзіміра Андрэевіча падсілкоўвалася і знешнім абліччам думанніка-падзвіжніка: адкрыты, арыстакратычна бледнаваты твар з высокім чалом, зыркімі, глыбока-углядным і вачыма. Яны, здавалася, не проста пазіралі, а праціналі, нібы рэнтге-нам, субяседніка дацэкліва-вышрабавальнымі промнямі: чаго варт, чалавеча, што ў цябе за душой?

Першая сустрэча з ім, дакладней, напачатку з яго прозвішчам, адбылася на схіле сямідзесятых — у Расійскай дзяржаўнай гістарычнай бібліятэцы, пра беларусазнаўчую ўнікальнасць якой мне ўжо даводзілася згадваць. Зазірнуўшы аднойчы ў пакойчык з выставай новых набыткаў, быў, памятаю, уражаны назвай і паліграфічным дызайнам аднае кнігі. Вылучалася тая зграбнасцю, цёмна-сіняй па белым полі кантрастнай рамкай на фоне іншых, «спакайнейшых» колераў разнамоўных выданняў. Зняўшы навінку з паліцы, прысеў, трошку ўзрушаны (беларуская ж!..), да чытацкага століка, каб занатаваць у сваім бібліяграфічным рэестры: Калеснік У. Ветразі Адысея: Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя у беларускай паэзіі. Мінск, “ Мастацкая літаратура”, 1977.

Адкрыццём былі для мяне і прозвішча аўтара (хаця перад тым і узрушаны быў іхняй супольнай з А. Адамовічам, Я. Брылём «Вогненнай вёскай»...), і галоўны герой кнігі Уладзімір Жылка. Не кажучы пра іншыя, тады таксама незнаёмыя мне імёны-постаці Гальяша Леўчыка, Ігната Канчэўскага, Леапольда Родзевіча, Ігната Дварчаніна, чые адухоўленыя фотаабліччы, абок Жылкавага, прыварожвалі харашынёй сваёй, аднак жа ў нечым і гарчылі мой псіхічны настрой. У глыбінях істоты недавучанага філолага, збочанага жыццёвымі абставінамі на каляіну, процілеглую студэнцкім мроям-парываннем, штосьці зноў было зажурылася-зашчымела ад няўцямнага пачуцця дарагое, незваротнае страты: гойсаеш беспрытульцам, падобна Коласавай легкадумнай хмарцы, над сусветнымі «гімалаямі», адчужаны ад скарбаў, клопатаў маці-Радзімы. Праўда, пад той

час у маёй «бадзяжнай» свядомасці даспяваў нутраны зрух, калі не сказаць — паварот да роднага берага («Письмо русскому другу»). І ўсё ж замест слугавання ідэі яшчэ колькі гадоў доўжылася, прынамсі фармальна, прыслугоўванне афіцыёзным хімерам. Хоць сігнальная сістзма блуднага сына-вяртанца ўжо даволі чуйна рэагавала на імёны, падзеі з беларускага абшару, найбольш сугучныя майму патрыятычнаму настрою.

Ласьне і «Ветразі» Калесніка, як тады ж адчулася з іх пабежнага прагляду, гойдаліся на тых самых глыбінях нашае драматычнае духоўнасці, якія к таму часу шчодра адкрываліся мне з лірычна спавядальных старонак Янкі Брыля, Ніла Гілевіча, з літаратуразнаўчых манаграфій Сцяпана Александровіча, Рыгора Бярозкіна, Віктара Ка-валенкі, Генадзя Кісялева, Адама Мальдзіса. Гадамі трыма пазней, цёплым жнівеньскім надвячоркам 1980 г., пашчасціла набыць тыя «Ветразі» — зноў жа пры акалічнасцях не саўсім тыповых, незабыўных: у мястэчку Любча, дзе падарожны з Масквы затрымаўся быў на невялічкі перадых цягам свае пешае вандроўкі маршрутам Вільня-Трабы-Бакшты-Люцынка… (шляхам «нашаніўца» Ядвігіна Ш.). Адтуль, з-над нарцыстага Нёмана, паслаў на свой маскоўскі адрас ладнаваты пакуначак даўно шуканых беларускіх выданняў, уключна з Калеснікавым, «Пачынальнікамі» Кісялёва.

«Ветразі», з іншымі друкамі, падарожнічалі са мной да Варшавы, не раз лякуючы радзецкага дыпламата гаючаю думкай у крызіснай, часам, здавалася, безвыйсцёвай сітуацыі. Пасля, настроены на знаёмае імя, успрымаў з асаблівай цікавасцю ледзь не кожную яго публікацыю, падзіўляючы абсяжнасць аўтарскага мыслення, дакладнасць навуковага аналізу, а затым нязвыклую лёгкасць, паэтычнасць яго акадэмічнага стылю. На Калеснікавых тэкстах пераконваўся у слушнасці палемічнага меркавання: сапраўднае літаратуразнаўства — гэта, па высокаму рахунку, і літаратура, як і крытык-даследчык — ён жа і паэт, пісьменнік. Аўтар «Літаратурньк партрэтаў», «Тварэння легенды» бліскуча даводзіў плённасць спалучэння у адной асобе строгага мысляра-аналітыка і ўзрушлівага мастака. Нязвыклай праявай падобнае спалучанасці стала яго аповесць «Доўг памяці», пасмяротна надрукаваная ў «Полымі». Відаць,

невыпадковая тут і яго глыбокая светлая дружба з Янкам Брылём, пра якую з такой мудрай цеплынёй той не раз згадваў у сваіх лірычных запісах.

Такімі ж гарманійнымі бачацца мне Калеснікавы асэнсаванні магістральных пуцявін беларускага літаратурнага працэсу, яго нацыянальнае унікальнасці і адначасна адкрытасці, далучанасці да сусветна культурных універсалій. Заварожвала й заварожвае нацыянальна сцвярджальны пафас, філасафічная лапідарнасць яго думкі — вострай, каларытнай, не вельмі абцяжаранай «ідэалагічнымі балванкамі» нават там, дзе мусіў імі іншым разам, як сам пазней скрушліва прызнаваўся, дагружаць свае тэксты для страхоўкі, ратавання асноўнае ідэі перад пільнымі рэдактарамі, цэнзарамі..

Галоўнае, непрамінальнае ў яго спадчыне і сёння — ужо з адлегласці — прамаўляе да мяне надзённа, інспіруюча: «Нацыянальная літаратура здольна не толькі паскараць свае развіццё, яна часам здольна паскараць гістарычнае развіццё свайго народа, які у сферы эканамічнай можа яшчэ нейкі час адставаць, а ў сферы палітычнай заставацца на стадыі бездзяржаўнасці. Літаратура у гэтым выпадку пашырае сваю функцыю і пераходзіць ад ролі чалавеказнаўства да ролі «народатворства». Узважыць абодва фактары — пашырэнне сувязей і рост нацыянальнай самабытнасці — значыць знайсці сапраўдную меру ідэйна-эстэтычнай каштоўнасці нацыянальнай літаратуры на ўзроўні сусветных крытэрыяў». Самой назвай цытаваны артыкул-рэцэнзія, засяроджаны на радаводным пачатку (“Крытэрый самабытнасці”, 1980), успрымаўся мною куды як прадказальна, выклікальна — на фоне колішняга, дасюль не асаджанага уніфікацыйна асіміляцыйнага імпэту ў “самой интернациональной” рэспубліцы.

А яго беларуска параўнальнае разуменне паэтыкі рамантызму, выважанае на шалях нацыянальнай традыцыі і здабыткаў іншых, найперш суседніх літаратур? У гэтай эстэтычнай стыхіі, мабыць, найбліжэйшай уласнаму духоўнаму ладу даследчыка, парушаўся ён зайздросна захоплена, віртуозна, па-майстэрску. Не трацячы з поля зроку вызначальных каардынат дадзенага стылю, не заставаўся абыякавым да праяў спрашчэнства паэтычнай рамантыкі, нярэдкіх пры панаванні

нарматыўнай эстэтыкі, плоскай сацыялагізацыі суадносін мастацкай сімволікі і гісторыка-культурных рэалій народа. Далікатную засцярогу крытыка-купалазнаўцы наконт адэкватнасці вобраза князя-народазаступніка (Купалава паэма «На Куццю») фактычнай карціне беларускага мінулага (якое, маўляў, «ніколі не ведала сапраўды свабоднага народаўладдзя») Калеснік адхіляе пачціва, але пераканальна: «А чыя мінуўшчьша ведала? Міцкевіча? Рылеева? Лермантава?». І следам — неаспрэчная выснова пра асобнае права мастака, адрознае ад гістарыёграфа, у абыходжанні з мінулым, калісьці, дарэчы, трапна зазначанае Пушкіным (мастак сам «творит историю»): «Паэт-рамантык перастаў бы быць сабою, калі б пачаў скрупулёзна даходзіць, якой жа на самай справе была тая мінуўшчьша. Ён ведае, якой яна бьщь павінна, каб падымаць свабодалюбны дух сучаснікаў. Яго заслуга перад сучаснікамі у тым, што ён стварае патрэбную, дзейную карціну мінуўшчыны» (“Крытэрый самабытнасці”). Аднак і ў наш, нібы дэмакратычнейшы ад папярэдняга, час некаторыя аўтары не перастаюць даймаць рамантычную натуру паэта агоркла «рэалістычным» допытам кшталту: «У якія часы князь на пасадзе вольнаму люду законы пісаў? І як звалі гэтага князя?» (адносна верша Купалы «Над Нёманам» //Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. Т. I. Мн., 1999. С. 170). Варта уважлівей чытаць Калесніка.

Урэшце, і пры жьщці ён не быў абдзелены ўвагай, разумением з боку калег-даследчыкаў, чытачоў, афіыйных структур (лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа, заслужаны работнік вышэйшай адукацыі Беларусі). Асаблівага нераўнадушша да наватарскіх Калеснікавых прац не ўтойваў і Мікалай Улашчык. Вядомага гісторыка-беларуса ў Маскве лучыла з рупліўцам з памежнага Берасця непасрэднае знаёмства, плённае ліставанне.

Памятаецца, у адной з гутарак Мікалай Мікалаевіч заўважыў па адрасу несамавітага Беларуса з нашага, як сумна ўсміхаўся, «самага рускага» (зрусіфікаванага) горада: «Бачыце, які чалавек — адзін, а колькі Беларусі на сабе трымае. Талент!».

Словам, асабістаму майму знаёмству з гэтым Талентам папярэднічала пэўная абазнанасць пра яго, жаданне пацiснуць

яму ўдзячна руку. Магчымасць такая надарылася на Першых скарынаўскіх чытаннях у Мінску (кастрычнік 1986 г.). Пад завяршэнне канферэнцыі — працавалі мы ў розных секцыях — вечарам пастукаўся да яго ў гасцінічны нумар, на Сурганава. Зайшоў, прывітаўся. З ложка прыўзняўся, адкладаючы убок разгорнутую газету, лысаваты, хударлявы з твару мужчьна, зграбны, у спартыўным трыко, кіруючы на незнаёмца той самы, спомнены напачатку, праменна-працінальны пагляд:

— А-а, дык гэта Вы, Каўко, — прываблівай усмешкай вітае госця. — А я гляджу ў праграму і думаю, хто там пад шыльдай «сусветнай эканомікі» Скарынам зацікавіўся.

Прыязна-гумарыстычнае перайначванне мае тагачаснае “фірмы” службовае (Інстытут зканомікі сусветнай сістэмы сацыялізму АН СССР) неяк адразу дадало нязмушонасці, узаемнай даверлівасці нашай размове. Трывала яна нядоўта, ды пазнавата ўжо было. Развітваючыся, пакінуў яму «скарынаўскую» анкету, апрацаваную дадаткам у рукапісе кнігі «Тут мой народ...» (перад здачай у набор прыйшлося ад тых дадатковых аркушаў адмовіцца; часткова былі абнародаваны ў перыёдыцы). Водгуку з Берасця не дачакаўся. Не пашзнціла мне і з пазнейшай, таксама «скарынаўскай» прапановай да яго — выступіць на старонках «Советского славяноведения» з артыкулам пра асветніка-першадрукара. Набліжаліся 500-я ўгодкі славутага Палачаніна, рупіла пад юбілейную нагоду на прыстойным матэрыяле ва ўсесаюзным славістычным выданні, і аўтар «Пчалы Скарыны» глядзеўся ў меркаваннях тагачаснага галоўнага рэдактара вельмі ж адпаведна, аб чым і дасылалася прапанова ў Брэст. Ліст аўтарытэтнага скарыназнаўцы, нажаль, прыгасіў тыя спадзяванні, хаця кранальнае запрашэнне ў яго горад над Бугам неяк кампенсоўвала перажыванне ад несуцяшальнага «не». Вось дакладны тэкст:

«Брэст, 12.01.1989.

Шаноўны Аляксей Канстанцінавіч!

Сардэчна віншую Вас з заўтрашнім праваслаўным Новым годам, ён, нібыта ў скарынiскія часы, ідзе сёння шляхамі гуманізацыі жыцця, здаровай талерантнасці, свабоды сумлення, на якіх, на радасць людзям творчай працы, падняты шлагбаўмы.

Жадаю поспехаў Вашай суполцы [Маскоўскаму Таарыству беларускай культуры імя Францішка Скарыны], новага дыхання часопісу «Советское славяноведение». З прыемнасцю прачытаў у 5-м нумары артыкул Ю. Лабынцава пра трэцюю рэдакцыю Статута Вялікага княства Літоўскага. Сказаў пра яго ў выступленні па тэлебачанні, у школах горада. Дзякую за прыемную для мяне прапанову напісаць юбілейны артыкул пра Ф. Скарыну, але думаю, што лепш бы гэта маглі зрабіць Вы з Адамам Мальдзісам. Я ўжо і так лішне многа разоў прыбудоўваў «галубятніцы» да першага свайго нарыса «Пчала Скарыны». Цяпер, праўда, з'явілася крыху новых фактаў і дакументаў, можна было б асвяжыць тэкст, але гэтага мала для юбілейнага артыкула пад такую знамянальную дату ды ў такім салідным часопісе. Як мне думаецца, там пажадана даць ацэнку сучаснаму стану скарыніяны, вызначыць перспектывы і канцэпцыі, а перспектывы найлепш відаць з цэнтраў навуковай думкі.

Наша берасцейская гуманітарная сябрына абрадавалася нараджэнню сястры ў Маскве. Неўзабаве з Вамі павінна спаткацца адна сімпатычная берасцеечка, Люда Кендыш, якая ў нас на абласной студыі тэлебачання выдае ў эфір усе літаратурна-музычныя перадачы. Думаю, што, вярнуўшыся з курсаў, яна пазнаёміць грамадскасць вобласці з дзейнасцю беларускага зямляцтва сталіцы. Сёння так патрэбны станоўчыя прыклады, ініцыятывы, прэцэдэнты.

Спадзяюся, што шляхі скарыніяны прывядуць і Вас у Бярэсце. Рады буду сустрэць Вас і павітаць у сваёй хаце.

Цісну руку. Ул. Калеснік».

Уладзімір Андрэевіч, як цяпер выразней бачу, не хацеў, не любіў паўтарацца. Яшчэ адна, вартая пашаны рыса ў характары навукоўца. Хоць застаюся пры той думцы, што спомненая «Пчала», у рускамоўным варыянце, была б на часе.

Патрабавальнасць яго, найперш да сябе самога, зведаў я і з іншай нагоды. На самым пачатку 1990-х паслаў яму машынапіс разгорнутай аўтабіяграфіі Браніслава Тарашкевіча, скапіяванай у архіве тагачаснага Інстытута Маркса-Энгельса-Леніна. Тэкст гэты прымяркоўваўся ў чарговы «Скарыніч», і я прасіў

шаноўнага калегу, добра дасведчанага ў заходнебеларускіх справах, зрабіць адпаведны каментар разам з уступным словам. Адказ з Берасця затрымоўваўся. Сустрэўшыся на Устаноўчым кангрэсе Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, патлумачыў ён затрымку проста і шчыра: трэба было б дапасці архіваў, дасюль не адкрытых, каб па-належнаму пракаментаваць палітычную споведзь пана Браніслава (пазней той матэрыял апублікуюць у «Спадчыне» А.Валахановіч, У.Міхнюк). Тады ж, на кангрэсе, ён узрушыў мяне нечаканым сюрпрызам. З залі Дома літаратараў — там адбывалася падзея — у прэзідыум на імя старшыні (з абавязку сябра Аргкамітэта давялося напружвацца у гэтай ролі) абок купкі запісак перадаюць сімпатычны томік: «Ростані волі. З заходнебеларускай паэзіі». Адхінаю вокладку, моўчкі прашэптваю мілы аўтограф: “Аляксею Каўко — пачынальніку рода маскоўскіх скарынічаў — з прыязню і павагай. Складальнік У. Калеснік. 27 мая 1991 г.”. Цікую, усхвалёваны, па радох удзельнікаў пасяджэння—дзе ён, віноўнік майго ўзрушэння? Вунь у чацвёртым, мо пятым радзе, з левага боку, — стрэчнай шырокай усмешкай перахоплівае мой позірк, прымаючы сцвярджальным кіўком галавы сігнал-падзяку са сцэны. На перапынку падпісаў яму аўтарэферат сваей доктарскай працы па кнізе «Тут мой народ», нават, добра памятаю, не намякаючы пра водгук. Аднак пад абарону надыходзіць зноў нечаканая, тым даражэйшая маральная падтрымка ад двух светладумных берасцейцаў — загадчыка кафедры беларускай літаратуры Уладзіміра Калесніка і дацэнта Генадзя Праневіча.

Неўпрыкмет, адчуваю, захапіўся асабістымі момантамі. Але ж нiколькі не манюся праецыраваць яго светлую постаць на сваю парсуну. Добра усведамляю рознасць нашых вагавых катэгорый. Тым болей, што людзей, падобна мне акрыленых рамантыкай яго сімвалічных ветразяў, прасветленых мудрым паглядам Калеснікавых вачэй, мабыць, не пералічыць. Сутнасць відавочна не ў асабістых перажываннях, хаця й яны могуць нешта значыць у аб'ектыўным, паўнейшым усведамленні вобраза гэтага неардынарнага чалавека Культуры — з вызначальным у ёй культам чалавечнасці.

Прываблівала і іншая яго іпастась, не вельмі кідкая, але ж якая каштоўная. Калі ў стрымана разважлівым вучоным, выкладчыку-прафесары абуджаўся, дапаўняючы першага, другі, не менш арганічны Калеснік: грамадзянін-абаронца справядлівасці, бунтаўнік супраць тупагаловага амбіцыйнага правадырства, палітыка-ідэалагічнага дыктату і лакейства (“Калі суду не трэба сведак”, 1988). На гэтай грамадзянскай дзялянцы Уладзімір Калеснік парушаўся таксама годна, празарліва: «Вось чаму ў гушчы народа ажывае і так бурна выбухае з вуснаў моладзі жаданне больш сэнсоўна і справядліва, больш дэмакратычна вырашаць справы, больш плённа дзейнічаць для адраджэння нацыянальных каштоўнасцяў, засцерагаючы нацыю ад размывання, ператварэння ў безаблічны кангламерат, гатовы пацячы куды заўгодна, абы там таўсцей мазалі маслам лусту, не патрабавалі адказнасці за стан зямлі, на якой жывеш».

У апошнім, паноўленым сваім роздуме пра мяцежна-трагічнага Жылку ён падкрэсліў асаблівую ўросласць Паэта ў нацыянальнае адраджэнне. Магчыма, там, за нязнанай нам мяжою стрэнуцца іх крэўныя душы — аўтараў «Тэстаменту» і «Усяго чалавечнага». І першы з іх — хто ведае? — нагадае другому шчымлівыя радкі, у знак асабістага ўзнання да калегі, іх пабратымчае лучнасці:

На зломе дзвюх эпох злавесных
У неспрыяльным ветры злым
Сваё жыццё прайшоў я чэсна...
Пясняр, змагар, бядняк праз век,
Быў перш за ўсе я чалавек.

2004

# Перазовы праз акіян

З Масеем Сяднёвым

Непрацяглым, але пранікнёным было наша кантактаванне. Захапіў ён мяне адразу багаццем, спавядальнасцю сваей лірычнай душы, светлым маладым настроем і жорсткімі выпрабаваннямі над лёсам яго героя-наццэма Рамана Корзюка (аднайменны твор). Усхваляванае слова Масея Сяднёва прамовіла да мяне восенню 1991 г. — у ціхім пакойчыку Беларускай бібліятэкі-Скарынаўкі ў Лондане. Тады ж, уражаны прачытаным, адкрыццём новае мастацка-псіхалагічнае натуры чалавечай, у нечым блізкае, сугучнае твайму ўласнаму інтымнаму свету:

Нашто, скажы, між Захадам і ўсходам
Вачамі сінімі ты прарасла?..
(Беларусь, 1947)

Два толькі радкі. А колькі ў іх шчымлівага хараства, неспатальнае тугі-трывогі сыноўняе да ціхавечнае Бацькаўшчыны. Тады і паслаў я, узрушаны чытач, у заакеанскі Глен-Коў сваю кнігу аб Францішку Скарыне. Майстар адгукнуўся адразу, ужо на маскоўскі адрас, шчодрымі кранальнымі радкамі:

“17.1.92.

Ад “несамавітага творцы-маляра Масея Сяднёва”

Высокапаважаны спадар Каўка,

Толькі што прачытаў Вашу кнігу “Тут мой народ” з пахвальным для мяне надпісам на ёй. Вялікі, вялікі дзякуй. Захоплены Вашай кнігай, Вашым стылем, Вашым выкладам. Не я, а Вы – сапраўдны маляр-творца. Чытаючы Вашу кнігу, я адчуваў як вырастаюць пада мною, зьняверанным, падваліны, грунт, на якім я магу умацоўвацца, моцна стаяць ня хістаючыся. Я нібы дапяў да жыватворчай крыніцы і нагбом напіўся. Адчуў пад сабою родную глебу-карэньне. Усьлед за Вамі я магу сказаць “тут мой народ”. Яшчэ раз дзякую за Ваш гэтак каштоўны падарунак. Зычу Вам усяго самага найлепшага ў

Вашым маскоўска-беларускім кутку. Выдарылася б нагода з прыемнасьцю наведаў бы Вас у тым кутку, асьветленым Вашай высокай творчай энергіяй. З пашанай М.Сяднёў.

На выпадак адрас: […] , тэлефон…”

Потым былі сустрэчы ў Мінску — на Першым з'ездзе беларусаў свету; на канферэнцыі «Культура беларускага замежжа», ладжаных згуртаваннем «Бацькаўшчына». У апошнюю з сустрэч, сілкуючыся пры супольным стале, у таварыстве мудра-усмешлівага Янкі Брыля, рашыўся я на нечаканую прапанову Масею Ларыёнавічу — наведаць мой родны Чэрвень. Карцела пабачыць будынак тае самае турмы (пазней там месціўся псіхіятрыгчны шпіталь), на падворку якой летнім грымотным ранкам 1941-га да зня-воленага, асуджанага на смерць вязня Сяднёва прыйшло раптоўнае выбаўленне. Цудам уратаваны ад расстрэлу нявольнік, як пазней успамінаў, падаўся ігуменскім шляхам на радзіму – Магілеўшчыну (Тодар Лябёда (Шырокаў), другі з ацалелых сяброў па няшчасцю – на сваю Віцебшчыну). Праўда, спадар Масей не падахвоціўся на прапанову, магчыма, не зусім тактоўную з майго боку. А вось дзвюма сваімі кнігамі - “Патушаныя зоры”, “Той дзень надышоў” – адарыў, пасведчыўшы ўзрушлівымі аўтографамі нашу духовую ўзаемнасць.

Пазней наспела другая патрэба патурбаваць мілага суродзіча з далёкага амерыканскага берага. І прычынай таму — іншы паэт, публіцыст Яўген Маланюк (1887-1968) — яскравая постаць ва ўкраінскай зміграцыі, а цяпер высока ўзнаная ў духова-культурным жыцці братняй Украіны. Між іншым, яго востра палемічны артыкул «Маларасійства», тыпалагічна крэўны беларускай пракавечнай хваробе – «западнорусизму», друкаваўся у «Скарынічы» (1993, вып. 2; у перакладзе В.Рагойшы). Захапляла мяне высока сімвалічная вобразнасць, нацыяиальна-балесны пафас гэтага творцы, «украінскага Іераміі» - спавядальным прароцтвам сугучнага нашаму Купалу.

Якім жа нечаканым было маё здзіўленне, калі пад час аднаго з чродных «набегаў» на бясцэнныя засекі БДАМЛіМ, сярод папер М. Сяднёва натрапіў на кароценькі ліст Маланюка да беларускага паэта. Значыць, падумалася, кантактавалі між

сабой, а можа і глыбей узаемнічалі абодва парнаснікі-выгнаннікі. Разгарнуць бы, абнародаваць, запаліўся тады думкай, гэтую нязнаную, па ўсяму мяркуючы каштоўную старонку ў летапісе беларуска-украінскага творчага сваяцтва.

А тым часам мой старэйшы калега па Інстытуту, вядомы філолаг-украініст Ю.Я.Барабаш, ведаючы і ўсяляк стымулюючы маё «маланюковае» нераўнадушша, заінтрыгав аў аднойчы нечаканай «бібліяграфічнай» падказкай. А менавіта: ва ўкраінскім студэнцкім часопісе, друкаваным у Празе (1924), Яўген Маланюк прыязна адгукнуўся на паэтычны зборнік «нейкага беларуса». Спяшаюся ў галоўную Расійскую бібліятэку (былую «Ленінку»). Троху ўсхваляваны, гартаю старонкі згаданага перыёдыка і ў самым канцы вока засяроджваецца на чаканай назве: Podgórski-Okołów. Białoruś. Poezje. Wilno, 1924. «Дивна річ, — заварожваюць ужо першыя словы рэцэнзента, — книжка прекрасных поезій, писаных польскою мовою... повна журби і смутку за Білоруссю, повна чистой еміграньської нудги й чисто емигранського болю». І цытаванае ўслед двухрадкоўе нібы зрокава пасведчвае тую самую журбу і чысціню «беларускага паэта... польскай культуры»:

O ty, daleka, ty niezastąpiona,
Zielona moja ziemia białoruska...

Спробы адшукаць гэтую кніжачку ў Маскве, Мінску [Нацыянальная бібліятэка], Вільні, Пецярбургу аказаліся марнымі Не дадаў “пашуковага” імпэту і пісьмовы запыт да сп. Вітаўта Кіпеля наконт магчымых «маланюковых» слядоў у фондах Беларускага Інстытута Культуры і Мастацтва ў Нью-Ёрку, адкуль ласкава паведамілі пра адсутнасць якіх кольвечы, звязаных з гэтай фігурай, матэрыялаў. Заставалася параіцца з Сяднёвым.

Сп. Масею і паверыў свой неспакой у прывітальнай паштоўцы напярэдадні Новага 2000 года. Ухуткасці атрымаў ад яго дзве староначкі машынапісу, праўленага месцамі знаёмай, але, відаць было, няўпэўненай рукой. Зноў жа, тая самая ласка, шчырасць і стрымана сумнаватая смяшынка — запомненая, пры сустрэчы, з яго абаяльнага аблічча. Чытаў я, светланосныя

радкі з цёплым узрушэннем і... з нейкім неадчэпна трывожным прадчуваннем...

Таго ж дня падзякаваў яму ў адказ ды з лістом разам запакаваў бандэроллю дзве свае кніжачкі — «Жывом!», «Будам жыць!». На пошце адрасаваная за акіян пасылачка заважыла на ладнаваты грош; патрэбнае сумы ў кішні не нашкрэблася. Але лагодная паглядам жанчынка-паштарка, з-за акенца спачувальна зірнуўшы на разгубленага кліента, адразу прапанавала выйсце: пашлём, маўляў, не авія, а «малой скоростью». Што ж, згадзіўся, спакайнеючы: праз месяц які даплыве. «Доплывёт! — салідарна ўсміхнуліся жаночыя вусны. — Никуда не денется». Магчыма, «даплыў» той пакет да месца прызначэння. Толькі адрасат ужо не ўгледзеў — ні ліста, ні кніжак. У хуткім часе з Мінска, ад Віталя Скалабана даведаўся: Масей Сяднёў адышоў у іншы свет.

Жадание пакойнага дачакацца працы пра Яўгена Маланюка ва ўкраінска-беларускім дыялогу цяпер успрымаецца як запавет — для мяне, калег-беларусістаў, украіністаў. Тым болей, што пачатковы, чырвоны радок мяркуемай працы ўжо створаны — апошнім лістом светлай памяці беларускага Паэта.

Ніжэй прапануюцца чытачу абодва — Масея Сяднёва і мой лісты.

«Дарагі, вельмі паважаны Спадар Аляксей.

У мае хворасьці Вашае сьвяточнае слова было найлепшым лекам для мяне. Стылістычна і рытмічна ў сукупнасьці яно набыло цудадзейную сілу. Дык шчыра-шчыра дзякую. У маіх «праведных клопатах» гэта тое, што яшчэ трымае мяне. Як доўга?

Зычу Вам у Новым годзе, у новым сталецьці шчасьця і посьпеху, здароўя і сілы напісаць яшчэ адну асаблівую [...] кнігу пра народ наш паспаліты..

Пытаеце пра Яўгена Маланюка, ці ведаў яго асабіста. Вашае пытаньне збудзіла ў мяне шырокую тэму маіх украінскіх сувязяў. Насьветліць гэтую тэму, як хацелася б, няма змогі, дык спынюся тут на найбольш зыркіх момантах.

Рэгенсбург. Лягер для перамешчаных асобаў (ДП лягер). Антон Адамовіч просіць мяне пачытаць новыя вершы на

сустрэчы з адным вялікім украінскім паэтам. Ён цікавіцца беларускай паэзіяй. Глядзі, не падкачай. Пытаюся, хто ён такі. Скажу, дык ты яшчэ спужаесься. Знаёмства адбылося — Яўген Маланюк просіць мяне пачытаць свае вершы. Я сыпаў і сыпаў, задаволены, што госьць слухае ўважліва. Па сканчэньні Маланюка зацікавілі мае радкі: «Патушыла полымя ў паэце холаднасьць няўмольная ўладык». Маланюк і Адамовіч [Антон] пачалі разьвіваць тэму «полымя» і «халоднасьці», а я, задаволены, з цікавасьцю слухаў масьцітых асобаў. Дык гэта была мая першая сустрэча з Маланюком. Было яшчэ дзьве пад час зьездаў МУРу (Містэцкі украінскі рух). На адным з гэтых зьездаў у Аўсбургу былі гасьцьмі Адамовіч, Арсеньнева і я. Удзельнікі былі прыемна ўражаныя выступленьнем Адамовіча, палавіну якога ён гаварыў па-украінску. На гэтым зьездзе я пазнаёміўся з крытыкам Юрыем Шэрахам, паэтамі Ярам Славутычам, Леанідам Палтавай, Леанідам Ліманом, Ганнай Чэрынь, Верэтэнчанка, Карпенкам-Карый, Осьмачкам (дарэчы, гэты апошні прачытаў на памяць на зьездзе санэты М. Багдановіча) і іншымі. Пачалося бела-руска-украінскае супрацоўніцтва ў галіне перакладніцтва. Шмат маіх вершаў па-украінску было зьмешчана ў розных украінскіх выданьнях. Стараўся і я: напрыклад, у Канадзе (Эдмантон) выйшла кніжка Я.Славутыча «Выбранае» у маім перакладзе, з маім уступным словам. Не заставаўся ў даўгу і Я.Славутыч: з перакладаў бел[арускіх] паэтаў на ўкр[аінскую] мову ён маніўся выдаць анталогію беларускай паэзіі па-украінску. У Рэгенсбургу ў часопісе «Ріднэ слово» быў зьмешчаны мой «Цень Янкі Купалы» у перакладзе Л.Палтавы. У перакладзе Карпэнко-Карый выйшла мая рэч «Смерць музыкі».

У садружнасці з Л. Палтавай і інш[ымі] укр[аінскімі] пазтамі абкалясіў лагеры, дзе знаходзіліся ўкраінцы і беларусы (у Нямеччыме, у Аўстрыі). Напрыклад, у Гановэры пасьля майго выступленьня камэндант лагеру, прафэсар (ня памятаю прозвішча), каб дагадзіць мне, сказаў — толькі моваю Шаўчэнкі можна выказаць пачуцці ад маёй паэзіі. Доўга гаварыў, да зморанасьці, аб украінска-беларускіх узаемінах.

Назад да Маланюка. Пісямцо Я. Малакюка, пра якое Вы згадваеце, выкліканае ад чытаньня Маланюком майго

«Галубінага сэрца». Там гаворыцца між усяго іншага, як галубок, склаўшы крыльле, падаў долу. Адсюль жаданьне Маланюка, каб я не складваў сваіх крылаў. У гэтым «Сэрцы» шмат мяне самога.

Дык гэтулькі, дарагі Аляксей, пра Вашае пытаньне адносна Маланюка. Пісаў як папала, выбачайце. Не зьвяртайце ўвагі на мае памылкі і на мой выклад.

Яшчэ раз шчасьця, здароўя. Хацеў бы дачакацца Вашай працы пра Маланюка ў украінска-беларускім кантэксьце.

Усяго добрага

28.12.2000

М. Сяднёў».

«19 студз. 2001 г.

Даражэнькі Масей Ларыенавіч.

Сёння Дзень хрышчэння Гасподняга — Вадохрышча, як звыклася ў нас казаць. Толькі што вярнуўся дахаты з бутлем свянцонае вады, напоўненым з бруістага ручая, што пульсуе ў расколіне, з глыбіняў, між тымі самымі Холмамі Крылатскими, дзе цяпер жыву. Калісьці Іван Грозны (Жахлівы), рушыўшы з сваім абозам на Лівонскую вайну, меў у гэтым мейсцы першы ад Крамля прыпын, тутака ж, вярнуўшыся з паходу, на памятку аб сваёй перамозе (спапялёным Полацку таксама...) загадаў закласці царкву Ражства Прасвятой Багародзіцы. Пазней Пётр I фундаваў узвядзенне на гэтым жа месцы цаглянага храма, які толькі нядаўна вярнулі вернікам і пачалі аднаўляць. Дык вось за вадой мусіў адстаяць з гадзіны дзве, а праціснуцца ў цэркаўку праз густы, расцягнуты на на шматкроць метраў, тлум, сілоў ня стала. Але падняўся ў сваю кватэру, на 11 паверх, трошку прасвятлелым, душэўна злагоджаным, з тым таемным, малітоўным настроем, калі і маўчыцца хораша, і слова шчырае само набягае на вусны. Прызнаюся: у спомненым храме з прычын зразумелых пакуль не дайшло і наўрад ці дойдзе да маёй споведзі, хоць грахі ў сабе цягаць неадпушчанымі што раз цяжэй, нязносней. У Менску ж, колькі ні наведваюся, ніяк не дапасьці беларускае службы. І святая, інтымная справа міжволі

набывае адзнакі нейкае знарочытасці, якогась мерапрыемства — нядобра! Як жа быць, спадару Масею?

Гэта ж Вашае мілае лісцянятка разварушыла, расчуліла мяне — хоць спавядайся. Калі дойдзе да «Маланюка», згадкі бясцэнныя Вашыя скарыстаюцца цалкам. На «асаблівую кнігу», да якое ласкава мяне падбіваеце, ужо не манюся, амаль выпетрыліся глузды, усохлі пачуцці. Можа, сёе-тое з тых мрояў і боляў «асаблівых» адклалася ў дасылаемых Вам кніжачках. Першая з іх («Жывом!») стракаціць процьмай тэхнічных памылак — прабачце. На Антона Адамовіча таксама завёў творчае «дасье», нядаўна здаў у друк артыкул пра ягоную канцэпцыю беларускага гісторыка-літаратурнага працэсу. Увогуле лічу гэтую постаць выключнай у нашай творчай спадчыне, нацыянальнай думцы. Калі б, шаноўны пане Масею, захацелі колькі драбніц падаць пра гэтую неардынарную асобу... Але я, мабыць, надужываю Вашаю ласкай. Галоўнае — дзякуй Вам агромісты за нязвыкла чалавечы і боскі водгук на маё запытанне.

Шчасці Вам Божа”.

2001

# Вочы ўзнятыя к сонцу

Мікола Ермаловіч

Пачну з канкрэтнага, пэўна ўжо гістарычнага факта. Дзесьці ў 1970-х кружыў таёмна па Менску, і не толькі там, размножаны на “Эры” машынапіс пад канспірацыйнай назвай “Сто старонак”. Змест прачытанага хваляваў-узбуджаў не адну дапытлівую галоўку навукоўца, студэнта-гуманітарыя, а нават тэхнара, мастака, пісьменніка, артыста. Словам, выкшталцона “элітным” было тое чытанне, нават вызначальным для іншага творчага лёсу. Чвэрцяй веку пазней адзін з тагачасных чытачоў спавядальна згадае: “Гэта сапраўды былі сто старонак бясспрэчных доказаў таго, што мы, беларусы, зусім не з “братняю Русьсю”, што мы самастойная эўрапейская нацыя, што ніякія літоўцы ніколі нас не заваёўвалі, а ВКЛ – гэта абрэвіятура нашай старажытнай дзяржавы. Мы не “малодшы брат”, не “сялянская нацыя”, ня “ўскраіна Расеі” і г.д. Мы эўрапейцы не толькі геаграфічна, але і гістарычна, культурна, навукова і вайскова, гаспадарча і дыпламатычна”. І далей – асабістае і ад імя многіх удзячнае ўзнанне Аўтару спомненага Тэкста: “Я і мае сябры, мае калегі-аднадумцы можам без перабольшання сказаць: “Мы – дзеці Ермаловіча”*.

Крэўнасць духовую з пакутным шукальнікам нашае праўды гістарычнае пасведчыла яшчэ раней палымяная паэтка-Беларуска Ларыса Геніюш у лісце да М.Улашчыка 12.01.1969 г.: “…Быў у нас сябра Ермаловіч, які вельмі спалягаецца на Вас са сваёй гістрыяй. Я слухала яго з захапленнем; суседзі маюць правы на дзікія фантазіі ў інтэрпрэтацыі нашага мінулага, а мы не маем права на аб’ектыўнасць. Дакуль жа так будзе?“. Спачуваў па-свойму даследчым парыванням “недыпламаванага” навуковымі ступенямі гісторыка з Маладзечна і акадэмік Пятро Глебка, даслаўшы ў тым жа часе спомненыя старонакі “Гісторыі аднаго міфа” на водгук у Маскву Улашчыку – дасведчанаму й прызнанаму ў навуковым асяроддзі спецыялісту-беларусазнаўцу. Той увогуле падтрымаў неардынарнае памкненне малодшага калегі, хаця і не таіў перад ім сумневу адносна месцазнаходжання летапіснае Літвы, лакалізаванае Ермаловічам у Верхнім беларускім Панямонні,

уключна з Наваградкам (адкуль, на яго ж думку, у XIII стагоддзі, за князем Войшалакам, фактычным заснавальнікам Вялікага княства Літоўскага, і пачалося паступовае пасоўванне, каланізацыя й асіміляцыя “Літвой” беларускай – у напрамку цяперашняе, этнаграфічнае Літвы, тагачаснае Аўкштаўты). Да таго ж, адных звестак з старарускіх летапісаў, якімі пераважна паслугоўваўся аўтар новага погляду, было недастаткова. Дзеля пераканаўчае доказнасці паўставала неабходнасць, лічыў Улашчык, глыбей скарыстаць даныя археалогіі, не выключаючы спецыяльных раскопак на месцы пошукавае “Літвы”, а таксама ў вывучэнні адпаведных лацінамоўных, старанямецкіх, старалітоўскіх пісьмовых крыніц. Меркаванні абодвух даследчыкаў па закранутай праблеме адлюстраваны часткова ў іхняй перапісцы (Скарыніч, вып. 8-9). Аднак жа, пры пэўнай абачлівасці да наватарскае канцэпцыі М.Е., Мікалай Улашчык не сумняваўся ў яе інспіруюча пазнавальным значэнні. “Як я гляджу на Ермаловічаву гіпотэзу аб заваяванні беларусамі Літвы?, – разважаў вучоны ў гутарцы з аўтарам гэтых радкоў.– Гіпотэза карысная. Бо змушае перагледзець устарэлыя погляды. І маладым імпануе – не яны нас, але мы іх” (Каўка А. Будам жыць, с.135).

З надыходам галоснасці старонкі прарыўное працы Міколы Ермаловіча – “Гісторыя аднаго міфа” – з вымушанага падполля рушаць, трыма запар масавымі выданнямі, у шырокі свет. Узнаўляючы новаму пакаленню беларусаў праўдзівую, не запэцканую партыйна-прапагандовай лухтой карціну іхняе шматвяковае мінуўшчыны. Следам выйдуць да чытача яго “Старажытная Беларусь”, “Беларуская дзяржава” – давяршаючы бліскучы Ермаловічаў раздзел у Кнізе нацыянальнае гісторыяграфіі, абок напрацовак яго вядомых папярэднікаў і сучаснікаў – М.Доўнар-Запольскага, А.Сапунова, У.Ігнатоўскага, Я.Лёсіка, А.Цвікевіча, Ад.Станкевіча, М.Улашчыка, А.Грыцкевіча, В.Грыцкевіча, Г.Кісялёва, М.Ткачова, В.Насевіча, М.Нікалаева, А.Краўцэвіча, Ю.Туронка, С.Рудовіча, Г.Сагановіча, В.Скалабана, Д.Карава, Р.Лазько, С.Куль-Сяльвестравай, А.Смалянчука, П.Урбана, З.Шыбекі, Я.Міравовіча.

У рэйтынгу, праведзеным газетай “Наша Ніва”, аўтараў найлепшых беларускіх кніг у XX стагоддзі Ермаловічавы колькасцю атрыманых галасоў ідуць адразу за кнігамі Купалы, Коласа, Багдановіча, Ластоўскага, Караткевіча, М.Гарэцкага, Быкава – значна апераджаючы імёны многіх другіх знакамітых пісьменнікаў, навукоўцаў**. Сярод якіх ён ці не адзіны, змоладу падкалечаны слепатой, явіў сваім пакутна творчым гарэннем надзіва відушча-празарлівы прыклад рыцарскага слугавання Радзіме-Беларусі, яе духоўнай неўміручасці***.

З такім вось чалавекам звёў мяне лёс, адарыўшы прыязнае наша сыходжанне супольным перажываннем і спрыяннем супольнай Ідэі.

* * *

Вераснёвым надвячоркам 1988 вярталіся з Полацка на Шатэрнікавых “Жыгулях” Алесь і два Аляксеі – пасля адкрыцця ў полацкай галерэі выставы жывапісных палоцен Марачкіна. Ён жа, пад развітанне, і прапанаваў заглянуць назаўтра да яго на “вышку” (майстроўня мастака на паддашшы правае вежы прывакзальных “мінскіх варот”). – Будзе Ермаловіч, дадаў неяк загадкава, можа яшчэ хто. Прозвішча на слыху, знанае мне з яго гісторыка-літаратурных публікацый, з Улашчыкавых разважанняў, натуральна, падахвоціла на сустрэчу. Запомніўся з першага ўгляду прыветна кантактным, трохі ўзбуджаным у размове, аднак жа непасрэдным, тактоўна ўважным да субяседніка. Ані кроплі самўпэўненасці, гардыні, сама прастата – чым выразна розніўся ад другога з прысутных – неўзабаве лідэра БНФ. Перакінуліся каратка ўражаннямі ад тагачаснае перабудовы, што набірала размаху, разнявольваючы грамадскую думку, руйнуючы застарэлыя міфы, рэабілітуючы многія “фигуры умолчания” і г.д. Мікола Іванавіч, памятаецца, пазайдросціў мне, масквічу, што ў Белакаменнай не раўнуючы “застойнай” Беларусі дэмакратызацыя разгортваецца шпарчэй, глыбей. Тады ж ад яго даведаўся пра пачаткі гуртавання беларускіх студэнтаў у Маскве; няўрымслівы Юрка Чудзін, аказваецца, з ім ужо кантактаваў. Праз пару месяцаў утворыцца Маскоўскае таварыства беларускае культуры імя Ф.Скарыны і

сярод многіх віншаваняў з Беларусі адгукнецца натхняльным словам і Ермаловіч.

У маі 1989 запрасілі яго – праз Беларускі фонд культуры – выступіць з лекцыяй перад "скарынічамі" (дзякуй св.п. І.Чыгрынаву, В. Скварцову, А.Хатэнцы за спрыянне ў нашых клопатах). Госця прыймаў я на сваёй кватэры у Вуглавым завулку, блізу Беларускага вакзала. Але напачатку – недарэчная накладка. Прыходжу загадзя да ранішняга цягніка з Мінску, чакаю ля адпаведнага вагона майго жаданага суродзіча; ланцужок пасажыраў з ванзэлкамі, тэчкамі паволі спаўзае на платформу, усе павыходзілі – майго Ермаловіча няма! Ніяк штсь здарылася, скрушліва падумаў; не паспеў на цягнік можа, такі ж няпроста чалавеку з падсаджанымі вачыма аднаму выпраўляцца ў няблізкую дарогу. Пастаяўшы яшчэ пару мінут ля апусцелага вагона, павярнуў я, замаркочаны, дадому. Толькі пераступіў парог, чую – тэлефон енчыць-заходзіцца. Падхопліваю слухаўку – знаёма хрыплаваты, усхвалёваны голас Міколы Іванавіча! Ніхто, жаліцца не сустрэў, не ведае што рабіць. – Даражэнькі мой, чаканы! – суцяшаю, узрадваны.–Запыніцеся ля вакзальнага табло, праз пяць мінут буду там! Сустрэліся, абняліся. Пачаў я перапрашаць, тлумачыцца, а ён перапыняе, сумнаата ўсміхнуўшыся – сам, маўляў, вінаваты. Аказалася, віной усяму яго акуляры. Зняў засынаючы, палажыў на столік у купэ, мабыць зкраёчку, тыя пад дрыгаценне і зваліліся. Кінуўся ўжо па астаноўцы цягніка шукаць вобмацкам па падлозе – няма! Няўжо, падумаў роспачна, хто з пасажыраў выходзячы прыхапіў? Дзякуй праваднічцы – пасняшыла на дапамогу і знайшла прапажу – глыбей, ля самае сценкі. А ўсё ж я не пераставаў дакараць сябе – як жа так, не даўмеўся падняцца ў вагон…, а Мікола суцяшаў – добра, абышлося. Суткі праведзеныя з ім пад адным дахам і зблізілі нас, і парадпілі.. Усхваляваў яго роспавяд пра свае нялёгкія вёрсты жыццёвыя, асабліва цяжкое, падчас вайны, настаўніцтва ў Мардовіі, вяртанне на радзіму, пра чэрствасць аднае ўладніцкае цёткі з Савміна да галоднага, абношанага, вычарпанага фізічна й псіхічна земляка. Пазней нямала клетак нервовых каштавалі яму даследніцкія пошукі, абцяжаныя віжоўствам, ня раз прамым шантажом "гэбэшных", партыйных службаў. Ярлыком

“националистического ископаемого” публічна прыпячатаў нашага гісторыка-падзвіжніка колішні райкомаўскі бос. Соллю ў іхніх вачах была мая дзейнасць, – з горыччу ўспамінаў. – Вісела пагроза зноў апынуцца ў Мардовіі, гэтым разам – “па этапу”. Мелі б з Беларусі апрача Кукабакі яшчэ дэсідэнта. Сцерагла, мабыць, мая інваліднасць.

Пра сустрэчу ў нашым Таварыстве – лаканічная нататка пад фотавыявай гісторыка- выступоўца ў першым выпуску “Скарыніча”: “Лекцыю “Полацк – калыска беларускай дзяржаўнасці бліскуча прачытаў у Маскве Мікола Ермаловіч”. Шкадую, не дапетрылі тады арганізатары наладзіць запіс таго выступлення і раздрукаваць. Многае пачутае ад прамоўцы было для мяне, іншых у навіну. Ці не адразу пасля тае лекцыі падаўся я ў “Ленінку” – заканспектаваць упершыню пачутае сцверджанне гісторыка Леанардава адносна даўніннасці беларускіх дзяржаўніцкіх традыцый, шанаваных яшчэ ў XIX ст. (перакрэсленых у XX-м Абецадарскім з апалагетамі): “ Представители “государственной теории” смотрят на древнюю Русь эпохи Владимира и Ярослава как на государственный организм чистой монархии и такое же государство со многими государями хотят видеть даже в период дробления Русской земли. С точки зрения этой теории Рогволодовичи в борьбе с Ярославичами очевидно ставили себе задачу утвердить независимость от Киева Полоцкого княжества как отдельного государства и даже обособление его от России”. Далей – спасылаючыся на Карамзіна – яшчэ “крамольней”, у вачох абецадарчыкаў, – пра непадобнасць да “общерусского корня” не толькі дзяржаўнасці але і этнічнага радаводу нашчадкаў старажытных крывічоў: “Смоленск, населенный кривичами, и самый Полоцк оставались независимыми и (курсіў наш—*А.К.) не имели участия в призвании варягов”*.

Было мне ад чаго ўдагонку ўзрушваць яго лістом (10.О5.1989): «Слаўны, дарагі Мікола Іванавіч! Яшчэ раз глыбокі вам дзякуй за натхнёную, незабыўную сустрэчу з масквічамі-скарынічамі. Слова-наказ Міколы Ермаловіча не забудзецца. Сілоў Вам і творчага плёну дзеля вячыстай Беларусі роднай. Да новых сустрэч!”. Годам пазней – ужо начытаны, уражаны падараваным ім асобнікам “Гісторыі аднаго міфа”,

іншымі яго палемічнымі выступамі ў друку – на хвалі новага нашага Адраджэння, руйнавання замшэлых антынацыянальных догм, стэрэатыпаў: “Дарагі Мікола Іанавіч! Кажуць, Беларусь чакае генія. А ён жа ледзь не штодня сноўдае паміж Маладзечнам і Мінскам, здабываючы ў пакутах лякарства духоўнае насельнікам, знямоглым ад нематы й манкурства. Пашлі яму Божа новых сілоў, а Бацькаўшчыне нашай незалежнасць!”.

Каторы раз уваскрашаецца ў памяці водбліскам мабыць найярчэйшы малюнак з нашых наступных сустрэч. Цёплы сонечны ранак вясны 1991. Гудзе пчаліным роем разлеглы хол Дома літаратара. З усяе Беларусі, з далёкіх і блізкіх замежных абшараў сышліся, надходзяць яшчэ ўдзельнікі ўстаноўчага з`езду Міжнароднага аб`яднання беларусістаў. Ад шатні да століка – даўжэзная тлумная калейка, кожны трымае ў руках набыты тут жа з распакаваных пачак важкі том “Старажытнай Беларусі”. За сталом знаёмая постаць ці не зацнейшага на тую пору навукоўца-беларусаведа ў цёмных акулярах, з навіслай над чалом густой пасмачкай валасоў, схіленага над каторай з ліку кнігай, пакідаючы на ёй свой дарчы надпіс. Зорны час Ермаловіча! – нацыянальнага й міжнароднага пазнання-прызнання яго творчага подзвігу. Тую ж бясцэнную кнігу даслаў мне крыху раней – з кранальным росчыркам на тытульнай старонцы: “Дарагому Аляксею Каўку з падзякай за яго плённую патрыятычную дзейнасць. 17.III.1991. М.Ермаловіч. Маладзечна”. Яшчэ адзін помны абразок з яго сціпла-трыўмфальнага шэсця ў промнях удзячнасці й спагады. Прыўзнята хвалюючая атмасфера Першага з’езда згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”. Тысячная грамада ўзрушаных падзеяй удзельнікаў гэтага гістарычнага сходу. Са сцэны Опернага старшынуючы зачытвае кімсьці пададзеную цыдулку-прапанову – запрасіць у прэзідыум сходу Міколу Ермаловіча. Партэр, ложы ўзрываюцца гучным адабрэннем. І наш мужны пакутнік-вучоны, герой, неяк нерашуча, нібы саромеючыся тых несціханых воплескаў, праходам ступае да сцэны, сядаючы, збянтэжаны гарачай увагай суродзічаў, у першым радзе з Васілём Быкавым, Максімам Танкам, Станіславам Шушкевічам…

Аднаго разу (сустракаліся найчасцей у “беларускім” пакойчыку Нацыянальнае бібліятэкі ў даўнейшым, на Чырвонаармейскай, будынку) паверыў на прачытанне свае машынапісныя, да нядаўняга нелегальныя “Гутаркі”. З таго ўзрушлівага чытання патаёмных мастацка-публіцыстычных старонак адкрылася мне яшчэ адна іпастась Ермаловіча: пісьменніка і паэта, арыгінальнага непадробнай стылявой манерай, някідкай народнай метафорыкай, працінальнай, пачуццёва сугучнай з Купалавай апантанасцю лёсам маці-Беларусі й беларушчыны.

Чужыя кветкі на нашым полі
Чужыя зоркі на нашым небе.
Чужыя кветкі нам душу труцяць,
Чужыя зоркі нас з тропу зводзяць…

Не менш востра- балюча гэтая незагойная рана татальнага адчужэння ад сваіх спаконвечных каранёў і каштоўнасцяў, безнадзейнага заложніцтва ў асімілятарскім шале смыліць між празаічнымі радкамі тых жа “Гутарак”. Прыкладам, як у выпадку з натужлівай пераробкай зрусіфікаванай школай беларускага дзіцяці з натуральнага стану – на чужацкі, “правильный” капыл. “Существительное” – назва тае шчымлівае навелкі, тыпізаванага малюнка з практыкі цывілізатарскага калечання нашых Змітракоў, Янукоў – у бязродных Дмитриев, Иванов. Нейкім невымоўным жалем працінаюць услед за аўтарам і маю, чытача, істоту інтымныя перажыванні беларускага хлапчаняці – ахвяры тых “пераробачных” намаганняў. І так, у беларускую школу заяўляецца новая настаўніца, дакладней – учительница:

“Ужо ў першы дзень знаёмячыся з вучнямі і пытаючыся, як каго завуць, настаўніца сказала яму, што Змітраком называцца непрыгожа і што яна будзе называць яго Дмітрієм. І хоць прайшло некалькі ўжо тыдняў, але Змітрок ніяк не можа прызвычаіцца да новага імя. І калі настаўніца звяртаецца да яго называючы Дмітрыем, яму здаецца, што гэта яна не яго, а некага іншага выклікае. Пасля яна адвучвала Змітрака ад слова “як”. Ён не можа ўцяміць, чаму непрыгожа гаварыць “як”, а прыгожа

“как”. Яму, наадварот, “как” здаецца непрыгожым. І ён саромеецца вымаўляць гэтае слова і маўчыць. Настаўніца садзіць яго [незадаволена] зазначаючы: “Странный ты мальчік, Дмитрий». А сёння вучылі существительное. Змітрок ледзь навучыўся вымаўляць гэтае слова. Пасля быў здзіўлены калі зразумеў, што ўсё на свеце як ёсць – существительное. І душа Змітрака ніяк не магла прыняць гэтага. Як: і птушкі і звяры і дрэвы і рэчка і ўсё-усё – толькі существительное. Яму зрабілася страшна і сумна… Змітрака ў гэты час выклікала настаўніца: – “Ну, Дмитрий, приведи мне примеры существительного. Я тебя второй раз спрашиваю, а ты всё не слышишь». –Бусел – пачаў ён.—І адразу ўявіў буслоў на вялізным і таўшчэзным лугавым дубе. Змітрок заўсёды падоўгу глядзеў на іх, нават тады, калі яны не варушачыся стаялі на гнязде… –Гай…–На міг праплыў перад вачыма невялічкі гаёк з яго бярозкамі, такімі белымі, што нават Змітраку яны здаліся пабеленымі…” Далей хлопчык назыве “жыта”, “шпака” – з тымі ж вобразнымі, пра сябе. уяўленнямі. Рупіла маломy доўжыць пералік, але настаўніца ласкава перапыніла: “Подожди, Дмитрий, ты опять неправильно говоришь. Надо говорить не бусел, а аист, не гай, а роща, не жито, а рожь, не шпак, а скворец. Ну, повтори, как нужно говорить». І збянтэжаны наш другакласнік, нечым сваёй псіхічнай самотай крэўны чэхаўскаму Ваньку Жукаву, мусіў механічна паўтараць сухія, мёртвыя ў яго мроях словы – “нібы ён называў нешта ніколі небачанае ім”. Такое вось “двуязычча”, ператворанае з часам ў таўровы знак усебеларускае нацыянальнае “якасці” (“Белорусы – те же русские, только со знаком качества” – агаламошыў свет новаспечаны ўладар з ліку колішніх “Змітракоў”).

Не ведаю, хто з пісьменнікаў-ордэнаносцаў у стабільна-застойныя 1970-я (час напісання “Гутарак”) мог, рашаўся з такой глыбінёй, псіхалагічнай дакладнасцю пазірнуць, агаліць прычыны і паследкі нацыянальнага калецтва так, як гэта ўчыніў былы настаўнік, пенсіянер па інваліднасці Ермаловіч, прапануючы суродзічам горкія, дзейсныя лекі на самавылячэнне ад маральнага анабіёзу і нематы. Як гэта, прыкладам, чынілі ў свой час нашы класікі – Колас (“Дзеравеншчына”) Купала (“Чужым”), Багдановіч (“Народ беларускі народ…”), Бядуля

(“На каляды к сыну”), М.Гарэцкі (“У чым яго крыўда”). “Гутаркі”, чытаныя пэвен час у маскоўскім асяроддзі, потым вярнуў аўтару, перад тым ксеракопію з іх параказаў на захавнне ў Беларускі архіў-музей літаратуры і мастацтва. Сёе-тое з таго набытку друкавалася ў часопісах “Зрок”, “Полымя”, у газеце “Голас Радзімы”, гадавіку “Скарыніч”. Скарыстаў з памянёнае калекцыі ў БДАМЛіМ-е Анатоль Белы, папракнуўшы мяне, што не надрукаваў бясцэнных Міколавых старонак. З свайго боку не адважыўся б на падобны папрок кіраўнікам, актыву вядомага клубу “Спадчына”, незаменным сябрам якога скрозь заставаўся непахісны Маладзечанец. Зрэшты, прарока прызналі ў Айчыне – адкрыццём помніка Міколу Ермаловічу ў яго родным горадзе (хвала той жа “Спадчыне”), выданнем выбраных твораў несамавітага гісторыка, пісьменніка ў залатой серыі “Беларускі кнігазбор”(дзякуй Кастусю Цвірку). На чарзе – трэба спадзявацца – поўнае выданне несамавітых “Гутарак”, пакуль у краіне дзякваць Богу, не звяліся беларускія выдаўцы.

На давяршэнне – два лісты з нашае перапіскі (фонды БДАМЛіМ).

“Мілы пабратыме Мікола Іванавіч! Нячаста трапляюцца пісьмы, па часе цяперашнім, да маскаля-выгнанніка (хоць ніхто яго з Радзімы не выганяў ды вярнуцца ніяк не патрапіць). І вось – Вашае лісцянётка выбуховае, мудрае, сардэчнае. Чытаў я буйныя радкі і сэрца крыяла мне за вочы стамлёныя, скрозь відушчыя асілка нашага Ермаловіча. Нейкае пачуццё вінаватасці ў мяне, што вось гойсаю да Мінску – па канферэнцыях, чытаннях усялякіх, а сустрэцца, паслухаць Маладзечанца-жыццялюба Беларускага часу не выбераш. Цяпер, прынамсі, ведаю дакладна Ваш [мінскі] адрас (пэўна ж і тэлефон маеце?). Дак да сустрэчы! У таго ж Скалабана Віталя пад нагоду папытайцеся маю кніжачку “Жывом!” (павінен знайсці). Над ёй нявартa напруджвацца, але няхай будзе ў Васпана – яшчэ адным напамінам нязрушонае мае адданасці і любові. Трымайцеся, Настаўнік і дружа! Ваш Аляксей Каўка. 25.XI.97 г.”

“Дарагі Аляксей Канстанцінаіч! Найперш вялікі дзякуй Вам за выдатны навагодні падарунак усім нам, хто ахоплены духам барацьбы за жыццё нашай Бацькаўшчыны. Я маю на ўвазе Вашу цудоўную кнігу з назвай, якая гучыць клічам “Будам

жыць!”. Добрага Вам здароўя і далейшых новых поспехаў у Новым годзе! З найглыбейшай павагай М.Ермаловіч. 31.XII.1998”.

Сонечным сакавіцкім днём 1999 – у гадавіну БНР– выпала нам разам крочыць ў святочным паходзе пад бел-чырвона-белымі сцягамі ад плошчы Якуба Коласа, праспектам Скарыны да Опернага тэатра. Там нас і “заспеў” фатограф. Мікола Іванавіч пасяродку. Адухоўлены твар, к сонцу ўзнятыя вочы…****. Такім і застаўся ў маёй памяці з тае апошняе сустрэчы.

2012

---

* Крукоўскі Ул. Па сьлядах Ермаловіча // Наша Ніва. 2000. 22.02. № 9. С.6.

** Arche. 2001. № 1(15). С.84.

*** Лецка Я. Верны рыцар Беларусі // Літаратура і мастацтва. 2000. 7 красавіка; Валахановіч А. Самабытны гісторык, няскораны чалавек // Наша слова. 2006. №№ 18, 19,

**** Фотаздымак у кн.: Каўка А. Каб не забыцца. Мн., “Медысонт” 2006.

# Вуліцай Генадзя Кісялёва

На літаратурных абсягах Беларусі гожая асоба Генадзя Кісялёва свяцілася і свеціцца ярка, непаўторна - вабячы глыбокім інтэлектам, душэўнай ласкаю, спагадай. Хаця... Пафасныя азначэнні, можа, не вельмі стасуюцца да стрыманае, засяроджанае ў сабе натуры Генадзя, сына Васілёва - за-звычай іранічнага да эмацыйных усхліпаў. Але ж, крылатую атэстацыю сваей надзіва працавітае й празарлівае парсуны праніклівага даследніка — «кротус Генус Кісялёў», увечнены віртуозным сцілом Ведзьмака-Лысагорца, успрымаў належна, не без гумарыстычнага задавальнення.

От жа, помніцца, з гэтага забаўна-загадкавага «кротуса» на цянюткіх машынапісных лістках знакамітае паэмы, дасланай недзе ў 70-х на мой маскоўскі адрас сябрам з Чэрвеня, пачалося нашае, тады завочнае, знаёмства. Падвышала значнасць, зацік аўленне таемным персанажам яго суседства, на той жа старонцы, з «кротам» Сцяпанам Александровічам - маім у раннім юнацтве настаўнікам, зноў жа - знаным рупліўцам Беларушчыны.

Па нейкім часе, ужо дапінаючы беларускае сцежкі з хмызу «саўковае» лухты, нацыянальнае дрымоты, чытаў я ў маскоўскай «Гістарычцы» ягоных «Пачынальнікаў». Бібліятэка, унікальная кнігазборамі, уключна з беларусікай, туліцца ў Старасадскім завулку, недалёка, праз квартал, ад былога гісторыка-архіўнага Інстытуту. У чытальні таго ж кніжнага храму не раз заседжваўся і наш студэнт-віцеблянін, а пазней – яго крыху маладзейшы калега-пабрацім па творчай справе, другі Генадзь — маладзечанец Каханоўскі...

«Пачынальнікі»... Зачароўвала, варушыла прыспаны глузды тая дзівосная кніга. Сваімі, раней амаль нязнанымі мне імёнамі, роздумамі-споведзямі, драматычнымі лёсамі Рамуальда Падбярэзскага, Адама Кіркора, Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, Францішка Карафы Корбута (Вуля), Аляксанда Рыпінскага, Войслава Савіча-Заблоцкага. Ды і вядомыя постаці Багрыма, Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча, Абуховіча, Гурыновіча, Янкі Лучыны праз новыя крыніцы ў той жа кнізе зіхатнулі жывейшымі блікамі-фарбамі. Да чаго ж гаманкім, духоўна-

насычаным пульсавала з тых старонак літвінска-беларускае, здавалася, «маўклівае» XIX стагоддзе. Наколькі надзённымі, інтымнымі недзе, успрымаліся мною спавядальныя словы «беларускага шляхціча з-пад Лучосы»: «Беларушчына... Гэта мой ідэал». І там жа - яго, Арцёмава, балеснае, нібы й маё ўласнае да стваральніка незвычайнае кнігі прагненне: «Ажыві ...рассеяннае беларускае сэрца! І падмацуй мой дух!». Зразумела, пры ўсёй уражлівасці ад знаёмства з наватарскім, фактычна энцыклапедычным выданнем «Пачынальнікаў» не адразу ўсвядомілася непрамінальнае значэнне гэтае працы, зрэшты, як і належны кошт фізічных і духоўных намаганняў аўтара кнігі, сціпла прытуленага прозвішчам ля малавыразнага слова «укладальнік». Кожнаму кемнаму ў справе зразумелыя кошты і вынік падобнага «укладальніцтва», у дадзеным выпадку - узорнага суплёту літаратурнага крыніцазнаўства, археаграфіі, тэксталогіі, каментару і г. д. «Пачынальнікі», пазней шчасліва набытыя мною у кніжньгм куточку аднае местачковае крамкі ў Беларусі, бадай што самая чытаная-перачытаная, пацёртая ад бясконцага гартання-перагортвання з усіх кніг мае хатняе бібліятэкі. Бачыў, свяцілася яна на рабочым стале М.Улашчыка, на яе, дарэчы, класік наш, псторык, удзячны чытач публікацыяў Кісялева, адгукнуўся адмысловым роздумам.

Восенню 1982 года выпала мне, тагачаснаму савецкаму дыпламату ў Варшаве, удзельнічаць у міжнароднай навуковай канферэнцыі па славянскіх культурах, зладжанай у Мінску пад патранатам ЮНЕСКА. Памятаецца вірлівая атмасфера таго прадстаўнічага, «многаязычнага» форуму. На ім, абок розных, здаралася натхнялъных сустрэч адбылося, як пазней аднатуецца ў маім «Жывом!», «незабыўнае знаёмства з Генадзем Кісялёвым,” кнігі якога, побач з кнігамі Мікалая Ўлашчыка, Сцяпана Александровіча, Адама Мальдзіса, Генадзя Каханоўскага, і творамі забароненымі («спецхранными») Івана і Антона Луцкевічаў, Вацлава Ластоўскага, Усевалада Ігнатоўскага. Аляксандра Цвікевіча, кс. Адама Станкевіча былі маім самаадукацыйным, беларускім па сутнасці універсітэтам.

Наступнай, праз два гады, восенню абодва мы правам добрых знаёмцаў бавілі цёплы вечар у яго «высокай» кватэры

(пяты, без ліфта, паверх) на вуліцы Ленінскай, успрынятай мною ад пэўнага часу вуліцай Генадзя Кісялева. Быў я тады заклапочаны скарынаўскай тэмай, начытваў усё больш-менш прыдатнае ў маскоўскіх, віленскіх, ленінградскіх і, вядома, менскіх архівах, бібліятэках. Маладасведчаны пачатковец, не мог не параіцца з вядомым Беларусазнаўцам. Генадзь, памятаю, адразу ўхваліў накірунак маёй задумы - паказаць пераемнасць спадчыны Францішка Скарыны ў станаўленні новае беларускае літаратуры, нутраную повязь старадаўняе і маладой літаратурнае Беларусі. Перасцерагаў, між іншым, ад паспешлівых, маладоказных абагульненняў пры асзнсаванні даволі складанай, на тую пару даследчыкамі амаль не кранутай праблемы. Пазней, ужо на зыходзе сваіх гадоў, сам ён адкрыецца глыбокім, праніклівым скарыназнаўцам. Тады ж, пад развітанне, адарыў мяне «з душэўнай сімпатыяй» сваёй кнігай «Героі і музы». На маё захапленне кранальна рамантычным загалоўкам заўважыў: добрая назва - ледзь не палова працы, але ж не адразу на яе натрапіш.

Генадзева душэўная светлыня пазначыцца й на наступных яго кнігах-дарунках, кожная з якіх адкрывала новыя і новыя засекі нятускных скарбаў Беларусі, высакародства, ахвярнасць яе лепшых сыноў і дачок, высвечвала з-пад пластоў забыцця, ажыўляла несупыннае бруенне жывога-звонкага слова беларускага.

Знешне замкнёны, здавалася, строгі паглядам, у таварышанні ён раскрываўся сонечна раскаваным, шчодрым на трапнае слова, гумарыстычную рэпліку, ад чаго й перад табой ня раз святлеў, праясняўся затуманены далягляд, мацнела жаданне жыць і працаваць. Падобнае ўзрушэнне выклікала яго саліднейшая кніга - «Ад Чачота да Багушэвіча» і дароўны надпіс (праз занадтую ў ім шчодрасць не цытую), дакляраваная аўтарам на атрыманне навуковае ступені доктара філалогіі.

Генадзь Васільевіч прапанаваў мне выступіць у якасці аднаго з апанентаў. Нішто сабе прапанова! Не надта спрактыкаванаму чаляднiку прынародна “цанаваць”, не без крытычных заўваг, творчую дасканаласць Першамайстра.. Але ж - «уничижение паче гордости», пракаментаваў бы Генадзь евангельскай прытчай сумневы калегі. Так што адмаўляцца не выпадала,

хаця ў маім выпадку не абышлося без псіхічнага мандражу цягам прадумвання, дапрацоўкі пісьмовага водгуку на тую густоўную кнігу-дысертацыю. Яна прываблівала глыбінёй, разлегласцю пошукаў-роздумаў аўтара, яго празорлівай здольнасцю нязлічонае мноства крыніцазнаўчых фактаў-адкрыццяў выбудаваць у стройна вывераную, паслядоўную сістэму: эвалюцыі беларускага літаратурна творчага шляху – як шляху нацыянальнага самапазнання й самасцверджання, ад «краёвасці» да нацыянальнасці, ад «тутэйшасці» да беларускасці. Вельмі блізкімі, творча сугучнымі маім пошукам-перажыванням успрымаліся меркаванні й высновы старэйшага, зацнейшага калегі. Належала адпаведна і выказаць свае суждения. Тым часам маё ўнутранае напружанне, напятае, на дадатак, тадышняю бойкаю за ўладу ў Маскве Прэзідэнта з паплечнікамі, лагодзіла, падвясельваючы, гарэзлівае слоўка майго зацнага спаборніка ў дактары («суіскальніка», паводле некаторых вучоньгх таварышаў): «Харошае (вельмі Каўкаўскае) пісьмо сёння атрымаў, - паведамляў ён 23.09.1993 г., не тоячы перасмешлівае засцярогі: - Глядзі, не ўздумай там лезьці на якія барыкады. Мне патрэбны жывы, здаровенькі апанент». Таму ж апаненту, на жаль, не выпала з-за сур'ёзных акалічнасцяў непасрэдна прысутнічаць пры важнай падзеі, але водгук быў своечасова дасланы ў Інстытут літаратуры Беларускай Акадэміі і зачытаны пры абароне. Пазней тэкст той будзе змешчаны ў маёй кнізе «От Скорины до Купалы», выдадзенай Інстытутам сусветнай літаратуры Расійскай Акадэміі. За выняткам заключнага меркавання - скрозь, лічу, актуальнага: калі б дайшло да заснанавання Беларускай гуманітарнай акадэміі (лунала такая думка) - Генадзь Васільевіч Кісялёў сваім навуковым набыткам, фактычны доктар навук і акадэмік, быў бы ў ліку першых правадзейных сяброў гэтае высокае ўстановы.

Праз які тыдзень у мой тагачасны Вуглавы завулак прыходзіць з Менску цёплае, праменнае лісцянятка: «Сёння вычытаў у кнізе «Старабеларускія лексіконы» на стар. 6: «Алексей пособитель» - і падумаў, што гэта якраз пра майго бясцэннага А. К. Шчыра дзякую за падтрымку, за вельмі высокага кшталту водзыў...». Далей паведамляў пра ганарар, налічаны Інстытутам апаненту, пытаючыся, што з тым “фантам”

рабіць. Папрас іў па тэлефоне набыць для мяне толькі што выдадзеныя «Добрыя весці» Сыракомлі (мілай памяткай сяброўскае ласкі весела “спаглядаюць” з маёй кніжнай паліцы...). Заставалася нейкая рэшта, якую неўзабаве, пры маім чарговым адскоку ў Менск, выдаткавалі на кручок моцнага напою, - карцела адзначыць «трыўмфальнае шэсце» доктара Кісялёва.

Таго ж вечара Генадзь спяшаўся сустрэць з працы Яніну Міхайлаўну. Кожнага разу, па завядзёнцы, у дакладным месцы і часе, спатыкаў ён з работы сваю ахвярную абранніцу і творчага супольніка. Нельга было пазніцца, і мы разам падаліся да метро «Кастрычніцкая». Памятаю, пад суровы позірк пані Яніны пачаў я нешта мармытаць у апраўданне: узялі, маўляў, па чарцы, але закусіць па-належнаму не паспелі,

- Бачу, што вы «недазакусатыя», - лагаднеючы, жартаўліва заўважыла яна. І ўжо зусім весялей, падбадзёрваючы: - То падымемся да нас, дазакусім. Следам і Генадзь — тануючы далікатнай, несварлівай жонцы:

- Ну што, браце, трэба ісці, жанчынам не адмаўляюць...І мы гуртом рушылі на дранікі на “вышыню” Кісялевых... Так вось і прынадзіўся «маскаль» да гасцявання. Гасціннасцю не надужывалася, але кожнае аказійнае наведванне сяброўскае кватэры - аднойчы разам з маёй Соняй Іванаўнай - , незмушоная гамонка пры бяседным стале, пад дасціпныя ўсмешкі Гаспадара, кранальную ветлівасць гаспадыні, цепліла азяблую на чужых вятрах істоту, варушыла светлыя мроі-спадзяванні. Акрыляючы іншым разам новаю кнігай нястомнага творцы-адкрывальніка, чые лірыка-філасофскія медытацыі ўспрымаліся мною нечым вельмі асабістым: «У жыцці кожнага чалавека агульнае суседнічае з прыватным, публічнае пераплятаецца з інтымным, невядома, што пакідае ў душы большыя меткі». Гэта - з Генадзевых «Жылі-былі класікі» - літаратурнага, таксама класічнага падарожжа таямніцамі іскрыстых паэмаў «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», іх загадкавых творцаў Вікенція Равінскага і Канстанціна Вераніцына. Там жа, у кнізе, абок «беларускага» антычнага Энея, каларытнага палясоўшчыка Тараса незнарочыста высвечана багатая інтэлектам асоба самога аўтара - сваімі творчымі клопатамі, роздумамі-перажываннямі,

суцешлівымі азарэннямі, праз далучэнне да таёмных глыбіняў нацыянальнае гісторыі, культуры, да несамавітых рупліўцаў беларускае ідэнтычнасці - Бадзянскага, Шафарыка, нашых суродзічаў - Карскага, Эпімаха-Шыпілы, Мачульскага, віцебскага краязнаўцы Плавінскага, нарэшце, да славутых майстроў слова беларускага і сусветнага - Коласа, Купалы, Танка, Куляшова, Брыля, Гілевіча, Разанава, Пушкіна, Шэкспіра, Конан-Дойля... Кніга ў пэўным сэнсе - грунтоўныя ўводзіны ў беларусазнаўства, над якімі разважаць-хвалявацца не аднаму пакаленню студэнтаў, аспірантаў, наступнікаў Генадзя Кісялёва.

Не магу не згадаць пра іншыя нашыя ўзаеміны. Памятаю, на першых Скарынаўскіх чытаннях ён прапанаваў мне паразважаць над толькі што выдадзеным «Беларускай Савецкай Энцыклапедыяй» фаліянтам «Кніга Беларусі» — для рыхтаванага ім зборніка «Шляхам гадоў». Перад тым у маскоўскіх «Вопросах истории» была змешчаная мая невялічкая нататка пра згаданую кнігу, з упамінаннем «крамольнага» на той час прозвішча Вацлава Ластоўскага. У Маскве - пачатак «перестройки» - такая вольнасць ужо дазвалялася, прынамсі, не заўважалася. Але ў Мінску... Пільныя цэнзары да апошняга касавалі які-кольвечы станоўчы нават намёк на адраджэнцаў-«нацдэмаў». Зважаючы на сітуацыю, дасведчаны калега падварушваў, далікатна «падстрахоўваючы» аўтара тае нататкі: «У такім духу прысылай і мне... Але помні, што абачлівасць, заснаваная на вопыце, не шкодзіць мужу...».

Не забудзецца наша супольнае падарожжа ў траўні 1988 года на адкрыццё надмагільнага помніка Карусю Каганцу - у Навасёлках, блізу Койданава (прабачце, Дзержинска). Захаваўся фотаздымачак з таго кранальнага прычашчэння да Карусёвае магілкі: аблічча Галіны Кастравіцкай, дачкі паэта (з Масквы прыязджала), Генадзя Кісялёва, Міколы Ермаловіча, Арсеня Ліса...

Падтрымаў Генадзь Васільевіч праніклівым словам, мудрай парадай нашыя ў Маскве старанні над засваеннем спадчыны Мікалая Улашчыка (зборнік «Русь-Литва-Беларусь», «Творы» гісторыка, выдадзеныя ў “Беларускім кнігазборы”). Даверыў «Скарынічу» некалькі старонак са сваіх «падарожных»

роздумаў шляхам Францішка-Палачаніна. З яго, Генадзевага намаўлення і пісьмовае рэкамендацыі адважыўся я «прапісацца» у Саюзе беларускіх пісьменнікаў. На той жа, рэкамендацыйнай старонцы яго, Кісялева, не мітынгоўца-аратара, але зацятага маўчуна, зануранага ў пошукі навукоўца, выбухова агністы вокліч: «Беларусь была, ёсць і будзе!» - выклікам скрутнаму часу і запаветам змагарам за яе, Сінявокай, вольную будучыню...

Прашэптваю яго апошнія радкі (не думалася пра апошнія...) на Крылацкіх халмах у Белакаменнай: «Твой сімпатычны матэрыял пра «Халімона» [Дуніна-Марцінкевіча], здаецца, паспеў учапіцца за хвост будучай кнігі з матэрыяламі канферэнцыі. «За хвост» амаль літаральна, бо збіраюцца яго надрукаваць не «папераду», як звыклі мы трактаваць масквічоў, а недзе ззаду, каб не парушаць вёрстку... ».

Сонечнае, падсвечанае вясёлым гумарком, Генадзева слоўка - дасюль цепліць акаёмы схаладзелае душы.

Пэўна наперадзе — следам за Каласавінамі, Купалаўскімі, Багдановічавымі, Доўнар-Запольскага, Зпімах-Шыпілаўскімі чытаннямі будуць чытанні Кісялёвы. На ўзведзеным ім гісторыка-літаратурным архіпелагу Беларусі адна вяршыня - асабліва прыкметная: Кастусь Каліноўскі. Яго, Кісялёва, даследаванні-адкрыцці найбуйнейшае постаці беларускага лёсу і шляху не перастаюць вабіць-паланіць сэрцы і галовы даследчыкаў, пісьменнікаў, мастакоў, кожнага апантанца беларускае думкі, нашага вызвольнага змагання. Сёння тым ярчэй, надзённей высвечваецца з туману гісторыі волатаўская постаць легендарнага Кастуся. Хаця ў дзяржаўна-незалежнай Беларусі, за якую калісьці ўзышоў на эшафот яе змагарны пакутнік, рэй вядзе плойма мондрых «доцентов с кандидатами», брудзячы пераліцаваным «западнорусизмом» многавечны змагарны шлях забранае краіны; уз'юшыліся пісакі на гераічнага Яську-гаспадара, прадстаўляючы яго нейкім чужым для беларусаў «польскім» тэрарыстам, адначасна ўхваляючы яго вешальніка - расійскага генерала, як узорнага адміністратара, нават асветніка ў колішнім Северо-Западном крае... Прыкра, што «лінія» Мураўёва (абок “лініі Сталіна”) ў цяперашняй

дзяржаўна-ідэалагічнай сыстэме краіны запанавала над прасцягам Каліноўскага - братоў Луцкевічаў.

Аднак жа, згадваючы Паэта: «Не вечно коршуну кружить, не вечно Родине тужить... », скажам: «Будам сеяць, беларусы!». І сеем ужо - буйным, прарослым зернем Кастуся Каліноўскага, зернем Генадзя Кісялёва.

Яго чалавекалюбная светлыня... Мабыць, ад лірычна стоенае душы, якая не-не, ды і ўстрапечвалася, усхвалёваная кранальным мастацкім словам-вобразам... Памятаю ўзрушлівае Генадзева ўражанне, выказанае Нілу Гілевічу ад прачытанае паэмы «Лодачкі». Прьгкметна збянтэжаны аўтар не таіў удзячнасці: крытыка, маўляў, твор нібы не заўважыла, а чытач, паэтычна вычулёны... Між тым, падазраю, ён, чытач, мог і сам злёгку, незнарочыстава, асядлаць крылатага Пегаса (падобныя вопыты Кісялева - пакуль у сутонні). І сяброўства яго з пісьменнікамі, паэтамі, асабліва з Уладзімірам Караткевічам, Янкам Брылём, Масімам Лужаніным, Данілам Міцкевічам - сынам Якуба Коласа, іншымі словатворцамі Беларусі, не кажучы пра калег па Інстытуту літаратуры, - невыпадковае.

У свой час яго светлая галоўка засяроджвалася над адным з першых нашых Пачынальнікаў (кніга «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча»). Над Пачынальніцтвам найноўшага часу мабыць таксама не прытомяцца рупіцца, разважаць, натхняцца сучаснікі і наступнікі Генадзя Кісялёва.

2009

# Даруй, дружа

Віталю Скалабану

На палетку Беларушчыны ладзілася нам глыбака і шчыра. Не скажу, здараліся й захмурэнні, але стрыжань пабратымства застаўся непарушным. З усяго перажытага, набытага на спомненай дзялянцы нямала заўдзячаю яму – носьбіту магутнага сакавітага прозвішча СКАЛАБАН – асветніку-энцыклапедысту, Постаці ў нацыянальнай культуры, сузалежнай імёнам сучаснікаў-падзвіжнікаў Беларускага слова і дзела – Зоські Верас, Мікалая Улашчыка, Міколы Ермаловіча, Міхася Ткачова, Генадзя Каханоўскага, Генадзя Кісялёва, Уладзіміра Конана... Следам за імі адышоў у іншы свет і Віталь Уладзіміравіч. Нялёгка, найчасцей вельмі балюча даецца чалавеку пярэйсце адсюль – туды, ад зямных прамінальных клопатаў – у вечнасць. Не пазбег на адыходзе пакутнага выпрабавання і мой даўні, блізкі калега. Мне ж з "маскоўскага далёка" не выпала на часе даведацца, наведаць, хоць спачувальным словам падтрымаць пакутніка – яшчэ тут. Пакуль трагічны сыгнал тэлефонны Аляксандра Фядуты ў лясное зацішша за Акой не працяў гостраю стрэмкай маё міжвольнае раўнадушша, Даруй, дружа.

Хто мог думаць, што развітаннем сваім апярэдзіш старэйшага сябра, пакідаючы таго ў асірачэнні (адышлі мае сёстры, іншыя бліжэйшыя людзі...) чакаць свае чаргі-ростані. Малітоўна мроячы пра той апошні дзень, каб цябе самога "не заспеў раптоўна". Спамінаючы ў скрусе бліжняга – каму, яшчэ жывому, на пакручастым беразе дняпроўскім выплеснуліся экспромтныя радкі: “Цяпло ў рукох няхай не астыве… Грукоча нясціханае ЖЫВОМ!”.

Гэтае "Жывом!", следам - "Будам жыць!" сталі сігнальным водгукам, пазнавальным паролем у нашым сумоўі. Не выпадковыя назвы абедзвюх маіх кніжачак, выдадзеных пад рупным Скалабанавым наглядам. Удзячна згадваю яго непасрэдны удзел у іншых выдавецкіх праектах – "Выбранае", Біябібліяграфічны паказальнік Мікалая Улашчыка, паасобныя выпускі "Скарыніча". Не кажучы пра ўзаемнае

супрацоўніцтва ў энцыклапедычных выданнях – ЭЛіМБЕЛ, даведніку "Францыск Скарына", Энцыклапедыі гісторыі Беларусі.

Патрапляў ён, рэдактар, загадчык выдавецкага аддзела, прывабіць, натхніць мудрай далікатнай парадай іншага аўтара на шляху "ад праекта да эфекта" у замоўленым сюжэце. Прынамсі, мае артыкулы па Скарыназнаўству, пра нацыянальна-вызваленчы рух, многія персаналіі з гісторыі, культуры Беларусі нясуць на сабе пячатку Віталёвае ўвагі.У адным жа тэксце - Студэнцкія беларускія гурткі ( ЭЛіМБЕЛ, т.5) нашыя прозвішчы стаяць побач.

Праглядваю свой фоталетапіс. Разлегла й ветліва увечніліся на здымках нашы з Віталём творчыя сустрэчы, падарожжы. Ліпнёвы здымак 1993. Мінск. Першы з`езд згуртаання беларусаў свету “Бацькаўшчына”. На фоне Опернага тэатра пад Купалавым поклічам на франтоне – “На Сход, на Ўсенародны Сход!” – рухавы шчыльны гурт, нязлічоная грамада адухоўлена ўзрушаных суродзічаў: ад Аўстраліі, Амерыкі, Канады, Англіі, Нямеччыны, Польшчы, Прыбалтыкі, Расіі да самае Беларусі – дэлегатаў, удзельнікаў Сходу. Выпала і нам абоім перажыць, зазначыцца ў тым незабыўным Усебеларускім рушанні. А вось – іншы фотасюжэт. Вясновая Рэчыца 1997. Удзельнікі Доўнар-Запольскага чытанняў на адкрыцці помніка знакамітаму гісторыку. Ладнаватая чародка ўцешаных падзеяй паглядных дзяцюкоў, маладзіц. Другі, з таго ж сюжэту, здымачак – на фоне мастацкае капліčкі над Дняпроваю плынню. А якія людзі – з тымі ж светлымі аблічча́мі: Скалабанава – пасярод, у першым радзе, глядзіцца мабыць найвесялей, найвыразней, хаця й іншыя вабяць праменнай адкрытасцю, харашынёй: мастакі В.Янушкевіч (скульптар-аўтар капліцы), Э.Агуновіч, гісторыкі М.Біч, А.Вялікі, Д.Караў, А.Кіштымаў, Р.Лазько, В.Лебедзева (нястомная пчолка-арганізатар тых першых і наступных рэчыцкіх сустрэч-чытанняў), М.Шумейка; літаратары А.Ліс, І.Штэйнер, Я.Янушкевіч, госці з Кіева, Бранска, Масквы. Значна пазней сябра адорыць мяне Біябібліяграфічным паказальнікам М.В.Доўнар-Запольскага – з кранальным надпісам-напамінам “… пра рэчыцкія сустрэчы, дняпроўскія хвалі і святую ваду… - шчыра В.Скалабан. 3011.2007”.

Вось яшчэ здымачак, каляровы. На прыступках Музычнага тэатра зграмадзіліся ўдзельнікі Другога з`езду той жа "Бацькаўшчыны" (гл. вокладку). Вабяць вока, хвалююць сэрца бел-чырвона-белыя колеры (к таму часу зглумлёныя, забароненыя галоўным Начальнікам= русіфікатарам Беларускае краіны). Зноў жа ў прыстойным гурце – В.Скалабан з маскоўскімі пабратымамі Антонам Сабалеўскім, Міхалам Шкялёнкам, Каўкам, з прыкметнымі асобамі ў беларушчыне – Н.Гілевічам, Г.Запартыкай, Я.Кулікoм, С.Панізнікам, М.Кляшторнай, В.Рагойшам, з невядомай маладзічкай на пярэдняй прыступцы – у бялюткай кашульцы з палымянай "Пагоняй" на грудзёх.

Удумлівы гісторык-архівіст, праніклівы даследнік, ён добра разумеў логіку, стоеныя правідловасці й супярэчнасці гістарычнага працэсу, непарыўную повязь мінулага й сучаснага з будучым. У гэтым дзеякультровым сэнсе прываблівала прафесійная засяроджанасць і грамадзянская мабільнасць яго неспакойнае натуры – аднолькава нераўнадушнай да архіўнага сховішча і да мітынговае плошчы. Неспатольны шукальнік-адкрывальнік беларускіх сэнсаў, постацей будзіцеляў нацыянальна-вызвольнага руху, ён сам увасабляў сабой жывы працяг гэтага руху. Невыпадкова трапілася нам абоім ачольваць Міколу Ермаловіча – несмяротную легенду Беларускага Адраджэння – падчас вясновага шэсця ў гадавіну БНР праспектам Францішка Скарыны сонечным сакавіком 1999.

Шкада, не паспеў ён давесці да ладу свой грунтоўны праект – Краязнаўчую энцыклапедыю, да якое, наколькі ведаю, накрэслены быў план-праспект, паказальнік імёнаў, паняццяў, сабрана ніштаата адпаведнага матэрыяла, часткова друкаванага ў "Краязнаўчай газеце". Не выпала яму агораць на ўсю шыр і глыбіню і тэму бежанства ў першую сусветную вайну, што скрозь непакоіла, не адпушчала яго дапытлівую думку. Тым болей, сам Мікалай Улашчык дэкляраваў малодшаму калегу сваю падмогу (з ліста да В.У.Скалабана 29.XII.1984): "Наогул тэма гэта выдатна вартая і бязьмежна вялікая. Я тэму бежанства ўпісаў у лік сваіх доследаў, якія ніколі не зрбалю. Буду рады зрабіць Вам, што змагу. Сілы ў мяне засталося ня шмат". І ўсё ж, Віталь патрапіў хоць часткова, прыстойна здзейсніць важкую

задуму, заахвочваючы наступнікаў на дальшае асваенне яе. Маецца на ўвеце яго архівальны зборнічак “Белорусское общество в Петрограде по оказанию помощи пострадавшим от войны 1916-1918. Межархивный справочник”. Дарча-спавядальны аўтограф аўтара лаканічна намякае пра няпростыя абставіны творчае працы па цяперашнім часе, як і пра ўпартую паслядоўнасць самога творцы: “Аляксею Канстанцінавічу – кнігу, якая рабілася доўга – 40 гадоў, якая рабілася хутка, за 1 год. Тыраж мінімальны (50 экз.), бо грошы такія ў НАРБ. Шчыра Віт. Скалабан. 15.09.08”.

Асабліва ўражвае ім жа, з калегамі – Алеся Гесь, Вячаслаў.Селяменеў – дбайна дагледжаны гісторыяграфічны, амаль цалінны абсяг, датычны адраджэння беларускае дзяржаўнасці – ў дэмакратычным, следам савецкім варыянтах: публікацыя матэрыялаў Усебеларускага з`езда, а таксама грунтоўнага архіўнага зборніка дакументаў і матэрыялаў пра дэклараванне і першыя – як жа драматычныя – крокі Беларускай Савецкай Сацялістычнай Рэспублікі. Сёняшні чытач можа з тае публікацыі ці не ўпершыню даведацца і перажыць драму-трагедыю адчайных беларускіх бальшавікоў – “незалежнікаў” – Жылуновіча, Дылы, Шантыра, Чарвякова, Няцецкага, іншых – што паплаціліся, хто раней хто пазней, за свае патрыятычныя альбо нацыяналістычныя (у бальшавіцкім разуменні) парыванні. Гісторык Скалабан можа як мала хто з сучаснікаў-калегаў разумеў і адстойваў аб`ектыўную, горка парадаксальную пераемнасць агалошанае 25 сакавіка 1918 г. Беларускае Народнае Рэспублікі і амаль годам пазней – яе “класава-пралетарскага”, апанента – БССР, а ўрэшце рэшт – суцэльна несупыннагага, пакручастага шляху тутэйшых насельнікаў Забранага краю да свядома самастойнага гаспадаравання ва ўласным Беларускім Доме.

Апантаны краязнавец, стварыў ён унікальную ў гэтай серыі кнігу пра сваю “малую” і вялікуую радзіму – Ляхавіцкі раён – як жа багаты лакальнымі і агульнанацыянальнымі гістарычнымі падзеямі, знакамітымі постацямі, падаючы іншым міжвольны прыклад уважлівага пранікнення й шанавання свае мінуўшчыны й сучаснасці.. З гэтага ж гледзішча не пакідаў ён, пры нагодзе, варухнуць і маё нераўнадушша. Як у выпадку з

адбіткай з часопіса “Падарожнік” 1997 №11: на контурнай карце 3-х вёрстцы XIX ст. знаёмы “лапшавідны” росчырк-аўтограф: “Да пытання пра ігуменска-ляхавіцкае пабратымства А.Каўку – В.Скалабан. 19.1.1998”. З тым жа пабратымчым сумоўем прыпала нам на запрашэнне маіх землякоў з Чэрвеня ўдзельнічаць у Першых раённых краязнаўчых чытаннях. І там з цікавасцю слухалася арыгінальнае, на падставе нязнаных архіўных звестак, спавешчанне шаноўнага госця з Мінску пра падзеі на Чэрвеньшчыне ў смутныя 1930-я, уключна з калгасным бязладдзем, данасіцельствам у маёй роднай Машчаліне-“Парыжы” (к-с імя Парыскае Камуны). Матэрыялы з тых чытанняў, абнародваныя рупнасцю Галіны Ніціеўскай, захоўваюцца ў фондах мясцовае бібліятэкі, музею. Пэўна не ў адным з краязнаўчых асяродкаў краіны засталіся азнакі Скалабанавай рупнасці.

Вяртаючыся да фотаздымкаў, аўтографаў. Падчас апошніх адведзін Масквы ( насычаная “архіўна”-навуковая лучнасць з Белакаменнай – асобна змястоўная тэма ў ягоных пошуках-знаходках) запыніліся з ім ля помніка Янку Купалу, на Кутузаўскім праспекце, амаль побач з колішнім урадавым жылым домам, у тым ліку і П.К.Панамарэнкі – персанажа ці не апошняй Віталёвае публікацыі. Зябкім прыцемкам таго кастрычніцкага дня не выпадала, “пацяплення” дзеля, (даруе й гэтым разам суворы мой цвярэзнік-апанент) не прысесці ў скверыку на лавачцы з чаркай памяці пра нашага Песняра. Неўзабаве атрымаў ад яго важкае крыніцазнаўчае выданне “Купала і Колас, вы нас гадавалі..” Рады чарговаму здабытку сябра, меўся падзяліцца з ім некаторымі заўвагамі з прачытанага, так яму і не пераказанымі. Выйсця ў свет другое часткі гэтае кнігі аўтар ужо не дачакаўся.

Не адвесці вачэй ад яго праніклівай сонечнай усмешкі – маладога пагляднага дзяцюка, “схопленага” фотааб`ектывам на лавачцы ў садзе абок Зоські Верас, разам з іншымі менчукамі-хадакамі да запаветнае хаткі лясное. Прыкладна ў тым самым часе трапілася і мне, дапасці тае неспатольнае Крынічкі адраджэння, якая для нас з Віталём стала рэальным і сімвалічным лучывам у Беларушчыне. Дар навкоўца і літаратара спалучыўся ў яго гістарычнай драме (сааўтар Л.Рублеўская)

“Людвіка і Фабіян” – хвалюючай мастацка-публіцыстычнай легендзе аб пакутным каханні Людвікі Сівіцкай і Фабіяна Шантыра, апантаных патрыётаў Бацькаўшчыны-Беларусі. І гэтая ценькая кніжачка туліцца на маёй паліцы ў Крылацкіх халмах (пагурках – як дэманстратыўна “беларусіць” маскоўскі адрас на паштовых канвертах Міхась Скобла), паміж іншых Віталёвых выданняў-падарункаў, з шчымлівым напамінам “пра Вільню, Лясную хатку – і незабыўную Зоську Верас, нашу Нашаніўцу”.

Не выпадае змаўчаць яшчэ адну светлую постаць, каля якой нам абодвум хораша-натхняльна таварышылася. З якой разам калі-нікалі, пры вясёлай гамане і спрэчцы пра даўнія і новыя павевы ў Беларусі кружлялі мы ўтрох цэнтральнымі менскімі вуліцамі, бочнымі вулкамі, запыняючыся на Койданаўскай, у суцішным пакойчыку-кабінеце галоўнага скарыніча - Адама Мальдзіса, другім разам – пры “архіўна”-дырэктарскім, ветлым (не скажаш – канцылярскім) стале Ганны Запартыкі, на сакральным пагурку Кірылы й Мефодзія; нарэшце – у засені духмяных ліп ля Купалаўскага тэатра… Разам, ужо ўдваіх, і праводзілі мы да вечнага спачыну на Кальварыйскіх кладах неспатольнага пабратыма нашага, мудрага дарадчыка – “Генуса-Кротуса” Кісялёва Дарэчы, адносна стольнага места беларускага на 500-я угодкі надання яму Магдэбургскага права ляхавіцкі гадунец Скалабан выказаўся лапідарна, запамінальна: “Толькі *Менск* будзе горадам вольным. А героем – застанецца Мінск”(Каўка А. Каб не забыцца, с.233). Іранічны Генадзь Васільеіч тым разам, памятаецца, такому прадказанню малодшага калегі не пярэчыў.

Па нядоўгім часе, следам за стваральнікам “Сейбітаў вечнага”, адышоў у іншасвет і Віталь Скалабан. Золкім сіверным надвячоркам вяртаючыся з маёй Соняй з роднай Чэрвеньшчыны залучылі (дякуй Колю і Зоі Пракопчыкам) да апошняга яго прыпыну.

Валянціна Паўлаўна – Віталёва абранніца па жыцці, настаўніца-хімік, “тэхнар”, ахвярная паплечніца мужа-гуманітарыя – журботным голасам накіроўала нас, праз мабільнік, да тае магілкі на Паўночных кладах: гэта ж недалёка ад нашага дому, можа заехалі б..? Ля жоўценькага курганка,

густа абкладзенага вянкамі, сціпла прытууліліся і нашы хрызантэмы – апошнія з восені кветкі. Побач – магілка Валодзі Конана, спачылага трошку раней, таго ж лета 2011. Па найсвятейшым думанніку беларускім, другім блізкім мне чалавеку таксама варухаецца шчымліым неспакоем мая душа. – Пакуль не адляціць у там-быццё на сустрэчу з сябрамі, без якіх тут сталася няўтульна, адзінока.

*  *  *

Давяршаю спамінальныя радкі спаглядаючы праз акно на пагурыстае поле расійскае. Сюды, за Аку, у маю "беларускую хацінку" пару разоў наязджаў і Віталь, пакінуўшы па сабе "застольным" каларытам, прываблівай кантактнасцю запамінальнае ўражанне ў маіх суседзяў ("Когда же друг-белорус снова вас навестит..?"). Тут, на лецішчы – частка мае бібліятэкі, розныя папкі-дасье з беларушчыны, словам, рабочы куток… Пакуль згарнуць папачку "СКАЛАБАН", вока запыняецца яшчэ на адным, апошнім супольным здымку – каля помніка Францішку Скарыне, на былых Содалевых сотках (ад Віталя даведаўся), абок Нацыянальнае бібліятэкі, у новы, мадэрновы будынак якой –"саркафаг"– трапіў я ўпершыню зноў жа ў таварыстве з ім. Калісьці, пры вымушным тармажэнні чарговага нашага ў Маскве выдання Віталь прадбачліва падбадзёрыў са старонак ЛіМа: "Скарыніч" будзе выходзіць, бо скарынічы – вечныя". Наконт вечнасці можа завысока. Што да ўпартае неадольнасці нашае справы і руху – сказана ў самы раз. Бо – скарынічы скрозь былі, ёсцяка, будуць.

Дзякуй, дружа, на трапнай думцы. Да сустрэчы.

*  *  *

З нашага сумоўя.

У маім дыярыушы: "6 сакавіка 1990. Зянон Пазняк абраны ў бларускі парламент. Ефрем Соколов ахвяруе на БНФ 5 рублёў і становіцца за адной трыбунай са сваім палітычным апанентам Пазьняком. Якому яшчэ ўчора саратнікі сакратара ЦК пырскалі газам у вочы. У Віталя Скалабана – ён і распавёў [па тэлефоне] пра першыя выбараў вынікі – голас прыўзняты: "Фенаменальная зьява! 59 працэнтаў галасоў набраў старшыня

Сойму БНФ! Прайшоў Грушавы, прайшоў Вярцінскі.. Яшчэ змагаюцца за мандаты Хадыка, Ткачоў”. Што ж… Адраджэнцы працуюць. Нягожа й табе хлюпаць. Станоўся за плуг і зачынай новы загон”.

Віталь – да мяне: “Зноў пахвалюся: “Максім Гарэцкі – Смаленск-Менск. 1918-19”. Магчыма надрукуем, шмат новых тэкстаў, з В.Зм. Селяменевым.

А ў Слоніме – Шчара, рака і ляхавіцкая, таму і вельмі дарагая, а пачынаецца з Калдычаўскага возера, мясцін Міцкевіча – Чачота. Да сустрэчы. Абдымаю. В. Скалабан. 19.1.98.”

Маё – Віталю: “10.02.03. Скалабанік любы! Толькі што прагучэў твой званочак з Менску – ручаінкай вясновай, празрыстай, жыццялюбнай. Досыць сумнае прозы. Паэзія грукае ў скроні:

Дрыжыць нада мною зорыстае неба,
Пара набягае ў дарогу збірацца.
А толькі цяпер разумею, як трэба
Любіць і цярпець, да людзёў усміхацца.

Гэта радкі, збеларушчаныя, з нядаўняга лірычнага [тэле]ўсплёску Людмілы Зыкінай – відочна прытомленай, а па-ранейшаму магутнай, неадольна распеўнай..”

“29.02.04. Віталь. Наважыўся даслаць копію сайго ліста чэрвеньскім культурнікам. Як-ніяк, а ў самым зрусіфікааным “Панямонні” шыкуюцца Краязнаўчыя (першыя!) чытанні, якіх вельмі спадзяюся дапасці. Дык вось маглі б мы сустрэцца і развітацца (калі б чэрвеньцы даслалі Вашэці запрашэнне)– на радзіме Ганны Мякоты-Багдановіч, Міколы Каспяровіча і, прабач, тваяго недарэчнага “настаўніка”.

А пакуль не чакаючы “вагоннае” нагоды мог бы, Пане, выслаць у Маскву поштай вельмі чаканы “Дзеяслоў” з Быкава “Афганцам”.

Абдымаю. Твой Аляксей К.

…Прывітанне найкранальнейшае Алесі Мікалаеўне [Гесь] – можа б і яна падаахоцілася да краязнаўчага хаўрусаання ў Чэрвені. Большае ўцехі сабе не ўяўляю. –АК.”

2012.

# Белорусская Москва

Белорусское присутсвие в Московии датируется ориентировочно началом XIV века. С собственным войском, челядью сюда переселяются некоторые представители верховной знати Великого Княжества Литовского. В 1377 г. полоцкий князь Андрей Ольгердович, отказавшись присягать главному предводителю ВКЛ Ольгерду, подался в Москву. В 1408 г. туда же последовал северский князь Свидригайло Ольгердович. В конце XV - начале XVI в. переселяются в московские пределы князья Бельские, Воротынские, Вяземские, Глинские, Одоевские, где занимают подобающее их родовитости общественное положение, входят в близкое окружение главного правителя. Так, женой великого князя Василия III стала Елена Глинская, а после смерти мужа – регентшей малолетнего сына, царевича Ивана IV, будущего Грозного, завоевателя Полоцка, других земель ВКЛ. Еще ранее из Москвы в Вильну, во благо взаимных династических связей, была направлена старшая дочь Ивана III Елена – в жены великого князя ВКЛ и короля Польши Александра.

В разное время среди переселенцев встречается Тодор Грибовский – в качестве думного дьяка Федора Грибоедова, из родословного колена которого со временем явится миру Александр Грибоедов, автор поэтического шедевра "Горе от ума". Подобная "фамильная" трансформация в России не обошла и другого белорусского шляхтича Писаря Писаревича, предка известного литературного критика Д.И.Писарева. (Впрочем, на белорусской Гомельщине нынешние родственники российской тениссной звезды Марии Шараповой остаются при собственном извечном имени – Шарапа).

О своих литвино-белорусских корнях не забывал гений русской литературы Федор Достоевский, одаривший давних сородичей провидческим сочувствием: «Без этой веры в себя не устоял бы в продолжение веков белорусский народ и не спас бы себя никогда». И предостерегая иных ретивых прогрессистов от небрежения национальным началом в судьбах человечества: “не следует замахиваться на самостоятельность национальной жизни, а, напротив, всеми силами поощрять эту жизнь и как

можно более стоять за ее самобытность и органичность». К древнему «литовскому» роду Симеона Бунковского восходят семейные корни писателя Ивана Бунина, запечатлевшего в «Жизни Арсеньеа» трогательное неравнодушие к своей прародине. В окрестностях Москвы (ст. Баковка) покоится прах этнического белоруса Казимира Малевча – именитого художника-модерниста, основателя философии супрематизма, автора “Черного квадрата” (Малевич И.А. Код Казимира (Народная воля. 2013. 29 студзеня. № 8 (3749)).

На отношения Московского княжества и ВКЛ сказывалось соперничество двух главенствующих в государстве аристократических ветвей – собственно "литовских" Гидеминовичей и "руских" Рюриковичей . Принадлежность к православию последних, как и большинства жителей ВКЛ, во многом подпитывало притязания Москвы на роль собирателя русских земель, с чем в протяжение нескольких прежних столетий не безуспешно справлялась "литовско-руская" Вильня. Военно-политическое, территориальное преимущество «Литвы», наиболее внушительное при великом князе Витовте, постепенно ослабевает, особенно после падения Смоленска под напором войска Василия III. Позднее даже блистательная победа воинов Константина Острожского над московскими полками под Оршей (сентябрь 1514) не уберегла ВКЛ от исторического проигрыша в противоборстве с восточным соседом за лидерство на восточнославянском пространстве. Не поправило дела и объединение ВКЛ с Польской Короной в общую республику – Речь Посполитую «двух народов». Белорусско-литовские земли стали непреодолимым яблоком раздора в отношениях России и «Польши».

Не однажды сие противостояние сдерживалось усилиями литовско-польской стороны к мирному урегулированию конфликтного соседства. Например, – посольством в Москву, при Борисе Годунове, канцлера Льва Сапеги – с намерением заключения обоюдо «вечного мира». Проектируемое миролюбие, увы, не состоялось, но любопытные детали из контекста тех переговоров дошли до нас в стихотворном опыте Гальяша Пельгжимовского, писаря ВКЛ,

участника упомянутого посольства («Беседа в Москве», 1603). В поэме среди прочего прояснен, с тогдашних литовско-белорусских позиций, и вопрос о «всерусских» претензиях московского царя: Sam sie niech zowie Carem wsieia Rusi, / wszak mu to wolno, / a nas nie przymusi (Сам пусть зовется, коль ему угодно, царем всея Руси, нас же к тому не принудит). Владимир Казберук, вернувший полузабытый текст современному читателю, конечно, прав, напомнив об актуальности национально-этнического упрямства давних литвинов-белорусов. О чем, полагаем, и кое-кому из нынешних «мухо-котлетных» рачителей «общерусского» единения забывать не кстати. Равно и современным белорусским патриотам – о досадном участии их предков в походах на Москву Лжедмитрия I, Лжедмитрия II.

Отсчет компактного проживания белорусов в Москве можно вести с того же 1514 года, после капитуляции Смоленска. Значительная часть смолян была тогда переселена в русскую столицу и окрестности. На их место в порубежный город на Днепре направлена на поселение часть москвичей. Война 1654-1676 г.г., наиболее кровопролитная, разрушительная в истории противостояния Речи Посполитой и Москвы, именуемая, не без натяжки, "русско-польской", стоившая землям тогдашней Литвы-Беларуси почти каждого второго жителя, разрушений и опустошений большинства городов и крупных селений, повлияла на массовый исход белорусского населения в московское пространство.

Чаще – полон, но также и добровольно-вынужденное, подстегиваемое военной разрухой, переселение "пашенных людей", горожан-ремесленников. Во множестве документов тогдашнего Посольского приказа они, переселенцы, отмечены своей этнической и государственной инородностью – "литвинов", "белорусов", "литовских людей", реже – «поляков», "латинян". "А на Москве выходец литвин Матюшко в расспросе оказался он литвин, белорусец Мстиславского повету"; "И по государеву цареву указу велети выходцев литовских людей устроити на пашне во государевых дворцовых селах в замосковных и дальних городах". Среди поселенцев встречается и некто "литвин Корнейко Круковский (позднее, возможно,

переиначен в Корнеева или Крюкова), уроженец Оршанского повету, шляхтич белорусской веры".

Тогда же, в ходе оккупации, был вывезен в Московию воеводой Хованским 9-летний мальчуган из-под Бреста Илья Капиевич (Капиевский), будущий издатель – при Петре I – российских книг в Амстердаме, проведший в Москве свои последние годы в качестве переводчика Посольского приказа.

В основном белорусами заселяется и новая в городе слобода – Мещанская. По данным переписи 1684 года она насчитывала 477 дворов (612 семей, примерно 10 процентов посадского населения города). Значительная часть белорусов занимала и тогдашние Гончарную, Бронную, Старопанскую слободы. Примечательная деталь: 36 процентов тех мещан, судя по собственноручным подписям, были грамотными. Дети Мещанской занимались в школе под началом Якова Яковлева, учившего "детей словесному". Другой Яковлев, Семен, из Витебска, приторговывал книгами. В те же годы 300 монашек Кутеинской, под Оршей, обители нашли себе пристанище в Ново-Девичьем монастыре.

Возвышение, архитектурно-художественное благолепие Москвы при Алексее Михайловиче и в последующие годы обязано отчасти привлечению искусных белорусских мастеров. Кирпичники, золотари, серебреники, печники-ценинники, пушкари, пищальники, сабельники, столяры, иконники, токари, каретники, швейники, часовщики, переплетчики – носители более 60 специальностей были привлечены в Злотоглавую из-под Вильни, Витебска, Полоцка, Минска, Копыси, Слуцка, Борисова, Шклова, Могилева, Дубровны. Они прибывали сюда в одиночку и семьями, поощряемые к тому же высочайшим указанием: "Которые литовские люди учнут приезжать на наше имя на вечную службу шляхтичи добрые и белорусы и мастеровые добрые люди и всех тех в нашу сторону велено вести и приведчи к хрестному целованию, отпускати к Москве".

Белорусские мастера возводили и отделывали московские храмы, царские и придворные палаты, привнося и совершенствуя новую "барочную" технологию скульптурно-объемной резьбы ("белорусская резь"), изготовления разноцветных эмалевых изразцов, создавали изысканную

дворцовую мебель, различные виды огнестрельного и холодного оружия, церковной утвари. Плоды их творческого изобретательства, эстетического вдохновения и сегодня не перестают удивлять посетителей Коломенского дворца, бывшей подмосковной резиденции царя Алексея "Тишайшего", Воскресенского Ново-Иерусалимского монастыря на Истре, Крутицкого подворья, Оружейной палаты, Ново-Девичьего храма, с изысканным резным иконостасом, исполненным под руководством Клима Михайлова, уроженца Шклова. Архивные источники поныне хранят многие другие имена отличившихся в мастеровом деле: резчиков Петра Заборского, Василия Быховца; оружейников Петра Мартынова, Самойлы Богданова, Луки Журина; ценинников Степана Жанова, Игнатия Максимова, многих других творцов веселого барочного стиля в строгой старорежимной Москве.

Заметен белорусский след в зарождении русского профессионального театра. Именно артисты-исполнители, привлеченные на сцену из той же Мещанской слободы и обученные "комедийному действу" немцем-магистром Яганом Грегори, давали представления на придворной московской сцене, первое из которых состоялось 16 сентября 1672 года, созданное на основе драматургической обработки библейской книги "Эсфирь". При этом постановщики использовали также соответствующий перевод нашего Библеиста-Первопечатника, чьи издания были здесь достаточно известны. Ценное свидетельство на сей счет оставил нам польский писатель-путешественник С.Старовольский, видевший «в Москве, всюду на Руси много книг, переведенных на славянский язык Франциском Скориною» .

Творческим подвижничеством прославился в Московии другой именитый полочанин: Самуил Гаврилович Петровский-Ситниянович – Симеон Полоцкий – ученый, педагог, издатель, поэт и драматург, олицетворивший целую эпоху в российском просветительстве.

Следует помнить, что и книжно-печатное дело, начатое в Москве белорусами Петром Мстиславцем, Иваном Федоровичем (Федоровым), продолжалось, набирало размах не без содействия других белорусских, украинско-белорусских

писателей, переводчиков, печатников – Сильвестра Косова, Епифания Славинецкого, Лаврентия Зизания, Мелетия Смотрицкого. Знаменитая "Грамматика" последнего, впервые увидевшая свет в Вильне (1619), многократно издавалась в Москве (1648, 1651, 1721, 1723), став своеобразными "вратами учености" для будущего основателя храма российской науки Михаила Ломоносова. Примерно с тех пор и книжный язык изданий "литовской печати" воспринимался здесь "под именем белорусского". Отметился также в русской столице писатель-полемист, послушник Купятицкого монастыря Афанасий Филиппович (1637), пытаясь увлечь царя Михаила в «оброну и помножене веры святой православной», ущемленной в Речи Посполитой после принятия Брестской церковной унии 1594 г.

Впрочем, шествие белорусской книги, особенно богословской, по Московии не назовешь триумфальным. Местную православную артодоксию настораживал не только непривычный язык, но пуще того – не вполне каноническое, даже еретическое, в ее представлении, содержание тех изданий. Грамота царя Михаила Романова и патриарха Филарета (декабрь 1627) строго предписывла: “На Москве и во всех городех литовскія печати Учительные Евангелья архимандриты Транквиліона-Ставровецкого и иные книги его кирилова слогу собрати и на пожарах сжечь, чтоб та ересь и смута в мире не была»».

К XVI-XVII в.в. относится, по мнению ряда ученых-славистов, так называемое третье славянское влияние Юго-Западной Руси на языковую ситуацию Руси Московской, а точнее на демократизацию прежнего древнерусского языка, появление новых литературных вариантов на основе сочетания книжной (церковнославянской) письменности и живой разговорной речи или "простой мовы", как ее называли в Беларуси и Украине. Кстати, и московские буквари, ранее именуемые "азбуками" отныне издаются здесь под названием "Букварь языка словенска", заимствованным из соответствующих изданий Кутеинской, Могилевской, Виленской, Евьевской типографий .

С появлением новой российской столицы на берегах Невы притягательность Москвы для белорусов заметно

ослабевает. Их предпочтения, познавательно-созидательное усердие за пределами своего Отечества отныне большей частью устремлены на град Петров, в материальное и духовное прирастание которого они внесли немалую лепту .

Надо принять во внимание и явное затухание в последующие годы белорусской письменности, культуры в целом, обусловленное затяжным социально-политическим кризисом в Речи Посполитой, в составе которой ВКЛ постепенно теряет свою самостоятельность, этнокультурную, языковую (элитная часть общества) идентичность – к концу XVIII века почти унифицировавшись, "растворившись" в унитарном польском государстве. В ходе трех разделов Речи Посполитой Литва-Беларусь под предлогом "возвращения земель" ("Отторгнутое возвратихъ" императрицы Екатерины II) включается в российские пределы.

Прежняя полонизация сменяется русификацией – стратегическим курсом российских властей в отношении Беларуси, переименованной в Северо-Западный край, на ее полное слияние с великорусским социумом. Печальные итоги данной ассимиляторской политики как нечто само собой разумеющееся в конце XIX века подведет московское энциклопедическое издание: "Белоруссия – название части России. Название Белоруссия есть географический термин и не имеет особого этнографического значения, как ни особой народности, ни даже особого племени белорусского не существует". В тон энциклопедистам вторили, или тех предворяли и некоторые проницательные умы, предрекая белорусам, украинцам, наряду с другими "неисторическими народностями" неизбежное растворение в народности исторической, российской: "Северо-Западный и Юго-Западный край точно такая же Россия на точно таких же основаниях как и сама Москва» (Н.Данилевский). Хотя почти столетием раньше этот "несуществующий" народ устами наиболее просвещенной, граждански активной части заявил о своем достоинстве и неуступчивости в борьбе за национально-политическое выживание дерзкой "Песней белорусских жолнеров" (1794), рожденной в повстанческих отрядах Тадеуша Костюшки:

"*Возьмем косы* ды *янчаркі* / *Пойдзем гордыя* гнуць каркі / *Няхай маскаль адступае* / *Няхай беларусаў знае*" .

Естественно, наш последующий интерес к белорусскому присутствию в Москве мотивирован обостренной проблемой их национального самосохранения и самовыражения в многоэтнической среде. С учетом того, насколько этому способствовала российская общественность. Памятуя Николая Добролюбова вещее возражение россказням о безнадежной "исторической" спячке поневольного народа: "Посмотрим, что еще скажут сами белорусы!"

Хотя сами они по-разному представляли себе свою национальную судьбу. Одни, подобно М.О.Кояловичу, идеологу "западнорусизма" – в полном "слиянии воедино с русскими силами" . Другие, поддержанные демократической Россией (Бакунин, Герцен, Огарев), – в отмежевании от московской "опеки", в свободной и независимой Беларуси при возможной федеративной связи с Польшей (Кастусь Калиновский) или с Россией (народническая группа "Гомон").

Вообще же творческий интерес московской публики к Беларуси, ее историко-культурному, языковому своеобразию не иссякает в течение XIX - начала XX века. Это отражают путевые заметки, письма русских офицеров-участников освободительного антинаполеоновского похода – Ф.Глинки, А.Бестужева, первые белорусские словари М.Погодина, К.Калайдовича; "Белорусский архив" (1824), выпущенный в Москве старанием протоиерея И.Григоровича, при покровительстве канцлера-графа Н.П.Румянцева. Издание, положившее начало научному белорусоведению, содержало в себе богатое собрание древних источников по церковной и гражданской истории Беларуси, их археографическое описание.

Приобщению русских коллег к Беларуси – "своей Литве" немало воспешествовал Адам Мицкевич, ссылка которого в Россию обернулась для молодого поэта блистательным творческим взлетом, знакомством с лучшими служителями российской музы. В Москве увидели свет его "Сонеты", историческая поэма "Конрад Валенрод" (1827). Здесь именитый литвин познакомился и близко сошелся с Александром Пушкиным, Петром Вяземским, Евгением Боратынским.

Отсюда наш земляк-новаградец в письме к Э.Одинцу заочно знакомит своего друга-филомата с Первым мастером русского Парнаса: "Пушкину 28 лет, в разговоре очень остроумен и увлечен, хорошо знает современную литературу, имеет чистое и возвышенное понятие о поэзии. Написал теперь историческую трагедию "Борис Годунов". Я читал отрывки из нее, целое хорошо продумано, и детали прекрасны".

Позднее, в лирическом послании "Do przyjacioł Moskali" ("Русским друзьям") автор "Дзядов" выразил свое сокровенное понимание-переживание подлинной, недекларативной дружбы между народами, оставив потомкам-полякам, белорусам, россиянам, литовцам поэтический и нравственный тест на мужество и честность в их взаимных отношениях.

Так в Москве, как и в Петербурге, не говоря о Вильне, Витебске, Минске, Могилеве, начинают заново прорастать зерна белорусского национально-культурного возрождения – поначалу в русском или польском "языковом" обрамлении. Об этом зримо свидетельствует летопись Московского университета, откуда "к шляху да Беларусі" проторена не одна стежка. Здесь в 1831 г. проучился курс Тадеуш Лада-Заблоцкий, исключенный за распространение крамольных идей и сосланный солдатом на Кавказ, где реализовал свои поэтическое призвание в роли одного из основателей новой белорусской литературы. В тех же стенах, до перевода в Петербургский университет, начинал творческий путь Виктор Калиновский, старший брат легендарного Кастуся, неутомимый библиограф и книговед. Отсюда же старанием профессора О.М. Бодянского протянулась "белорусская" ниточка (список анонимной поэмы "Энеіда навыварат") в Прагу чешскую к знаменитому слависту Павлу Шафарику, который в своем "Славянском народописании", изданном в Москве (1843), в переводе того же Бодянского, представил, пожалуй, первое в славяноведении описание старой и новой белорусской словесности, научно обосновав самостоятельность белорусского языка в восточно- и общеславянском ареале. Там же студенты-белорусы, вспоминал выпускник МГУ, витеблянин Максимилиан Маркс в "Записках старика", доставляли известному фольклористу-собирателю П.В. Кириевскому

записи народного мелоса своей родины. Текстов тех "от Чудского озера до Волыни и Суража, от литовского Берестья до Вязьмы и Можайска" собралось на богатую, увы, не увидевшей свет, коллекцию. В целом же к исходу 1830-х в Белорусском округе работало 140 выпускников различных российских вузов, преимущественно Московского университета, олицетворяя собой ряды зарождающейся национальной интеллигенции. В начале 1850-х задержался в Москве, возвращаясь из Варшавы, писатель Павел Шпилевский. Здесь он познакомился с М.П.Погодиным, историком и публицистом, редактором журнала "Московитянин", в котором, правом "прирожденного белоруса", опубликовал этнографический очерк "О вовколаках".

Не обошел первую российскую столицу литературный критик Ромуальд Подберезкий, налаживая связи с местными интеллектуалами. Пометка "Москва" значится под рукописью поэмы Константина Вереницына "Два д'яўлы" ("Два дьявола") – выпускника Горецкого сельскохозяйственного института, создателя, как установил Геннадий Киселев, поэтического бриллианта "Тарас на Парнасе", долгое время считавшегося анонимным произведением. Благожелательным знатоком Москвы обнаружил себя наш первый дударь-песняр Винцент Дунин-Марцинкевич в поэме "Халімон на каранацыі", явив колоритный художественный образ города и жителей на фоне торжества по случаю восхождения на престол царя Александра II.

К исходу XIX века белорусская тема в Москве несколько оживляется, появляются робкие попытки национальной консолидации наших земляков. Стараниями историка М.В. Довнар-Запольского издается "Календарь Северо-Западного края на 1889 год" с литературными и фольклорными текстами. В другом выпуске этого же календаря сообщалось об издании научно-литературного сборника "По Белоруссии". Но до читателя книга не дошла, по-видимому, из-за "цензурного" ареста. Тогда же будущий автор "Основ государственности Белоруссии", "Истории Белоруссии" знакомится с Львом Толстым, оба обсуждают возможность выпуска нового литературного еженедельника "Утро", а также тему

декабристов, которую автор "Войны и мира" намеревался раскрыть в специальной повести .

На рубеже 1880–1890-х в Москве организуется белорусский культурно-просветительский кружок, главным образом из числа студентов университета, где в то время занимались Антон Левицкий, будущий писатель Ядвигин Ш., публицист Наполеон Чарноцкий, сотрудничал витебский историк Алексей Сапунов и другие. Усилиями кружковцев издается отдельной брошюрой рассказ Вс.Гаршина в переводе А.Левицкого на белорусский язык. На «Сыгнал» из Москвы сразу же откликнулся благодарно "Минский листок" (1891, 9 апреля). Из Петербурга подвижник белорусчины Бронислав Эпимах-Шипилло просит московского библиофила П.П.Шибанова выслать ему 3 экземпляра этой книжечки. Издание тогда же пополнило коллекцию этнографа и литературоведа Николая Янчука, выпускника МГУ, сотрудника Исторического музея, заявившего о себе к тому времени оригинальными публикациями об Адаме Киркоре, о фольклоре Минской губернии. Позднее из-под его пера появятся аналитическая статья, монография о старой, о новейшей белорусской литературе. В Московском университете защищает свой труд на получение звания доктора наук (1896) и Ефим Карский, классик белорусской филологии, творец капитального трехтомника "Белорусы" (1903-1922); завершают обучение минчанин Евгений Ляцкий, автор "Материалов для изучения творчества и быта белорусов. Ч.1. Пословицы и загадки" (1898); Владимир Пичета, в будущем первый ректор Белорусского государственного университета, известный историк-славист, немного позднее – Владимир Пракулевич, один из руководителей Слуцкого восстания (1920), секретарь правительства БНР в эмиграции, по возвращении на родину - зам. директора Государственной библиотеки БССР.

В летописи МГУ отражены также имена уроженца Слуцка – астронома Витольда Терасского, директора университетской обсерватории; полочанина Юрия Тарича (Алексеева), кинорежиссера, основателя белорусского художественного кинематографа; виленчука Игната Кончевского (Абдираловича), философа и публициста, автора

первой системной работы о белорусском историческом пути, национальной идее белорусов (Абдзіраловіч І. Адвечным шляхам. Дасьледзіны беларускага сьветапогляду. Вільня, 1921; 4-е изд. Мн., 1993; в русском переводе – «Нёман», №11, 1990).

С наступлением XX века смелее заявляет о себе блорусское движение, выдвинувшее новых лидеров, идеологов – братьев Ивана, Антона Луцкевичей, Александра Власова, Вацлава Ластовского и других. В едином русле сходятся культурно-просветительские и политические (Беларуская сацыялістычная Грамада) течения, углубляя, динамизируя освободительные устремления доселе, казалось, инертного "молчаливого" народа, отныне внятно, в тон Богушевичеву «каб не умёрлі», заявившего миру о своей живучести: "А кто там идёт..? – Белорусы" (стихотворение Янки Купалы, переведенное на русский Максимом Горьким).

В этом национально-освободительном процессе значительную роль сыграло вызванное первой мировой войной такое явление как беженство, рассеявшее по всей России свыше миллиона белорусов. В Москве в 1915 году остановился до мобилизации на воинскую службу Я.Купала, определившись слушателем народного университета им. А.Л.Шанявского. В Петропавловском костеле поэт обвенчался с учительницей Владиславой Станкевич. Спустя четыре года здесь увидит свет его первый сборник на русском языке (в переводах И.Белоусова, В.Брюсова, А.Коринфского). Осюда же – лестничный пролет шестого этажа гостиницы "Москва" – поздним июньским вечером 1942 народный песняр-будитель трагически “шагнет” в бессмертие.

Участь беженца не обошла и другого волота слова белорусского – Якуба Колоса. Тогда, в 1915, в сокровенном письме к собрату по творчеству Янке не утоил он саднящего разлада от дилемы "родина – чужбина": "Весной 1915 г. я вынужден был покинуть родные берега дорогой мне Беларуси и выехать в Московскую губернию. Побывав там сколько-то дней в школе, я был забран в солдаты. С позиций приехал в Обоянь, где жила моя семья, больным человеком. Браток мой милый! Случалось тебе когда-нибудь застрять где-нибудь на железнодорожной станции, ждать поезда? Вот в таком

положении чувствую я себя теперь, где бы ни находился. Все жду, когда наступит время, чтобы оставить эту Московщину и вновь очутиться среди своих людей. Болит моя душа о Беларуси. Чувствуешь ли, браток, как тяжело жить на чужбине?".

Еще одного видного белоруса "беженские" обстоятельства задержали в Москве в качестве сотрудника Народного банка – Александра Бурбиса, деятеля БСГ, председателя ее московской организации (1917), впоследствии генерального консула Белорусской Народной Республики при правительстве РСФСР, перед скоропостижной кончиной (1922) – зам. Наркома иностранных дел советской Беларуси.

На волне Февральской, Октябрьской революций в России, усиления освободительных движений на окраинах бывшей империи о своем праве на самоопределение во всеуслышанье заявляют и белорусы – решениями Всебелорусского съезда (декабрь 1917), провозглашением БНР (25 марта 1918) и революционно-"классовой" альтернативой ей – созданием Беларусского национального комитета (Белнацкома) при Наркомате национальностей РСФСР.

Деятельность Белнацкома – провозвестника БССР – обеспечила качественно иную социально-политическую базу, правовую легитимность для белорусского вопроса в Москве, во всей России, как и в самой Беларуси. По его инициативе созывается Всероссийский съезд белорусских беженцев (июль 1918), с решениями которого делегация во главе с Александром Устиловичем знакомит в Кремле лично В.И.Ленина, чье внимание к белорусской проблеме, в отличае от "западнорусских", на большевистский лад, заблуждений предводителей так называемого Облкомзапа, немало значило для государственного, на советской основе, самоопределения Беларуси.

В те годы (1918-1920) в Петрограде, Москве предприняты многие принципиальные начинания, импульсировавшие и ускорявшие национальное пробуждение белорусов. Издаются газеты "Белорусская криница", "Дзянніца", "Савецкая Беларусь", альманах "Зажынкі", журнал "Чырвоны шлях", Основывается Белорусское научно-культурное общество

(председатель В.Пичета, члены совета – В.Брайцев, И.Дыла, В.Качалов (Шверубович), М.Любавский, Н.Янчук). Открывается Белорусский народный университет с курсами по истории, географии, экономике, языку и литературе. С лекциями выступают белорусские и российские специалисты – В.Пичета, Д.Анучин, И.Силинич, М.Любавский, П.Расторгуев, В.Добровольский, А.Ясинский, Д.Жилунович (писатель Тишка Гартный). На материалах университета Белорусский подотдел Наркомпроса РСФСР издает "Курс белорусоведения" (1920), следом – Федора Турука исторический очерк белорусского национального и революционного движения, с приложением литературных и документальных источников, а также этнографической карты Белорусского племени, составленной академиком Е.Карским.

В Москве представителями белорусской секции РКП(б) – Д.Жилуновичем, И.Нецецким, А.Червяковым и др. разрабатывается концепция независимой Белорусской Советской Социалистической Республики – в противовес низлагаемой БНР. Белорусские большевики оценивая тогдашние реалии, геополитический расклад сил, иного, кроме советского варианта самоопределения их родины, себе не представляли. Это подтвердилось итогами советско-польской войны и Рижского договора 1921 г., а также тщетными попытками руководителей БНР заручиться международной поддержкой относительно независимости, территориальной целостности Беларуси на мирных конференциях в Париже, Генуе.

С образованием БССР, СССР, насыщеннее становится и белорусская жизнь в российской, советской столице, особенно в 1920-е годы, когда всплеск национально-культурного возрождения, под девизом "беларусізацыі", в самой Беларуси стимулировал подобные устремления сородичей за ее пределами. Первыми консолидируются белорусские студенты. Их в Московских вузах насчитывалось свыше 1000 человек. Выделяются наиболее инициативные, творчески деятельные: Гаврила Горецкий, родной брат писателя-классика Максима Горецкого (Петровская, позднее Темирязевская сельхозакадемия), Владимир Дубовка (Литературный институт им. В.Я.Брюсова), Леонид Родзевич, Павлюк Шукайла

Красной Армией и провозглашения БССР интерес большевиков к переговорам и контактам с правительством БНР, судя по всему, пропал.

* * *

Книга Дороты Михалюк, поступившая в Государственную публичную историческую библиотеку России, безусловно призвана способствовать раскрытию и изучению малоизвестных страниц истории Беларуси и лучшему пониманию российским обществом роли и места в современной Европе.

---

[1]/ Казаў Улашчык // Каўка А. Будам жыць! Мн.-М., БГКЦ, 1998. С.140

[2]/ Нарыс гісторыі беларускай дзяржаўнасці XX стагоддзя. Мінск, "Беларуская навука", 2008. С.803

[3]/ См.: Купала Я. Молодая Беларусь. М., "Советский писатель", 2008. С.270-294; Советская Белоруссия, 22.03.2008

[4]/ Mémoire des Représentants de la Ruthénie Blanche á la III Conférence des Nationalités. Lausanne, 27 Juin, 1916. // Отдел рукописей ЦНБ Литвы. F. 21-2281.

[5]/ Снапковский В.Е. Беларусь в международных отношениях в 1918-1945 гг. // История международных отношений: учебное пособие. Ч.2. Мн., БГУ, 2007. С.306-379

[6]/ там же, с. 314-315

[7/] БНР: поверх барьеров // Советская Белоруссия. 22.03.2008

2012

***Соавтор Виктор Чайчиц***

# Новыя акцэнты ў беларускай ідэі

Беларуская ідэя як ідэя самазахавання і творчага самараскрыцця аднайменнае супольнасці з тэарэтычнага гледзішча ўжо дастаткова асэнсаваная, сістэматызаваная. Два нядаўнія фундаментальныя выданні – таму яшчэ адзін важкі доказ:

Беларуская думка XX стагоддзя: філасофія, рэлігія, культура/ Уклад. Юрый Грабінскі. – Варшава: Інстытут славістыкі Польскай акадэміі навук, 1998; Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. – Т.1. – Кн.1,2/ Уклад. Сяргей Шупа. – Вільня-Нью-Ёрк-Менск-Прага: Беларускі інстытут навукі і мастацтва, Таварыства беларускага пісьменства, 1998.

Вострыя пытанні кшталту “Чаму ж мы такія бяздольныя?” (Ф.Багушэвіч), “А хто там ідзе?..” (Я.Купала), “Што трэба ведаць кожнаму беларусу?” (В.Ластоўскі), з якіх нашыя папярэднікі пачыналі калісьці абуджэнне суродзічаў ад нацыянальнага летаргату, цяпер, пад зыход стагоддзя, нібы ўжо развязаныя – прынамсі тэарэтычна. Хаця пад націскам абставін часам і засмыліць стрэмкаю трывожная няпэўнасць (няўжо паміраем?), выкліканая чародным шалам варажнечае антыбеларускае плоймы. Але ж *мільённае* “НЕ” рускай мове ў якасці дзяржаўнай (майскі рэферэндум 1995 г.) таксама нешта значыць. І мужныя, адчайныя маладзёны, школьнікі, студэнты, дратаваныя ў міліцэйскіх пастарунках, турэмных камерах за адно толькі палымянае “Жыве Беларусь!”, але не скароныя; і рашучы, не зломлены ні глумлівым судзілішчам, ні турмой Беларускі Паэт з вострым, грамадзянскім выклікам… міжвольна змушаюць задумацца. Не гаворачы пра мнагалюдныя незалежніцкія шэсці пад нацыянальнымі сцягамі праспектам Скарыны ў стольным Менску. Словам, прыкметных, пераканаўчых праяваў дынамічнага працэсу беларускага самапазнання, трывалай чуйнасці нацыянальна-абарончага інстынкту ў народзе маем дастаткова.

У XXI стагоддзе беларусы крочаць з ясным усведамленнем уласнага імя, свае нацыянальнае годнасці, гістарычнае спадчыны. З немалым, прызнаным у свеце

культурова-духоўным набыткам, нарэшце, з уласнымі атрыбутамі дзяржаўнае незалежнасці і суверэнітэту. Здзяйсняецца Купалаўскі ідэал “пасаду між народамі”; краіна Беларусь, пры відавочных супярэчнасцях і горкіх парадоксах яе сучаснага нутранага ладу, становіцца раўнапраўным удзельнікам міжнароднага дыялогу.

Адсюль – зыходны жыццесцвярджальны акцэнт, які аб’ектыўна дамінуе над песімістычнай, “плачлівай” версіяй (заўважанай у многіх публікацыях) нашага нацыянальнага светабачання і самаадчування. Ворагі беларушчыны – неадступныя, назоліста-ваяўнічыя спадарожнікі Беларускага Руху – не могуць, не ў стане засланіць, перакрэсліць ні вынікі, ні гістарычную перспектыву вызвольна-адраджэнцкае працы.

Не перабольшваем і не містыфікуем адцягненна-ўзнёслых паняццяў “беларусы”, “народ”, якія, добра вядома, пры ўдакладненнях не раз абарочваюцца жорсткімі, непрываблівымі рэаліямі. Хаця і так званы электарат, і зрусіфікаваная або спаланізаваная, зазвычай раўнадушная, а здараецца, і варожая беларушчыне частка насельніцтва – гэтаксама народ, тая сацыяльная стыхія, у якой ферментуе, крышталюецца, набываючы завершаны і вызначальны для ўсяе супольнасці кшталт нацыянальная думка і энэргетыка руху. **Можна і трэба суважна сцвердзіць: сучасны беларускі этнас (зразумела, не тоесны межам “геаграфічнае”Беларусі) якаснай рэпрэзентатыўнасцю, а тым болей патрыятычнай ахвярнасцю свае нацыянальнае эліты (вызначальнай у лёсе кожнага народа) не саступае ніякаму другому. Магчыма, мы не лепшыя, але ж і не горшыя за іншых.** У дачыненні ж да свае гістарычнае трывушчасці і працаздольнасці – пры пастаянным, неймаверным асімілятарскім ціску – можам падзяліцца немалым вопытам, па-свойму павучальным для другіх, асабліва падкаланіяльных народаў.

**Усведамленне ўласнае паўнавартасці павінна стаць зыходным і скразным элементам нашага нацыянальнага самапачуцця і светаўспрымання.** Тым больш ва ўмовах фармавання беларускага фундаменталізму або нацыяналізму – найвышэйшае праявы нацыянальнае ідэі на завяршальным этапе змагарнага выбаўлення з-пад каланіяльнага дыктату. Наша

краіна ўступае і ўжо ўступіла ў рашучы перыяд фактычнага, не дэкларацыйнага, будавання і ўсталявання свайго Дзяржаўнага Дому, у якім блюзнерскія скокі чужацкіх капытоў на беларускім стале, беспакаральнае глумленне над беларушчынай стане вельмі-вельмі праблематычным, прынамсі не будзе ўжо неад'емным атрыбутам уладных структураў.

Наспела таксама патрэба ў грамадскім легітымаванні беларускага нацыяналізму, які перахоплены і сфальсіфікаваны нашымі праціўнікамі, спрытна выкарыстоўваецца імі ў якасці правакацыйнай зброі масавага запалохвання і дэзынфармацыі грамадства дзеля шантажу і кампраметацыі вызвольна-адраджэнцкіх, патрыятычных сілаў Беларусі. **Беларускі нацыяналізм ёсць дакладная ідэя і рашучае дзеянне супраць патаптання і нявечання спаконвечных святыняў беларуса – роднае мовы, нацыянальных сімвалаў, гістарычнае спадчыны.** Гэта адначасова асэнсаванне і ўсведамленне нашым, у значнай частцы замбіяваным каланізатарскай лухтой народам духазабойчае, антыбеларускае існасці чужынца (прыблуды звонку і дамарослага адшчапенца), для якога знявага і падаўленне беларушчыны скрозь было і застаецца перадумовай і сродкам паразітавання на рахманым, шматпакутным беларускім карку.

Беларускі нацыяналізм – наш надзейны шчыт і меч у абарончым змаганні за палітычную і духоўную незалежнасць, этнакультурную самабытнасць і тоеснасць, сваё спаконвечнае права – імкненне заставацца сабою, здзейсніць сваё гістарычнае пакліканне ў сусветнай сябрыне народаў. Салдат – надзейны змагар-абаронца, калі добра валодае зброяй і ў паніцы не кіне яе пад ногі ворагу. Аксіёма трывіяльная, аднак вартая напаміну ў нашым неспакойным, нацыянальна мабілізацыйным часе.

---

Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Беларуская нацыянальная ідэя" (18-19.04.1999, Гродна), Мн., Беларускае выдаведства Таварыства "Хата", 2000

# Наталенне родным словам

Вечарына ў Маскоўскім Доме нацыянальнасцяў

Ва ўтульнай зальцы на Басманнай, 4 сабраліся з паўсотні мясцовых беларусаў, з імі - рускіх, татараў, яўрэяў, гадунцоў Сінявокае радзімы. На экране-маніторы высвечана агністае Купалава двухрадкоўе: "Свабоднае слова ты роднае слова! Зайграй ты смялей, весялей!". Цешаць слых прыцішаныя мелодыі беларускіх спеваў. На сцэне разгорнута на трох высозных шчытах кніжная выстава з прыватнай бібліятэкі аднаго з удзельнікаў. Зверху абок важкага тому Скарынавай "Бібліі" прытуліліся сціпленька Багушэвічава "Дудка беларуская", факсімільныя камплекты "Нашай Нівы", "Нашай Долі".

Побач і ніжэй - іншыя сведчанні словатворнага хараства: першавыданне "Белорусов" Яфіма Карскага, рарытэтны "Матчын дар" Алеся Гаруна, "Маладя Беларусь" Янкі Купалы (у перакладзе на рускую абок арыгінальных тэкстаў), "Новая зямля" Якуба Коласа на трох мовах (беларускай, рускай, польскай), унушальныя энцыклапедычныя фаліянты, хрзстаматыі - "Беларуская мова", "Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва", "Беларуская энцыклапедыя", "Даўняя беларуская літаратура”. На другім стэндзе, пад прываблівым выданнем "Беларуская ідэя" - кнігі па гісторыі, філасофіі, грамадскай думцы, мастацтву Беларусі — Мікалая Ўлашчыка, Міколы Ермаловіча, Уладзіміра Конана, Майі Яніцкай...

Далей - зборнікі беларускай паззіі, прозы - Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі, Ларысы Геніюш, Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Ніла Гілевіча, Міхася Стральцова, Васіля Зуёнка, Максіма Гарэцкага, Янкі Брыля, Івана Мележа, Васіля Быкава, Вячаслава Адамчыка, Анатоля Кудраўца, Алеся Жука… Вабяць вокладкі беларускіх перакладаў на ангельскую, французкую, нямецкую мовы, файных анталогій "Краса і сіла", "Галасы з-за небакраю",якія падрыхтаваў паэт Міхась Скобла. Свяцілася на паліцы і тоненькая брашурка ў бел-чыр-вона-белай аправе з "Пагоняй" на вокладцы - матэрыялы Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны - з парыўчым заклікам да суродзічаў берагчы роднае слова, прырошчваць

духоўную спадчыну папярэднікаў, над чым мала-памалу (хацелася б спарней) рупяцца масквічы-беларусы. Прывабна глядзеліся на паліцах найноўшыя нумары перыёдыкаў – “Нашай Нівы”, “Нашага слова”, “Дзеяслова”, альманаха “Асоба і час” .

Сёння родная мова прыстойна прадстаўлена і ў інтэрнэце, у чым кожны з прысутных мог пераканацца асабіста. Словам, мова хораша глядзелася-ґаманіла сама за сябе. Адно шкада - кнігі згаданыя прынеслі на выставу са сваіх прыватных калекцый маскоўскія беларусы, а добра было б, каб яны стаялі ў салідным цэнтры беларускай культуры, былі даступныя чытачам. Будзем спадзявацца, што такі час прыдзе, і што беларуская дзяржава таму паспрыяе.

Уступным зваротам вітаў прысутных Сяргей Кандыбовіч, старшыня нацыянальна-культурнага згуртавання "Беларусы Масквы". Прамоўца сярод іншага нагадаў пра трывожнае становішча беларускай мовы, апыненай, паводле ЮНЕСКА, у небяспечнай зоне занядбання.

Каментуючы выставу, Аляксей Каўка запыніўся на горкім парадоксе з родным словам у сучаснай Беларусі, калі дзяржаўная незалежнасць і суверэнітэт не толькі не палепшылі але адчувальна пагоршылі грамадскі статус слова беларускага, маўляў, не здольнага выражаць "вялікія мыслі". Няхай бы, - працягваў, - новаяўленыя апаненты Беларушчыны часцей, глыбей заглядвалі на старонкі нашае мастацкае, філасофскае, гістарыяграфічнае класікі, гарнуліся да багатае культуры нацыянальнае. Культуры, якая ўсё ж адбылася, несупынна множыць супраціўляльны асімілятарству патэнцыял і якая прыстойна сведчыць свае невычэрпныя духатворчыя магчымасці беларусам і свету. Тады б, глядзіш, наша пацешна маўленчая трасянка кшталту "туды еду - ляжыць палена, назад еду - ляжыт браўно" за прыкладам нацыянальна ачунялых правіцеляў набывала належны літаратурны бляск і дасканаласць. Давяршыў свае развагі ля выставы цытаваннем палкага ўсплёску паэтычнага Ўладзіміра Караткевіча з "Амаль хрысціянскага тосту за ворагаў": "Божа, дай ім даўжэй пажыць, Хай спаўна адтрубяць свой час..."

Следам слова роднае ўзрушліва прамаўлялася, распеўна гучэла з вуснаў Міхася Скоблы і салісткі Беларускае філармоніі

Таццяны Грыневіч-Матахонавай; яе сапраніста-крынічны галасок пад гітару ("Паланез Агінскага", рамансы "Спадчына", "Мой родны кут"..., "Гори, гори, моя звезда" - на беларускі лад), скранулі ці адну слязіну пад вейкамі слухачоў. Затым гучэлі вершы Гілевіча, Бураўкіна, Вярцінскага, Геніюш у прачулай дэкламацыі Рамана Чырвонцава. Свае апавяданне агучыў Алесь Кажадуб.

На выставе былі таксама прадстаўлены першы і дзесяты нумары "Скарыніча" - літаратурна-навуковага альманаха, які вось ужо 20 *гадоў* на прыватныя сродкі выдаюць маскоўскія беларусы, расказваючы пра наша беларускае жыццё ў маскоўскім, расійскім і еўрапейскім вымярэннях.

Асабліва расчулілі масквічоў госці з Менску – сардэчнай падзякай ім давяршыў вечарыну спадар Кандыбовіч. Свае ўзрушэнне выказаў неблагой беларушчынай, якой, нажаль, сам празнаўся, раней праз жыццёвыя абставіны колішняга вайскоўца амаль не паслугоўваўся.

Свята баларускага слова – адбылося. Векавечнае "Не пакідайце..!" абуджаецца, грукае ў сэрцы.

Люты 2012

*Сааўтар Віктар Чайчыц*

# Буслы над радзімай

Гутарку вядзе Міхась Скобла

10 верасьня 2006 году

Наведаўшыся ў Маскву, зайшоў у кнігарню «Глобус», абок Лубянкі. Выпадкова ўзяў у рукі кнігу паэзіі Іны Кабыш, гартануў, вока зачапілася за наступныя радкі: «Богоданная, как зарница, / рукотворная, как звезда, / дорогая моя столица, / золотая моя орда». Трапна. Зірнуў у анатацыю: паэтка нарадзілася, жыве і выкладае расейскую літаратуру ў Маскве. Значыць, чужацкім паклёпам працытаваны верш называць не выпадае... Золотой ордой называюць сваю белокаменную сталіцу самі расейцы. А чым Масква ёсьць для беларусаў? Амаль паўстагодздзя пражыў у гэтым горадзе філолаг з гістарычным ухілам Аляксей Каўка, колішні навуковы супрацоўнік некалькіх маскоўскіх акадэмічных інстытутаў.

*Міхась Скобла*: Спадар Аляксей, адна з чэхаўскіх гераіняў паўтарае як заклён: «У Маскву! У Маскву! У Маскву!». А нядаўна я перачытваў дзёньнікі Алеся Адамовіча і напаткаў таксама трохкратнае: «У Глушу! У Глушу! У Глушу!». Чаму беларусы ў Маскве не прыжываюцца? Чаму яна іх адпрэчвае - і прыжыццёва, і нават пасьмяротна?

*Алесь Каўка*: Можа, Вы трохі перабольшваеце. Дыяспара беларуская ў Маскве даволі шматлікая. І масавага адтоку беларусаў з гораду я нешта ня бачыў. Наадварот, апошнім часам назіраецца наступ на Маскву з боку Беларусі. Але стрыжань вашага пытаньня мне зразумелы, і ў ім ёсьць свая рацыя. Што тут можна адказаць? Прыцягнене радзімы - яно неадольнае. Прыгадайма народнае: «Дарагі той куток, дзе вязалі пупок». Так што – і “ мне дамоў вярнуцца б…” Але гэты мінор, мабыць, недарэчы.

М. С: Сапраўды, мінор не зусім дарэчы: нядаўна ў вас выйшлі адразу дзве кнігі - падзея для аўтара, я думаю, радасная. Адна зь іх - «Ад Скарыны да Купалы» - выдадзеная пад грыфам

Інстытуту сусветнай літаратуры Расейскай Акадэміі навук. А ці ёсьць у гэтым інстытуце аддзел беларускай літаратуры? Увогуле, акадэмічная расейская навука цікавіцца беларусістыкай?

А. К.: У Інстытуце сусьветнай літаратуры адмысловае пляцоўкі беларускае няма, зрэшты як і іншых краін - былых савецкіх рэспублік. Ёсьць агульны аддзел літаратур народаў Расеі і краінаў СНД. Няблага прадстаўлена там украіністыка, каўкаскія літаратуры. Некалькі год у гэтым інстытуце беларусістыкай давялося займацца мне. Пэўны плён — у згаданай вамі кнізе. Дарэчы, лічу сваім абавязкам падзякваць кіраўніцтву інстытута, Расейскаму навуковаму гуманітарнаму фонду, якія фінансавалі гэтае выданьне. Хацелася б звярнуць увагу на два ракурсы ўспрыманьня Беларусі ў Расеі. Палітычны - ён вядомы, нават стэрэатыпны: «Единый народ, единая история, единое государство». Дагаворваюцца часам і да «общего языка». Другі ракурс больш паглыблены, аб'ектыўна навуковы. З гэтага гледзішча апошнім часам увага да нашай краіны, культуры, гісторыі, увогуле да супольнасьці беларускай сярод навуковай грамадзкасьці Расеі прыкметна ўзрастае. Што спрыяе фармаванню ў расейскай прасторы не міфалагізаванага, «ущербного», але рэальнага вобразу Беларусі і беларуса.

М. С: «Абмаскалены беларус - вялікая і страшная тэма», - прачытаў я ў вашай новай кнізе «Каб не забыцца». А чым «абмаскалены» наш суайчыньнік больш страшная зьява, чым, напрыклад, «апалячаны беларус»?

А. К.: У чым тут страх, у чым праблема? Незваротная страта сваей нацыянальнай тоеснасці ў іншым этнічным асяродздзі. Райней лічылася беларусаў у Расеі звыш мільёну. Цяпер - 800 000. Хоць статыстыка расейская тут, мабыць, па-руску кажучы, «лукавит». Відаць, «абмаскалены беларус» - гэткая ж сумная для нас зьява, як і «беларус апалячаны». Яшчэ гадоў дваццаць таму ў Польшчы налічвалася каля 300 000 беларусаў. Колькі засталося цяпер? Трохі больш, калі верыць афіцыйнай

статыстыцы, за 50 000. Сумныя лічбы. Супраціў асіміляцыі павінен прысутнічаць у нашай свядомасці. Хачу згадаць светлай памяці нашага мысляра і летапісца Мікалая Улашчыка. Аднойчы ў размове ён заўважыў пра Уладзімера Калесьніка, беларускага творцу-падзвіжніка ў зрусіфікаваным Берасьці: «Бачыце - адзін чалавек, а колькі Беларусі на сабе трымае». Дык і ўсім нам трэба трымаць «на сабе Беларусі» колькі змогі.

М. С: У часопісе «Дзеяслоў» пачалі публікавацца вашы дзёньнікі з часоў побыту ў Варшаве ў якасьці дарадцы савецкай амбасады ў Польшчы. Гэта – памежжа 1970–1980-х гадоў. У Янкі Купалы: «Варшава панская і царская Масква». Маўляў, у сваіх захопніцкіх памкненьнях абое для Беларусі аднолькавыя. А па вашых назіраньнях, хто з нашых суседзяў больш прыхільны да Беларусі?

А. К.: Гэта наш кон - знаходжаньне *паміж*, якое камплікавала і працягвае камплікаваць нашае нацыянальнае самапачуцьцё. У часы Купалы назіралася пэўная раўнавага, калі можна так сказаць, па сіле ўціску. Памятаеце, і ў Коласа падобнае: «З двух бакоў "айцы" дубінай заганялі нас у рай». Але сёньня сытуацыя цалкам іншая. З боку Польшчы для Беларусі як дзяржаўнай цэласці пагрозы не бачу, хоць праблема паланізацыі беларусаў праз касцёл дарэшты не развязана. Але сёння Купала наўрад ці паўтарыў бы свой калісьці цалкам справядлівы папрок. Яшчэ адзін паказальны факт. Неяк у Варшаве ладзілі мы ў Доме савецкай навукі і культуры вечарыну, прысьвечаную беларускай паэзіі. І прыйшоў на яе сівы як лунь польскі пісьменнік Ежы Путрамант. Зачытаў ён на памяць верш Максіма Танка (абое ў маладосьці творча сябравалі): «*Ну што, кажы, што ў вас чуваць*, - / *Пачаў стары пра сенажаць*. / *Успомніў жыта* і авёс, / А *вочы - мокрыя ад сьлёз…*». І далей, да апошняга радка на адным дыханьні выгукнуў, вычўліў той верш. І падагульніў пан Ежы свае нязвыклае чытаньне проста і шчыра: «Po-białorusku mówić nie potrafię, a ten wiersz pamiętam. I to jest siła poezji!»

М. С: Сапраўды, яскравы факт. А ці даводзілася вам перажыць нешта падобнае ў Маскве?

А. К.: Не даводзілася...

М. С: Наконт зразумеласці нашай мовы для расейцаў... Нядаўна мне ў рукі трапіў «Русско-белорусский разговорник», выдадзены ў Маскве выдавецтвам «Астрель». У ім пад 3000 выразаў, і прызначаны ён для бізнэсмэнаў і турыстаў. Як вы лічыце, ён ім патрэбен?

А. К.: Відаць, патрэбен, калі выдалі. Бачыце, ужо ня толькі акадэмічная навука, а грамадзкасьць, бізнэсоўцы, турысты цягнуцца да беларускага слова! Значыць, цікавяцца нашай краінай, яе паважаюць. Дарэчы, маю гэты размоўнік. Гартаючы, думаў: каб менскім чыноўнікам на стол – па асобніку, можа, пачалі б вывучаць хоць па размоўніку сваю дзяржаўную мову?! Я ўжо тыдзень у Менску - ні па тэлевізары, ні па радыё, не пачуў ад каторага з іх ані слоўка па-беларуску, хоць тыя ж міністры, загадчыі, дырэктары, не кажучы пра самага Галоўнага начальніка не зьнікаюць ні з этэру, ні з экрану. Так што падзякуем расейскім братам, якія хоць трохі лякуюць нас ад нематы і глухаты... Прызнаюся, прыяцель, які падараваў мне гэты размоўнік, пакінуў на ім гарэзьлівае пажаданьне: «Ты туляк, арловец ці масквіч, сала з бульбай з’еўшы ўпрыкуску, ад Уралу аж па Брайтан Біч з Каўкам гавары па-беларуску!». Мне гэты аўтограф весяліць душу.

М. С: Перад наступным пытаньнем прывяду цытату з успамінаў Кастуся Езавітава пра Першы Ўсебеларускі кангрэс 1917 году: «Калі хор засьпяваў беларускі гімн "Адвеку мы спалі...", шмату каго з маладых і старэйшых нашых дзеячоў спаўзла па шчацэ нечаканая сьляза». Але да гэтай пары мы ня ведалі аўтара гэтай песьні-гімну. Яе то падавалі ананімна, то прьшісвал і Ўладзіславу Галубку, то яшчэ каму. А вы знайшлі імя аўтара. Дык хто ж ён?

А. К.: Аляксандар Аляксандравіч Мікульчык - нараджэнец мястэчка Шацк на Пухаўшчыне, аднагодак Янкі Купалы. Пашчасьціла мне адшукаць арыгінал гэтага верша пад першапачатковай назвай «Сялянская марсэльеза». Верш- песьня

меў усенароднае бытаваньне. Мне пісаў Сяргей Грахоўскі, што падчас яго вучнёўства – 20- гады – у кожнай школе заняткі пачыналіся спяваннем «Адвеку…” Потым зацятыя змагары з “нацдэмаўшчынай”саслалі ў нябыт і песню. Вось што падумалася. Каб жа ля Пішчал аўскага замку, дзе Мікульчык адбываў пакаранне ў 1905-м, або ў Шацку, яшчэ лепш –на Цэнтральнай плошчы беларускае сталіцы усталяваць стэлу з векавечнымі словамі «Адвеку мы спалі, і нас разбудзілі, мы знали, што трэба рабіць…” *Аляксандар Мікульч*ык». Тым болей, што па гарадох нашых не бракуе помнікаў выпадковых, калі не чужых гісторыі, культуры, наогул нашаму нацыянальнаму самапачуццю.

М. С: Калі ўжо мы загаварылі пра помнік аўтару гэтай песьні, згадаю нядаўна вычытанае: у Латвіі народных песьняўдайнаў паўтарамільена! І латышы вельмі ганарацца: амаль кожнаму па песні прыпадае!, а ў нас ці набярэцца столькі, каб кожнаму беларусу - хоцъ па адной?

А. К.: На мільёны маніцца не рызыкнуў бы. Але адно відавочна: багаццем, сама- бытнасцю і нашай песеннай культурай мы нікому ў сьвеце не саступаем. Вазьміце хоць бы наш песенны валачобны цыкль, не паўтораны нідзе. А нашыя прымаўкі, прыказкі, прыпеўкі... Нядаўна стараннямі Уладзіміра Васілевіча пабачыла свет энцыкляпэдыя міфалогіі беларускай, там толькі пазначаныя тэмы, а калі разгарнуць іх.. Гэта ж багацьце! Іншая справа - як мы з гэтага багацця карыстаемся, наколькі самі духоўна багацеем.

М. С: Вы родам з Ігуменшчыны - цяперашняй Чэрвеньшчыны. Сёлета ў вашым родным Чэрвені на старых могілках была знойдзеная магіла Апанаса Мякоты - роднага дзеда Максіма Багдановіча. Ведаю, што вы днямі там пабывалі. Ці добра дагледжана яна, ці ўнесеная ў раённы рэестар помнікаў, якія знаходзяцца пад аховай дзяржавы?

А. К.: Сапраўды, гэта – адкрыцьцё ў багдановічазнаўстве.. Мне прыемна, што адшукаў магілку мой даўні сябар, настаўнік-

фізік, рупны краязнавец Уладзімер Дарагуш. Ён лепей пра ўсё можа расказаць.

М.С. Мы патэлефанавалі ў Чэрвень да Уладзімера Дарагуша. Вось што ён распавёў. Магіла дзеда Максіма Багдановіча мясцовых кіраўнікоў не зацікавіла, не знайшлося сродкаў на яе добраўпарадкванне. Што на гэта скажаце спадар, Аляксей?

А.К. Спомніўся чамусьці любімы мною Аляксандр Блок: “Я не первый воин, не последний / Долго будет родина больна…». Знойдуцца і сродкі, і магілку дагледзяць. Пакуль воін – на варце. Воін жа не адзін і не апошні...

М. С: «У сьцягах нашых многа сьвятла», - пісаў згаданы вамі Янка Брыль. Ці павінен беларускі інтэлігент станавіцца пад той беларускі сьцяг, у якім сьвятла значна менш?

А.К. А калі гэтага святла саўсім не відно?! Крочыў нядаўна праспектам стольнага Мінску, святочна расквечаным сцягамі-сцяжкамі розага колеру – чырвоным, зялёным, жоўтым, сінім., апрача… светлага- белага. Колер белы на Белай Русі – пад забаронай? Што ж, у свеце не спыняецца адвечнае змаганне цемры хлусні і святла праўды. Нельга ісці на кампраміс з д`яблам-распаўсюднікам цемры, як бы той ні шчыраваў, ні пагражаў, ні спакушаў…

М. С: Гэты год афіцыйна абвешчаны Годам беларускай культуры ў Расеі. Ці не перажыла сябе гэтая, яшчэ савецкая, традыцыя - культуру падмяняць мерапрыемствамі?

А. К.: Не, тут я ня згодзен. Дні культуры - гэта добра. Сёлета ў Маскве чакаецца адкрыцьцё помніка Янку Купалу. Сапраўды, гістарычная падзея. Але ў дачыненьні да афіцыйных культурных мерапрыемстваў ёсьць адна праблема. Наколькі аб'ектыўна і паўнакроўна ў канцэртах, на выставах у Расеі прэзэнтуецца культура беларускага народу? Наколькі яна ўлічвае і культуру Міколы Равенскага, Міхася Забэйды-Суміцкага, Наталлі Арсенневай, Уладзімера Караткевіча, Васіля

Быкава? Нядаўна расейскага жывапісца прымала ў Менску першая асоба дзяржавы, ганаравала яго ордэнам Скарыны. А ці прычакаюць беларускія мастакі падобнага прыёму ў Маскве? Што, у тым жа Манежы суполка «Пагоня» ня вартая выстаўляцца? Аляксей Марачкін, Віктар Маркавец, Мікола Купава, Алесь Шатэрнік, сьветлай памяці Яўген Кулік - тэта што, не мастацтва Беларусі? На іх палотнах, графічных аркушах, скульптурах – наша аўра духоўная, наша эстэтычная вобразнасьць, харашыня нашая. Тое, у чым мы як народ гожыя, непаўторныя. Сёння беларуская культура пульсоўна, дынамічна выказвае сваю жыцьцястойкасьць, свой супраціў той самай цемры хлусьні, пра якую ўжо гаворна, сьцьвярджаючы і пашыраючы поле сьвятла і праўды.

М. С: Прыяжджаючы ў Беларусь, вы ня любіце сядзець у Менску. Цягне на родную Ігуменьшчыну?

А. К.: Вельмі. З гадамі што раз мацней гэты магнэс спрацоўвае. Самае яскравае сёлетняе ўражаньне: выходжу на ганак ранютка, а на вежы блізу роднай хаты [Цыбінаў] клякочуць буслы, затым кружляюць над полем. Жывы бела-чырвона-белы колер [не забаронены!]лунае над радзімай, жаўранкі не сціхаюць сьвірчэць, прашываючы неба, людзі садзяць бульбу, паветра настоена водарам прэлага гною, свежай раллі... І перад адвечным зямным клопатам адступаюць усялякія згрызоты. Ды што там мізэрная д`ябальшчына – перад вялікім і вечным Часам. Праміне й забудзецца.

2006, 2013

## Бережком Добрыцы

Кругі над пацямнелаю вадой.
Прыснуў трыснёг ля засмужэлай рыскі –
Зноў ростань,  ціхацечная, з табой
І з поплаам прыжураным парыскім.
Хай лучнасці не слабне нашай ніць –
Глухою ноччу ці дрыготкім раннем –
Ня раз, ня раз пад сэрцам затрымціць
Таропкай плыні гострае маўчанне.

Цямрэчай не загасіцца прамень,
Што ў свет калісь дзіця палёў паклікаў,
Пакуль, з глыбінь прастуючы, струмень
Імкне-віруе ў акіян Вялікі.

1977  1997
Равецкі Бор - Машчаліна (Парыжа)

## Да Мацея Бурачка

Міхалу Ляпёху –
З нагоды сустрэчы ў хаце Паэта

Сцяжынай роднаю іду –
Усюды – госць, усюды –дома.
Ажыў, бядак, не прападу.
Дзе заначую, невядома.
Ля запаветнага двара
Трапеча сэрца мрояй-дзеяй.
Ветлы пагляд гаспадара
Сядзібы Бурачка Мацея
Стамлёнаму праясніў шлях

На Вільню – прама, праз Ашмяны –
Каб у дарозе не зачах
І лекаваў глухія раны.

18 жніўня 1980 г.
Варшава-Масква-Кушляны

## Варшаве

Бывай, неспасціжная пані, –
Разітання нагліць нам час –
Твой воблік таёмны ў тумане
Здаля прыгадаю ня раз.
Як сэрца сцінецца ад болю
У непагадзь моўкнай начы –
Шапэна шчымлівым бе-молем
Мо здолееш мне памагчы.
Каб дух, ў цянётах не павіслы,
Трымцеў, непакорным крыляў
І, як прытамлёная Вісла,
Упарта далей праставаў.

2 студзеня 1983
“Паланэз” Варшава-Масква

## Беластоцкай “Ніве”

У Маскве няма лянівых -
Тут здавён чытаюць “Ніву”,
Бел-чырвона-белы дар -
Беларускі каляндар.
Не стамляйцеся ж, рупліўцы,

Хвярававацьме роднай ніўцы.
Гайдукі, Сакраты, Шведы, -
Крочым разам вечным следам.
Скрозь вам рады падмагчы
Суродзічы-масквічы.

ліпень 1984

*   *
*

**Валодзю Каралькову**

Тут ня раз ў самоце запынюся –
На прыціхлай ростані-мяжы.
А лісток кляновы Беларусі
Талісманам ў сэрцы зберажы.
Аблачынка з-над празрыстай высі
Ў стоенай хіснулася вадзе –-
Недзе ўдалечы Аляксей Пысін
Са свёй дывізіяй ідзе…

Дагасае лета сумнай знічкай –
Вечаровы смутак не забудзь.
Покуль камандор нас не пакліча
У апошні, незваротны пуць.

Раздоры, 28 жніўня 1984

# Пружыніць сэрца Беларуссю

Антону Сабалеўскаму –
Беларусіну з Глыбоччыны
на ўгодкі

Прамоўлю урачыстым тонам –
Слязіцца “Бусел” кагадзе –
Няхай не зводзяцца Антоны
І Беларусь не прападзе.

Паненкаю зямную кулю
Касмічны кружыць карагод…
Дак дружна чаркі перакулім
За твой, Антоне, помны Год!
На любы край скіруем вока
Праз далеч вёрстаў і гадоў,
На абсягі зямлі Глыбокай –
Дзялянку Собаляў, Драздоў.

Скуль праз гасцінцы і затокі,
Атопкам-набрыдзі назло,
Сягаюць высака-далёка
Крывіцкі дух, таваё цяпло.

Не вельмі хай праймаюць болькі,
Ні курс рубля – уверх,уніз.
На пульсе пчолкай – жонка Волька
І памагаты ўнук Дзяніс.

Хай лапушацца вёсны-клёны,
Бруіць ручай вадой святой.
Далей Антосі і Алёны
Прастуюць бацькавай ступой…

І скрозь – у Філях, у Тарусе –

Куды нас лёс не пазаве,
Пружыніць сэрца Беларуссю,
Нясціхным грукае – Жыве!

Лістапада, 17 дня, 1996
у Маскве

* * *

## Жывом!

*Паэту-вязню Славаміру Адамовічу*

Збрыднелі блазнаў хохмы-маскі.
Адвечнай досыць нематы.
Брат-беларусе, калі ласка,
Гучней гамоньма я і ты.
Ня дайма фюрэру і хлусу
Цугляць і бэсціць родны кут.
Даўно на "шнобелевы" вусы
Вызначаны народны суд.

Глумцу байструцкае пароды
Жальбамі рады не дамо –
Зрывайма рабскае ярмо
І з хаты вымецьма смурода!

Нам доля жорсткая прыпала –
Па горла набрыдзі спазнаць.
Люд Каліноўскага—Купалы
Не будзе парабкам канаць!

На волю птушка рвецца з клеці.
Бязмежжам Млечны шлях дрыжыць…
Мы – нашчадзь крыўская – ў сусвеце
Жылі - Жывом – і будам Жыць!

1996, 2013

**Віталю Скалабану**

Цяпло ў рукох няхай не астывае.
У сэрцы жар не ціхне палымнець.
Пакуль аднойчы сэрца не стрывае
І прагалосіць развітальна медзь.

Прычал наш – там.
Няпром хвалістым, Сожам,
Скуль даляглядна небасхіл відзён,
Да прыстані вяслуйма смутак гожых
І распачлівых беларускіх дзён.

На плёсе ціхім – зорыстым і чыстым –
Зглынуўшы золь пякучае расы
Сыйдземася ў суладдзі прамяністым
Руплівы жыд і беларус краплісты
Каля яе – нятускнае красы.

А покуль – тут.
На абсягох забраных
Канаць не дайма Крыўі сіратой,
Каб янычар і прыхадзень паганы
Ня трэслі ёй жабрачай калітой.

Далёка разбягаюцца сусветы
Праз неабсяжны Беларускі Дом…
І цемрадзь працінаецца каметай,
Грукоча несціханае ЖЫВОМ!

Рэчыца-Масква, 5 жніўня 1997

# Брату з-пад “Славянскага забору”

Сыйдзі з вачэй, браточак мілы,
Не лыпай спуджаным сычом –
Лягчэй зваліцца мне ў магілу,
Чым секануць цябе мячом.
Абложнай “истинности” змову –
Чужніцы ахамелай зброд –
Пэратрывае наша мова
І ў пельку сплюнецца смурод.
А подметалиных араву—
Насланне сораму і бед –
Змяце Рэванш святы і правы
І хлёркай церухне услед.

Ня скрозь, ня скрозь ў халопскай скрусе
Нам Хаму боты шмальцаваць
І стукачу над Беларусяй
Ня скрозь глуміцца-панаваць.

Дык не тужыся “во пределах”
З імпер`яй Крыўю павянчаць –
Па грла самае збрыдзела
Капытных салаўёў пячаць.
Зпаўзай, вужака чорнай рацi–
Краіны вольнай трупны гліст–
І не смуродзь у чыстай хаце!

Ясь Костусь, нацыяналіст.

1999

# Развітанне з Пецярбургам

*Имя Пушкинского Дома…*
*А. Блок*

Ірыне Багдановіч, Валянціне Данекінай,
Ганне Запартыцы, Таццяне Кекелевай,
Ганне Сурмач

Крэсу бізкага свядомы
На мяжы уцех і мук
Зноў ля Пушкінскага Дому
Акадэміі Навук
На ўзбярэжжы цёмнаводнай,
Хуткабежнае Нявы
(пэўне сцежкаю нагоднай
тут калісь ступалі вы)
Раз апошні запынюся –
Усхалёваны ледзь-ледзь –
Скрозь свяцельца Беларусі
Не сціхае палымнець:
Словам споведным Купалы,
Думкай  Карскага Яўхіма,
Раманава Еўдакіма,
Гарэцкага Максіма,
Беларуса ласкі мілай –
Браніслава Э.-Шыпілы,
Думанніка з тае ж лавы  –
Власта –  слыннага Вацлава.
Зноў жа, тут даследнік хвацкі –
Фалькларыст Яўгеній Ляцкі.
Над усім не сталі лішкай
Эпістолы дзядзькі Цішкі*.
Асцярог усё ад страт
Капылянін Леў Клейнбарт.

Брат-пісака! Будзь руплівы –

Дапільнуй свайго архіва.
Славы хай з таго ніякай.
У *БДАМЛіМе*** – скажуць дзякуй.

28 снеж.2000

---

* Цішка Гартны (Змітра Жылуновіч)
** Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва

* * *

## Зімовае

С.А.

Выбачай, калі я не вярнуся –
Закалыша ў сумётах зіма.
Толькі знай – без цябе й Беларусі
Мне жыцця не было і няма.

Ні дакораў глухіх не прымаю,
Ні спагады сабе не прашу.
Золь астыглую не варушу.
Развітальна люблю-абдымаю.
…………………………………
Завіхрыла над полем завея –
У лясок паклубіла нямы.
Там хусцінкі ражок ружавее –
След далёкай, гарачай зімы.

Снежань 1998
за Акой

## Навагодняе

Цыбіным, Галіеўскім, Ладуцькам

Радня мая, руплівая, ратаяў
Сілоў, надзеі ў скрусе дадала.
Сінічкай трапяткою адлятае
Вітанне да сваточнага стала.

Хай Новы год праменіцца суквеццем
І копанка калышыцца. Затым –
Бацькі `нат у кампутарным сталецці
Натхненнем не саступяць маладым.

Далонь зярняткам церухне над лункай –
Вясна ўсміхнецца сонечнай вяхой.
Гарачыя ня стынуць пацалункі.
Буслы клякочуць зранку над страхой.

Не счахне ласка ў клапатлівым гудзе
І дружбы вернай не станчэе ніць.
І халадэча сэрцы не астудзіць,
Пакліканыя верыць і любіць.

Снежань 2000

## **Верш на Свабоду**
(даўняя песня на новы лад)

*А хто там ідзе?...*
*Янка Купала*

Я – салдат. Баявыя патроны
Прыхаваў. Прыбярог і касу.
Пад харугваю дзядзькі Мірона
Варту вернасці пільна нясу.

Досыць хмарыцца небу і сонцу –
Веснавы загудзеў крыгалом.
Маладыя сябры-каліноўцы
На чужацкі рушаюць залом.

Не загояцца сораму раны,
Покуль гнеў не зацяты ў кулак:
На калені, мудак-вурдалак!
Разгінайся, народзе забраны!

Судны дзень грыміць з высяў дазорных,
Пад`ярэмны руйнуецца друз –
Бальшаком расцярэбленым, зорным
Пераможна ступіў беларус.

Хоць рахманец, а цвёрдай пароды,
Рогі крышыць насланай брыдзе.
І дзівуюцца брацця-народы:
*Хто* гасцінцам Свабоды ідзе!

2001

## Сейбіту вечнага

Генадзю Кісялёву

Не кожнаму такое й сніцца –
Хоць спора класікаў між нас –
Каб і Чачот і Вераніцын
Цябе клікалі на Парнас.
Там люду featuresнага нямала
Таўпецца вокала багоў.
Яго ж Скарына і Купала
Прывецяць пэўна за свайго.
Ён Караткевічам аблашчан.
Яму – дарункам на спамін
Наш Летапісец – сам Улашчык
Склаў адмысловы перкгамін.
І не адзін сучаснік, з клёвых,
Адвечнай сцежкаю хадок
Габлюе мысль пад Кісялёва,
Майстра смакуючы радок.
З дзівосных кнігаў – думкі роем.
Зарокам мёртвым і жывым:
Не хлопам беларус – героем
Гасцінцам крочыць векавым.
Хоць не адно геройствам спрыцен,
Калі па-шчырасці казаць:
Той-сёй за поліўку ў карыце
Чужацкі біч жадзён лізаць.
Ад сораму нясцерпнай рана
Смыліць і рана і ўначы –
Дакуль жа будзеш, край забраны,
Дзярмо на карку валачы?
Суродзіч мой, да блазнаў гонкі,
Сумленню атлусцець не дай.
Гартай пякучыя старонкі—
Думу пра Беларусь чытай.
Не, далакопам не знаровіць
Прагнёных волі Божы дар.

Жыве  нам думаннік-змагар –
Упарты Генус-каліновец!

Сакавік 2001

* * *

## Волату

Нілу Гілевічу

Скрозь Беларус прарочыць свету
Пятлёй глумца ня здушан ледзь –
Пакуль грукоча глас Паэта –
“Зямлі бацькоў не анямець!”

Трывайце мужна, волат вольны,
Наперакор брыдзе, мане.
І будам верыць – кліч вызвольны
Прыбіты край устрапяне.
Рушэнцы – горды выклік свету –
Змагарна ўстануць там і тут,
Каб няскароны сцяг Паэта
Над гіблай багнаю пакут
Ад набрыдзі ў краіне чыстай
Запалымнеў агнём вячыстым.

2001  2006

# Будаўнікам Беларускае хаткі
# (на Тульшчыне)

М.Пракопчыку, В. і С.Цыбіным, Ж.Яскевічу

Скрозь нас калечаць, але ж лечаць –
Сумнеўны час, няпэўны век.
Мяне ж лякуе, грэе плечы
Тваё цяпло, мой чалавек
Дроў, трэба, з лесу нацягаю,
Хоць ціскане пад сэрцам збой,
Ды ў грубцы, складзенай табой,
Агонь гарэзліва шугае.
Святы цярэбячы ружанец
Увесну, восенню, зімой
Цябе, ігуменец, пружанец,
Ня раз успомню, сябра мой.
І памяць варухаць не кіну
Удзячна знаючы – калі
Тут беларускую хаціну
Родныя хлопцы узвялі.
Ня грэх аслабіць і пастронкі –
Вунь за акном шугае май –
Шануй-мілуй на радасць жонку,
Дзяцей, унукаў падымай.
Хай амінаюць крыўды, сваркі,
Хоць і жывём не ў міражы.
А мне за вершык кроплю ў чарку
“Тутэйшай” церпкай зберажы.

*Тульшчына, за Акой.*
*Май 2000*

# Беларусу паспалітаму

*Памяці Анатоля Сыса*

У роднай краіне ні волі ні долі –
Паношыцца хлус, забаўляючы свет.
З-над плоймы Дняпровай зняможаны болем
Сыйшоў, Беларусь, твой бунтоўнік-Паэт.
Не-не. Мой жлобны усхліп не пра тое –
Нятускнай пякучых сымболяў краса.
А толькі у мроях пары залатое
Не грымне маланкаю голас Сыса
Пра нашу бядоту і веліч жабрачу,
Пра уваскрашэнне і росквіту скон…
Бяды не пазбыцца ні жалем, ні плачам –
Абрынуўся з вежы патрэсканы звон.

Туман над балотам. У прыцемку шэрым
Гурган трупавейна крум-крумкае след.
Паглумлены гонар. Зняважан Машэраў.
Растоптаны продкаў святы запавет.
Вось так, нехлямяжны зямляча замшэлы.
Абразы і крыўды? Ня наша віна?
Хавайма свой кукіш глыбей у кішэні,
Гундосячы звыкла – абы не вайна.

Мадзеюць і сэрцы і глузды ў прыгоне
Ды немач халопскую Час не міне –
З вякоў навальніцай грукоча Пагоня,
Змагарная, кліча цябе і мяне.

Май 2005

# Угодкавы перОфраз

*Анатолю Вярцінскаму*

Рана ці позна –
дай Божа рана –
Помста людская
Спасцігне тырана.

Неба высокае
зноў нагадала
пра неадольнасць
Твайго ідэала.

З далечы дальняй
як  азірнуся –
Вечнасць цярусіць
над Беларусяй.
Гучнейце песні,
гойцеся раны –
Вольным ўвасрэсні,
Краю забраны!
Злыдзень шалее,
збэшчаны брудам,
аднак струхлее.
Мы – Ёсцяка, Будам.

Будам – ня хлудам.
Лёс дапаможа
Стаць годным людам.
Шчасці нам Божа.

Леты прамінуць,
Сцішацца болі.
Слову  Паэта –
Не блякнуць ніколі.

май 2012,  г. Чэрвень, вул.Перамогі.

## Мроя

Мне дамоў вярнуцца б, не госцем,
І спачыць на ціхім пагосце
Ля крыжа пахілёнага маці
(набадзяўся сыночак, хваце),
На пясчыстым стромым узгорку,
Бліз шасейкі Ігумень-Горкі.

Восень той курганок прыцярусіць
Ліставеем маёй Беларусі.
Закалыша віхура-снежа
Знебыванне ў моўкнай кунежы.
А увесну з між бэзавых вейкаў
Цёх-цёх-цёх-мецьме салавейка.

Мроя, скажаце, недарэчы.
Выбачайце. Да новай стрэчы.

Радаўніца 2002
Масква-Машчаліна-Горкі

* * *

## *Ёй*

Вось-вось вагон апошні праміне –
Цягнік свідруе цемень сіняй ночы.
Не вельмі, мо, журыся пра мяне
І не тулі крадком ў хусцінку вочы.

Няблізкі шлях агоралі, скажы, –
Ні лаўраў не мінулася, ні церняў.
След трапяткі з рамонкавай мяжы
Вятры і замеці дасюль не сцерлі.

Хоць пабялелі скроні ад завей.
І восень студзіць над азяблай пожняй,
А верыцьме: гарэзнік-салавей
Нас ўстрапяне руладай раз апошні.

На суцяшэнне ў развітальнай хвілі –
Як горача жылі мы і любілі.

Лістапад 2005
пл. Прыюкская

* * *

Петру Васильеву –
волгоградцу-комсомольцу,
б.ответработнику ЦК КПСС,
крестному отцу моих детей

Итак, на горизонте – пристань.
Что ж, довершая бренный путь,
Не грех, мой друг, по сто (не триста)
Принять, коль Бог послал, на грудь.

Простит нам трезвенник суровый
(Таланты пить не всем даны)–
К тому ж давно под этим кровом
Не возметались стаканы.

Помянем буйство молодое,
Застолий шумных вечера
И страсти, сплывшие с водою

В невозвратимое вчера.

Да, замедляют бег колеса…
Пустеет суетный перрон.
Из-за таинственного плёса
Вот-вот взмахнёт веслом Харон.

И нам – смиренною стезею
Сойти в неведомую хлань.
Но нынче – терпкою слезою
Теплит бокал хладную длань.

Быть кайфу-ростани недолго.
Клонит к ночи усталый день.
И слышен вздох глубокий Волги
И светлой Ольги видна тень*.

2012

---

* Ольга Ивановна Васильева - преподаватель-математик, заслуженная учительница России, трагически погибла в 1995 году.

* * *

Уладзіміру Дарагушу –
настаўніку-фізіку, літаратару,
краязнаўцу Ігуменьшчыны

Няхай сабе пярэчыць нехта.
Але ўстрапечацца душа –
Калі не вуліцай Лібкнехта,
А бальшаком Дарагуша
Рушэнцы выйдуць грамадою

Ад глуму  край абараніць –
Балей парыванне святое
Ступой паганай не стлуміць.
Гукне наступнік цвёрда – годзе!
Пад лаўкай нудзіцца і млець.
……………………………….
А гадунцу твайму, Валодзя*, –
Дужэць і вечнасцю шумець.

2013

---

* На гарадскім яго панадворку ўсцяж вуліцы К.Лібкнехта хістае  кронай разложнай     магуты дуб – прарослы з жолуда,  з паўвека таму маладым гаспадаром пасаджанага.

# Увагі

Часцінка лёсу. – На падставе гутаркі, змешчанай у газетах «Раённы веснік» (Чэрвень), “Звязда”. 2007, 5 снеж.

Сёстры. – З кн. “Людзі добрыя”. М. – Чэрвень, 2011. З нязначнымі ўдакладненнямі.

Апёкі вайны. Нашыя прыйшлі! “Дзядзька паліцэйскі!” – Раённы веснік. 2011. № 184-185.

Жоўты аловак. – Раённы веснік. 2012. № 141-142.

Абсягам Вялікага поля. – Каўка А. Каб не забыцца. Мн. “Медысонт”, 2006.

Сцежкай утравелай. – Каўка А. Будам жыць! Мн. 1998 (пад загалоўкам “Сцяжынкай ростані”).

След на зямлі. – Раённы веснік. 2011. № 4-5.

Песня Івана “Моцарта”. – Каўка А. Песня Івана Моцарта. М. Чэрвень 2008. (у скарачэнні).

Доля такая… – Скарыніч. Вып.5 (пад загал. “З матчыных прыпамінаў”)

А всё-таки помнится… – “Это было недавно, это было давно..”М., 2010.

Бліжэй беларушчыны. – Кантакты і дыялогі. 1995. № 6.

Слово и песнь Беларуси. – Вечерняя Моска. 1989, 4 января.

Пойдзем шляхам Скарыны. – Мастацтва Беларусі. 1990. № 4.

Нет  - духовному  иждевенчеству. –  Моя Москва. Рекламный проспект Московского фонда культуры. 1989 , ноябрь.

О равенстве равных. – Нёман. 1989. № 5.

Припоминание о культе. – Советское славяноведение. 1988. №5.

Як звярнуцца да беларуса? –  “Маяк” (шматтыражка). Гродна. 1990. № 7(14).

Не памірайма. – Наша Ніва. 1997. № 27-28 (90).

Кветкі – Буйлянцы. – Асоба і час.  Вып.4.

З варшаўскіх старонак. – Беларускі дайджэст. 2000. № 5(76).

Сябра на Тамцы. – Скарыніч. Вып. 4.

Наш Мікола Каспяровіч. – Скарыніч. Вып. 5.

Перазовы праз акіян. – Літаратура і мастацтва. 2000, 15 лют. (з дапаўненнем).

Мікалай Улашчык: выжыць і перамагчы. – Беларус. 2006. № 52, верасень.

Апошняя сустрэча.—Каўка А. Будам жыць! С.157-159.

Предсказатель за решеткой. – Пам’ятки археогр. щорочніка. Киів. Т.4. 2003.

Школа Сцяпана Александровіча. – Беларусь. 1998. № 8.

Сумуючы над вечным. – Скарыніч. Вып. 7.

Промні чалавечнасці. –  Пасланец Праметэя. Кніга пра Ўладзіміра Калесніка. Брэст, 2007.

Вуліцай Генадзя Кісялёва. – "Пачуць, як лёсу валяцца муры". Мн.,2009; Дзеяслоў. 2010. № 6 (49).

Даруй, дружа.— Ісці на святло лабірынтамі даўніх падзей. Памяці Віталя Скалабана. Мн., "Лімарыус", 2013 (дапоўн.)

Новыя акцэнты… – Нацыянальная ідэя… Гродна, 2000.

Белорусская Москва. – Скарыніч. Вып. 10 (удакладн.).

Беларусы над Нявой. – Беларус. 2010, студзень.

Наталенне родным словам. – Наша слова. 2012. № 10 (1057).

Буслы над радзімай. – Скобла М. Вольная студыя. Радыё Свабодная Еўропа. Радыё Свабода. 2009 (пад загал. "На кампраміс з д'яблам ісці нявварта", удакл.).

Допісы, не пазначаныя ў заўвагах, друкуюцца ўпершыню.



Канстанцін В.Каўка. Сакавік 1941г., Таганрог.



“Вучыся, працуй і жыві для народа, савецкі [басяк]-піянер…”
З браценнікамі Ванем, Колем Епімашкамі.
Горкаўская НСШ (в. Клімаў-лог). 1947 г.




У Чэрвеньскім дзіцячым доме № 3. 1950 г.



Навучэнец Мінскага бібліятэчнага тэхнікума. 1952 г



. “Еду ў армію служыць… (каб раслі калхозы)”. Развітанне.
Сёстры – Лена, Валя з братам, мужамі Валянцінам Цыбіным
(з дачкой Галяй), Жэнем Яскевічам. Машчаліна (“Парыжа”), 1956г.



Салдацкія мроі. Германія. Forst-Zinna, 1957 г.



Вяселле сябра-трактарыста Івана Матусевіча
(аўтар кнігі – крайні справа). Машчаліна-Градзянка. 1960 г.



Раённы злёт піянераў. Ветэран вайны Ілля Чапурын,
сакратар РК Камсамола А.Каўка, піянерважатая Эла Дземянцей,
вучаніца Зоя Яскевіч (працягвае кветкі).Чэрвень,1961 г.



“Пад музыку Вівальдзі”, а можа –Акуджавы.
З Вячаславам Мысліцкім. 1962 г.



На Волзе шырокай… Супрацоўнік ЦК ВЛКСМ А.Каўка (крайні злева) сакратар Валгаградскага абкама камсамола А.Аніпкін (пасярод). Абмеркаванне месцадзеяння “лагера дружбы” савецкай і польскай моладзі. Ліпень 1966 г.



З “маладой Польшчай” на Валгаградскім вакзале. 1966 г.



Дэлегацыя маладзёвых саюзаў Польшчы на
чале з Анджэем Жабінскім (трэці злева). У другім радзе
суправаджаюць А.Каўка, І.Комаў. Масква, 1967 г.




У Маскву – з песнямі… Іван Няборскі (“Моцарт”), Валянціна Няборская, Мікалай Казачонак, Сяргей Мурашка, А.Каўка. Беларускі вакзал. Май 1972 г.



Перакладчыкам - з польскай партыйнай дэлегацыяй (ПОРП) на чале з Ю.Кемпай ў Маскоўскім Савеце. Вітае гасцей старшыня Ул.Промыслаў. 1974 г.



Соня, маці Марыя Ігнатаўна, дзеці Света, Андрэй. 1974 г.



Сям'ёй – у Ленінградзе (Пецярбургу), жнівень 1975 г.



У садзе Зоські Верас. Людвіка Сівіцкая, А.Каўка, Лявон і Вячаслаў Луцкевічы, Маргарыта, Павел Пяровы і іншыя. Вільня, жнівень 1980 г.



У Доме савецкай навукі і культуры на 100-я ўгодкі Аляксандра Блока. Абок выступоўцы – Елена Лебядзінская, дырэктар ДСНК, Тэлесфор Пазняк, прафесар Вроцлаўскага універсітэта. 1980 г.




. Адкрыццё Дзён беларускай літаратуры. Дэлегацыя з Беларусі – М.Танк, В.Адамчык, А.Грачанікаў, А.Мальдзіс, І.Чыгрынаў, Л.Сарвіра; Пасол СССР у Польшчы Б.Арыстаў, сакратар ЦК ПОРП М.Ажэхоўскі, Прадстаўнік ССОД А.Каўка. Вядоўца – Ст.Вроньскі, старшыня праўлення Таварыства польска-савецкай прыязні. Варшава, кастрычнік 1982 г.



Ля беларускай хаткі за Акой. 1984 г.



Букет ад суседкі Марыі Казулінай. Верасень 2007 г.



З А.Мальдзісам, Л.Мірачыцкім у музеі старажытна-беларускага мастацтва (надмагілле Сапегаў. І-я палова XVI ст.). Мінск, 1986 г.



Па шчырай размове беларусаў. Народныя дэпутаты СССР М.Ігнатовіч, М.Дзямчук, С.Шушкевіч, А.Дабравольскі сярод “скарынічаў”. Масква, снежань 1989 г.



З Міколам Ермаловічам. Вітаючы Гісторыка ў Маскве на сустрэчы са “скарынічамі”, красавік 1989 г.



Гасцяванне спевака з ЗША Данчыка (Богдана Андрусішына)
у Маскве, на кватэры А.М.Улашчыка, Т.Я.Аросевай. Верасень 1989 г.



Мае беларусы – радня на Плошчы Чырвонай. 1990 г.



Шляхам да Якуба Коласа – з Уладзімерам
Конанам, Валерам Голубам. 1991 г.



Беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны ў Лондане:
а. Аляксандр Надсан, Ян Міхалюк, Вера Рыч, інш.
1991 г. Фота Эдварда Міхалюка.


LETTER TO A RUSSIAN FRIEND

A 'SAMIZDAT' PUBLICATION
FROM
SOVIET BYELORUSSIA

LONDON 1979

Беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны ў Лондане: факсіміле брытанскага выдання "Letter to a Russian Friend – Письмо русскому другу".




Удзельнікі І з'езду Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Ліпень 1993 г. Здымак А.Кляшчука.



З Алесем, Ірынай  Марачкінымі, Адай Палуэктавай (Баранчыкавай).
На мінскім вакзале, верасень 1992 г. Фота А.Каляды.
Першапублікацыя: Алесь Мара. Аўтаманаграфія. Менск. 2002 г.



Пад Сцягам у Валодзі Дарагуша. 2003 г.



1-я Чэрвеньскія краязнаўчыя чытанні. 2004  г.



Каля помніка Янку Купалу масквічы-“скарынічы”:
Соня Астроўская, Алеся Бабарэка, Алесь Кажадуб, Антон Сабалеўскі,
Іван Бурсаў, Аляксандр Глод, Леанід Трызна,  Якуб Шэгідзевіч, іншыя.
Ліпень 2006 г. Здымалі Р.Чырвонцаў, А.Улашчык.



На прэзентацыі кнігі “Каб не забыцца” – злева і далей:
Зоя Пракопчык, Ліза Новікава,Ірына Малашонак (Яскевіч),
Віталь Скалабан,  Алеся Гесь, іншыя. Мінск, сядзіба БНФ.
Верасень 2006. Фота Алены, Максіма Новікавых.




“Паланэз Агінскага” ад Ніла Гілевіча. За ім – Захар Шыбека,
Ірына Багдановіч. Менск. Сядзіба БНФ. Верасень 2006 г.



Анатолю Кудраўцу – прыжыццёвае выданне Николая Лескова.
Сядзіба літаратара над Вячай. 2006.



Лётчыку-касманаўту Пятру Клімуку – кнігу
“От Скорины до Купалы”. III з'езд Нацыянальна-культурнай аўтаноміі “Беларусы Расіі”. Масква 2007.



Прэзентацыя “Скарыніча”. На пярэднім плане
Алесь Чайчыц (вядоўца), Віктар Чайчыц – першы злева.
Бібліятэка украінскай літаратуры. Масква, снежань 2007.



З Віталем Скалабанам над плынню Дняпровай. Рэчыца. 2003 г.




З Віталем Скалабанам ля Францішка Скарыны. Мінск. 2008г.



У засені Літоўскага бульвара. З Міхасём Скоблам.
Масква. 2008 г. Фота Ларысы Скобла.



З Даротай Міхалюк, аўтарам кнігі пра БНР.
Масква, плошча Пушкіна, 2008 г.




На прыступках ИМЛИ з Антанінай Конышавай.
2008 г. Здымаў В.Скалабан.



На радзіме Ларысы Геніюш – Уладзімер Арлоў,
Хведар Нюнька, Ганна Запартыка, Валянціна Аксак,
Аляксей Пяткевіч. Зэльва, жнівень 2010 г. Фота М.Купавы



80-я ўгодкі Генадзя Кісялёва ў БДАМЛіМ. Уладзімір Содаль,
Фаіна Ваданосава, А.Каўка, Ганна Запартыка, Яніна Кісялёва,
Марына Пышынская, Соня Астроўская (Каўка), Аляўціна Міцкевіч,
Вера Міцкевіч, Таццяна Кекелева; за кадрам – Валя Данекіна.
Кастрычнік, 2011 г. Здымаў Уладзімір Кулажанка.



І паўтараецца… Маладых шлюбнікаў Аляксея Магілёўца і Інэсу Прахненка віншуюць бабуля Соня, дзед Аляксей, бацькі Кацярына, Аляксей Прахненкі, маці Святлана Магілявец, сябры.
Масква, кастрычнік 2011 г.



Юбілей Пётры Васільева (“Вспомянем буйство молодое…”).
Масква, 2012 г.

Аўтар выказвае сардэчную падзяку В.М.Чайчыцу, С.І.Астроўскай, супрацоўнікам Беларускага дзяржаўнага архіва-музею літаратуры і мастацтва (дырэктар Г.В.Запартыка) – руплівым спрыяльнікам гэтага праекта.

